ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:

**Мікола Мятліцкі**
**Замкнёны дом**
***Вершаваная аповесць***

**Франц Сіўко**
**Угліс**
***Аповесць***

**Ніна Рыбік**
**Чарнобыльскі сшытак**
***Нарыс***

**Спадчына:**
**Аркадзь Смоліч. “Веру ў карыснасць будучых чынаў...”**
**Лісты да Зоські Верас.**

4 2003



# ПОЛЫМЯ

4

(882)

2003

красавік

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА




РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2003

## ЗМЕСТ




**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

МІКОЛА МЯТЛІЦКІ

# ЗАМКНЁНЫ ДОМ

***Вершаваная аповесць***

* * *

Світанак барвай гус. Бляшаны дах
Бліскоціўся, і горад сонна-лены
Квітаўся з цьмянай шаратою. Сцены
Цяплелі фарбай. Знекуль спудны птах
Пранёсся, крыллем пругка секучы,
Над купкай дрэў, як беглы цень начы.

Жаўткам міргаў нядрэмны святлафор
На скрыжаванні дзвюх бліжэйшых вулак.
Рухавы бомж, пакінуўшы прытулак,
Бутэлькі ў скверы падбіраў. Шафёр
Імкліва гнаў прыватнае таксі,
Бы спакушаў: кішэняю трусі!

І нумара гасцінічнага выш
Рабілася пляцоўкай аглядальнай
Пары жыцця, даўно забытай, дальняй.
Здавалася яму: не тут стаіш,
А дзесьці там, між дахаў гушчыні,
Жывеш і ты ў падзённай мітусні.

Акім Пятровіч прад сабой быў шчыры,
Жыцця перабіраючы гады:
Пра гэты край душой пачуў тады,
За даллю вёрст асеўшы у Сібіры,
Калі на хвалях затрубілі спрэс
Вясной той: узарвалася ЧАЭС!

І памяць, быццам іскра ад кастра,
З кутка маленства ў сэрца прыляцела.
І думаў, як адно не звар'яцела:

Пад смерчам тым жыве яго сястра!
І ранкам, адмахнуўшыся ад спраў,
Усе яе паштоўкі перабраў.

Сястра пісала потым: іх сяло
Патрапіла у зону адчужэння.
«Спусцілі нас павыселіць рашэнне!»
Душу такой пякоткай апякло,
Што, кінуўшы наспех сябрыны стол,
Смактаў праз ноч гаючы валідол.

Падацца, думаў, у астатні раз
Зірнуць на хаты, родныя магілы.
Над ровам смерці помнічак панылы
Абняць, ды толькі з бегам дзён пагас
Парыў узгарачэлае душы,
Па скуры больш не беглі мурашы.

Сястра пісала: «У сяле чужым
Жыву, як пералётная варона!
А Бабчын наш сягоння — смерці зона.
Прыедзь калі, даведайся, Акім.
Ўжэ не багата засталося мне.
Ад слёз мо й павалюся ў баразне».

Ён і тады надумаўся, было,
Сабрацца ў шлях жаданы ды няблізкі.
Ужо насіў з гасцінцамі «валіскі»,
Ды ўласным горам скрутна апякло —
Бы сам на дне магілы пабываў:
Афганца-ўнука летам пахаваў!

А цераз год, не болей, тэлеграма
Яму данесла вестчыну бяды
(Сястра нібы прадбачыла тады):
«Паведамляю вам, памерла мама», —
Дачка, з якой выгнанніца жыла,
Яму журбіны вестку падала.

І пакрысе забыўся родны кут.
Схавалася жаданая дарога
За думкамі глухімі: там нікога.
Ды вось знячэўку ў Гомель, на «Салют»,
Паслаць яго рашыў сяброў хаўрус:
«Пусть едет к белорусам белорус!»

«Я, хлопцы, ўжо гніляк-пенсіянер!» —
Памкнуўся ўздыхам-крэктам адмахнуцца.
Нялёгка будзе ў памяць акунуцца, —
Пра тое цвёрда ведаў ён цяпер.
І просьба тая — іней на траву.
Куды ляцець?! — спакойней дажыву!

Аднак дырэктар — во хітруга-ліс! —
І так і гэтак: — Вам, Акім Пятровіч,
Як земляку не ўздумаюць адмовіць.
Каньяк дастаў. На «не!» — адкрыта скіс.
А слаўся як: — Які пенсіянер?
Вы — першы наш галоўны інжынер!

— Ну, так і быць, — згадзіўся ўрэшце ён.
І звычна, як не раз было дагэтуль,
Склаў чамадан ды свежыя газеты
Прынёс з кіёска. Сеў на тэлефон —
І з шыкам, лётка шэфаў чорны «форд»
Яго імчаў ужо ў аэрапорт.

* * *

Гудліва горад развірыўся. Ён
Хадзіў па вулках, доўга на Садовай
Пад шэраю сцяной шматпавярховай
Стаяў. Чужача жыў мікрараён.
У кветніках пярэсціўся бульвар,
Абцасікамі ляскаў тратуар.

Тут не знайшоў драўлянага дамка
І вязаў двух. Цыбатыя каштаны
Пасталі ў рад, дзе шумныя фантаны
Струменілі бліскотай. Цягніка
За гмахамі знікальна чутны грук,
Ды вежавага крана гнуты крук.

Калісь у світцы з гразкага сяла
Дабавіўся сюды на покліч лёсу.
Зноў тэхнікумскі вырай стогалосы
Угодлівая памяць здабыла,
Скуль быў прызваны ў армію вясной,
Каб стрэцца потым — твар у твар — з вайной.

Сваё гуло, шчымела: ад Карпат
Ішоў з баямі шляхам адступлення,
Праз год спазнаў нялёгкае раненне
І шлях з санчасці ў дальні медсанбат,
Дзе ўстаў на ногі, прычакаўшы сіл,
Хоць адназначна заключылі: — У тыл!

У сіберна прамёрзлым гарадку
Дачуўся пра універсітэт на Сходні.
Сабраў хатуль. І ўжо цягнік заходні
Будзіў тайгу. Ён правую руку,
Збалелую, сцярожліва трымаў,
У цяснечы спадарожнікаў драмаў.

Задорлівы жыццёвы той экспромт
Зрабіў студэнтам. І з жадобай хвацкай

Ў віры гамонкі ўцешлівай, зямляцкай,
Ён заміраў: на захад рушыў фронт,
І першым ад варожых хіжых зграй —
Пачуў — яго адбіты родны край.

Дазнаўся з пісьмаў страшнае: бацькоў,
А з імі разам дзвюх сясцёр і брата
(За Тоні партызаншчыну расплата!)
Паклалі немцы з іншымі у роў
За вёскаю ва ўрочышчы лясным.
Век ім цяпер з сястрою быць адным.

Прамень святла — спадзейліва чакаў,
Што дзеўчына каханая, хоць тая,
Усе гады разлучныя чакае.
І што пачуў, як толькі даблукаў,
У спаленым дашчэнту гарадку?
«Махнула з немцам Волечка, ку-ку...»

Раздзёрла грудзі чорная агіда.
І ён тады, пакуту несучы,
Падаўся ў шлях. І ўжо сярод начы
Ў кампаніі ваякі-інваліда
Ў вагоне тросся — у каторы раз
Пад гоман слухаў лёсаў пераказ.

Да Бабчына дапяў, як сам не свой.
Ужо з ірва павыбралі астанкі,
Бліз пахавалі. Ля тае ляжанкі
Стаяў падоўгу ў одуме між хвой.
Як толькі сонца гаснула святло,
Вяртаўся з лесу сцішаны ў сяло.

Сястра хавала вочы, бо яна
Павінна ў смерці іх была. Не скора,
Камяк каўтнуўшы ўдушлівага гора,
Яе суцешыў. Згубніца-вайна,
Смяротным жахам скалануўшы свет,
На сэрцы ім паклала жорсткі след.

Разы са два й наведаўся за век
У родны край. Адпіскаю — далёка.
Хапала спраў. А прыязджаў — нялёгка
Трываць было. Ён згодна дровы сек,
Бы нішчыў здані згубцаў-ліхвяроў,
Хто ўсю сям'ю паклаў у сыпкі роў.

...На лаўцы ў скверы ён, самотны, сеў,
Прытомлены нялёгкаю праходкай.
На схіле небным белаватай лодкай
На змену сонцу веташок вісеў,
Яму ківаў маркотліва адно:
Суцішся, брат... Усё сплыло даўно.

І ён сказаў нязгодна: — Не сплыло!
Усё — маё! О, як гняце пакутай.
З нянавісцю зірнуў зацятай, лютай
У бок, дзе колісь любае жытло
Хавалася ў раскошы рослых дрэў.
Парыўна дыхаў і душой хмурэў.

Нібы з яснoты небнай грымнуў гром —
Так злосць яго няўтольна бунтавала
І помнае дарэшты спапяляла:
«Шыкуеш, сука, недзе за бугром!
Не знаеш вочы з сораму дзе дзець!
Прыперла шчэ турысткай — паглядзець!»

І праўда ўжо — няма цяпер граніц,
Калі дзяржавы гэтакай не стала.
За свет які ўдваіх з сынком дапяла,
І знала, дзе шукаць між камяніц,
Скуголіла, як вецер у трысці,
Уся трэслася ды мовіла: «прос-с-ти...»

Ён гнеў будзіў знарок, бо ўчуў тады:
Каханне ў ім дарэшты не забіта!
Вачэй зірнула стоеным блакітам.
Ускочыў, як пакорна малады,
Бяспамятны, сардэчны дабрадзей,
Яе прыцiс парыўна да грудзей.

Ён безліч раз не здолеў даравацъ
Той міг сабе. І ўжо начамі потым
Да раніцы сцякаў халодным потам.
Ды нейк узяўся ўяўна маляваць
Цяпер, на лаўцы седзячы, дамок:
Тры аканіцы... яблыні... дымок...

І ўжо астыглы, сам сабе наўздзіў,
Адкрыў даўно хаванае, святое:
Ён светла помніць да драбніцы тое,
Як за учынак жорстка ні судзіў.
Хіба прад лёсам вінная яна?
Была б ягонай, знай, каб не вайна.

* * *

У горадзе над плыткаю ракой
З цяністым паркам і палацам княжым
Акім Пятровіч шмат драбніц узважыў,
Вандруючы штодня ў рацэ людской.
Усцешаны рашэннем хуткім спраў,
Дарожны ўрэшце чамадан збіраў.

Лавіў сябе на думцы: з гарадка,
Што золакам жыцця ў душы бярэцца,

Не хоча збегла з'ехаць — не сустрэцца
З кутком бацькоўскім. Блізка ён. Дачка
Які ўжо раз дапытліва званіла.
«Шчэ дзень, другі», — казаў, а сэрца — ныла.

На кожным кроку чуў: жахотай злой
Чарнобыль людзям даў спаўна турботы.
Жывуць аглядна-боязна. З самоты
Часцей жыццёвы тчэцца іх настрой.
Ў прыёмных вёў не раз журлівы хор:
Адзін — хварэе, а другі — памёр.

Цяпер ён ведаў, што пабудзе там,
Дзе пекла, светам чутае, паўстала.
Калі ж яшчэ? Багата дзён чакала
Душа вандроўкі гэтае. І сам
Дадому пазваніў, паведаў жонцы,
Што пабывае ў дзедаўскай старонцы.

За шумным лётам помнае дарогі,
Што больш праз лес вілася, гарадок
Ціхмяна стрэў яго. Чужак-хадок
Падаўся ў цэнтр — маркотлівы, убогі,
Глядзеў вачмі закрыжаваных хат,
Нібы пытаў: куды кіруеш, брат?!

У выканкаме прывітаць яго
Было каму. За дні бяды-навалы
Размяк душой чыноўны люд бывалы,
Наслухаўшыся слёзнага ўсяго,
Чым жыў народ, шукаючы дарады.
Яго паважна выслухалі ўлады.

Намеснік старшыні падмеўся сам
Падкінуць госця ў Бабчын. Вось удача —
Не стрэне вёска пусткаю чужача:
Цэнтр запаведніка сягоння там,
З паўсюль наехаў знаны люд вучоны,
Жыве-працуе ён за дротам зоны.

Дарога неадрозная нічым
Імкнула ў даль — душу яго будзіла:
Тут юнь жыцця цыбатая хадзіла!
Мільгалі вёскі. Шызаваты дым —
Тарфянік дзесь курэў — цягнуў з-пад лесу.
Вось ты якая — ўзбочына прагрэсу!

Як шуганула тут жыццё! Калісь,
Шчэ да вайны, гурмой бесперастанку,
Масцілі тут рукамі брукаванку.
Цяпер — асфальт. Пагор'е ўзнесла ўвысь —
І шырыня адкрытага прастору,
Абсечаная сценкай сіняй бору.

Ды скаланула ўраз душу: няўжо?!
Няўжо ён тут, рэактар-згубнік, побач?
І знік аседлы чалавечы побыт,
Мільгалі хаты кінутыя ўжо,
Шлагбаўма рыжа-белая страла
Разгонны лёт дарогі суняла.

З зялёнага вагона — КПП —
Няспешліва якісь няўцешна хмурны
У форме хакі выглянуў дзяжурны,
Нібы спрасоння, моргае-сапе.
Намеснік дзверцы гнеўна штурхануў:
— Эй, Віктар, адчыняй! Ты што, прыснуў?!

І ўжо страла — парывісты рывок —
Ўзляцела ўвыш, і казырнуў служака.
Асфальту стужка — чорная вужака —
У зацень дрэў зашылася. Ставок
Бліскоціўся паўдзённай зіхатой,
Ды ў рост стаяў падсохлы травастой.

Наўзбоч шашы шнуры цагляных хат,
З іх крайніх пяць прыветна-ацалела
Жыццём у смерці прорвіну глядзела.
З бліжэйшае, апрануты ў халат,
Да іх таўсматы мкнуўся чалавек.
Не пазіраў — вачмі пытальна сек.

— Васільевіч, прымай! Здалёку госць!
Сам не паверыш, з Краснаярска, браце...
Яны утрох ужо ў прасторнай хаце.
— Як слаўна, што й гасцініца ў вас ёсць! —
Акім Пятровіч на якісь тапчан
Няўважна ставіў рыжы чамадан.

Ён сам не верыў, што, урэшце, тут,
Куды душа праз зацень год імкнула.
Цяпер яна, стамлёная, прыснула,
Ўлагодзілася... Збыўшы груз пакут,
Ён дзякаваў ад сэрца земляку,
Трос развітальна задаўга руку.

Карцела ўраз падацца на Сяло,
Пакуль не ўзяўся морак шызавата, —
Там селішча, і бацькавая хата.
Хацця б зірнуць на котлішча-жытло.
Ды, трацячы ў гаворцы мернай час,
Трывожна чуў, як дзень паспешна гас.

Ён да змяркання ўправіўся адно
Шашой прайсціся ў глыбіню пасёлка.
Аслаблы ветрык дзьмухаў чутна-золка,

Ды кожнае разбітае акно
Давала думкам згарачэлы лёт:
«Жыцця няма. Тут смерці пастка, от...»

Прызнаў адну з пасёлкаўскіх хацін,
А болей — дуб, узнесены над дахам.
Над кронай памяць узвілася птахам,
Вярнула горыч памлівых карцін:
Малым стаяў у гурце сябрукоў,
Калі на Котлас гналі кулакоў.

Адзначыў: дуб — глухотны, ветрык сціх.
Пякотка грудзі працінала жарка,
Нібыта ўбачыў зноўку, як Адарка
З галасам садзіць у вазок малых,
Як Восіп, гаспадар, угнуўшы плечы,
Нясе наўхап якіясь з хаты рэчы.

І ўжо ўявіў, як праз багата год
Бяда другая да хацін астатніх
Падкралася: з паклажай рэчаў хатніх
Ў свет зрушыла жыльцоў сярод нягод,
Што ім, пакутным, горнучы дзяцей,
Было ў выгнанне рушыць не прасцей.

Ці вернуцца калі? — пытаўся ён
Ў бязлюднае аглухлае прасторы.
І толькі гойстра, сіратліва зоры
Глядзелі з вышыні ў спачынны сон,
Ды морак шэры, засцячы сяло,
Казаў: тут зло навек гняздо звіло.

* * *

— Пятровіч, дрыхнуць годзе! — Холад шустра,
Знаёмец новы, па аконным шкле
Сек пераборам пальцаў. На стале
З'явіўся сала кус і хлеба луста.
— Ну, мне пара... Турбот неўправарот!
Абед дабавіць хойніцкі народ!

...Ён з хаты выйшаў. Рокатам машын
Нязвычліва гайдалася прастора.
Аўтобусы ля плоту. Дзе кантора —
Чародка ў белым маладух-жанчын.
Людзей на пляцы выстраіўшы ў рад,
Знаёмец Холад раздаваў нарад.

У рэшце рэшт той гудкі віраток
Рассунуўся, пусціўшы дыму стужкі.
Аўтобусы, машыны, «лапатушкі»
За лес памкнулі ў той пагрозны бок,

Дзе блізка тлеў заглушаны рэактар.
Ля брамы чмыхаў толькі нейкі трактар.

Насупраць ля хаціны — леснікі
У фрэнчах сініх, стоячы, дымілі
Ды з рогатам аб нечым гаманілі.
У большасці — ссівелыя дзядзькі.
Ды неўпрыкмет і той густы галас
Пад камлюкамі ліп старэчых згас.

Акім Пятровіч, пазабыты ўсімі,
Час нейкі моўчкі тэпаў па двары.
Ужо стаяла сонца угары.
Блішчэлі дахі вуліцы. Над імі
Плылі чароды белых аблачын,
І ён асфальтам рушыў да хацін.

Калгасны двор, парослы быльнягом,
З пашэрхлымі будынкамі на ўзбоччы
Наблізіўся, пустэльны і сірочы.
Пазнаў сельмашню, абышоў кругом,
Згадаў, як Гофман, весялун-яўрэй,
Шчэ да вайны у кузні вёў тут рэй.

Праз вулку — школа: дзецішча папа.
Як дэпутат былое царскай думы
Дамогся той, на воласць ўзняўшы шуму,
Узвесці камяніцу. Ля слупа
Забыты кімсьці чэз матацыклет.
У джунглях траў — дарога ў іншы свет.

Ён пастаяў у школьнай пустаце,
Наверх падняўся лесвіцаю рыпкай.
У затхласці дачаснай смерці хліпкай
Пачуў: задушша у грудзях расце.
— Тут мёртва ўсё... — адно сказаў сабе,
Глядзеў, як вецер клёна чуб скубе.

На пляцы цэнтра не пазнаў, было,
Ні кмецiны калішняй. Дом культуры
Паміж дубоў сядзеў, як старац хмуры, —
Пабітае акон тырчэла шкло.
Зірнуў на дах — і кругам галава:
«Ды... Некалі ж стаяла тут царква!»

Асфальту змейка вуліцаю ў даль
Пустэльна бегла ў рослым травастоі,
Была нязвычна вузкаю, пустою.
Ступаў насустрач котлішчу. І жаль
Зыркатым сонцам з-за чубоў аблок
Істоту ўсю наскрозь, здаецца, пёк.

Паверыць як? — нязвыклым наўкруга
Ўсё, помнае дагэтуль, паўставала.
Нязгодліва душа пратэставала.
Гэй, людзі! Толькі горкая туга
Даводзіла: нікога тут няма!
Ўсё гэта — тхло! Ўсё гэта — смерць сама.

Жыццё вірыла некалі, гуло,
Гучала ў ім былога галасамі,
Пагасла, стаўшы прошласці часамі.
Астачу, бачыў, тленам абдало:
І здані хат, і голле рослых дрэў
Вядуць цяпер над ім сыходны спеў.

Бывай, жыццё! Твой чалавечы след
Залевамі даўно са шляху змыты.
На ім зрэдзь толькі памяць дынаміты
Закладвае, каб вусціш гэткіх бед
Была гучней тубыльцамі пачута,
Каб кожны знаў, што ты, жыццё, — пакута!

Не дазавешся чалавека ты —
Сышоў далей ад ядзернай пустыні.
Дзён уцякло зашмат у мёртвай стыні
Аблогай за калючыя драты,
Каб дзесьці там, далёка, на чужыне,
Ажыць на міг у скрутным прыпаміне.

Сляпуча сонца несла дзённы пал,
І воблакаў зрадзелыя чароды,
Як белыя адступнікаў бароды,
Віселі ў небе. Рэзрух і развал
Пазвоньваў чутна гойстра бітым шклом,
Калі ўступаўся і хадзіў жытлом.

Ад хаты к хаце — праз быльнёг глухі
Няспешна ён, сцярожлівы, як злодзей,
Ішоў сабе. То задаўга ў калодзеж
Глядзеў было. А то якой трухі
Астачу браў і сполашна ў руках
Трымаў яе, змагаючы свой жах.

Істотаю адчуў — непадалёк
Бацькоўскі двор. Вунь, за хлявамі, дзічка.
Суседская хаціна, дзе Чырычка
(Старцоўскі ўсё насіла хатулёк)
Век дажыла у сына-байструка:
На могілках Ахрэмава дачка.

Згадалася: угневаны Ахрэм
Прагнаў дачку-распусніцу, і тая
Жыла вясну ў нямога Мікалая,

Усё чакала, што Гатальскі Рэм
Ўразуміць серадольшага з сыноў.
Ў чаканцы — зацяжарыла ізноў!

Над вуліцай травы падвялы дух
Ў паветры калыхнуўся казытліва.
Азяхаў сад. Над шчэццю траўнай сліва
Чырвона млела (птушкі ўспудны рух),
За ёй разгалы пунсавеў ранет.
Вось хата. Падступіла неўпрыкмет!

Ад вуліцы два выдраных акны
Самотнай зеўрай глянулі — падсеклі.
Застыг пабліз — краплiны поту цеклі:
Палову шаляванае сцяны
Укрыў травой заплецены падворак.
Зірнуў на вугал — пяць крывавін-зорак...

* * *

У тлене сцен з абрыўкамі шпалер
На табурэце, выцертым травою,
Сядзеў ён хмуры. Галавой сівою
Ківаў раз-пораз роздумна. Цяпер,
Здалося, стома ногі адняла,
А галава, як медны звон, гула.

Да ха́ціны бацькоўскае старой
Трысценак быў прыстаўлены Антосем,
Старэйшым хлопцам Рэмавым. Увосень
Пасля вайны пабраліся з сястрой.
Свой век дажыў сталяр заўзяты тут,
Яе — забраў чужыны горкі кут.

У хаце з рэчаў самаробны стол
З павыдранымі дошкамі, услоны
Ды табурэт — цяпер тубыльцы зоны.
Яны тужліва зыркаюць вакол,
Нібы спытацца сіляцца: чаму
Забыта зябнем кожную зіму?

Калісь сюды за Кірчанку Пятра
Прыйшла з нядальняй вёсачкі Аксінка.
З вясны тае квятастая хусцінка
Ўглыбі мільгала доўгага двара
Пад назіркам свякрухі дзень пры дні:
То — дроў нясі! то — свінні загані!

Яна была пакорлівай, Хвядора
Нявестку палюбіла, як дачку.
Закопанае золата ў гаршку

Сумленна падзяліла. У каморы
Аксінка брала боязна ватоўку,
Бо ў ёй зашыла тайна залатоўку.

Акім не помніў дзеда — тыф сыпны
Таго зваліў узмахам лёсаруба.
Ўжо дзедаў брат Дамецъ хадзіў ля зруба.
І пахла смольна трэскамі сасны
Маленства хлопца — быццам вінавата
Глядзіць і сёння дзедаўская хата.

Не раз балесна ўспамінаў Акім,
Як доўга бацька умыкаў калгаса:
«Хе... галыцьба!» Акім выпырхваў з класа,
Падзуджаны, да бацькі бег. Зусім
Той чуць не чуў, сваё упарта вёў,
Цвярдзіў адно: — Калгас для гультаёў!

Гучалі ў хаце бабіны ўгаворы:
— Ўступі, сынок, на Котлас загрыміш.
А матка моўчкі шмыгала, як мыш,
Не слухала ні бацькі, ні Хвядоры,
Ды вечарамі ў запечку часцей
Да сэрца прытуляла іх, дзяцей.

Не загрымеў на Котлас. Брыгадзірам
Праз нейкі год упраўны стаў Пятрок
І адчаканіў так камандны крок,
Што й матку з жонкай гнаў у поле шчыра.
«Парційцам крэпкім стаў, ды толькі — на,
Так недарэчна ў жвір звяла вайна!

Усю сям'ю, лічы, туды паклала!» —
Акім Пятровіч рушыў за парог.
Што ён пачуць у сценах гэтых мог?!
Нясцерпна горка памяць наплывала,
Пякотна кроплі выступілі слёз:
Як страшна жорстка абышоўся лёс!

Нібыта выйшаў з чорнага прадоння.
Зажмурыўся ад яркага святла.
Палала сэрца — тут сястра жыла!
Ён памятаў: чацвёрты год, як Тоня
Там, дзе й яны, забітыя, — ў жвіры.
Тут ён адзін — нямогліца стары!

Загнана дыхаў ветрам ў цені саду,
Абпёршыся на яблыні камлюк.
І толькі дошкі адарванай стук
Па слыху сек ды шпоканне ападу —
Гнілотай густа ўсланы траўны дол.
І ні душы жывое навакол.

«Адсюль пагналі іх, — вёў одум горкі, —
Як статак, гналі ў лес, у кляты роў...»
Уваччу жахотна пунсавела кроў.
Трымцела сэрца. Чырвань тая ў зоркі
Зліласся ўраз. Крывавыя яны
Прыпалі зноў на хаце да сцяны.

Цяпер самотна думаў: аніраз
Не распытаўся ні ў сястры, ні ў кога,
Якой была астатняя дарога
Пакутнікаў. А зараз гэты сказ
Яму шапталі вусціш і пустэча,
Маўляў, уведай праўду, чалавеча.

Ураз ва ўяве зболенай узнік
Ахвярны гурт. Заліўны брэх аўчарак,
Яўстрата, паліцая, ўгнуты карак
Між немчуры драпежна-чорнай нік.
Вызгліва чуйна упіваўся ў слых
Галас жанчын і плач дзяцей малых.

Пятнаццаць сем'яў гналі ранкам тым.
Іх горкі май праводзіў чорным цветам,
Нібы казаў ахвярніцам-кабетам,
Мужчынам іх і дзецям — вам, святым,
Павечна жыць у царстве небным Бога.
А катам — не даруецца нічога!

З гадамі даравалася! Вайна
Не ўсім сягоння помная. Шугае
Хлусня наўкол, і свастыка мільгае.
Памежная берлінская сцяна
У рэзруху якой дзяржавы пала!
Усё, чым жыў, — дарэшты пахавала!

Успыхнула, як тая, што кахаў,
Што кінулася у абдоймы фрыца,
Дапяла — закардонная царыца —
І ўмолліва хапала за рукаў.
І плюнуў гідка ў ссушаны быльнёг:
Паддацца як усхліпам слёзным мог?!

Жыццё пражыў з жанчынай, што яго
Клапотліва і горача кахала.
Гарнуў штоноч, было, а сэрца спала
Ды неслася да помнага свайго.
І там да золку мройна прападаў:
Крок кожны кралі юнай выглядаў!

І толькі ўчуў, дранцвеючы, цяпер,
Агідна-даўка пружачы дыханне,
Як гасне-меркне помнае каханне.

Замест — маршчынны твар, зубоў ашчэр.
«Падсцілка фрыца! — ўсёй душой крычаў, —
Кахаў каго? Гадзюку прывячаў!»

Падаўна сонца рушыла на спад
І ўжо, чырвона кметнае, над сценкай
Шчарбіны бору макіскога зрэнкай
Павольна гасла. У здзічэлы сад
Прабраўся волкі росны халадок.
Ступаў далей, запознены хадок.

* * *

Ужо ірдзістых зорак вугалі
Убралі неба, як Акім Пятровіч
Дабавіўся ў гасцініцу. Адмовіць
Хацеў сабе ў вячэры. Нікалі
Не быў такі няўважны да яды,
Напіўся ўсмак халоднае вады.

Ды Холад, лішне ветлівы, цішком
Дабавіў харч: падстылы суп ды пляшка.
І сам за стол усеўся грузна-важка,
Наліў па чарцы. Выпілі. З глытком
Шырока ўтома чутая расла.
Той локці апусціў на ўскрай стала:

— Як ваш паход?
Ён не пачуў адказ,
Дый не чакаў. Парыўна сціснуў пляшку,
Прагнаўшы з рыльца рыжую мурашку,
Наліў па поўнай. Ды на гэты раз
Сам-насам, моўчкі, спешліва кульнуў:
— Ну во, сябе самога памянуў!

Мы, бра, Пятровіч, тут, як у баі,
Услухайся, як ціўкаюць рэнтгены. —
Дазіметр ён уміг дастаў: — Ваенны!
Ну во, як нашы свішчуць салаўі!
І ўжо казаў пад мерна чуты свіст:
— Да не трымці, як на асіне ліст!

Пяцьсот семнаццаць! Выведзем сто пяць! —
І ён набухаў зноў да краю чарку:
— Павыключым свісцёлку-цыркулярку,
Бо не дае начамі крэпка спаць!
Наслухаешся гэткае свістні —
Не радуюць ні ночы ўжэ, ні дні!

Начальнік мой, спачын яго душы,
Усё хадзіў тут па разорах босы.
Садзіў сады... Ты бачыў абрыкосы?

Як кролікаў, трымаюць у глушы:
Расціце травы ды спяліце хмель!
То — рэ-а-білітацыя зямель.

Тут грошай закапана — у-уга!
І шчэ да чорта ляснецца з бюджэту.
Ды аніяк не збіць заразу гэту —
Наўсцяж паўзе атрутная шуга.
На новых картах ядзерны віхор
На безліч год пакінуў колер гор.

Акім Пятровіч, змогшы ўласны боль,
Цярпяча ўважна слухаў чалавека,
І думку вёў: «Душэўны ты калека!»
— Пятровіч, бра, наліць табе дазволь!
Гуляй у травах тут, сказаць хачу.
Я — заўтра ў Обнінск з вахтаю лячу!

Ды ўсё ж скажы мне, бра, як на духу:
Няўжо радзіма так няўтрымна кліча?!
Казаў адзін, што дні і ночы ліча,
Каб зноў дапяць сюды вясною... К-ху —
Ну, будзь здароў! Ды ўжэ ж хацяб прыгуб
За родны кут, што сэрцу гэтак люб.

— Няма кутка! Ні каліва няма... —
Акім Пятровіч звёў пахмура бровы,
На ганак выйшаў. Морак вечаровы
Прыкметна згуснуў. Змрочная турма,
Глухотна млела ядзерная даль.
Сцінаў душу за чалавека жаль.

Той за сталом, захмелены, адзін,
Спакутаваны, як заложнік лёсу,
Смактаў цяпер раз-пораз папяросу,
Ківаўся ўсяк за кветкамі гардзін.
«Шчэ маладых, упраўна хвацкіх год,
А ўжо, глядзі, душой астыў на лёд.

Чым вінен ён? Навукі грыз граніт,
Трубіў паўсюд пра слаўны мірны атам.
Што дзеецца: суддзёй і адвакатам
Як выступае! Тых бярэ на шчыт,
Хто безгалова свет аддаў на глум.
Адно за чаркай і ўздымае шум!»

...Уранку Холад шустра зноў па шкле
Забарабаніў пальцамі: — Да стрэчы! —
Сказаў, абняўшы ўчэпліва за плечы,
Быў нейкі іншы ў ранішнім святле:
— Ну, бра, Пятровіч, лішне не тужы.
Пра ўсхліп мой п'яны іншым не кажы!

Бывае так: разныецца душа,
Хоць на ланцуг садзі, нібы сабаку.
Ён торкнуў пляшку: — Хоць не чуеш смаку,
Бяры патроху, ведай, ні шыша
Тых бекерэлей ты не набярэш...
Хоць і лася, паклаўшы тут, сажрэш!

Акім Пятровіч гойстрае цяпло
У сэрцы ўчуў — хапіў з кішэні ручку:
— Дам адрас свой... — ў грудзях
здушыў калючку —
Мяне сюды, бач, лёсам занясло.
Магчыма, й ты, пакутны сын зямлі,
У Краснаярск заявішся калі.

...Ён безуважна, умарнелы, стыг
На тапчане, уздзеўшы акуляры.
Цікаўнасць грала на шырокім твары,
Калі гартаў старонкі розных кніг,
Што на паліцы ўшчыльнена пад пыл
Патрапілі, чакаў вяртання сіл.

Адна была на мове беларускай.
Блакітны томік вершаў. Сам паэт
З тутэйшай вёскі. Быццам запавет
Яго чытаў. Хрумсцеў усмак прыкускай,
Бо ўсё ж уважыў Холадаў наказ:
Нукліды тыя гнаць быў самы час.

І, выняўшы пашэрпаны блакнот,
Радкоў перапісаў душэўны ўзлёт:
«Кут мой забыты, безабаронна
Зорыш пагаслых крыніц вачыма.
Некаму ты — ачужэлая зона,
Сэрцу майму ты да скону — радзіма!»

Ён паўтараў радкі і чуў: душа
Дужэе пругка, як крыло над полем.
І зноўку зацікаўлены ваколлем
Ступіў за дзверы. Стужчына-шаша
У зыркіх промнях дзённага святла,
Дакладна знаў, куды яго вяла.

За хатамі пустэльнымі пасёлка
Шумотны лес устаў заслонай дрэў.
Бярозаў купкі. Вольхі. Ветру спеў.
Сасны калола шорсткая іголка.
Ён бакавінай пыльнаю пустой
Імкліва йшоў ля шчэці дрэў густой.

За хвойнікам, па левую руку,
На ўзбоччы гэтай ведамай пуціны

Яго сустрэў праз нейкіх паўгадзіны
Бетонны помнік. Побач, у барку,
Глыбокі роў, парослы хваіной.
Дыхнула ў твар пякотліва вайной.

На шэрых плітах прозвішчаў радкі,
Схіліўшыся ля брацкае магілы,
Чытаў ён гучна. І ставала сілы
Іх прачытаць уголас, не ўкрадкі.
І рэхам адгукнуўшыся, жылі
Імёны родных ў вусцішы зямлі.

* * *

У схове дрэў над прорвінай ірва
Трывуча настаяўся у маркоце.
За Вубяддзю на колішнім балоце,
Асушаным, шырэчаю трава
Гайдалася на клетках між лаўжоў.
Блішчэў асфальт, і ён ступаў, ішоў.

Дарогай гэтай — чуў — ступалі ўслед
Брат Паўлік, сёстры — Акуліна й Зося,
І бацька з маткай... Лёсу адгалоссе,
Жывыя, неслі... Неяк неўпрыкмет,
Задыханы, пад дзённым санцапалам,
Ступіў на мосцік, стаў па-над каналам.

З вады вільготным цегла халадком,
І пошапак дрыгучага чароту
Гайдаў яго аглухлую маркоту.
Сінела неба ў далі над ляском.
Разлог былых карчэўнікаў-балот
Цяпер наўскос дзяліў калючы дрот.

Калісьці з бацькам пружысты круглец
Касілі тут на востраве. Дрыгвою
Акружаны, забіты крапівою,
Ён падступаў пад самы Варацец.
Ў далёкае прылеснае сяльцо
Падмерзлым шляхам трэслася сянцо.

Мінуўшы твань-дрыгву, ужо адтуль
Па вербах панскіх сенныя падводы
Каціліся у вёску, за гароды,
Часцей у гумны, вохканнем матуль
Сустрэтыя. Яны, хапіўшы граблі,
Чакалі іх, на золкім ветры зяблі.

Згадалася смяшлівае, як раз
Цыганку матка звала, каб карову
Малочнаю зрабіць. І як замову

Шаптала тая, горнучы абраз.
Праз тыдзень зноў у хату забрыла:
«Ну колькі Лыска малака дала?»

Махнула матка даланёю: — Ат!
— Ты ето паскупілася, сястрыца.
Шчэ абруса дай ды мядку карытца,
Тады і дзела зрушым акурат.
А ранкам і цыган прыбег, што смоль:
— Сянца ахапку даць, Пятрок, ізволь!

Акім і бацька, стоячы ў гумне,
Цярпяча доўга клалі тую вязку.
— Ці данясеш? — Да ўжэ ж, рабіце ласку!
«От папапрэ, узмокшы, на спіне!»
— Кладзі бо, не скупіся, чалавек.
Затарабаню, шлях мой недалек.

Вязанку ледзьве выпхнулі з варот.
— Ну, прынімай, давольным будзеш, бачу!
Цыган вяроўку тузануў: — А, бацю!
Хай паляжыць, з канём падскочу, от...
І бацька скіс, як рошчына ў дзяжы.
Сярдзіта буркнуў: — Матцы не кажы!

Прыволлем Гала шырака лягло,
Падаўна тут не шаргацелі косы.
Каналы ззялі — водныя палосы,
Ды высака буслінае крыло
Кругі вяло, узмашыста шугала.
Зрок піў прастор. Душа крыляла: — Гала!

Як прыязджаў сюды ў апошні раз,
Якраз тут ракатала асушэнне,
Паўсюд лазы павыдранай карэнне
Тырчэла ўверх; глядзеў — і сэрцам гас:
Маленства кут — да жудасці чужы,
Пустэча клетак чорных ды лаўжы.

Гады не мог здушыць гарачкі-болю,
Шугаў, нібы начлежніцкі касцёр.
Начамі сніўся выдраны прастор.
Сястра пісала: маем сена ўволю!
Здай малака залішні збан які,
І ўжо вязуць гатовыя цюкі.

І ўпраўду тут зажыў дабрача люд.
Начальства, каб усмак, бывала, выпіць,
Шашой імчала гэтаю на Прыпяць.
Ды знікла ўсё! Сусветны перапуд
Устроілі. Спусцілі лішні «пар» —
Рэактар грэлі, быццам самавар!

І вось пустэльня-згубніца наўкруг!
Якія землі кінуты, дзе потам
Жыццё сцякала. За калючым дротам.
Іх не кране вясною звычна плуг.
Гурмой лятаюць з карканнем вароны,
Раздольна ім пад смутным небам зоны.

Няўжо такія ў нас былі мазгі,
Каб толькі й жыць разбойнаю глумотай?
Драпежна пляжыць! Зумкаю шчымотай
У сэрца ліўся прыхапак тугі.
Ў вачах маркотна цьмела далячынь.
Гайдала цень яго канала плынь.

«Даждаўся, от, айчызны пахарон!
Як госць на смерцю твораных хаўтурах.
Няўжо не злёг у лёсавых віхурах,
Каб чуць на сходзе карканне варон
У гэткай, от, гнятлівай пустаце
На першай, небам дадзенай, вярсце?..»

Дзяркатая, крыклівая сарока
Трашчоткаю вілася за спіной.
Данёсся з цішы стоенай лясной
Матора адзінотны зумкі строкат,
І на асфальце прычакана ўзнік,
На матацыкле ўгнуўшыся, ляснік.

Прытармазіў і зыркнуў падазрона
З зацятаю халоднасцю вужа.
«Відаць, прыняў за соўгалу-бамжа!»
Акім Пятровіч, помнячы — тут зона,
Хто ён такі, рапартаваў як след.
Яму кіўнулі тут жа: — А-а... сусед!

Даруй за пільнасць лішнюю. Багата
Сюды ўсялякай сунецца брыды.
Кастрышча кінуць — клопату тагды:
То лес гарыць, а то палае хата.
А ты лятай ды старажы з уздымам,
Каб не ўзвілася ета пусташ дымам!

Адкуль бо сам? Казалі, госць далёкі?
— Тутэйшы я... У гэтых нетрах рос!
Ды на крайсвет закінуў круткі лёс!
— Ты — бабчынец? — Бялёсыя аблокі
Над Галам мерна, сцішана плылі.
Два бабчынцы пад імі, на зямлі,

Як родныя, счапіліся ў абдымку.
— Дак ета ты бо, Кірчанка Акім?
І не пазнаць! Сівенным стаў які!

Ай-яй жа час! А некалі, узімку,
Ты прыязджаў — агонь мужык, арол!
— Дый ты багата здаў, Сінкевіч Хрол!

— От старасць баўлю... Леснікую тут.
Як забаўка... І пенсіі — дабаўка! —
Хрол як падрос: — Не ведама адстаўка:
Я сцерагу бязлюдны родны кут.
Цяжэй, павер, за век не меў клапот... —
І Хрол з ілба далоняй выцер пот.

* * *

З асфальту гладзі з'ехаўшы пустой,
Ссівелага хаўрусніка былога
Няўезджанай рудзіцкаю дарогай
На тарахцёлцы Хрол імчаў, і той,
Учэпіста прыпаўшы да спіны,
Хаваўся, каб не сцёбаў хмыз лясны.

Яны ў дарозе прыставалі зрэдзь,
І голасна ліліся прыпаміны.
Знаёмыя калішнія мясціны
Цікаўны госць імкнуўся пагледзець —
То Гарусаў, а то Млінцовы Мох.
Хрумсцеў сівец, што на спякоце ссох.

Ўжо Незераў бярэзнік — зіхата
Камлёў бялёсых — бег узбоч, вясёлы,
У сыпчаку-жвіры завязлі колы
На выспачцы. Лясістая вярста
Канчалася за шчыльнай сценкай хвой,
І бліснуў плёс азерца сінявой.

Бярозы воддаль, ніцая лаза
Кусцілася на градках. Дзве сарокі
Ўзляцелі стуль, учуўшы блізка крокі.
Акім глядзеў, пякучая сляза
На вочы нагарнулася, і ён
Быў зноў узяты памяццю ў палон.

— Ці помніш, Хрол, бацькоўскіх коней тут
Мы пасцілі, павывеўшы ў начное?
Дзе косці іх? А памяць вот, са мною,
І не стрыножыш, не накінеш пут! —
Праз годы мкне ліхі яе галоп.
— М-да, ведама... — Хрол думна
зморшчыў лоб. —

На скачцы той, што жыткай хтось нарок,
Даўно ўжэ нашы збітыя падковы.
Адрахлі ўшчэнт! — гарачыя галовы.

Не чуйны слых ужэ, не ясны зрок.
І гэты свет падчас ужэ не міл.
Глядзім, Акім, на край сваіх магіл!

Пагодкаў там, бы ў лесе етым дрэў!
Нас колькі, от, у войну ацалела?
Няведама, дзе іх касце сатлела.
Лічыў калі? Я, ты да Маркаў Леў,
Дай той год сем, аддаў як Богу дух.
Лічы, з былых хаўруснікаў — удвух!

На ўкрытым дзёрнам тарфяным бугры
Над хвалістай угрэтаю сінечай,
Даўно дзяды, з тугою чалавечай
Сябры палілі памяці кастры,
І той далёкі, незваротны час
Да іхніх душ даносіў свой галас.

Маленства launched пакрысе,

Нібы ў капе зляжалую салому,
Аддаўшы ўвагу помнаму былому,
Дзе шчэ былі хаўруснікамі ўсе,
Не раз прайшлі пад рыпкі гуд сасны,
Ссівелыя, у дні сваёй вайны.

— Ты, от, на хронце быў... Дай з каптуром
І я хапіў у лесе етым ліха... —
Упрэлы Хрол казаў разважна-ціха, —
Баліць душа: не скончыцца дабром
Заладжаны Масквою перастрой.
Крывавай, чую, кончыцца ігрой!

От Сталіна клянуць — і ўсе і ўся!
У рэпрэсіях няўгодных вінаваты!
І трубяць днямі ўсё пра Курапаты.
А з мёртвага — нібы вада з гуся...
Я так скажу: калі капаюць косці,
То дзеецца ў жыцці не тое штосьці!

Кіўнуў Акім Пятровіч галавой,
Хоць быў ён сам багата з чым не згодны.
Ды што казаць — хаўруснік, сэрцу родны.
Насуперак пайсці — і збіць настрой.
Ён — гаспадар, а ты хто? Толькі госць!
Уважліва прымай усё, як ёсць.

Ён мала чуў ужо, як гнеўны Хрол
Зацята кляў «прадажных дзямакратаў»,
Паглядам далеч заазер'я кратаў.
На беразе, напроць, бярозы ствол
Так гожа нахіліўся над вадой.
Ды роўнядзь млела пошасцю рудой.

Там, у далечы, дахі вабных хат
Прывычна, як жывыя, паўставалі.
Над імі промні ярка шчыравалі.
Ды помнілася: смерці маскхалат
Накінуты на траўнае ваколле,
Не радасць — боль нясходны сэрца коле.

— Да ты і чуць не чуеш! — Хрол кіпеў, —
Мне, от, гарляк такая цісне жытка...
Ўжэ радзіва — і тое слухаць гідка:
Гадзінамі балбоча нараспеў:
«Мы людзям дзямакрацію далі!»
Каб мог — спаліў бы тыя Віскулі.

— Хрол, ты ўсё той... пара мяняцца, брат.
Не тых багата наламана дроў!
Ускочыўшы, сухенькі Хрол зароў:
— І ты туды — за імі, д-дзямакрат!
За вылюдкамі цягнеш, прайдзісвет.
Мо ўжэ адрокся — кінуў партбілет?!

— Я — плюраліст!
— А я, от, — патрыёт!
— Не пенься так, з табой мы — два атопкі.
Нас не пачуюць, падышлі да кропкі...
— Дык што, чакаць, калі магільны гнёт
Накрые зверху? Я, от, не такі... —
І Хрол сухія сціснуў кулакі. —

За справядлівасць стану я гарой!
Не грэх за ета перці брат на брата!
Дак, от, скажу: я парашыў Яўстрата
Пасля ірва — з сястрою і старой,
Павыдраў семя чорнае з зямлі,
Каб больш пачвары ў вёсцы не жылі!

Мне душу дзерла, як вярнуўся гад,
Адседзеўшы, як вуліцай шнуруе!
Чуў галасы пабітых: — Не induces!
Нас, Хрол, уваж, ты — парцізан, салдат.
За тое, што фашысцкі біў рэжым,
Ў магілах мы, бацькі твае, ляжым.

То я і ўдумаў: хату — на замок.
Там хроп Яўстрат, п'янюшчы у дрызіну!
Дапяў цямном з каністраю бензіну.
Зіма... Глухота... Успацеў-узмок,
Баяўся, каб не скмеціў хто з сяла.
Іх хата, помніш, крайняю была...

Успыхнула, як порах... Яркі блік!
Сачыў з-за хвой, трымцеў у перапудзе,

Так зашугала! Дзіваваўся: людзі
На той пажар пабеглі, ўсчаўшы крык.
Во, дабракі! Палае еткі звер —
Бягуць тушыць! Мо б перлі і цяпер!

Ды не было калодзезя, аднак.
— Вады! Вады! — раўла Хрысціна-пшэчка.
У дзверы Хведар кінуўся: асечка!
Замкнёныя! Уцяміць аніяк
Не мог, чаму замкнёныя былі...
Ну ўжэ ж усіх заметных патраслі!

Дайшла чарга, канечна, й да мяне.
Дак Восіп, хітры: — Ганяць парцізана!
Так зыркнуў следчы — стала мне пагана.
— Не ты падпёк? — пытае. Цвёрда: — Не! —
Кажу, — за жытку дайжа камара
Ніколі не пакрыўдзіў я за зра.

Усцешыла адно: праз пару год
Забылі ўсе — што і жылі такія.
Ужо казалі: «Іх грахі цяжкія.
Бог пакараў!» Парос густы асот
На котлішчы. Усё пайшло на тлен.
І аніхто не ўзвёў там новых сцен.

Дак вот, Акім, адзінаму табе
Паведаў праўду, што таіў гадамі.
Цяпер сяло ўсё сталася кладамі,
Каму сказаць? Нясцерпны боль скубе
Ды гоніць прэч астатак чутых сіл.
Я помсціў злу над памяццю магіл.

— З табою б быў, калі б мяне пазваў!
Пасобніку фашысцкаму — асіна!
А вот старая і сястра Куліна...
— Сказаў, я з корнем семя зла ірваў!
— Павырваў хіба? Глянь, якое зло
Усцяж пад небам гэтым парасло!

* * *

Хрол жыў у Губарэвічах, сяльцы,
Што бліз шашы, ля зоны, сотняй хатак
Тулілася. Адсюль калісь іх матак
Пабралі ў жонкі з Бабчына хлапцы.
Гулі вяселлі тыя ў год адзін,
А ў год наступны — погалас радзін.

А Хролава старэйшая дачка,
Нібы вярнуўшы прошласці даніну,
Пайшла туды ў замужжа, на радзіну.

І ўжо цяпер у зяця, Дзмітрука,
Хрол дажываў астачу сумных дзён:
Зірнеш з парога — родны дах відзён!

Прад самай радыяцыяй, зімой,
Хрол пахаваў рухлівую Агапку.
Як гналі ў высяленне, ўзяўшы шапку,
Сюды, да зяця, рушыў па прамой,
І той пасля з хаціны барахло
Машынай звёз у гэтае сяло.

Адкрылі запаведнік — лесніком
Шчэ жвавы Хрол уладзіўся. Бывала,
Падоўгу «мацыклеціна» стаяла
Пад хатаю пустой, а Хрол крадком,
Забраўшыся сюды, штось ладаваў.
Улетку часта тут і начаваў.

Зашкліў наноў павыбітых акон
Пустыя рамы. Выграб кучу друзу,
Фіранкі начапіў ды кукурузу
Ўзрасціў замест плота. Не відзён
Нікому з вулкі побыт чалавечы,
Дзе часта дрыхнуў Хрол на цёплай печы.

— Паўбабчынец! — сказаў самотна Хрол,
Калі ўступілі ў хату. І Акіма
Імклівых рук кранула пантаміма:
Хрол выціраў маўкліва-спешна стол.
«Глядзі, — мільгнула думка ў галаве, —
І сёння тут, на котлішчы, жыве!»

Яны сядзелі задаўга. Цяпер
Акім Пятровіч даў душы адхланне:
Яго лілася споведзь. Блікі рання
Яе спынілі. Чэпкі недавер
У Хрола згас да сябрука, і той
Сказаў адно: — Сягаў ты па крутой!

— Не так і крута! Іншыя вышэй
Сягалі, Хрол. Ірваліся штосілы.
— Дай ты не браў ні граблі, от, ні вілы...
Культурна жыў. А помніш, пас гусей
Падобна да астатніх галышоў.
Высока ў людзі ты, Акім, пайшоў!

Ты — чалавек! Размах мыслі́ дзяржаўны! —
Хрол падліваў пладовае вінцо.
Духмяна пахла з лежбішча сянцо, —
А я от тут, у царстве мёртвым, глаўны!
Тут з дня на дзень сяджу, з жыльцоў адзін.
Усё ў адным — і раб, і гаспадзін!

Я тут, Акім... От, распавёў, было,
Як спёк Яўстрата... І душа — трасецца:
Далёка, чуе, праўда панясецца!
Крычыць-заве: чыні другое зло,
Калі такі прачулы, сыч стары!
Спакой адзіны — сведку убяры!

От кокні ціха, і ніхто нідзе
Пра здзеянае колісь не пачуе.
Спалошыўся? Душа, што конь, гарцуе...
Прысядзь, Акім... На совясці судзе
Я і падсудны сам, і пракурор...
Шмат год сабе чытаю прыгавор!

Я і сазнаўся, от, каб цяжар той
На могілкі не несці, пад бярозы,
Каб не каўтаць садзеянага слёзы
Сярод сваіх, там, у зямлі святой.
Каб знаў хоць хтось, хаця б на схіле дзён,
Што смерць за смерць — аплочаны іх скон!

...Апалі росы. Чутна крапівой
З надворку цегла. Рослая ігруша
Ля вулкі лісцем шапацела. Суша
Сярод начы умерыла пал свой,
І неба, дзе трымаўся дзённы жар,
Цяпер было заслана шыззю хмар.

Мутнела іх гушчэча. Першы гром
Здалёку дзесь падаў гугнявы голас.
Мятлушак сцебануўшы шорсткі волас,
Пранёсся вецер. Бразнула вядром —
Гайдаўся вочап, біў аб студні зруб.
Каціўся-нёсся пылу шэры клуб.

І навальніца выблiснула ўраз —
Заляскацела. Гойстрыя маланкі
Крамсалі-секлі хмарыва. З буслянкі,
Што высака трымаў кудлаты вяз,
Спалошна бусел клёкат абраніў.
Парыўны дождж у травах гаманіў.

— Во, уліло! — устаў з услона Хрол.
Акім Пятровіч назіраў праз шкліну,
Як спорны дождж зыркатую рабіну
Лагодзіць-мые, як травяны дол
Згінаецца ад пругкіх хваль дажджу...
— Ступі — паглянь! Во уліло, кажу...

Падобна не шугала так здавён,
Ачахлы лес, аніякога грыба!
— Ты, што, атруту спажываеш хіба?

— Бяру, сушу, вязу пасля ў раён.
Адтуль упраўны, вёрткі меншы сын
Збывае іх у нейкі магазін!

— Ты ж труціш свет!
— Дзялюся шчодра з ім!
Нам што, адным дабро такое жэрці?
Не з етага, дак з іншага памерці
У рэшце рэшт, от, давядзецца ўсім.
Хай мне капейка, а камусь — труба!
З малечых дзён шукаць люблю грыба!

Ён гожа так зашыецца ў траве,
Сядзіць сабе цішком, пузач крамяны.
Аж здрыганешся ўвесь, усхваляваны,
Пачуеш валасы на галаве
І толькі ўсцешна цмокнеш языком
Ды за другім шыбуеш прамікам.

От Холад нейк... Набраў якраз вядро,
Аднёс яму. Дак той разоў мо з восем
Іх кіпяціў, зліваў ваду. Запросін
Ледзь дачакаў. Працівілась нутро.
А ён наліў стакан: — Смялей бяры!
Давёў, памераў... Каб табе кюры!

За чаркай тою вечар дукаваў:
Ўскіпіць, от, бульба — злі адразу воду
І ў дзесяць раз уменшыш трасцу-шкоду.
А што грыбы сушу — пажартаваў.
Хоць іншых знаю — паступаюць так.
Калі й бяру — то спажываю ўсмак.

Зіхала, глуха гупала. Па шкле
Ірванымі, парыўнымі цуркамі
Цякла залева. Побач з агуркамі
Стаяла крынка мёду на стале
Ды пляшка, ледзь адпітая на трэць.
Нібыта свет хацеў на тло згарэць.

* * *

Пасля дажджоў — іх пошугі ўначы
Шчэ больш зірката ляскалі — прырода
Ачнулася. І занава пагода
Цяплом шугала. Вёскай ідучы,
Акім Пятровіч напаткаць быў рад
З пары маленства сэрцу знаны сад.

Раманаў сад... Пабліз, ля хутарка,
Галіністыя яблыні шатрамі
У сонцы млелі зваблива. Дарамі

Калісьці асыпалі хлапчука,
Што ўвёртлівы, як цыган-канакрад,
Умеў латошыць спрытна гэты сад.

Калі было?! Год дваццаць пяць таму,
Як прыязджаў, у сваякоў Рамана
Пагасцяваў і квецennю духмянай
Надыхаўся — млеў май. І ўсю зіму
Засветла гэтак з ночы ў ноч падрад
У снах прачулых бачыў гэты сад.

Аж здрыгануўся, выйшаўшы на шлях,
Што цёгся, каляіністы, да лесу, —
Пустэча ўсцяж! Бы новы час завесу
Туманна слаў прад ім. Падаўна спрах
І яблынь строй, і сам той хутарок.
У курган, пабраны хмызам, ўпіўся зрок.

Яму сказаў сурова сіні шчыт
Спляценнем літар — «Ядзерны магільнік»!
Раманаў сад... жывой вясны будзільнік!
Краса жыцця! Глынуў яе нябыт,
Забіў ушчэнт здзічэлаю травой.
Застаўся ў сэрцы толькі воблік твой...

Пагасла ўсё — душа, як змрочны склеп,
Скуль патыхае затхлаю кіслінай.
Хіснуўся свет унука дамавінай,
І ён стаяў прад ёй, пакутна слеп,
Не змогшы больш парыўна зрушыць крок,
І ўсё шаптаў няцямна: «Васілёк!»

«Нас секла смерць, дык ведама, чаму:
Сюды яе драпежную пуціну
Спынялі ўсяк. А што сказаць мне сыну
І як у вочы пазіраць яму?
За што вайны чужой свінцовы град
Скасіў хлапца, як пошасць гэты сад?!»

— Дак от ты гдзе! — глушыў матацыклет
Сухенькі Хрол, вачыма стрыг здзіўлёна: —
Дапяў куды! Тут, браце, забарона.
А нам, Акіме, рана на той свет.
Садзіся, от, пакінем еты тлен.
Казаў мне Холад: тут пад сто рэнтген!

— Тут сад Раманаў быў... Ці помніш, Хрол?
— Ды ведама, малінаўкі — смакота!
І швэндацць, от, табе паўсюд ахвота?!
Ты, бачу, штось сягоння не вясёл.
Находзішся па етакіх садах —
Паехаць можа, цьфу ты, ўласны дах!

— Хрол, так і мы... Жыццёвы ураган
Змяце-знясе. Як не былі пад небам.
Грудок зямлі. Ды чарка, зверху хлебам
Накрытая...
— Бра, етакі курган,
От, не насыплюць толькі ў нашу чэсць.
Сядай, казаў Клімцу — прыбуду ў шэсць.

І зноў дарогай знанаю, праз лес,
У зацішы вільготнага сугрэву,
У сонцы, гудзе ветравага спеву
Панёсся Хролаў «лапатун-экспрэс»,
Кідаючы блакітны ўслед дымок.
Акім Пятровіч з хвалявання ўзмок.

За Вубяддзю, на Гале, паркі дух
Смугою млеў над стрэлкамі каналаў,
Раздолле траў сінечу паглынала,
Аблок чароды, лёгкія, як пух,
Нястомныя вандроўнікі, брылі
Далей, вышэй ад ядзернай зямлі.

Майданскі лес падсіненай сцяной
Шчарбаціўся у далечы, і тая
Насустрач лёту мкнецца, вырастае
Чубамі кметных дрэваў. Сівізной
Над балацінай слаўся туманец.
Хрол пратрубіў: — Ну, от, пуцю канец!

Прывеціў іх пастрыжаны хлапчак
За жэрдкамі калішняе кашары.
Стаяў у сонцы, выгарала-жары,
У зношанай цяльняшцы, весяльчак,
Хіхікнуў гучна: — С довоенных лет
От Кайзера достался драндулет!

— Ты зуб не скаль, прыблудлівы маскаль!
Прыцёгся, от, дак будзь пачцівым госцем!
Цюрма дзесь плача... — наступаў са злосцю
Зацяты Хрол. — Цябе мне, хлопец, жаль.
Без дзеўкі тут сядзіш, як той манах.
Няйнакш усохла забаўка ў штанах!

Яны ступалі — слаўся траўны дол
На стойбішчы. Дубы, як тыя вежы,
Стаялі крэпка. Дзьмухаў ветрык свежы.
«Куды прывёз? Што ўздумаў хітры Хрол?
Убачыш цуд, казаў, ачкі бяры!»
Акім Пятровіч аж гукнуў: — Зубры!

Іх тройня ў дуба зацені брыла,
Схіліўшы нізка буйныя галовы.

Тырчэлі рогі.
— Як табе каровы? —
Прамовіў Хрол. — Дрыготка не ўзяла?
Зірнуў Акім на буры хіб круты,
Адно ўсяго і выдыхнуў: — Ух ты!

— Людзей пагналі ў свет, а іх сюды
Прыперлі, от, аж з Белавежскай пушчы.
Нібыта тут для іх бо раю кушчы!
Глядзі і знай: ніякае бяды!
Да ета ж здзек! Такога звера, от,
Загнаць у зону, за калючы дрот!

А ён, Акім, як сімвал... Наш народ
Яшчэ з часіны кніжніка Скарыны, —
Казаў адзін тут мне, — завуць зубрыны.
Во, як канае... Атамных нягод,
Відаць, ужэ ён не перанясе!
І мы паляжам, і зубры — усе!

— Зубры ўцалелі!
— Не вялік іх лік!
Сіротнікі, туляюцца па пушчы.
От так і мы... Калі Чарнобыль струшчыць,
Усчынім прадсмяротны пераклік:
І будзе нас між прыпяцкіх бароў
Праз век-другі не болей, чым зуброў...

— С других краёв заселятся! — падаў
Кірпаты хлопец голас свой вясёлы, —
Места здесь сущий рай! И новосёлы
(В Стреличево ты разве не видал?)
С «горячих точек» — все! — попрут сюда,
Нахлынут, как Батыева орда!

— Ты — першы з іх! — угнеўна буркнуў Хрол.
— А ты, как зубр повымерший, — последний!
Живи, старик, да нюхай воздух летний!
— Вучыць не смей! Пяшком хадзіў пад стол,
Калі ўжэ слыў я, хлопча, мудрацом!
— Потолковал бы ты с моим отцом.

Тот, как и ты уж — патриот-фанат,
Мечту о прошлом, солнечном, лелеет!
Как долго в душах пепел чувства тлеет!
А родина, как этот вот закат, —
Не видишь, что ль? — у жизни на краю:
Живешь в аду, а думаешь — в раю!

* * *

І зноўку ў даль асфальту мкнула гладзь.
Стаялі ў пары дружнай граб і ясень.

Шарэлі вольхі па нізоўях. Засень
Асіннікаў шапоткіх. Гэту раць
Між крэпка ўвыш узнесеных камлёў
Глухі ляшчыннік густа пераплёў.

Зрэдзьчас жвірыны-выспіны — груды —
Кудлацілі размашыстую хвою.
Па вёснах пунсавелі сон-травою.
Гушчар, як джунглі зрошчаны, — сюды
Хаўрусніка павёз аціхлы Хрол.
Зноў гонкі лес ляцеў-мільгаў вакол.

Глухота-ціш вяла самотны сказ,
Каўтала гук імклівай тарахцёлкі.
Ступаючы на дол лясісты волкі,
Акім Пятровіч у які ўжо раз,
Скідаючы з душы вязьмо пакут,
Казаў сабе: «Загасцяваўся, плут!

Дзесь дома ўжо трывожацца — прапаў!»
Дрымотны лес змяніўся нізкім хмызам.
Чародка хат зірнула з далі шызай,
І Прыпяці засінены рукаў
Вадою мыў зляжалы жаўтапёс.
Шырэча свету, глыбіня нябёс!

Стаёны вечар прымаркоціў плынь,
Яна лілася ўжо агусла цьмяна,
Сяйвом ледзь кметных зорачак заткана,
Губляла ўсю вячэрнюю святлынь,
Гушкалася, павольная, між стром,
Дзе да вайны рыпеў стары паром.

Мільгалі ў зімы світкі чумакоў,
А санцапёкам летнім — вышыванкі.
Рыпелі з соллю важкія фурманкі.
Не стрэць тых дальнаходцаў-вазакоў,
Згубіліся ў запрыпяцкіх палях,
І толькі помніць іх Чумацкі шлях.

Удвух пустэльна чыстым беражком,
Збіваючы нанесеную пену,
Яны ступілі ў гэтым царстве тлену
На выспіну. Шапотлівым кружком
Ссівела гнуўся ніцы вербалоз,
Камлі бялелі стройных трох бяроз.

Магільна глух халодлівы граніт.
Шарэла ўвысь узнесеная стэла.
І Хрол абняў яе парыўна-смела,
І, гледзячы ў асмужаны блакіт,
Гарачна выдых: — Во, судзьба мая!
От тут, Акім, ляжаць бы мог і я!

Бязросы вечар ззораны адзін
Быў сведкаю размовы іх — у войну
Грымеў тут бой. І болем незагойным
Гайдаўся ў цішы Хролаў прыпамін,
Нібы сама палеская рака
Шаптала быль пра наступ Каўпака.

— Акім, тут нашых хлопцаў легла пяць! —
Зачаўся штурм, і быў той штурм не роўны.
Мы берагам сышлі, і лес ахоўны
Нас паглынуў. Не ўспелі падабраць
Палеглых тут, ля етых сініх вод.
Так сек адсюль фашысцкі кулямёт!

Між паўшых — Паўлік Ходас, мой сусед,
Каторы быў у лесе мне за брата.
Сюды, от, з шайкай прывязлі Яўстрата,
Каб апазнаў. Узяў, сабака, след.
«Наш», — кажа. От тагды ж упершыню
Хапалі парцізанскую радню.

— Скажы мне, Хрол, як нашых узялі?
Хто выдаў іх?
— Няведама па сёння!
Сястра твая, нябожчыца ўжо, Тоня,
Дапытвалася век... Мы дальш пайшлі,
Як баржы патапілі акурат.
Мяркую так, што вынюхаў Яўстрат.

Мы ж — хеўра даваенных дружбаноў,
Куды сышлі з сяла, не здагадацца
Яўстрат не мог. Ў паліцыю падацца
Рашыўся апасля. Мяркую зноў,
У лес ісці у тую, от, зіму
Адась і Волесь радзілі й яму.

Што знае штось — Яўстрат рабы скрываў
Да етага от самага выпадку.
Забілі Паўла... Выклаў па парадку.
Начамі ў вёсцы кожны з нас бываў.
Ён азвярэў і ўзненавідзеў нас
Пасля, калі ў яго страляў Панас.

Ты знаеш, як ён лютаваў? Чаму,
Калі судзілі, то не ўпеклі «вышку»,
А толькі срок (меў тонкую ён кішку,
О, як дрыжэў!), і зараз не пайму.
Тагды багата хто ўздыхаў-тужыў,
Бо знаў, што смерці гіцаль заслужыў.

— Улік, напэўна, яўных не было...
— Сам не страляў — то праўда. Толькі скуру

З жывога дзёр. Калі ў камендатуру
Трапляўся хто, не кожнаму вязло.
Другі ўжэ там, Ярмольчык макіскі,
Жывога рэзаў-кроіў на кускі.

Той, от, уцёк, дажыў за светам век.
Аж два разы Панас на апазнанні
У Нямеччыне бываў. Мне па вяртанні
Казаў: як тхор, вачмі шалёна сек.
Як ні прасілі — дзела «на мялі».
Германцы нам яго не аддалі.

Пад гоман іх сацьмеў вячэрні плёс.
Туманам сцяты, смуглы, супакойны
Ляжаў абсяг. Лунаў боль незагойны
Над выспаю. Кустоўе чорных лоз
Тапілася панікла ў люстры вод,
Ды след кідаў у высі самалёт.

Пад гронкамі калюча яркіх зор
Шлейф бела рос — і даль цягучым гудам
Прашытая была. Вось перапудам
Дзяркач пранёсся. Зацямнелы бор,
Закуты ў мёртвы, даўкі супакой,
Палоскай хмурай цёгся за ракой.

Танюткая крывавіна зары
Блішчэла шчэ над сценкай той далёка.
— Унь глянь туды! — І Хрол прымружыў вока, —
Там страшны чорт, халера пабяры!
Ён, ненасытны, несусветны мор
Абрынуў бо на еты, от, прастор.

Іх дальназоркай старасці пагляд
Наткнуўся ўраз на скмечаныя трубы,
Што ў красавіцкі дзень ашчэрам згубы
Спалошылі ўвесь свет, жыцця расклад
Перамянілі, пэўна, назаўжды.
Цяпер тырчэлі — чорны знак бяды.

* * *

Самотны жнівень з месяца сярпом,
Адзіны жнец, утомна йшоў па полю.
Трымценнем быльнягу, лазы, куколю
Забітае, адразу ж за ляском
Яно да хат пабегла бабчынскіх.
Гусцеў паўзмрок, і хлёсткі ветрык сціх.

Прастора хутка цемрай заплыла.
Акім Пятровіч задаўга на ганку
Яшчэ стаяў, паездку-пагулянку

Узгадваў, пазіраў удаль: сяла
Тут, побач на зямлі, як не было,
Агусла толькі цемрыва плыло.

«От... сцёрта ўсё, чым жыў, па чым тужыў.
Як і няма. І не было ніколі.
Не дай каму, Госпадзь, падобнай долі,
Хто б родны кут дзе гэтак перажыў!
Вясны жыцця, далёкай юні кут,
Дзесь пупавіна прыкапана тут».

Ён чуў душой, што больш анікалі,
Ад'ехаўшы, не зможа нахадзіцца
Па вулках гэтых. З тым не пагадзіцца
Істота мкнула. У другой зямлі
Яму, як іншым, суджана ляжаць.
І зоркі, спачуваючы, дрыжаць.

Агністаросым ранкам шустры Хрол
Расстайна ціскаў дружбака старога:
— От напішу табе калі... — Дарога
Памчалася. Хаціны стрэчных сёл
То падступалі, то збягалі ўдаль —
Студзілі ў сэрцы стагалосы жаль.

Пад Рэчыцай за вёскаю чужой
На могілках, што над дняпроўскай стромай,
Сястрынскі крыж абняў з учутай стомай:
«Бывай, сястра-пакутніца!» І рой
Няўцешных дум панёс па сцежцы ўніз
Праз нізкарослы, ледзь пралазны хмыз.

І ўжо калі па ўзлётнай паласе
Панёсся лайнер, адарваўся з гулам,
Яго душа суцішвалася — чула,
Як, вусцішна прысутны, пакрысе
Шарэе-гасне памяці прасцяг.
Ёсць іншы свет і ёсць жыцця працяг.



ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

# БЕСЯДЗЬ ЦЯЧЭ Ў АКІЯН

*Раман**

## XI

Андрэй Сахута ехаў у райком. Светла-блакітная «Волга» імчала па шырокай сталічнай вуліцы, налятаючы на гурбачкі цёмнага снегу, што нагарнулі дарожнікі. Грузавікі, тралейбусы месцамі наязджалі на іх, абдаючы прахожых халоднымі снежнымі друзачкамі.

«От, безгалоўе. Згрэблі, а не вывезлі. І ўся работа кату пад хвост. Вось чаму мы бедныя. Робім і тут жа разбураем. Потым робім нанава», — сумна падумаў Сахута. Зірнуў на гадзіннік — было без дзесяці хвілін дзве гадзіны. На чатырнаццаць трыццаць прызначаны савет садзейнічання навукова-тэхнічнаму прагрэсу. А гэтым саветам кіраваў ён — першы чалавек у раёне. «Трэба накруціць хвост старшыні райвыканкома, няхай лепш канталюе, — вырашыў Сахута. — Нездарма пра нас гавораць і пішуць такое...»

Учора да позняй ночы Сахута чытаў кнігу дысідэнта Аляксандра Зіноўева «Зияющие высоты». Чытаў і злаваў: як можна пісаць такое!? Але не мог не разумець, што аўтар піша праўду, злую праўду, выкрывае паказуху, дурноту нашых чыноўнікаў.

У кабінеце ён адразу пазваніў старшыні райвыканкома, паўшчуваў за кепскую ўборку снегу. Разгарнуў папку з матэрыяламі савета садзейнічання навукова-тэхнічнаму прагрэсу. На абмеркаванне выносіліся тры пытанні: як ідзе ўкараненне брыгадных форм працы, справаздача кіраўніцтва эксперыментальнага канструктарскага бюро «Мясамалмаш». Трэцяе пытанне прысвячалася рабоце савета садзейнічання навукова-тэхнічнаму прагрэсу пры партыйнай арганізацыі трэста «Белтрансбуд». «Сур'ёзныя пытанні, аб'ёмныя, — падумаў Сахута, — засядзем надоўга». Пустой гаварыльні ён не любіў і ўсе нарады заўсёды праводзіў дынамічна, настройваў падначаленых на такі тэмп, сам даўно пераканаўся, што балбатня не дае карысці, а наадварот, прыносіць шкоду: марна трацішча каштоўны час. Добра было б за паўтары гадзіны, сама болей за дзве закончыць нараду.

Развагі Андрэя Сахуты перапыніў тэлефонны званок. Сакратарку ён

---

* Заканчэнне, пачатак у № 3, 2003 г.

папярэдзіў, каб па дробязях не турбавала. Значыць, нешта важнае. Зняў трубку, пачуў усхваляваны жаночы голас.

— Андрэй Мацвеевіч, гэта старшыня прафкома трыкатажнага аб'яднання Лілія Іванаўна Сідаровіч. Я была ў вас два тыдні назад. Памятаеце?

— Памятаю, Лілія Іванаўна. Што здарылася?

— Тое самае, што і раней... Дырэктар п'яны ў сцельку... Ляжыць пад сталом у кабінеце. Прыязджайце, пераканаецеся самі...

— Прыедзем. Будзьце на месцы.

Сахута выклікаў трэцяга сакратара па ідэалогіі Святлану Дубкову:

— Святлана Васільеўна, вазьміце каго з інструктараў свайго аддзела, а таксама і з прамысловага і едзьце на трыкатажную фабрыку. Зайцаў зноў п'яны. У кабінеце спіць пад сталом... Патэлефанавала старшыня прафкома Сідарава. Дзейнічайце смела і настойліва. Пара з гэтым канчаць...

У актавай зале, дзе сабраўся савет па навукова-тэхнічным прагрэсе, якім кіраваў Андрэй Сахута, у яго не выходзіла з галавы думка: што там на фабрыцы? Што рабіць з гэтым Зайцавым?

У зале сядзелі кіраўнікі прадпрыемстваў, сакратары партыйных арганізацый, прафсаюзныя і камсамольскія работнікі.

— А хто ёсць з трыкатажнага аб'яднання? — спытаў Сахута.

Падняўся невысокі лысаваты чалавек, адрэкамендаваўся, што ён — намеснік дырэктара.

— Запрашалі ж дырэктара. А дзе ён?

— Дырэктар трохі прыхварэў.

— А сакратар парткома таксама хварэе?

— Я не ведаю...

Той-сёй у зале заўсміхаўся. Сахута не мог не заўважыць гэтага.

«Значыць, народ ведае пра дырэктараву хваробу. Трэба вырашаць», — падумаў ён, адкрыў паседжанне савета і першаму даў слова старшыні секцыі «Навуковая арганізацыя працы». Малады цёмнавалосы мужчына паправіў акуляры, што з'ехалі з кірпатага носа, і гучным голасам пачаў даклад. Праўда, гаварыў ён нядоўга — ведаў, што першы не любіць балбатні, таму ён сцісла паведаміў, што ў раёне за апошнія гады паболела брыгад, у іх працуюць амаль тры чвэрці рабочых, асабліва актыўна арганізацыя брыгад вядзецца з мінулай восені. «Хітрун. Камплімент мне. А маіх заслуг тут няма», — падумаў Сахута, але адчуў, што на душы пасвятлела: слабы чалавек! А зрэшты, добрае слова і кошцы прыемнае.

Далей прамоўца пералічыў заводы, аб'яднанні, дзе гэтая работа на добрым узроўні, назваў і адстаючых.

«Добра, што я адбарабаніў столькі гадоў старшынёю райвыканкома. Ведаю, хто як працуе. І таго ж Зайцава ведаю. Але чаму чалавек гэтак пакаціўся? Няўжо ад крыўды, што не далі Зорку Героя?» Сахута ведаў, што раён прадстаўляў Зайцава да самай высокай узнагароды, але недзе вышэй нехта выкрасліў.

— На гэтым у мяне ўсё. Калі ёсць пытанні, магу адказаць, — прамовіў дакладчык.

— Ну што, няма пытанняў? Можна і потым задаць. Можна пісьмова. А зараз слова перадавікам. Каб астатнія вучыліся, — Сахута назваў прозвішча парторга буйнога вытворчага аб'яднання.

Да трыбуны падышла высокая смуглявая жанчына. Коратка, сцісла расказала пра сваё прадпрыемства. І гэтае выступленне парадавала Ан-

дрэя Сахуту: усё-ткі нешта робіцца добрае, людзі свае сілы спрабуюць і не без дапамогі партыйных лідэраў, а значыць, і яго, першага сакратара райкома.

— Думаю, цяпер варта паслухаць таварышаў, у якіх яшчэ не ўсё ладзіцца з арганізацыяй брыгад.

Адзін за другім падымаліся кіраўнікі прадпрыемстваў, партыйныя важакі і коратка гаварылі, як думаюць працаваць далей. Андрэй слухаў і нечакана злавіў сябе на думцы, што і ён, і ўсе гэтыя людзі займаюцца імітацыяй справы.

Таму і выступ дырэктара аднаго завода, мажнага чырванатварага мужчыны, Сахута ўспрыняў даволі скептычна:

— А што канкрэтна думаеце вы зрабіць, каб палепшыць справы на прадпрыемстве? — спытаў ён.

— Мы шукаем шляхі, — адказаў дырэктар і дадаў: — Мы распрацоўваем праграму эфектыўнасці...

— Шукаць шляхі, канешне, трэба. І праграмы патрэбныя, — Сахута прывык за гады свайго кіраўніцтва гаварыць важка і сур'ёзна. — Мы не дзеці. Мы ад зямлі. Разумеем, што не так усё проста. Але дужа марудна вы шукаеце шляхі. Трэба актыўней варушыцца. Калі мы не зробім, дык ніхто за нас гэтага не зробіць. А спытаюць з нас. І мы спытаем з усёй партыйнай строгасцю...

У словах першага сакратара быў і падтэкст: «Я разумею, што ты, браце, вешаеш лапшу на вушы, але калі і далей будзеш вешаць, мы строга спытаем, і не лічы нас, райкомаўцаў, за дурняў».

Савет прыняў рэкамендацыі, як палепшыць кіраўніцтва брыгадамі.

— Хто запрошаны па гэтым пытанні, усім дзякуй. І можаце быць свабоднымі. А мы пераходзім да другога пытання.

Сахута зірнуў на гадзіннік і зразумеў, што савет зацягваецца, але на гэты раз ён не спяшаўся «закругліць» абмеркаванне. А можа, будзе нейкая карысць з гэтай размовы, бо зерне падае не на камень. Таму ён не стрымліваў ні апанента, ні членаў савета, у якіх узнікала ўсё болей пытанняў: што могуць прапанаваць канструктары «Мясамалмаша» на знешні рынак, чаму такі доўгі цыкл: даследаванне — распрацоўка — укараненне? Першы сакратар усё мацней хмурыўся. Во, дзе сапраўды імітацыя справы! Ён ведаў, што план укаранення распрацовак канструктарскае бюро летась не выканала, за гэта знялі ранейшага начальніка. Цяпер справаздачу трымае ягоны намеснік Іван Антонавіч.

— Скажыце праўду, Іван Антонавіч, бачыце вы перспектыву стабілізацыі работы вашага калектыву? — Сакратар пільна зірнуў на канструктара і дадаў: — Калі вам цяжка адказаць на гэтае пытанне, можаце не адказваць. Вам дасталася нялёгкая спадчына...

На імгненне ўсталявалася цішыня. Усе позіркі былі скіраваныя на выступоўцу.

— Паспрабую адказаць. На жаль, сёлета мы не зможам выйсці з прарыву...

Ён пачаў пералічваць прычыны, якіх набралася багата і пра якія ўжо гаварылася на савеце.

— Гэта мы ўжо чулі, — перапыніў яго Сахута.

У рэкамендацыях савета былі канкрэтныя прапановы, сярод іх і такая: у трэцім квартале распрацаваць праграму развіцця сістэмы аўтаматызаванага праектавання.

— Мы павінны зразумець, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя — гэта не гучныя словы, а жывая рэальнасць. Навука — гэта рычаг, з дапамогаю якога трэба зрабіць паварот у эканоміцы...

Сахута разумеў, што гаворыць занадта гучна, што павароту ў эканоміцы не відаць — ужо каторы год раён топчацца на месцы. Але гаварыць гэтак, настройваць кадры на высокія рубяжы, на «зияющие высоты» яго абавязак. Ён зірнуў на гадзіннік і схамянуўся:

— Зараз тут пачне працаваць школа маладога камуніста. Ёсць прапанова перайсці ў мой кабінет і там закончыць работу.

У кабінеце ўсе селі больш кампактна, шчыльна: і члены савета, і запрошаныя. Цяпер слухалі справаздачу кіраўніка трэста «Белтрансбуд». Сахута ды і ўсе члены савета разумелі, што трэст — унікальная арганізацыя. Будаўнікі працуюць па ўсёй Беларусі і за яе межамі, нават на БАМе былі, цяпер займаюцца рэканструкцыяй Мінскага чыгуначнага вакзала. План трэст выконвае, але прадукцыйнасць працы будаўнікоў не расце. І гэта найбольш хвалявала Сахуту.

Кіраўнік трэста ў справаздачы не хаваў недахопаў: здараюцца яшчэ прастоі, не ўсюды машыны і механізмы працуюць у дзве змены.

— Наколькі я ведаю, застарэлая хвароба будаўнічых арганізацый — дысцыпліна. Як вы думаеце, ёсць яшчэ тут рэзервы? — скупа ўсміхнуўся Сахута.

— Мяркую, што ёсць, — таксама ўсміхнуўся прамоўца, бо зразумеў падтэкст, калі сакратар гаварыў пра рэзервы. — Праўду кажучы, у апошнія гады мы аб'явілі прагульшчыкам і выпівохам рашучы бой. Караем сурова. І дысцыпліна палепшылася. Парадку паболела. Але, канешне, рэзервы ёсць...

— Трэба павысіць адказнасць кожнага камуніста. І асабліва тых, ад якіх залежыць укараненне ўсяго новага. — Сахута сам адчуў казённасць гэтай фармулёўкі, але як іначай скажаш? Тут свая тэрміналогія. — Яшчэ раз хачу падкрэсліць: навука, усё новае, перадавое дапаможа нам палепшыць работу. Навука і кадры. Чалавечы фактар, як цяпер прынята казаць, гэта галоўнае... Ну што ж, дзякуй за работу. Усе свабодныя...

Як толькі члены савета разышліся, Сахута пацягнуўся да ўнутранай сувязі, каб паклікаць Святлану Васільеўну. Зайцаў з трыкатажнай фабрыкі не выходзіў з галавы, але ў апошні момант ён стрымаў сябе: «Стоп, браце, перадыхні трохі. Не круціся, як скурат на агні...»

Ён адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы... Зноў убачыліся гурбы чорнага снегу на гарадскіх вуліцах. А якая прыгажосць цяпер у зімовым лесе! Эх, каб пахадзіць па лесе са стрэльбай!..

Міжволі прыгадаўся зямляк Міхаіл Даўгалёў, які выводзіў яго ў людзі. Нядаўна яны бачыліся. Мікола Шандабыла прывозіў Даўгалёва ў лечкамісію. Потым Андрэй Сахута ездзіў да яго. Шмат пра што яны гаварылі, запомніліся словы земляка: «Справы нашы кепскія. Крамлёўскія старцы здзяцінелі зусім. А мы бяжым на месцы. Цягнемся, як сабака за возам. Адно добра: страху ў людзей паменела. Вось і я магу сказаць, што думаю...»

Андрэй Сахута ўпэўненым крокам прайшоў па калідоры, што быў заслаты чырвоным дывановым ходнікам, таргануў дзверы кабінета Святланы Васільеўны — яны былі зачыненыя. Можа, куды выйшла? Давядзецца сакратарцы шукаць яе. Увайшоў у прыёмную: Святлана Васільеўна і ягоная сакратарка пра нешта сцішана гаварылі. Пры ягоным з'яўленні сціхлі.

— Ну, як вы з'ездзілі? Заходзьце. Расказвайце.

— Усё пацвердзілася, Андрэй Мацвеевіч. Але сакратарка ў яго... Прабачце, гэта аўчарка нямецкая... Кажа: «Дырэктара няма, не прыязджаў з абеду». А я кажу: «Адчыніце кабінет». А яна сваё: «Не маю права, не пушчу»... Я кажу: «Зараз выклічам міліцыю». А яна: «Выклікайце, у мяне няма ключа»... Карацей, калі знайшоўся ключ, у кабінеце знайшоўся пад сталом і ён.

— Рыхтуйце пытанне на бюро. Дадзім яму страгача. А там паглядзім, як ён будзе сябе паводзіць...

Андрэй Сахута разумеў, што ў Зайцава знойдуцца адвакаты і ў гаркоме, і ў аддзеле прамысловасці ЦК. Але і схаваць гэтыя факты ад людзей нельга. Вядома, пра выключэнне з партыі няма чаго і гаварыць. «Страгача» дастаткова, каб спіхнуць яго з пасады.

Сапраўды, чалавек шчыра працаваў, змагаўся, гарэў на рабоце. Але ці так ужо шчыра? Можа, заўзята рабіў кар'еру? Атрымліваў узнагароды, уладу любіў над людзьмі. Мог выклікаць у кабінет любую прыгожую кабету, паабяцаць ёй лепшую работу, кватэру, прэмію — і ўрэшце лапнуць за калені. Мо дзеля такой улады ён і караскаўся ўгору?.. А калі яму не далі Зорку Героя, — зламаўся, адкрыта запіў, загуляў на поўную катушку.

Андрэй зірнуў на гадзіннік і жахнуўся — была другая гадзіна ночы. Выключыў святло, але адчуваў, што адразу не засне, ды і на вуліцы многа свяцілася вокнаў. Што робяць людзі? За кожным светлым акном чалавек, які не спіць. Чым займаецца? Прыйшоў з другой змены? Рыхтуецца да экзамена ці заседзеўся над кнігай? На добры толк — гэта анамалія, ненармальнасць. Чалавек да позняй ночы не спіць, не адпачывае, як таго патрабуе прырода. Значыць, заўтра ён будзе кепска працаваць, у яго будзе благі настрой, і ўсім, хто вакол яго, ён таксама будзе псаваць нервы.

Андрэй ціхенька ўвайшоў у спальню. Рада спала, і ён асцярожна, каб не пабудзіць яе, лёг побач, заплюшчыў вочы. Мільганула думка, што і заўтра яго чакае дужа багата клопатаў. А каб не выйшаў на работу, што было б? Нейкую нараду правёў бы другі сакратар, нешта адклалі б, аднеслі на іншы тэрмін, але жыццё не спынілася б. Значыць, імітацыя канкрэтнай, жывой справы. Калі пасадзіў дрэва, яно вырасце. А паперы, пратаколы, рэкамендацыі можна лёгка шпурнуць на сметнік.

Ноччу Андрэй сасніў сон. Нібыта пасля суботніка райкомаўцы, іншыя незнаёмыя людзі адпачывалі ў гарадскім скверы, сядзелі хто на траве, хто на лаўках. Дарожкі пасыпаныя жвірам. І вось Андрэй узяў невялікі каменьчык, кінуў па дарожцы нізам, як некалі на Бесядзі: каменьчык падскоквае на вадзе, «пячэ бліны» — так гэта называлі хлапчукі. Хто болей «спячэ бліноў», чый каменьчык пераскочыць цераз раку і ўпадзе на тым беразе, той пераможца. Каменьчык паляцеў, падскокваючы ў гору, і трапіў прама ў лоб дзіцяці, якога бацька вёў за руку. Андрэй нават убачыў, як на дзіцячым лобіку зачырванеўся гузак між броваў. Сэрца ёкнула, ён адвярнуўся, чакаючы, што будзе далей. Хацелася праваліцца скрозь зямлю.

Мужчына з дзіцем наблізіўся:

— Ты што, здурнеў? — са злосцю спытаў мужчына. Твар ягоны быў сярдзіты, смуглявы, нібы ў цыгана. А вось дзіця — ці дзяўчынка, ці хлопчык — не запомнілася.

Мужчына сказаў штосьці гнеўнае і пайшоў далей. Не запомнілася і рэакцыя людзей, якія былі вакол, ягоных падначаленых, яны ўсе быццам зніклі...

Прачнуўся, пачуў сцішаныя галасы — на кухні гаварыла радыё. Пра-

тэпаў у ванны пакой, паглядзеў колькі часу — была чвэрць на сёмую. Стаяў каля акна ў кухні, думаў пра недарэчны сон. Прысніцца ж такое! Чаму каменьчык трапіў у лоб дзіцяці, бо калі кідаў яго, дарожка была пустынная, бязлюдная. Адкуль з'явіліся бацька з дзіцем? Быццам з неба зваліліся. Вечная загадка сноў.

У суседнім доме свяцілася ўжо багата вокнаў, але Андрэю хацелася яшчэ трохі паляжаць: час дазваляў, ды і лёг позна: і не выспаўся, і не вылежаўся. Ён вярнуўся ў спальню, Рада прачнулася, соладка пацягнулася, спытала, каторая гадзіна.

— Ты, мусіць, позна лёг?

— Ды не. Каля гадзіны.

— Няма чаго позна сядзець. На рабоце валтузні хапае. Ты і не адпачыў. Як чуешся?

— Нармальна. Толькі зарадку рабіць не хочацца.

Андрэй іншы раз успамінаў першыя гады жыцця з Радай. Колькі было абдымкаў, пацалункаў, цяпер такое здаралася так рэдка. І таму ён ахвотна абняў жонку.

— Дзе мая радасць? — пачаў пяшчотна цалаваць цёплыя жончыны грудзі, яшчэ тугія, крамяныя. Мільганула думка, што гэтыя родныя грудзі яму даражэй за ўсялякія «ізмы». Ён усё часцей думаў, што для шчасця чалавеку патрэбны добрая жонка, прыстойная кватэра і добрыя дзеці, а потым ужо нейкая справа, прафесія — сродак пракарміць сям'ю.

Але Андрэй добра ведаў, што пасля любові яму давядзецца займацца рознымі жыццёвымі, партыйнымі справамі і думаць пра «ізмы».

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981 г.*

*3 сакавіка. Масква. Пленум ЦК КПСС, абраны XXVI з'ездам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, адзінадушна абраў таварыша Брэжнева Л. І. Генеральным сакратаром ЦК КПСС.*

*7 сакавіка. У сталічным Доме літаратара адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 85-годдзю народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы.*

*21 сакавіка. Якуцк. Закончана будаўніцтва шасцісоткіламетровай лініі электраперадач цераз раку Лена. ЛЭП злучыла берагі магутнай ракі.*

*22 сакавіка. Полацк. У адрэстаўраваным Багаяўленскім саборы адкрылася карцінная галерэя.*

## XII

Мацвей Сахута насыпаў у старую сявеньку ячменю, начапіў яе цераз плячо, нетаропка падышоў да ўзаранага палетка.

«Памажы Божа, каб урадзіла...» — прашаптаў ён, грабянуў жменю важкага цёплага зерня: мабыць, трохі ўгрэлася ў мяху на сонцы, кінуў звыклым рухам, цаляючы, каб зерне клалася ў раллю веерам. Жменю пад адзін крок, жменю — пад другі, дакладней — пад кожную нагу па жмені. Так некалі даўным-даўно вучыў яго бацька.

Царквы ў Хатынічах не было ніколі, раней мясцовыя вернікі хадзілі маліцца ў Саковічы, а цяпер і там на дзвярах царквы вісеў вялізны замок, маўчалі званы, адно гракі і галкі гарлапанілі вясной на высозных старых ліпах, якія атулялі храм. Таму і не ведаў малітваў Мацвей Сахута, не дужа ламаў галаву над спрадвечным пытаннем: ёсць Бог ці няма, але па звычцы

прасіў іншы раз дапамогі ў Божанькі. Асабліва, калі пачынаў важную справу. Ён разумеў, што ўраджай болей залежыць ад таго, як узарэш поле, як і якім насеннем пасееш, як забаркуеш, як падкорміш усходы, як сажнеш і абмалоціш. Але дождж і град ад сейбіта не залежаць, гэта ўжо ў нябеснай канцылярыі, у руках Божанькі.

Ішоў Мацвей важка, нетаропка і ўсё ж неўзабаве адчуў, што трэба перадыхнуць: займала дыханнне.

«Гэтулькі дзяцей было, а вось на дзевятым дзесятку жыцця даводзіцца самому сеяць, добра, што яшчэ магу, — думаў Мацвей, — але ўжо стары, падбіўся, можа, гэта апошняя сяўба...»

Быццам у адказ на сумныя думкі неба раптам нахмурылася: на зыркае вясновае сонца насунулася невялікая бухматая аблачынка. Неўспадзеўкі пасыпаліся рэдкія буйныя кроплі — нібы цвікі, яны прабівалі мяккае ворыва. «Дождждык — ета добра. На ўраджай прыкмета», — адзначыў для сябе Мацвей, ускінуў на плечы старую, зашмальцаваную куфайку, што ляжала на баране, паправіў шапку-аблавушку: апошнія гады ён насіў зімовую шапку амаль да лета, бо старэчая лысіна баялася холаду.

Жменю за жменяй кідаў Мацвей у мяккую раллю зерне. Кароткі дождж аціх, выбліснула вясёлае сонца, і на душы старога пасвятлела. Што ні кажы, ён любіў сеяць збожжа, і асабліва ярыну: ячмень, пшаніцу-ярку, а потым проса ці грэчку. Увосень, калі сееш азімае жыта, не спявае жаўрук, не прыпякае ласкавае сонца. А тут вясна, усё ў прыродзе ажывае, і тваё старэчае цела, спрацаванае за доўгі век, здаецца, наліваецца новымі сіламі, быццам бярэ гэтую сілу ад сонца, узаранай цёплай раллі, ад птушынага спеву і вясновага дажджу.

Праўда, Мацвей Сахута вельмі любіў рунь — усходы азімага жыта. Зялёны лапік руні сярод голага шэрага поля незвычайна вабіць вока. Любіў пасля першых маразоў, калі зямля ляжала галашчокам, пасвіць па руні кароў. Разумеў, што гэта вельмі карысна і жывёле, і полю. З'ядуць каровы азіміну, значыць, пад снегам яна не папрэе, вясною хутчэй возьмецца ў рост. А колькі кучак-аўтографаў пакінуць рагулі на полі! А каравяк — жывая арганіка, жывое золата для зямлі.

Здаецца, не дужа вялікі ўчастак, якіх дзесяць сотак ячменю пасеяў стары Сахута, а змарыўся, аж ногі падгіналіся ў каленях, плячо і шыя знямелі. Што зробіш, цяжкая работа: але паміраць збірайся, а жыта сей. А некалі бацька гаварыў: «Толькі той жне, хто сее, і што нібыта ў Святым Пісанні сказана: калі зерне не загіне, яно ўзыдзе...» Так і чалавек: выгадаваў дзяцей і збірайся на вечны супакой...

Старому Сахуту яшчэ хацелася жыць, а гэта азначала працаваць: касіць, сеяць, даглядаць карову... «Эх, каб Васіль быў жывы, — падумаў стары, — ён бы і ўзараў, і пасеяў. А Пятрок... — згадаў і самага старэйшага сына, які не вярнуўся з вайны. — Васіля зваліў інсульт у росквіце жыцця — было яму сорак пяць гадоў. Мог прыехаць з Мінска Андрэй, ды нешта няма. На днях брыгадзір Даніла Баханькоў, аднакласнік і сябрук Андрэя, перадаў, што званіў той у кантору саўгаса і нібыта прыедзе на Радаўніцу. Тое, што прыедзе — добра, але ж помачы не чакай, бо на Радаўніцу ўсе ідуць на кладзішча...»

Пасеяць пасеяў, ды трэба ж забаранаваць. Узараў уранні Вольчын Пецька трактарам хутка, і бараной пацягнуў услед за плугамі. А цяпер трэба закрыць зерне, каб узышло хутчэй, каб птушкі меней выбіралі. Каня абяцаў прыгнаць аднарукі Цімох Емяльянаў. Брыгадзір даў яму каня да абеду, бо ў яго таксама невялікі ўчастак. Цімох — чалавек слова, не падвядзе.

Стары Сахута спакойна сядзеў на куфайцы, якую паклаў на разасланы стары мех, дыхаў, як загнаны конь, азіраў наваколле, такое знаёмае і роднае. Доўгай шарэнгай выцягнуліся паўз Бесядзі хаты, атуленыя вербамі, бярозамі. Хутка растуць дрэвы: у сорак трэцім Шамаўскі канец, а гэта амаль палова вёскі, выгараў, і дрэвы пагарэлі, а вось ужо новыя ўзняліся высока. Ну што ж, прамінула амаль сорак гадоў, час немалы. Вунь Пеця Вольчын нарадзіўся ў сорак пятым — Цімох аднарукі падлаўчыўся і змайстраваў Вользе хлопца, дык ён, Пецька, ужо мае траіх дзяцей і сёння лепшы механізатар саўгаса, добры бацька, клапатлівы муж. І залаты работнік, бо хто б узараў Сахуту поле, каб не Пецька.

«Трэба ж так выпала сянні. Сын узараў, а бацька паможа паскарodзіць, — усміхнуўся Сахута. — Ды за бараною я і сам пахаджу. Во, адсапуся трохі і змагу. Час яшчэ ёсць. Сонца высока. Баба качаргою не дастане».

Цімох прыехаў з канём па абедзе. Удвух — то Сахута хадзіў за бараной, то Цімох падмяняў яго, — яны забаранавалі поле. Мацвей Сахута запрасіў Цімоха выпіць чарку за ўраджай, але той, на здзіўленне, адмовіўся:

— Дзякуй, Мацвей Дзянісавіч. Нешта ціск сянні падскочыў. У галаве шуміць, як у катле. Другім разам... От, як уродзіць ячмень, самагонкі выціснем. Тады і кульнем па чарцы.

На тым і развіталіся.

А праз колькі дзён прыехаў Андрэй на шыкоўнай «Волзе» са сваім вадзіцелем, маладым, здаровым хлопцам. Паснедаўшы, Андрэй сказаў:

— Тата, можа, мы гной выкінем? Сянні пачнем, а заўтра ўранні дык і закончым. Эдзік паможа, — кіўнуў ён на вадзіцеля.

— Яно было б добра. А то ячмень я без гною пасеяў. А пад бульбу гнайку даць трэба. Ды і хлеў час ачысціць...

— Тады давай нам якія боты.

Боты знайшліся. Для вадзіцеля. Андрэй жа абуў старыя кеды, у якіх некалі бегаў раніцай на Бесядзь. Выкідаць гной — вельмі цяжкая работа. Андрэеў вадзіцель — Эдзік, родам з прыгараднай вёскі, з маленства рос без бацькі, і рана асвоіў усе вясковыя работы. Яны спрытна ўздзіралі пласты зляжалага гною і кідалі на двор.

Сын, як заўважыў стары Сахута, выглядаў стомленым, пад вачыма мяшкі, твар нездаровы.

— Не бярыце памногу, а то вілачнікі паламаеце. Перадыхніце. Бярозавіку папіце, — наўмысна стрымліваў гаспадар працаўнікоў, бачачы, што сынаў лоб ужо даўно мокры ад поту.

Госці пагаджаліся, выходзілі з хлява на двор, дзе ўжо высілася ладная куча гною. Над ёй падымалася пара, кружыла машкарэча. Выпілі бярозавіку з трохлітровага слоіка, накрытага перавернутым медным карцом. Гэты карэц-конаўку Андрэй помніў з маленства, узрадаваўся яму, бы старому сябру. Эдзік паліў цыгарэту. І нечакана прапанаваў:

— Андрэй Мацвеевіч, можа, задыміце? Каб перабіць водар з хлява.

— А што? Давай. Не так водар перабіць, як адагнаць камарэчу, — ён узяў з Эдзікавых рук цыгарэту. Той пстрыкнуў запальнічкай, успыхнуў роўны язычок полымя. Андрэй прыкурыў, з асалодай выпусціў клуб дыму.

— Можа, і вы, дзеду, закурыце? — павярнуўся Эдзік да Мацвея Сахуты.

— Не, братка, я не займаюся етым дзелам. А дух гною для мяне прывычны. Ды яно, як паглядзець. Ружа добра пахне. А як не дасі ёй гнайку, то і не расце.

— Гэта праўда. Лепшыя кветкі растуць на гнайку, — пагадзіўся Эдзік.

— Тата, якая сёлета была паводка на Бесядзі? Вялікая? — сын перавёў размову ў іншае рэчышча. — Я хацеў прыехаць раней. Так даўно не бачыў, як разліваецца Бесядзь вясною.

— Паводка сёлета была слабаватая. Снегу мала. Зіма сірочая. Без маразоў. Вада вясновая скацілася хутка. Бесядзь троху выйшла з берагоў. Дайжа луг каля Градзі не заліла цалкам. А бывала ж ад вёскі і да лесу — цэлае мора вады.

— Асабліва ў першыя гады пасля вайны. Такія былі паводкі, ажно шапку Бургаўцова кургана залівала. Гэта за кіламетр ад нашай хаты, — тлумачыў Андрэй Эдзіку. — Уранні падымаюся і адразу да акна: дзе які курган вытыркнуўся, калі спадае вада. А як грымелі крыгі на Бесядзі! Мы, малыя, цалюткія дні лёталі па ўзгор'і. Гэта далей, Канчанскі бок называецца. Там высокі бераг. Дык відно адтуль далёка... Хацеў я сёлета вырвацца на пару дзён, ды не ўдалося...

У гэты час на двор завітаў брыгадзір Даніла Баханькоў, услед за ім шлэпаў вялізнымі гумовікамі, запэцканымі глінаю, Вольчын Пецька.

— Ну, з прыездам, Мацвеевіч! — Даніла падаў руку, Андрэй пацiснуў яе, а затым павітаўся з Пецькам.

Стары Сахута запрашаў Пецьку, каб прыйшоў увечары — хацеў аддзячыць за работу. Ён зразумеў, што пачастунак трэба рабіць зараз.

Выйшла і старая Кацера, павіталася з Данілам і Пецькам.

— Ого, работнікаў поўны двор! А ты бедаваў, што няма каму падсобіць. Пазыч, Мацвей, вілы ў суседзяў.

— Там жа не развернешся. Ета ж за сталом еткай грамадою, — намякнуў жонцы, што трэба гатаваць яечню.

— Давайце на змену, — Пецька зняў паношаны пінжак, застаўся ў клятчастай кашулі, закасаў рукавы.

Эдзік падаў яму вілы, сам узяў Андрэевы.

— Во, хай маладыя... А вы пагаманіце. Даўно не бачыліся, — задаволена прамовіў Мацвей Сахута.

— Мы падменім вас. Ты, Эдзік, дужа не рвіся. Заўтра назад трэба ехаць, — з усмешкай сказаў Андрэй. — У Хатынічах багата дзяўчат прыгожых. Шкада, часу ў нас малавата...

— Первым делом самолеты, а девушки потом, — рагатнуў Эдзік.

Мацвей Сахута тым часам крутнуўся ў хату, закамандаваў Марыне варыць бульбу, сам узяўся распальваць грубку. А перш-наперш прыбраў са стала высокую, звабна-цыбатую пляшку каньяку «Белый аист». На яе месца паставіў пляшку гарэлкі, якую днямі купіў у краме.

Сонца ўжо нізка вісела на ружаватым вечаровым небе. Яно ціха апускалася за кашлатую сасну ў Бярозавым балоце. Мацвей Сахута стаяў каля засеянага поля, прыглядаўся, ці не відны дзе зярняткі. Ён ціха радаваўся, што пасеяў ячмень упару, з дожджыкам, і пасеяў яшчэ сам. І заскародзіў сам, а яму ж дзевяты дзесятак ідзе...

«Можа, яшчэ і ўраджай збяру», — падумаў ён, згледзеў жаўранка, які трапятаўся ў ружаватым небе, а потым каменем спікіраваў на поле ў густое жыта.

Задаволены, усцешаны, з лёгкім сэрцам вяртаўся Мацвей Сахута дамоў. Здаля ўбачыў вялізную кучу гною, што дымілася параю на двары. Стомленыя мужчыны — усе чацвёра дымілі цыгарэтамі, пілі бярозавік.

— Ого, малайцы! — шчыра ўзрадаваўся Сахута. — Я меркаваў за тыдзень управіцца.

— Ну, дзядзька Мацвей, дзе ўжо вам етым займацца. Вы за свой век столькі яго перавярнулі. А колькі вы стагоў паставілі! Ды якія стагі! Усе любаваліся. І вецер ніколі чупрыну не задзёр, — расхвальваў брыгадзір Даніла старога Сахуту.

— Што было, то было, — скупа ўсміхнуўся Мацвей і пасунуўся ў хлеў. — Няўжо ўвесь выкінулі?

— Трохі засталося. Уранні падчышчу, — запэўніў сын. — Даніла, хто ў Хатынічах спец па электрыцы? Трэба святло правесці ў хлеў.

— Я магу зрабіць, — азваўся Пецька. — Толькі провад трэба.

— Здаецца, у мяне ў машыне ёсць, — падняўся Эдзік.

Неўзабаве ён прынёс ладны маток праваду.

— Астатняе знойдзем... Так што будзе, дзядзька, святло. Адсеемся, тады зраблю, — баском прамовіў Пецька.

— То пайшлі, хлопцы, у хату, — Мацвей Дзянісавіч гатовы быў расплакацца ад радасці, што так добра ўсё складваецца сянні: і ячмень пасеяў, і гной ужо на двары, і хлеў ачышчаны, і святло будзе. А галоўнае — сын прыехаў на той машыне, якая возіць яго ў сталіцы, у Мінску.

Доўга ў той вечар ярка свяціліся вокны Мацвеевай хаты, чуліся вясёлыя галасы.

А над Бесяддзю не сціхаў жабіны канцэрт, гучна і звонка рассыпаў свае трэлі салоўка. Усё было, як і раней. Але для Мацвея Сахуты гэты дзень, гэты цудоўны вечар здаваліся незвычайнымі.

Можа, таму, што заўтра Радаўніца, ён міжволі падумаў пра сваіх продкаў, пра свайго бацьку, які таксама нарадзіўся ў гэтай вёсцы, а дзед, якога Мацвей памятаў слаба, нарадзіўся ў Саковічах... Колькі пакаленняў прайшло над Бесяддзю! Асвяжаліся яе вадою, якая пахне цяпер, мусіць, таксама, як і тады, — аерам, водарасцямі. Мацвей Сахута ведаў толькі два калены продкаў, сам малапісьменны — тры класы скончыў, бацька мог толькі распісацца, з цяжкасцю чытаў, дзед быў зусім непісьменны.

А вось ягоны Андрэй мае вышэйшую адукацыю, нават два дыпломы, і ён важны чалавек аж у самой сталіцы Беларусі. І не задзірае нос — гной выкідаў з такой ахвотаю. Дай, Божа, яму здароўя. Усё астатняе ў яго маецца. І розум, і жонка неблагая, і дзеткі добрыя. Толькі жыць ды радавацца.

Дзень на Радаўніцу выдаўся ветраны і сонечны. Апоўдні пачалі збірацца на могілкі — кладзішча, як гавораць у Хатынічах. Андрэй, як і абяцаў, устаў рана, падчысціў у хляве, выкінуў увесь гной. Вадзіцеля не чапаў, бо яму ехаць назад, а дарога няблізкая.

Пасля снедання Андрэй павёў Эдзіка на Бесядзь. Рака ўжо ўваходзіла ў берагі, але па лузе, дзе цямнеліся рудаватыя купіны, прайсці было немагчыма. Андрэй выбраў іншы шлях, павёў госця на Шкваркоў падол, дзе высокі бераг.

— Бывала, у маленстве я тут лавіў піскіжоў. Так у нас завуць печкуроў. Раней тут было шмат крэменю. А цяпер нешта не відно. — Андрэй азірнуўся на мокры пясчаны бераг, вылізаны вясноваю вадою, вакол было гола і непрытульна. — А бывала, басанож тэпаеш па гарачым пяску. Назбіраеш пляскатых каменьчыкаў і давай кідаць цераз раку. Пад вуглом кінеш, каменьчык разоў пяць падскочыць і на той бераг. Называецца гэта: дзед бабу перавёз. Альбо — пячы блінцы...

Мабыць, Андрэй Сахута апавядаў з хваляваннем і захапленнем, бо Эдзік раптам сказаў:

— Андрэй Мацвеевіч, вам бы вершы пісаць. А можа, і пішаце?

— Не, Эдзік, не пішу. Чытаць люблю. А пісаць няма калі. Партыйная работа высушвае ўсё дазвання. Забірае ўвесь час. Ты ж сам ведаеш. Дзе толькі не даводзіцца бываць! Заводы, фабрыкі, установы... Сходы, пленумы, партбюро... Бясконцая гаварыльня... — Андрэй спахапіўся: ляпнуў лішняе. Вадзіцель павінен ведаць, што ягоны шэф — шчыра адданы сваёй рабоце, бо гэтага ён патрабуе ад усіх сваіх падначаленых. Эдзік хоць і малады, але КДБ магло яго завербаваць, і пра гэта ён не скажа, бо даў падпіску маўчаць...

Пахадзіўшы па беразе, Андрэй знайшоў шэры пляскаты каменьчык, прыгнуўся, рэзка кінуў. Каменьчык даляцеў амаль да паловы ракі, дакрануўся да вады, падскочыў разы са тры, далей проста слізгаў, як бы сунуўся па вадзе, і ўпаў на той бераг.

— Ну, клас, Андрэй Мацвеевіч! Не паспеў і палічыць, колькі блінцоў вы спяклі. Можа, цэлых дзесяць.

— Не, добра падскочыў каменьчык тры разы. А потым слізгаў па вадзе. А бывала, удавалася так кінуць, што каменьчык разоў сем высока ўзляціць над вадой. І з падскокам шлёпнецца на той бераг.

Спрабаваў кідаць каменьчыкі і Эдзік, але яны адразу шчабоўкаліся ў ваду і знікалі.

— Праўду кажуць, на ўсё трэба ўмельства, — зазначыў Эдзік, нібы апраўдваючыся.

Андрэй маўчаў, бо нечакана згадаўся той недарэчны сон, калі каменьчыкам трапіў у лоб дзіцяці. Разгадкі сну не было і на гэты раз, і ён адагнаў прыкры ўспамін. Стаяў і глядзеў на цёмную зубчастую сцяну лесу. О, як вабіў яго лес! Быццам настойліва клікаў да сябе, але часу было вобмаль, ды ні лодкі, ні чаўна нідзе не заўважыў, каб перабрацца цераз раку.

Адзінае, што мог дазволіць сабе Андрэй, прайсці па ўзгор'і да крамы — купіць Эдзіку цыгарэт, бо ўчора памаглі яму выкурыць цэлы пачак. Ішлі па вузкай, звілістай сцежцы. Андрэй паперадзе, вадзіцель за ім.

— Тут некалі такія вербы таўшчэразныя стаялі. А цяпер ужо няма. Мусіць, паўсыхалі. Таму і пазразалі, — Андрэй паказаў на цёмныя шырокія пні. Вербы, якія ацалелі, выглядалі няшчаснымі, пакалечанымі — стаялі з абламаным голлем. А ў дзяцінстве яны здаваліся маломму Сахуце гэткімі магутнымі, тоўстымі і вечнымі.

Цыгарэт у краме не было, давялося Эдзіку перабівацца «Беламорам».

Упершыню ў жыцці Мацвей і Кацера Сахуты, іхняя дачка Марына ехалі на кладзішча на шыкоўнай «Волзе». Андрэй хацеў уладкаваць маці на пярэдняе сядзенне, але яна адмовілася:

— Не, сынок, там тваё месца. А мы во тутацькі ўціснемся ўтраіх. Машына раскошная...

У багажнік паставілі пакункі з рознай закуссю, захапілі льняныя абрусы. Андрэй папрасіў вадзіцеля, каб ехаў павольна. Яму хацелася ўсё бачыць, вітацца з вяскоўцамі, якія ішлі на кладзішча.

Там ужо было людна. Вакол бялеліся засланыя абрусамі курганкі магілак, на заімшэлых драўляных, цёмна-бліскучых металічных крыжах, якія пачалі рабіць апошнім часам у кузні, трапяталіся вышываныя ручнікі.

Сахуты спыніліся каля Васілёвай магілы. Над ёй высіўся сціплы помнік — дарагіх, шыкоўных помнікаў не было на гэтых вясковых могілках. Марына заслала абрусамі магілы дзеда, бабы, Міколкі і Толіка, а

Кацера абаперлася на агароджу Васілёвай магілкі, быццам ногі не трымалі яе, і старэчымі, выцвілымі вачыма ўглядалася ў сынаву фотакартку, дзе ён быў малады, у белай кашулі з гальштукам, у цёмным пінжаку. Маці бачыла яго хударлявым падлеткам, які разам з бацькам будаваў хату, пілаваў дошкі. Крывёю аблівалася тады матчына сэрца, бо ведала, што гэта непасільная работа для хлопца. Шкадаваў яго і бацька, ды хто іншы мог памагчы?

Неўзабаве прыкацілі з райцэнтра Мікола Шандабыла і Міхаіл Даўгалёў. Яны ведалі аб прыездзе Сахуты — ён пазваніў Міколу з Мінска, а заязджаць у райцэнтр не меў часу: цягнула дамоў, як магнітам.

Гэтыя сустрэча, можа, мацней чым каго ўзрадавала Мацвея Сахуту. Даўгалёў быў і застаўся для яго вялікім аўтарытэтам — колішні першы сакратар райкома партыі, першы чалавек у раёне. А Мікола Шандабыла хай сабе рос на ягоных вачах, памятае яго басаногім, галапупым, цяпер старшыня райвыканкома, кіраўнік савецкай улады. Сэрца старога Мацвея млела ад радасці і гонару, што гэткія людзі прыехалі да іх. І ў той жа час ён не-не ды і пазіраў на помнік Васілю, і сэрца шчымела ад болю: яшчэ мог бы жыць, дзецьмі цешыцца, яму было б якіх пяцьдзесят гадоў з гакам — самы росквіт...

Расселіся Сахуты вакол засланай абрусам Васілёвай магілы. Прыехала з Лабанаўкі і ягоная ўдава Нэля, старэйшы сын Юрка, які летась вярнуўся з арміі, Наташка і Сяргейка, школьнікі. Не змагла прыехаць толькі Валя, якая займаецца ў Магілёве ў педвучылішчы.

— Мацвей, налівай чаркі. Людзі вунь ужо абедаюць. Давайце памянем... І татачку, і мамачку, і свёкарку, і свякровачку, і Толіка малога, і Колю... — даўкі камяк нібы засеў ў горле Кацеры, яна змоўкла, а потым дадала: — І Васілёчка дарагога... Во, сынок, каб жа ты мог падняцца ды на дзетачак сваіх паглядзець, — праз слёзы гаварыла Кацера Сахута.

— Мама, не расстрайвайцеся. Етым жа не паможаш. Тут жа ва ўсіх бяда. Смерць нікому ў зубы не глядзіць. Ці ты стары, ці малады, — супакойвала нявестка Нэля, хаваючы пад чорную хустку пасму дачасна пасівелых валасоў. — Спі спакойна, муж мой дарагі. Дзеці твае не пустадомкамі растуць. Не сорамна за іх. Давайце вып'ем. І ты з намі, — Нэля адліла крапельку гарэлкі ў чарку, што стаяла на сподачку каля помніка. Там яшчэ ляжалі чырвонае, велікоднае яйка і дзве цукеркі.

Андрэй моўчкі выпіў, бо адчуваў, што гатовы заплакаць услед за маткай.

Гамана памалу гусцела, галасы рабіліся гучнейшымі. Андрэй азірнуўся навокал. Ён пабыў ужо каля магілак родзічаў Даўгалёва, запрашаў яго ў свой гурт, але той адмовіўся, сказаў, што чарку амаль не бярэ. Запрашаў і Міколу. «Пабуду са сваімі. Тады падыду», — пабяцаў ён.

— А дзе магілка лесніка Захара Махавікова? Хто ведае? — пацікавіўся Андрэй.

— Я ведаю, — падаў голас Юрка.

Хлопец порстка падняўся, рослы, плячысты, з тонкімі ніткамі цёмных вусікаў. Ён пайшоў паперадзе, Андрэй за ім. Па вузкай сцяжынцы, якая віляла між зарослых курганкоў, пакіравалі на другі канец кладзішча. Прамінулі малады бярэзнік, выйшлі на адкрыты пляц, устаўлены помнікамі, замшэлымі драўлянымі крыжамі. І тут могілкі бялеліся абрусамі, каля многіх сядзелі святочна апранутыя людзі.

— Мацвеевіч! Хадзіце да нас! — з усіх бакоў чуліся галасы.

Андрэй падыходзіў, абдымаўся, тройчы, як прынята, цалаваўся, але ад чаркі ветліва адмаўляўся:

— Дзякуй вялікі. Я за рулём. Трэба ехаць...

Гэты святы падман выручаў яго.

— Вось тут, — нарэшце ціха сказаў Юрка.

Андрэй убачыў невысокі шараваты помнік, на якім былі даты жыцця і смерці Махавікова Захара Анціпавіча, побач магілка жонкі Гапкі, такі ж самы помнік. Яна перажыла мужа на два гады. На медальёнах невялікія фотакарткі: ён і яна строгія, вусны — сурова сціснутыя, усмешак на фотаздымках вясковыя людзі не любяць: навошта рот разяваць, ды і былі тыя раты часцей за ўсё бяззубымі...

«Патэлефаную Пятру, скажу, што пакланіўся магілкам ягоных бацькоў, — падумаў Андрэй, — шкада, што да іх не прыехаў ніхто».

— Ну, што, Юрка, пайшлі? А то Мікола Арцёмавіч, можа, чакае...

— Мы па дарозе можам да іх зайсці. Яны тут недалёка.

— Добра, Юрка. Так і зробім.

Мікола Арцёмавіч быў яшчэ са сваім гуртам. Тут ужо Андрэй не адмаўляўся — выпіў чарку за супакой Арцёма і Хадоры, якіх ён ведаў з маленства, бо жылі па-суседстве.

— Тут недалёка Міхаіл Касьянавіч. Давай зойдзем да іх, — прапанаваў Мікола. Андрэй не пярэчыў.

Даўгалёў сядзеў на лавачцы, нядаўна пафарбаванай, якая атуляла дзве магілкі. Сястра Даўгалёва, Марыя, і яшчэ дзве жанчыны ў цёмных хустках сядзелі вакол магілкі. На абрусе стаяла пляшка віна. Марыя ўсхапілася, кінулася абдымаць і цалаваць сваіх суседзяў:

— А мае ж вы даражэнькія!..

Пачуўшы гэтыя словы, Андрэй міжволі падумаў: вось ад каго ўзяў Даўгалёў славуты на ўвесь раён зварот да наведнікаў, да падначаленых — даражэнькі мой! А можа, Марыя пазычыла гэты зварот у свайго брата-начальніка?

— Хадзіце сюды. Сычас мы з вамі памянем нашых бацькоў, — Марыя мітуслівa дастала са старой абшарпанай сумкі цёмна-зялёную пляшку, закаркаваную белым пластмасавым коркам.

А Мікола Шандабыла ўжо вітаў свайго настаўніка Мамуту.

— Пётр Еўдакімавіч! Заходзьце да нас, — і ён тройчы пацалаваўся з настаўнікам. Тое ж самае зрабілі Даўгалёў і Сахута.

Марыя адкаркавала нарэшце пляшку.

— Даражэнькія, не пагрэбуйце. Свая, жытнёвая...

— Давайце возьмем грамаў па дваццаць, — падтрымаў сястру Даўгалёў.

Адмаўляцца не выпадала. Усе пакаштавалі Марыінага зелля і дружна пахвалілі напой. Пасядзелі, пагаманілі.

Сонца звярнула з паўдня, але яшчэ добра прыгравала. Гракі і галкі гарлапанілі на голых галінках бяроз.

— Ці шырока сёлета разлівалася Бесядзь? — спытаў у Марыі Даўгалёў. Андрэй аж сцепануўся ў душы: гэткае ж пытанне ён задаваў бацьку, значыць, і Даўгалёву карціць тое ж самае.

— Не, саўсім слаба. Зіма была лёгкая, скупая на снег. Прамільгнула і не ўгледзелі. Яно і добра. Сена меней, дроў меней трэба. Ета ж во жывуць людзі ў той Ахрыцы. Снегу ў вочы не бачаць. Затое ні кажухі, ні валёнкі непатрэбныя. Лацвей ім гаспадарыць. А тут гару дроў трэба спаліць, — разважала кабета.

— Дык яны ж да нас едуць пацешыцца снегам. Перадыхнуць ад спякоты, — пацвельваўся Мікола Шандабыла, а потым сур'ёзна дадаў: — Мабыць, лепей, чымся ў нас, нідзе няма.

— Твая праўда, Арцёмавіч. Я ў сталіцы жыву. І кватэру нарэшце атрымаў прыстойную. А Бесядзь часта сніцца, — уздыхнуў Андрэй.

— Хоць і цяжка мне хадзіць з кульбаю, але хочацца зірнуць на раку. Пайшлі. Пастаім на беразе, — прапанаваў Даўгалёў.

Яны стаялі на стромым беразе Бесядзі — тут ён быў асабліва высокім і абрывістым, таму і кладзішча месцілася непадалёку: сухое пясчанае ўзгор'е, косці нябожчыкаў не залівае вада. Рака ўжо ўвабралася ў берагі, але раўчукамі сярод шырокай лугавіны яшчэ сцякала вада, вярталася ў раку рыба, што выходзіла пагуляць на вольнай прасторы. Сям-там атуленыя лазовымі кустамі блішчэлі лужыны. Андрэй адразу прыгадаў, як лавілі ў лужынах шчупакоў — гэта называлася «рабіць муцёнкі». Згадаў, як маці, Васька, Коля і ён, Андрэйка, хадзілі касіць чарот і асаку па замерзлых лужынах, глушылі абушком рыбу.

— Тут да вайны археолагі праводзілі раскопкі. Скажу я вам, даражэнькія, сто тысяч гадоў таму тут жылі людзі. Падумаць толькі, га! — Даўгалёў абвёў позіркам сваіх маладзейшых землякоў. — Пра гэта любіць апавядаць Мамута. Ён жа гісторык. Ды і асабіста бачыў тых археолагаў. Дапамагаў ім капаць. Людзі не дурні. Здаўна ацанілі прыгажосць тутэйшых мясцін. І выгода! І лес, і рака. І крэмню поўна.

— Таму і вада асабліва чыстая. Крэмень ачышчае, — аўтарытэтна зазначыў Мікола. — Як у Мінску вада? Нармальная? — павярнуўся да Андрэя.

— Там, дзе з-пад зямлі, артэзіянская, выдатная. А дзе вадазабор са Свіслачы, дакладней, з Мінскага вадасховішча — так сабе. З хлоркай. Увогуле для горада праблемы экалогіі выходзяць на першы план. Гэта самае важнае...

— Ці толькі ў горадзе? Даражэнькі мой, Андрэй Мацвеевіч, зірні на ўзгор'е. Помніш, пасля вайны там канюшня стаяла? Там пару дзесяткаў коней было. Ад іх ніякай шкоды прыродзе... Пакуль я быў у райкоме, а Казакевіч тут старшынёй калгаса, дык адбіваліся. А цяпер пасадзілі на ўзгор'і цэлы комплекс. І кароўнік, і свінарнік. Маўляў, выпас блізка, вадапой — таксама, на работу даяркам блізка. Кругом зручна. А што Бесядзь запаскудзілі, дык гэта не ў галаве...

Старшыня райвыканкома Мікалай Шандабыла змаўчаў, бо адчуваў і сваю віну ў гэтым. Ён спрабаваў даказаць на бюро райкома, што комплекс тут будзе экалагічна шкодным, але «іржавы тазік» абарваў:

— Трэба даваць план. І прыроду таксама трэба берагчы. Вось і мабілізуйце сваіх падначаленых з райсельгасупраўлення. Каб яны сачылі за тэхналогіяй. Трэба своечасова ачышчаць ямы і ўсё будзе добра.

Ніхто болей не запярэчыў, рашэнне было прынята.

Андрэй узгадаў той далёкі дзень, калі вяртаўся са школы, яго дагналі на падводзе Бравусаў і Раковіч, запрасілі сесці, давезлі да Хатынічаў. Па дарозе распытвалі пра Свідэрскага. Пазней Андрэй дачуўся, што ў Свідэрскага адабралі пісталет, яго выключылі з партыі, будуць судзіць. Неўзабаве Свідэрскі засек жонку сякераю, а сам павесіўся. Гэтае здарэнне запала ў душу падлетка назаўсёды. Але пра свае згадкі гаварыць не стаў, сказаў пра іншае:

— Нядаўна я прачытаў кнігу. Яна выйшла за кардонам. Называецца «Зияющие высоты». Гэта такі здзек з усяго нашага жыцця! Але ёсць у ёй і трапныя назіранні...

Ні Даўгалёў, ні Шандабыла гэтай кнігі не чыталі, таму слухалі Андрэя з цікавасцю, перапытвалі.

— Дык горад называецца Ібанск? А ўсе людзі ібанцы? — рагатаў Даўгалёў. — Зіяюшчыя высоты так і засталіся недасяжнымі. А мы ж павінны жыць ужо пры камунізме. Мікіта на ўвесь свет абвясціў. А камунізму няма. Я ўжо, мусіць, не дачакаюся. Хіба што вы, маладзейшыя, убачыце зіяюшчыя вышыні. Ну што, мабыць, нас ужо шукаюць? Паглядзелі на родную Бесядзь... Што б ні рабілася на свеце, яна цячэ. Ці рэвалюцыя, ці культ, яна на гэта не зважае. А вось на дождж і холад адгукаецца. Бывай, родная, — нечакана расхваляваўся Даўгалёў.

— Міхаіл Касьянавіч, вы нібы развітваецеся назаўсёды. Ну што вы так сумна? Хіба ж вам далёка падскочыць ці сюды, ці ў Бялынкавічы? Там гэткая прыгажосць! Любата!

— Даражэнькі мой, хто ведае, колькі таго жыцця засталося. Пажыць яшчэ хочацца. Праўда, іншым разам такое адчуванне... Стома, як мядзведзь, наваліцца, нага смыліць, быццам сабакі яе рвуць. Тады здаецца, што вельмі стаміўся жыць. А жыць усё-ткі хочацца.

Андрэй і Мікола супакойвалі земляка, былога партыйнага лідэра раёна. Ён моўчкі слухаў, суха паскрыпваў ягоны пратэз. А думкі снаваліся ў галаве Даўгалёва вельмі тужлівыя: чым ён займаўся столькі гадоў? Набліжаў камунізм? А да яго, да камунізма, як да неба. І ніхто не ведае, што гэта такое. І як быў ён прывідам, пра які пісалі класікі марксізму, так і застаўся...

А тым часам з могілак ва ўсе бакі купкамі разыходзіліся людзі. Адно галкі і гракі заставаліся на высокіх старых дрэвах каля сваіх гнёздаў. Неадольная сіла жыцця трымала іх тут.

Неўзабаве Мацвей і Кацера Сахуты праводзілі ў Мінск свайго сына. Мацвей абняў яго, паляпаў па плячы — цалавацца стары Сахута не любіў, Кацера пусціла слязу, уткнулася тварам у сынавы грудзі. Андрэй прыхінуў яе і з болем падумаў: як схуднела маці за апошні час.

Тройчы пацалаваўся Андрэй з Марынай, таксама са скрухаю адзначыў, што і сястра пастарэла. «Зрэшты, і я не памаладзеў», — нібы супакойваў ён сябе дарогаю, калі за акенцам машыны мільгалі знаёмыя з дзяцінства хаты. І ўсе яны былі старыя. Толькі адна, каля Шамаўскага моста, глядзела на свет новымі светлымі вокнамі, залатым бляскам адлівалі абшаляваныя жоўтыя сцены.« Прыгожы дом пабудаваў, а хто не спытаўся, — паўшчуваў сябе Андрэй. — Значыць, будуць жыць Хатынічы».

Па вуліцы бегалі басаногія дзеці — будучыя гаспадары жыцця.

Не мог і падумаць, не мог убачыць у страшным сне Андрэй Сахута ды і ніхто з ягоных землякоў, што роўна праз пяць гадоў чарнобыльскае смяротнае крыло накрые Хатынічы, Прыбяседдзе і амаль трэцюю частку Беларусі...

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981 г.*

*4 красавіка. Ерэван. Фільм казахскіх кінематаграфістаў «Цаліна», створаны па кнізе ўспамінаў Л. І. Брэжнева, прызнаны лепшым на VII Усесаюзным кінафестывалі сельскагаспадарчых фільмаў.*

*7 красавіка. Ліда, Гродзенская вобласць. Незвычайны груз — пяць мяхоў насення елкі — адправілі ў Швецыю лідскія лесаводы.*

*16 красавіка. Нью-Йорк. Закончыўся першы палёт амерыканскага касмічнага карабля «Калумбія», які пілатаваўся астранаўтамі Дж. Янгам і Р. Крыпенам.*

*28 красавіка. Масква. Па запрашэнні ЦК КПСС і Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 27 красавіка ў Маскву з афіцыйным сяброўскім візітам прыбыў лідэр вялікай рэвалюцыі 1 верасня сацыялістычнай Народнай Лівійскай Арабскай Джамахірыі М. Каддафі.*

## XIII

Быў даволі позні вечар, калі ў кватэры Пятра Махавікова пачуўся тэлефонны званок. Трубку зняла Ева, з некім пачала размову, потым паклікала Пятра.

— Здароў, зямляк! — пазнаў ён голас Андрэя Сахуты. — Паклон табе ад роднай Бесядзі. Успаміналі мы цябе ў Хатынічах. Шкада, што не змог прыехаць... Пакланіўся і тваім магілкам...

Андрэй расказаў, што і як было ў Хатынічах, хто са знаёмых быў на Радаўніцы на кладзішчы.

— Дзякуй, Андрэй. А ў мяне па тры засядалаўкі ў дзень. То мастацкі савет, то рэдакцыйны, то лятучка, то партыйны сход. Не толькі ў цябе багата засядалавак.

— Чаго-чаго, а паседжанняў у нас хапае. Аж занадта, — уздыхнуў Андрэй. — Трэба калі сустрэцца...

— У гэтыя выхадныя ў мяне запіс перадачы. Можа, у наступныя?

— Добра. Запрануем. Сазвонімся потым...

На тым і развіталіся.

У суботу, седзячы ў сваім кабінеце, назіраючы па маніторы запіс вучэбнай перадачы пра творчасць паэткі Цёткі, яму самому захацелася нешта запісаць у блакнот.

Кароткія занатоўкі Пятро рабіў даўно, яшчэ курсантам лётнага вучылішча выпісваў мудрыя думкі вялікіх людзей. А тут, на тэлебачанні, тое-сёе запісваў на лятучках, нарадах. Пасля перадачы пра ворыва без плуга яму патэлефанавалі з рэдакцыі, папрасілі напісаць на гэтую тэму артыкул. Пятро пагадзіўся.

Неяк пад канец дня ён пехатой прайшоў цераз парк Чэлюскінцаў, квартал па праспекце, і вось ужо Дом друку. Сталага веку вахцёрка спытала, куды ён ідзе. Пятро адказаў, у якую газету яму трэба.

— Ідзіце на другі паверх, — сказала яна.

Па шырокай лесвіцы Пятро падняўся на другі паверх, адшукаў патрэбны кабінет. На шыльдзе было два прозвішчы, адно з іх — Вухналёў, менавіта ён і заказваў Пятру артыкул.

У даволі вялікім пакоі стаялі тры шырозныя сталы, заваленыя паперамі. За адным з іх, у святле настольнай лямпы была відаць нізка схіленая галава — чалавек чытаў свежы адбітак газетнай старонкі. Павіталіся, Андрэй назваў сябе.

— Апошнюю паласу чытаю. Пачакайце хвілінку, зараз аддам на праўку і пагаворым, — Вухналёў правёў доўгую рысу і на яе канец нібы павесіў літару «М», а пад ёй дзве кароткія рысы правёў.

Потым парывіста падняўся, згарнуў старонку ў вялікі рулон.

— Аднясу намесніку рэдактара.

Журналіст неўзабаве вярнуўся, узяў у Пятра артыкул, загаловак прачытаў уголас:

— «Ворыва без плуга...» А што? Можа, і добра. У прынцыпе правільна. Адразу быка за рогі... Ведаеце што, Пятро? Сёння я ўжо начытаўся да ачмурэння. Пагляджу заўтра. Адрас ваш ёсць, тэлефон таксама. Мае каардынаты ў вас маюцца. Завуць мяне Алесь. Ну, калі афіцыйна: Аляксандр Максімавіч... Прызнаюся, мяне цікавіць, хто вы, што вы? У перадачы вы сказалі, што былі ваенным лётчыкам, потым вучыліся на агранома, працавалі ў калгасе. А цяпер на тэлебачанні. Так?

— У вас выдатная памяць.

— Гэта прафесійнае... — задаволена ўсміхнуўся Вухналёў. — Раней часта ездзіў у камандзіроўкі. Разбіраў скаргі. І ўсё трэба запомніць. Пачне чалавек гаварыць, а ты ў блакнот запісваць. І ўсё — гаворка скончылася. А я толькі запісваў імя, прозвішча, закрываў блакнот і глядзеў чалавеку ў вочы. Тады асаблівы давер. Бывала, за дзень не адзін дзесятак людзей апытаеш... Галоўнае — не зблытаць хто пра што гаварыў. Гэта, брат, цэлая навука. А вы самі адкуль родам?

Пятро адказаў, Вухналёў аж падскочыў ад цікавасці:

— А Сахуту Андрэя ведаеце?

— Чаму ж не? Мы з адной вёскі.

— Ёлкі-маталкі. Я ж яго ў людзі выводзіў. Працаваў тады ў маладзёжнай газеце. Звонка, гучна атрымалася. Яго праз нейкі час узялі ў абком. А цяпер ён ведаеце дзе?

— Ну, канешне. На днях бачыўся з ім.

— Хо, трэба заказаць яму артыкул пра шэфства горада над вёскай. Думаю, яму ёсць што сказаць. А далей — гэта ўжо мой клопат...

Вухналёў зрабіў занатоўку на календары.

— Заўтра ж патэлефаную. Прывітанне ад вас можна перадаць?

— Абавязкова. Калі-небудзь сустрэнемся разам. Пасядзім, пагамонім. Гэта будзе цікава.

Праз тыдзень Андрэй чытаў у газеце свой артыкул. Ён доўга любаваўся сваім прозвішчам, напісаным буйнымі літарамі, і нейкім асаблівым гонарам напаўнялася душа. На тэлеэкране — мільгануў, хто ўбачыў, хто не, і хутка пра цябе забылі. А тут ужо назаўсёды, бо ў навуковых бібліятэках падшыўкі сталічных газет захоўваюцца вечна. І ён зноў перажыў магію друкаванага слова, як і тады, калі пісаў артыкул, будучы калгасным аграномам.

І Пятро Махавікоў пачаў часцей пісаць у свой нататнік. Ды і блакнот узяў большага памеру, каб было дзе разгарнуцца, і ляжаў ён у рэдакцыйным стале, бо ў кішэню яго не засунеш. А пісаў часцей за ўсё па суботах, калі не заміналі наведнікі, не адрываў тэлефон. Ён заходзіў у студыю, распытваў, што і як, калі ўзнікалі нейкія праблемы, тут жа вырашаў іх, потым у кабінеце пазіраў на манітор і разгортваў свой дзённік. Бывала, так захапляўся пісаннем, што забываў і пра студыю, і пра манітор, які стаяў перад ім.

І ў гэтую суботу ў цішыні кабінета Пятро перачытваў свой дзённік: занатоўку пра лятучку, дзе выступаў з аглядам першых перадач нацыянальнай праграмы, пра творчы вечар Івана Мележа, на які трапіў дзякуючы калегу з літаратурна-драматычнай рэдакцыі.

***14 лютага, субота.*** *На дварэ лютаўская завея. Зіма адважылася паказаць свой нораў. А да гэтага было дужа цёпла... Як чакаю суботы! У будзённыя дні раптам звальваецца гэтулькі праблем, што аж галава трашчыць... 11-га ў сераду пашанцавала трапіць на вечар Мележа. Было шмат цікавых прамоў. Грунтоўнае слова сказаў Алесь Адамовіч. Выступалі масквічы: Сартакоў, Залыгін, упершыню бачыў і слухаў вядомых рускіх літаратараў. Хораша сказаў Генадзь Бураўкін пра ўрокі Мележа: не пісаць пра тое, што нядорага, не быць кан'юнктуршчыкам, любіць літаратуру, а не сябе ў літаратуры, дбаць пра культуру народа. Слушна!*

*Сапраўды, Мележ — вялікі мастак. Жорсткі, няўмольны лёс не даў яму на ўсю моц выказацца, як не даў ён гэта зрабіць Максіму Гарэцкаму і Міхасю Чароту, Кузьму Чорнаму і Міхасю Зарэцкаму, шмат каму яшчэ.*

***18 лютага, серада.*** *Учора давялося выступаць у сярэдняй школе, што месціцца каля кінатэатра «Кіеў» — падшэфная Дзяржтэлерадыё. Выступаў разам з маладым паэтам Хведарам, супрацоўнікам літдрамы. Слухалі нас вучні пятых-шостых класаў і некалькі старшакласнікаў. Спачатку дзеці шумелі, перамаўляліся, але памалу зацікавіліся, слухалі ўважліва, шмат задавалі пытанняў. Я расказаў, як робяцца вучэбныя тэлеўрокі па літаратуры, па гісторыі, па іншых прадметах, якія бываюць кур'ёзныя здарэнні. Паэт чытаў вершы, а я падбухторваў дзяцей на воплескі. Амаль цэлую гадзіну мы гаварылі.*

*Заўтра еду на тэлефестываль у Рыгу.*

***25 лютага, серада.*** *Вярнуўся з Рыгі. Якая цікавая паездка! Гэтулькі сустрэч, знаёмстваў. Рабіў занатоўкі ў маленькі блакноцік. А сюды захацелася запісаць пра агульнае ўражанне. Раблюся графаманам, ці што? Свярбіць рука, пальцы цягнуцца да паперы і самапіскі. Дык вось, нашы праграмы не горшыя за іншыя, праўда, мы атрымалі дыплом трэцяй ступені. І то добра. На развітанне быў банкет на высокім узроўні — 24-м, апошнім паверсе гасцініцы «Латвія». А якая панарама вячэрняга горада! Мора агнёў: агні на моры — вартавыя караблі, агні ў порце. Мінск — больш горад, а такога будынка не мае. Трэба наганяць.*

***7 сакавіка, субота.*** *Пярэдадзень жаночага свята. Штучна прыдуманага, недарэчнага свята, як і 23 лютага. Вось Дзень маці — гэта свята. А тут прыдумка. На двары вялікі пост, нельга есці скаромнае, а свята праваку е п'яныя застоллі. Не па-боску гэта. Жанчын трэба паважаць кожны дзень. Ды і лічба васьмёрка — двухсэнсоўная. І так, і сяк павярні — усё роўна васьмёрка.*

*Пазаўчора, 5-га сакавіка, быў на вечарыне Кандрата Крапівы. Запрашэнне даў калега з літдрамы. На вечарыну прыйшоў сам Кісялёў, а разам з ім уся тройца: Аксёнаў, Цалякоў, Бровікаў. Ніл Гілевіч хораша, годна вёў рэй, гаварыў усхвалявана, важка і шчыра. Макаёнак потым сказаў: нам патрэбны новыя тэатры, а то ў нас толькі тры беларускамоўныя. Няўжо наша Міністэрства культуры ўмее лічыць толькі да трох? І ў канцы зазначыў: бачу, што запісвае тэлебачанне, прашу гэтыя словы не сціраць... Начальства высокае пераглянулася, у зале людзі заўсміхаліся. Тут я салідарны з Макаёнкам.*

*Сам юбіляр гаварыў седзячы. Але не заікаўся, не блытаўся, толькі зрэдку па-старэчы кашляў. І скончыў: да наступнага юбілею! Малайчына! Яму 85! І байкі нядаўна надрукаваў выдатныя. Магчыма, напісаў іх раней, але толькі цяпер абнародаваў.*

***18 красавіка, субота.*** *Даўно не пісаў. Гэтулькі праблем, гэтулькі засядалавак, што не было калі ўзяцца за пяро. Ну, сапраўды: панядзелак — дзень лятучак, то рэдакцыйная, то агульнастудыйная. У аўторак — задзел-планёрка ў намесніка старшыні, шэфа тэлебачання, у сераду — задзел у старшыні, а яшчэ рэдсаветы, мастацкія саветы, кожны месяц партыйны сход у рэдакцыі, партсход усёй студыі. Суцэльная гаварыльня і марная трата часу, о каб парторг ведаў мае думкі! Зрэшты, цяпер ужо не той час...*

***25 красавіка.*** *Учора выпадкова трапіў у Маладзечанскі раён, у вёску Ракуцёўшчына. І садзіў там Максімаў сад. А здарылася так. Ехаў туды калега з літдрамы Валодзя Клімчук, пісьменнік, запрасіў мяне, месца ў машыне было, я згадзіўся. І не шкадую.*

*Ракуцёўшчына — невялічкая прыгожая вёска каля Краснага. Тут у*

*1911 годзе жыў некалькі месяцаў Максім Багдановіч, дыхаў родным паветрам, чуў родную мову. Бледнатвары дваццацігадовы юнак, ён упершыню быў у беларускай вёсцы.*

*«Калісьці летняю рабочаю парой Праз вёску я ішоў»... — пісаў ён у невялікай паэмцы «У вёсцы». Як убачыў малога хлопчыка, той, спалоханы, расплакаўся і папоўз да сваёй старэйшай сястрычкі — «год васьмі дзяўчынкі... І, як схіляецца ад ветру верх бярозкі, // Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, слёзкі // Сціраючы яму, штось пачала казаць, // Каб заспакоіць плач — зусім як быццам маці... І помню, я на міг пахарашэў душою». Як проста і як здорава сказана! У гэтай «упэцканай і хілай, і худой» дзяўчынцы ён убачыў тое высокае, «што вялікі Рафаэль стараўся выявіць праз маці Божай лікі». Во што значыць талент! Ды яшчэ чулая душа і сэрца, поўнае любові і замілаванасці, поўнае спагады да людзей.*

***26 красавіка, нядзеля.*** *Чаму на Вялікдзень амаль заўсёды добрае надвор'е? Не дзіва, што простыя людзі вераць у Бога. Была халадэча, а сёння цяплынь, гэткае сонца ласкавае. Сапраўднае свята! Толькі падумаць магу так ды і запісаць у свой нататнік, а сказаць — барані Божа! Вытураць з пасады. За Каляды карак маглі намыліць, старшыня падтрымаў, узяў агонь на сябе. Я свядома на сёння запланаваў запіс перадачы, каб паказаць, што не святуем, а працуем. Зрэшты, і літдрама запісвае тэатральны спектакль.*

Пятро ўжо збіраўся закрыць свой нататнік, схадзіць у студыю, як раптам азваўся тэлефон. Сёння нерабочы дзень, начальства няма, можа, з дому? Зняў трубку, пачуў глухаваты, падалося, усхваляваны ці то ўстрывожаны Лідзін голас:

— Пятро, дзень добры! Нарэшце я цябе адшукала. А то ўсё званю, а цябе няма і няма. Пазнаў? Гэта Ліда.

Пятро нядаўна даведаўся, што Ліда ў бальніцы. Адчуў, як яму зрабілася сорамна — ні разу не схадзіў да яе, не наведаў.

— Ну як ты? Прабач, я пакуль што не выбраўся. Але я абавязкова прыеду. Дзе там шукаць?

— Мілы мой, не трэба выбірацца. Слухай уважліва. У мяне мала часу. Нехта можа зайсці. Я магу званіць толькі ў выхадныя дні, калі ўрача няма... Дык вось, мілы мой Пеця, я вельмі ўдзячна табе... За ўсё, за ласку, за цеплыню... І ніколі цябе не забуду. І хачу, каб ты запомніў мяне прыгожай. Не такой, як зараз. Я страшная зрабілася. Худая, як трэска. Хвароба нікога не красіць... Жыццё даканала мяне. Але ўжо нядоўга засталося... Богам малю, не прыходзь сюды. А вось на пахаванне — прыйдзі. І купі букет белых ружаў... Мая душа гэта адчуе. Буду табе ўдзячна...

Апошнія словы Ліда гаварыла праз слёзы. У яго пахаладзела ўсё ўнутры.

— Ліда, мілая, я прыеду. Што табе можна? Няўжо так раптоўна? Можа, ты памыляешся? Няўжо ўрачы маглі такое сказаць?

— Дарагі мой, усё праўда. Рабілі аперацыю, разрэзалі і зноў зашылі... Медыцына, на жаль, бяссільна. Прашу, не прыязджай. Мне будзе балюча... На днях выпісваюць дамоў... Лепей запомні той... Ну, калі мы сустракаліся... — Ліда не магла гаварыць, слёзы душылі яе. — Усё, мой любы, нехта ідзе. Цалую моцна! Бывай... Беражы сябе, сваю сям'ю. Не памінай ліхам...

У трубцы пачуліся кароткія ґудкі, нібы пульсавала Лідзіна сэрца. Светлы вясновы дзень адразу пачарнеў у вачах Пятра. Ён ашчаперыў галаву і гатовы быў завыць па-воўчы ад роспачы і сваёй бездапаможнасці.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981 г.*

*5 мая. Гомель. Фальклорна-тэатральны калектыў «Жалейка» паказаў спектакль «У Купальскую ноч», які створаны па матывах лірыкі Янкі Купалы.*

*7 мая. Бухарэст. Вялікімі працоўнымі поспехамі азнаменавалі камуністы і працоўныя Румыніі 60-годдзе Румынскай камуністычнай партыі, якое адзначаецца 8 мая.*

*13 мая. Рым. Сёння ў Ватыкане зроблены замах на папу Іаана Паўла II. Папа Рымскі атрымаў раненні і дастаўлены ў адзін са шпіталяў італьянскай сталіцы. Злачынца арыштаваны.*

*26 мая. Чарнігаў. Усесаюзнае свята літаратуры і мастацтва «Пачуццё сям'і адзінай» прыйшло на чарнігаўскую зямлю.*

## XIV

Мацвей Сахута зняў са сцяны каляндар, які ён па звычцы называў чысленнікам і які любіў чытаць і перачытваць. Цікавіўся, як расце дзень, калі ўзыходзіць і заходзіць сонца. Асабліва, з нейкай дзіцячай радасцю, любіў чырвоныя вялікія лічбы — святочныя дні і выхадныя. 31 мая была таксама нядзеля. Хімічным алоўкам некалі ён напісаў — радоўка.

У той год май выдаўся незвычайна цёплым, сонечным, з дожджыкам і грымотамі. Старому Сахуту здавалася, што ніколі гэтак не цвілі сады. Куды ні зірнеш, усюды жоўта-белыя зорачкі кветак. Мацвей хадзіў у лясніцтва, каб выпісаць дроў, але з першага заходу не ўдалося атрымаць «бялет» на вырубку. Клаўдзіі Адамаўны, ляснічай, якая ведала яго даўно, не было на месцы. Малады памочнік, сухарлявы, з кароткімі вусікамі, з адной зорачкай у пятліцах форменнага кіцеля, сказаў гугнявым голасам:

— Выпісаць, дзядзька, можна. Але трэба, каб ваш ляснік Воронін Грышка... Вы ж яго ведаеце... Каб сказаў, у якім квартале ў яго ёсць дровы. І колькі іх там? А лепей, хай вам дасць пісульку. Тады прыходзьце. Аплоціце. І можаце забіраць...

Мацвей зразумеў, што Вароніну давядзецца паставіць пляшку, бо без яе якая можа быць размова з лесніком? Колькі ён ведаў леснікоў, усе былі падобныя адзін да другога. Толькі Захар Махавікоў мог іншы раз дазволіць прывезці воз сухастою і без выпіскі, і без чаркі. Але яго ўжо няма. «Дзіўныя справы твае, Божа, — разважаў Мацвей. — Бацька быў самы маўклівы, дзікаваты чалавек ва ўсім наваколлі, а сын ягоны нават па тэлевізары гаворыць. Ды гэтак складна, што заслухаешся. Ведама, каб кепска гаварыў, хто б яго выпусціў на той тэлевізар».

Да Вароніна, які жыў у Канчанскім баку, Мацвей адправіў Марыну, якая некалі лячыла ягоную дачку. Ну, вядома ж, бутэльку віна Марына ўзяла. І вярнулася з паперчынай, што ў 183 квартале ляжаць сем кубоў дроў, у асноўным сасняку, але ёсць і тонкі бярэзнік, так званы — тапорнік.

Але дровы былі не галоўным клопатам, першы — заўтрашняя радоўка.

Адвячоркам Мацвей выйшаў за агароды. Палюбаваўся лапікам жыта. Здаля яно падалося шэравата-зялёным. Падышоў бліжэй і здзівіўся — ужо выплыў колас! Ён падумаў, што можа быць добры ўраджай і пакіраваў да поля, дзе пасеяў ячмень. Узышоў ячмень добра, быў зялёны, густы, як воўна. Можа, загуста пасеяў? Але ячмень і трэба сеяць густа — так некалі вучыў яго бацька, бо ячмень не кусціцца, не тое, што жыта.

Зноў удзячна падумаў Мацвей Сахута пра свайго сына, які хоць і вялікі начальнік у Мінску, а прыехаў памагчы выкінуць гной, пабыў на Радаўніцу на кладзішчы, памянуў дзядоў і прадзедаў. І бульбу пасадзілі ўпару — дапамаглі суседзі. Мацвей за плугам сёлета не хадзіў, але гной з Марынаю вывез, сам накідваў на воз і скідваў у кучкі, а потым памалу растрасаў.

Хапае работы. Дні гарачыя, скаціну пачынаюць ужо авадні дапякаць. З надзеяй на хмарны Мацвей пазіраў на ружовы захад сонца, нібы прасіў спрыяльнага надвор'я ў «нябеснай канцылярыі». Каровы цяпер выганяюць наранкі, а па абедзе — наўдзёнкі, бо ў спёку няма дзе схавацца ні на лузе, ні ў полі.

Прачнуўся ён, калі яшчэ было цёмна, зірнуў на гадзіннік — роўна тры. Паляжаў трохі, пачаў апранацца. У галаве шумела, нібы ў катле вада, — значыць, падымаўся ціск, ды і не выспаўся, але ў полі, на свежым паветры, можа, і будзе добра.

Неўзабаве паднялася і Марына, будзіць яе не давялося, абула старыя гумовікі, бо ўранні раса, а як пацяплее, можна і разуцца. Накінула на плечы палапленую куфайку, на галаву — белую хусцінку.

— Пайду выганяць. А ты сваю выпусці, — крыкнула бацьку.

— Вазьмі во кій, — падаў ёй тонкі дубовы кіёк.

Сабе Мацвей падрыхтаваў большы і таўсцейшы кій: дзе без бізуна ці добрага кія ўправішся з такім статкам — больш трыццаці галоў.

З-за лесу на паўночным усходзе выкацілася сонца. Статак, які падганялі Мацвей і Кацера, наблізіўся да Шамаўскага ручая. Каля моста каровы прыпыняліся, пілі ваду, скублі расяную траву. Тут была тактычная перадышка: Марына забегла наперад, каб выгнаць кароў з Шамаўскага канца — там на ўзгорку, па дарозе на Белую Гару, стаяла некалькі хат. Нарэшце ўвесь статак сабралі і павярнулі ў шырокі і глыбокі роў, які вёў на поле. Далей ён вузеў, разгаліноўваўся — улева ішоў Упярочны роў, а галоўны вёў далей у поле. Ручай неўзабаве канчаўся — тут былі крыніцы, з якіх ён нараджаўся.

На дне рова панавала прахалода, па пясчаным дне ціха віхляў ручай. Мацвей з маленства ведаў смак гэтай крынічнай вады, хлапчуком яшчэ на пачатку стагоддзя лавіў тут пад берагамі ментузоў і шчупакоў. Гадоў колькі назад лавіў рыбу каля крыніцы ўнук Юрка з сябрукамі і прыносіў дамоў ладных шчупакоў.

Сахута распрацаваў такі план: з раніцы будуць пасвіць па рове, па забалочанаму Юрліўцу, там расце найбольш сівец, але з расою згаладалая за ноч скаціна можа яго скубсці і яго. А як сонца падымецца вышэй, каровы палягуць, а потым іх можна накіраваць у роў, дзе між кустоўя рагулі могуць хавацца ад заедзі. А пасля адзінаццаці статак можна гнаць дадому.

Успомнілася, як у пасляваенныя гады, зімою ён з жонкаю прывёз сюды на саначках вымачаную ў гарачай вадзе з попелам ільняную бялізну. Быў мароз, усё вакол заледзянела, а з крыніцы нібы выплывалі светлыя пухіры чысцюткай вады. Ад яе слупком падымалася пара. Вось тут Кацера паласкала бялізну — мыла не было, а гнід і вошай хапала. Разам з Кацерай яны выкручвалі кужэльную бялізну і складвалі на саначкі. Пад вечар усхапілася завея. Ледзь дацягнулі яны тады бялізну, скурчаную на марозе. Так на саначках і пакінулі начаваць, бо яна прымерзла — не адарваць.

А цяпер буяла вясна. З неба ліліся жаўруковыя спевы. Птахі ўзляталі з пахілых адхоністых бакоў рова, трапяталіся ў блакіце і потым каменем па-

далі ўніз. Сахута дзівіўся іхняму спрыту. Жаўруковыя спевы радавалі старога, але абуджалі і сумныя думкі: колькі яму засталося хадзіць па гэтай зямлі?

Жонку ён адпусціў дамоў, калі скончыліся вясковыя гароды па баках рову, каб яна дагледзела гаспадарку, зварыла чаго паесці ды і адпачыла трохі. Падумалася і пра Марыну, якая сядзела на супрацьлеглым баку рова, каб рагулі не лезлі ў саўгаснае жыта. Гэта ж і ёй ужо сёмы дзесятак. Так і засталася ў дзеўках. Вядома, не толькі ў яе вайна забрала каханага хлопца, іншыя неяк знайшлі сабе палавінку, а яна ўсё аддала бацькам, братам, пляменнікам і пляменніцам. Во, каб не Марына, з кім бы ён адпасвіў радоўку? Хто б сушыў сена, хто б дапамог яго прывезці? А дровы? Можа, таму ён і Кацера яшчэ жывуць, не занядужылі канчаткова, што ім памагае Марына. Ён адчуваў і нейкую сваю віну, што не змог пасля вайны памагчы дачцэ ўладкаваць сваё жыццё.

Сахута сядзеў на куфайцы, звесіўшы ногі з абрыву, пільна ўглядаўся, дзе якая рагуля ўскараскалася ўжо высока і гатова рвануць у жыта, якое блакітна-зялёнаю сцяною стаяла вакол. Жыта радавала старога Сахуту.

— Можа, далей падгонім? Туды, дзе алешнік? — крыкнула Марына.

— Давай падгонім, — пагадзіўся Мацвей, падняўся, памахаў кіем на пярэстую карову, што наважылася рвануць у жыта. Гэтая наравістая худоба належала Цімоху Емяльянаву.

Ённазіраў, як цяжкавата паднялася Марына, узяла сумку са снеданкам, якую схавала пад лазовы куст. Узняўся і ён, бо пярэднія рагулі, самыя порсткія, дапялі да балоцвіны. А неўзабаве статак залёг на перадых. Сонца ўжо даволі высока ўскацілася на неба, але ветрык дыхаў свежы, гарачыні яшчэ не адчувалася. Мацвей назбіраў сухіх галінак, расклаў невялікае цяпельца, выстругаў лавец сабе і Марыне. Потым яны чаплялі скрылікі сала на лавец і падсмажвалі на агні. Сала сквірчэла, часам успыхвала, тады яго адносілі ад агню, клалі на лусту хлеба, каб сцякаў духмяны тук.

Марына таксама ўмела смажыць сала на агні, бо не раз даводзілася ласавацца смажанаю скваркай і на сенакосе, і ў полі падчас радоўкі. Яны з'елі па скварцы, па вараным яйку, запілі малаком.

— Ну, дык і добра падсілкаваліся, — выціраючы сцізорык, сказаў Мацвей.

— Доме на ета сала і не глянула б. А тут во са смакам з'ела, — задаволена прамовіла Марына.

Стары Сахута ўзрадаваўся, што ў дачкі добры настрой, статак асабліва не турбаваў, авадні яшчэ не пачалі лютаваць. Праз гадзіну можна кіравацца ў вёску. А наўдзёнкі пагоняць на луг да Бесядзі. Там хоць і вытаптана ўсё, як бубен, бо і саўгасны статак пасвіцца, каля ракі нешта скубануць, вады нап'юцца. Так і адбудуць Сахуты радоўку — на месяц спіхнуць клопат.

Сонца ўжо даўно звярнула з паўдня, гарачыня змаглася, аслабла, ад Бесядзі дыхаў свежы, духмяны вецер, бо і лес, і луг былі поўныя квецені. У лесе цвілі ландышы, маліны, а луг за ракою ляжаў пярэстым дыванам. Кароў там не пасвілі: пасля Міколы луг «закрывалі», каб расла і выспявала трава, якую будуць касіць на сена.

Яшчэ здаля, амаль за кузняй, Мацвей згледзеў веласіпедыста. Той, мусіць, ехаў па вёсцы, а напроці кузні звярнуў да ракі, каціў па вытаптанай каровамі дарожцы. Калі ён спыніўся ля Марыны, Сахута пазнаў Бравусава, колішняга ўчастковага. Сэрца зашчымела, быццам старая, незагой-

ная рана. Гэты чалавек мог быць зяцем, Марыніным мужам, бацькам ейных дзяцей, а ягоных унукаў...

Бравусаў саскочыў з веласіпеда, трымаў яго ў руках, нібы спутанага каня.

— Здароў, Мацвееўна! — гучна павітаўся ён.

— Здароў, Усцінавіч! — ціха адказала яна.

— Як жыццё-быццё?

— Ну, так... Жывая пакуль што. А ты як?

— А я... Што я? Жыву, хвакцічаскі, прыпяваючы... А іншым разам прахопішся сярод начы... Вочы ў столь утупіш. І як стрэмка ў душы, балючая думка... Чаму ты не пайшла за мяне? А можа, мы жылі б, як у раі?.. Ты нравілася мне, хвакцічаскі, дужа наравілася...

— Чаму, чаму? Таму, што ты заўсягды п'яны прыходзіў. Цвярозы ні разу не падышоў да мяне. Не пагаварыў па-людску... Ты і сянні пад мухай. Каб цвярозы быў, дык і праехаў бы міма...

— Ну, хвакцічаскі, пад мухай... Я ж, можа, дзень нараджэння святкаваў. Эх-ма, цяперыцька ўжо нічога не перайначыш... Шкада, Марына, жыццё сваё ты, хвакцічаскі, змарнавала... Без ласкі і пяшчоты. Трапяталася, як муха ў смале... Чужых дзяцей лячыла і гадавала... А магло быць усё іначай...

— Ты мяне не шкадуй. Я жыла, як хацела... Кабялёў розных знаць не знала. І не шкадую... — Марына адвярнулася, памаўчала, потым ціха, са слязьмі у голасе, дадала: — Праўду кажаш, Валодзя, магло быць іначай... І ты наравіўся мне...

— Дык чаго ж ты ўпіралася? Ну, прыходзіў я выпіўшы... Дык жа для смеласці куляў чарку. З другімі быў нахабнікам, а на цябе дыхнуць баяўся...

— Ага, баяўся... А на возе?.. Ну, памятаеш, ехалі з Саковічаў? Наляцеў, бы каршун...

— Тады я вырашыў... Была не была, вазьму сілаю. І нікуды тады ўжо не дзенешся... А ты ж выкручвалася... Ну, і вылузнулася... Яшчэ і аблаяла... Пасля таго я і ажаніўся... Без любові. Узяў Тамару, бо не ўпіралася... І во пражылі, дзяцей выгадавалі, унукаў дачакаліся... Яна і хазяйка ўмелая... Усё пры ёй. Як гаворыцца, і ззаду, і спераду.

— Ну во, што для цябе — самае галоўнае... А я так не магу. І тады не змагла... Значыць, не лёс...

— Не, мая мілая, лёс тут ні пры чым. Мы самі не змаглі... Надоечы прыснілася ты... Удзень быў у лесе, за Бесяддзю. Знайшоў колькі першых сунічак. І еткіх пахнюшчых! А ў сне мы збіралі суніцы з табою і цалаваліся... Хоць у сне нацалаваўся...

— Не вярэдзь душу, Валодзя. Едзь сваёй дарогаю, — Марына павярнулася і пайшла падагнаць рагулю, што наважылася драпануць у вёску.

Бравусаў таксама развярэдзіў душу, адчуў, што гатовы заплакаць ад жалю да Марыны, шкадавання да сябе і крыўды... Сам не ведаў, на каго крыўдаваць, што іхняе каханне не спраўдзілася... Не збылося...

Ён пайшоў паўз раку, ведучы ў руках веласіпед. Параўняўся з Мацвеем Сахутам, паклаў веласіпед у траву, парукаўся, прысеў побач.

— Адкуль ты, Усцінавіч? Відаць, здалёку? — спытаў Сахута.

— Здалёк. Ты, Дзянісавіч, у дзесятку пацэліў. Быў я ў Вішнёўцы. У гасцях у Крупадзёрава. Семдзесят гадоў яму стукнула. Адзначалі дзень нараджэння.

— Ета які Крупадзёраў? Той, што нарыхтоўкамі займаўся? Ён жа ў цюрме, здаецца, сядзеў?

— Было такое. Дзесяць гадоў, хвакцічаскі, адбухаў... Пасля цюрмы ў Крычаве жыў. Рабіў там на цэментным заводзе. Дачакаўся пенсіі... А першая жонка яго не стала чакаць. Хвакцічаскі, кінула...

— А яна адкуль была родам?

— Туташняя. Вішнёўская баба. Але скруцілася з нейкім шахцёрам. Ён тожа наш. З Віроўкі. А рабіў у Данбасе на шахтах. Прыехаў у госці да маткі. Жонка Крупадзёрава самагонку ціснула. Ён раз да яе зайшоў, другі... Знюхаліся. А тады і забраў яе на Данбас. Нібыта, сваю жонку кінуў. А ету ўзяў. І дзяцей Крупадзёрава ўсынавіў... Вось такая гісторыя...

Мацвей Сахута любіў пагаварыць, умеў уважліва слухаць, дзе трэба і падтакнуць, падбадзёрыць гаваруна. Ды і Бравусаў апошнім часам пакутаваў ад нязвыклага пачуцця адзіноты. Вяскоўцы цяпер з ім віталіся не так, як тады, калі на ягоных крутых плячах блішчэлі капітанскія пагоны з чатырма зорачкамі, хай сабе пацямнелымі ад часу, бо капітанам Бравусаў хадзіў доўга: гэта быў ягоны «паталок», як гаварыў сам участковы, — ягоная пасада і адукацыя на вышэйшае званне прэтэндаваць не дазвалялі. А пасля адстаўкі пасмялелыя вяскоўцы пры выпадку нагадвалі былому ўчастковаму, як «незаконна даў штрапу», ганяў за самагонку.

І Бравусаў пачаў пазбягаць аднавяскоўцаў. Трохі суцяшала, што сын ажаніўся з дачкой старшыні сельсавета, былога фінагента-сябрука Івана Сырадоева. Ды і працуе сын у школе, а настаўнік у вёсцы і зараз чалавек паважаны. І дачка Бравусава ў людзі выйшла, скончыла медыцынскі інстытут, працуе ў Магілёве ў паліклініцы. Усё гэта вяскоўцы ведалі, але ранейшай павагі былы ўчастковы не прыкмячаў, зайздрасць і помслівасць ён адчуваў часцей. Пасміхаліся за тое, што апантана змагаўся з недахопамі, з памылкамі друку, агрэхамі радыё і тэлебачання. Ніхто гэтак смела і востра не выступаў на партыйных сходах. Але недахопаў не менела пасля ягоных прамоў. І гэта злавала, раздражняла Бравусава.

Асабліва ваяваў з памылкамі друку. «Куды яны глядзяць? Не чытаюць, хвакцічаскі, сваю газету», — і тут жа пісаў скаргу. У раёнцы баяліся ягоных лістоў. Сам рэдактар аднойчы заязджаў да яго дамоў, дзякаваў за ўважлівае чытанне, прасіў нікуды вышэй не паведамляць пра іхнія пралікі.

Сам Бравусаў апошнія гады шмат чытаў, асабліва зімой. Чытаў запоем, без акуляраў — вочы не падводзілі, ды і святла хапала: зырка свяціла лямпачка з-пад чырвонага парасона-абажура. Да Тамары ў ложак яго не цягнула — дужа яна апошнім часам растаўсцела, работы па гаспадарцы зімой небагата, так што вольнага часу ў адстаўнога ўчастковага інспектара міліцыі было вышэй галавы. А вось слухачоў і субяседнікаў было малавата. Таму ён з вялікай ахвотай распавядаў Мацвею Сахуту пра святкаванне імянінаў Крупадзёрава.

— А з кім жа ён жыве, Крупадзёраў еты?

— Адзін як воўк. У яго ў Крычаве была жонка. Прыйшоў з арміі ейны сын. Выпіваць пачаў. Неяк па п'янцы счапіўся з Крупадзёравым. Тады Павел Іванавіч яшчэ быў здаровы. Адлупцаваў хлопца. А неяк сам падпіў, дык жонка з сынам адлупцавалі яго. Так што, хвакцічаскі, не жысць, а суцэльны мардабой. Потым сын захацеў ажаніцца. І Павел Іванавіч мусіў навастрыць лыжы ў Вішнёўку. Сястра старэйшая памерла і бацькава хата пуставала. Старэнькая хаціна. Троху падрамантаваў. Узяў мясцовую бабу, бо крычаўская не захацела сюды ехаць. Гадоў сем пражыў з новай. Мінулаю зімой яна памерла. І вось адзін застаўся.

— Дык, можа, яшчэ якую знойдзе?

— Можа, і знойдзе. Аднаму, хвакцічаскі, век дажываць — не дай Божа. Дзеці адцураліся яго, таму што не гадаваў. Казаў, што пісаў ім, каб прыехалі. Ні пісьма, ні тэлеграмы ў адказ... І што мяне раззлавала, Дзянісавіч? Жыве чалавек, а дайжа туалета не мае. Шпакоўню якую не мог збіць з аполкаў. А вароты зрабіў высачэзныя. Парканам ад вуліцы адгарадзіўся. Што ўжо ён хавае? Якое багацце? Ці каб ніхто не бачыў, што на двары ў яго дзеецца? Во, дзівак! Пытаюся ў яго, дзе патрэбу спраўляе? А за вуглом, кажа. А зімой у хляве, каля каровы. Дык ты, можа, і спіш з ёй? Незалюбіў, аж кулакі сціснуў... Вось такі, ізвініця, Дзянісавіч, гаўнаед кіраваў раённай канторай. Выціскаў з людзей усе сокі. Упаўнаважаны па нарыхтоўках Наркамата СССР! Граза ўсяго раёна! Яго дайжа Акапян, першы сакратар райкома партыі, пабойваўся. Во, было!..

Сахута слухаў, падтакваў, а сам думаў: «І ты ж, галубок, здзекаваўся з людзей». І штрафаваў, і за самагонку ў турму садзіў. Аднаго поля ягады...» Вядома ж, пра гэта Мацвей не сказаў, а каб падтрымаць гутарку, запытаўся:

— Ці многа ж было гасцей? Усё-ткі семдзесят. Юбілей.

— Хвакцічаскі, юбілей... — ухмыльнуўся Бравусаў, насунуў на лоб па даўняй звычцы палінялую кепку, якая замяніла яму чырвоную фуражку. — Якія там госці? Хто да яго пойдзе? Стары сусед з жонкаю. Пара бяззубых баб. Ды я здуру прыпёрся... Мы з ім летась у Саковічах на кірмашы сустрэліся. На Змітрыя. Ён пазнаў мяне: здароў, Усцінавіч! А я парасят купляў. Дастаў пляшку яблычнага. Выпілі, пастаялі. Заедзь, кажа, у Вішнёўку. Пагамонім, нам ёсць што ўспомніць. Я так і не выбраўся... А тыдзень таму ён на веласіпедзе прыкаціў. Давай, кажа, на юбілей. Ну, я паабяцаў. А раз даў слова, трэба трымаць. Тут я чалавек, хвакцічаскі, цвёрды. Раз слова даў — не падвяду.

Сахута прыглядаўся да суразмоўцы. Быў ён паголены, у паліняплым кіцелі, добра паношаных галіфэ, але з-пад кіцеля выглядвала чыстая сіняя майка. Пад вачамі азначыліся тонкія лапкі маршчынак, але твар быў гладкі, і ўся пастава яго — здаровага, не спрацаванага мужчыны, дыхала сілаю. Адно вочы неяк суха, з прышчурам паглядалі на свет і людзей.

«А ён жа мог быць зяцем. І, можа, добра было б. Не дурны. Хоць і не дужа вучаны, але ахвіцэрам стаў. Капітан міліцыі».

Пакуль яны гутарылі, Марына адна спраўлялася з каровамі. Сахута разумеў, што дачка злуе на яго, але не даслухаць Бравусава не мог, лічыў, што гэта будзе недалікатна.

Бравусаў падняўся, пачаў расшпільваць кіцель:

— Хачу во троху спаласнуцца. Галава, нібы кацёл, цяжкая. Ну, дзякуй, Мацвей Дзянісавіч, за цярпенне. Хвакцічаскі, выслухаў маю споведзь, — Бравусаў падаў Сахуту дужую шырокую далонь.

Мацвей кінуў вокам на гадзіннік — бралася на восьмую гадзіну, але дамоў яшчэ было ранавата. Ён імклівым крокам пашыбаваў займаць рагуляў, каб накіраваць іх да Шамаўскага ручая, які бег праз вытаптаную лугавіну да Бесядзі. Трава тут слабаватая, але патрымаць статак трэба, каб не сказалі, што прыгнаў зарана. А паўз раку, па беразе яшчэ нешта знойдуць, вады пап'юць...

Сахута азірнуўся — Бравусава на беразе не было відаць. Не паехаў праз вёску, каб не трапіць на вочы свату Івану Сырадоеву, падумаў стары.

Пра тое, што Бравусаў не стаў зяцем, думаць Мацвею болей не хацелася. Яго радавала, што канчаецца радоўка, і месяц можна жыць спакойна. І думаць, колькі таго жыцця засталося... Чакаць пісьма ад сына Андрэя, чакаць унукаў, якія, можа, прыедуць, бо пасля Радаўніцы ніхто не заявіўся.

## XV

У другой палове дня кожны панядзелак Андрэй Сахута прымаў наведнікаў па асабістых пытаннях. Панядзелак для яго быў сапраўды цяжкім днём: а палове дзевятай нарада ў гаркоме партыі. Галоўны партыец горада даваў накачку, азадачваў на цэлы тыдзень, вядома ж, не абыходзілася без так званых «ЦУ». У дзесяць гадзін збіраліся сакратары пярвічных партыйных арганізацый раёна, кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў або іхнія намеснікі — набівалася поўная актавая зала. Цяпер ужо даваў накачку і «ЦУ» Андрэй Сахута.

Потым да яго імкнуліся прабіцца загадчыкі аддзелаў: у кожнага знаходзіліся справы, якія можна было вырашыць толькі пасля ўзгаднення з першым сакратаром. Тут партыйная дысцыпліна не дапускала паслаблення. Андрэй Сахута быў упэўнены, што так і павінна быць.

Роўна а другой гадзіне ён быў у сваім кабінеце. Сакратарка прынесла спіс людзей, якія запісаліся на прыём. Кінулася ў вочы прозвішча — Асіноўскі, гэта новы дырэктар трыкатажнай фабрыкі, якога прызначылі нядаўна на месца Зайцава. Чаму ў дзень прыёму па асабістых пытаннях? Гэта заінтрыгавала Андрэя Сахуту.

І вось прыём пачаўся. Увайшлі два чалавекі: адзін высокі русявы, другі — ніжэйшы, каржакаваты смуглявы, абодва з абветранымі загарэлымі тварамі. Гэта былі начальнік і сакратар партарганізацыі будаўніча-мантажнага поезда. Сутнасць просьбы: рабочыя працуюць далёка — у Клайпедзе, Таліне, іншых гарадах, жывуць там у вагончыках: ні паесці па-людску, ні памыцца. Дома бываюць рэдка. А тут яшчэ падшэфны калгас.

— Раней галоўным шэфам над нашым калгасам было лакаматыўнае дэпо. А мы памагалі. То матэрыялаў падкінем, то будаўнікоў пасылалі. Ну, пры магчымасці, — тлумачыў начальнік поезда. — А цяпер нас хочуць зрабіць галаўной арганізацыяй... Мы не пацягнем. Нам гэта не па плячы. Не па Сеньку шапка...

Парторг падтакваў, ёрзаў на крэсле, імкнуўся ўставіць і свае тры грошы ў гаворку начальніка:

— Андрэй Мацвеевіч, уся надзея на вас. Дапамажыце...

— Разумею ваша становішча. Трэба нешта прыдумаць. Ну, а як жывуць там вашы людзі? Як вы размяшчаеце іх? Усё ж — далёка ад сям'і, дому. Гэта вельмі няпроста...

— Вы апярэдзілі нашу другую просьбу, — пасмялеў парторг. — Не хапае вагончыкаў. Старыя непрыгодныя. Ніякіх умоў...

— Дык трэба ж вырашаць гэтую праблему. Можа, удасца падкінуць вам некалькі новых вагончыкаў. А старыя трэба пераабсталяваць. Абавязкова ўцяпліць. Матэрыялы ў вас ёсць. Майстры — таксама. Дык чаго вы чакаеце? Каманды? Людзі павінны жыць па-людску. Адчуваць, што пра іх не забыліся, пра іх клапоцяцца. Ад гэтага залежаць і настрой, і работа. І ваша зарплата...

Сахута пазваніў загадчыку аддзела райкома, які курыраваў будаўніцтва, даручыў узяць пад кантроль будаўніча-мантажны поезд.

Нарэшце ўвайшоў Асіноўскі, рослы, станісты, кучаравы. Сахута падняўся насустрач, падаў руку, запрасіў сесці, зазірнуў у вочы, спрабуючы здагадацца, якая асабістая праблема прывяла яго сюды. Мабыць, Асіноўскі зразумеў гэты пагляд, таму адразу вырашыў праясніць сітуацыю:

— Хоць сёння дзень прыёму па асабістых пытаннях, але ў мяне не зусім асабістая справа. Я прыйшоў параіцца...

Чым далей слухаў новага дырэктара Сахута, тым болей святлеў тварам, і настрой паляпшаўся: не памылілася бюро райкома, калі на пасаду дырэктара зацвердзіла менавіта гэтага чалавека. Ён сур'ёзна бярэцца за работу. Значыць, падбор і расстаноўка кадраў — не пустая фраза. І ён, Андрэй Сахута, недарэмна гэтым займаецца.

Тады на бюро ў Асіноўскага пыталіся пра сям'ю, пра дзяцей. Вячаслаў Гарошка, другі сакратар, нават задаў недарэчнае пытанне:

— Як вы ставіцеся да жанчын увогуле?

— Ну як? З павагай і ўвагай...

— Я чаму пытаюся. Ваш папярэднік дужа любіў гладзіць іхнія калені... Скаціўся, спіўся, — патлумачыў сваё пытанне Гарошка. — Мужчына вы відны, малады. Прызначаць вас кіраўніком такога прадпрыемства ўсё роўна, што шчупака кінуць у сажалку. Ну, у якой поўна плотак. Ды гэткіх краснапёрак, што вочы разбягаюцца...

Члены бюро заўсміхаліся, а будучы дырэктар сумеўся, разгубіўся:

— Краснапёрак, як вы кажаце, хапае не толькі на трыкатажнай фабрыцы... Тут усё залежыць ад чалавека. Хто чаго шукае, тое і знаходзіць...

Сахуту адказ спадабаўся, ды і не па адказах на пытанні складваецца думка пра будучага кіраўніка. Але тут першы сакратар рашуча падтрымаў кандыдата на кіраўнічае крэсла:

— Па статыстыцы жанчын у нас большасць. Пры жаданні кожны можа знайсці тое, што хоча... Таварыш Асіноўскі — чалавек дзелавы, прынцыповы. Яшчэ якія пытанні?

Болей пытанняў не было. І Асіноўскі выйшаў з райкома дырэктарам трыкатажнай фабрыкі, а дакладней — кіраўніком цэлага аб'яднання, бо фабрыка мела свае філіялы ў іншых гарадах Беларусі.

І вось адпрацаваў два месяцы, асвойтаўся, агледзеўся і прыйшоў у райком параіцца:

— Ёсць такая задума. Гэта не толькі мая ідэя. Раіўся з нашымі людзьмі, — хвалюючыся пачаў Асіноўскі. — Як бы нам аб'яднацца з магазінам «Жаночае адзенне» і з Домам моды. Мы б праектавалі тое, што карыстаецца попытам. Выпускалі, прадавалі ў базавым магазіне...

Сахута запрасіў загадчыка аддзела прамысловасці райкома, даручыў яму разам з дырэктарам вывучыць гэтую справу.

— Калі трэба, мы выйдзем на міністэрства. Але спярша ўсё абдумайце. Што гэта дасць? Я думаю, што эфект павінен быць, — рашуча падтрымаў Сахута.

— Андрэй Мацвеевіч, дазвольце выказаць крамольную прапанову?

— Давайце. Можа, яна толькі здаецца вам крамольнай?

— Мне карціць вось што, — працягваў Асіноўскі. — На партыйных сходах сядзяць камуністы, якія некалі працавалі на фабрыцы, яны даўно на пенсіі, а на ўліку ў іхняй партарганізацыі. Старыя гавораць пра ўнукаў, дзе што баліць, пра аналізы мачы, у якіх санаторыях адпачывалі. Потым пазяхаюць, дрэмлюць, слухаючы прамоўцаў. Па-чалавечы іх можна зразумець. Яны сваё адпрацавалі, выкананне плана не турбуе. Дык чаму іх не паставіць на ўлік у партыйных арганізацыях пры домакіраўніцтвах, па месцы жыхарства? Не трэба далёка ездзіць...

Прапанова не здзівіла Сахуту, ён і сам не раз думаў пра гэта. Ведаў, што прыхільнікаў такой завядзёнкі шмат, пачынаючы ад састарэлых чле-

наў Палітбюро: трэба спалучаць энергію маладых з вопытам і мудрасцю сталых, не выкідваць за борт ветэранаў, спрыяць іхняй актыўнай партыйнай і жыццёвай пазіцыі...

— Іван Кузьміч, мне ваша прапанова падабаецца. Але ўсё не так проста. Напішыце ў «Праўду». Нават калі не надрукуюць, то ваш ліст трапіць у ЦК КПСС. Абавязкова напішыце. Лічыце, што гэта вам партыйнае даручэнне, — сказаў Сахута.

— Добра. Напішу, хоць ведаю, што за ініцыятыву караюць...

— Выходзіць , што так, — усміхнуўся Сахута.

Асіноўскі моцна паціснуў яму руку, разам з загадчыкам аддзела выйшаў з кабінета. Але неўзабаве дзверы расчыніліся — увайшоў новы наведнік. Розныя справы, розныя клопаты вялі людзей у райком партыі. Усіх Андрэй Сахута ўважліва слухаў, кожнаму імкнуўся памагчы, даць параду або гаварыў так:

— Вывучым ваша пытанне. Што ў нашых сілах — зробім. І дадзім вам адказ.

Краем вока пазіраў на гадзіннік: яго чакала яшчэ адно мерапрыемства — сустрэча з маладымі камуністамі, якім ён меўся ўручыць партыйныя білеты ці кандыдацкія карткі. Калі зачыніліся дзверы за апошнім наведнікам, Сахута запрасіў у кабінет другога сакратара райкома. Мажны, чырванатвары, Вячаслаў Гарошка, схіліўшы галаву, стаяў перад ім і чакаў указанняў. Ён даволі даўно працуе другім, а першым, відаць, ужо не будзе: яму за сорак пяць, неперспектыўны кадр, па завядзёнцы яго чакала невысокая пасада ў прафсаюзах або ў якім-небудзь міністэрстве.

— Вячаслаў Пятровіч, мяне хвалюе шэфская работа. Вясна прыйшла. Шэфскія клопаты скора возьмуць нас у палон. А каб не захапілі знянацку, трэба рыхтавацца.

— Я таксама думаю пра гэта. Паслязаўтра планую паехаць у падшэфныя раёны. Я лічу, што нам і далей трэба весці работу мэтанакіравана. Не пасылаць інжынераў выбіраць бульбу, будаўнікоў секчы капусту ці касіць сена...

Сахута ўлавіў намёк: мы і далей... Падтэкст быў яўны: мы актыўна працавалі раней, у шапку не спалі. Не думай, што ты тут будзеш ламаць, нацягваць усё на свой капыл. Гарошка працягваў далей:

— Мы будуем жыллё. Укараняем механізацыю на фермах, збожжатаках. Дапамагаем матэрыяламі. Адным словам, аказваем кваліфікаваную дапамогу. Дарэчы, летась мы занялі першае месца сярод раёнаў Мінска за выкананне праграмы шэфства, — у голасе Гарошкі пачуліся ноткі гонару і ў той жа час расчаравання: так стараўся, але начальству не дагадзіў...

— Я ўсё гэта ведаю. Тут да мяне заходзілі з будаўніча-мантажнага поезда, — Сахута расказаў сутнасць іхняй просьбы, даручыў Гарошку разабрацца з гэтым пытаннем.

У глыбіні душы Андрэй Сахута лічыў так званую шэфскую работу вялікім марнатраўствам часу і сродкаў. А калі бачыў забітыя вокны пустых вясковых хатаў, у яго шчымела сэрца. У хаце жыла сям'я. І вось старыя памерлі, дзеці разляцеліся, бы птушаняты з гнязда. Горад, нібы велізарны пыласос, зацягваў у сябе маладых вяскоўцаў, і яны вярталіся дамоў ужо ў якасці шэфаў, часовых падзёншчыкаў, а не гаспадароў.

— Праз дзесяць мінут, Андрэй Мацвеевіч, вас чакаюць маладыя партыйцы. Яны ўжо збіраюцца ў зале, — нагадаў Гарошка. — Я магу быць свабодным? Ці, можа, яшчэ што трэба ад мяне?

У голасе калегі Сахута пачуў нават ноткіліслівасці, гэта яго здзівіла, ён коратка сказаў:

— Свабодны. Да пабачэння!

У душы, мабыць, ненавідзіць мяне, бо думае: каб не я, то ён бы стаў першым... Дзівак, раз яго не хацелі вылучаць, то ўсё роўна б знайшлі іншага каго. А можа, і вылучылі б. Раней, калі Сахута быў старшынёй райвыканкома, яны часта гаварылі па тэлефоне, даверліва абмяркоўвалі розныя справы, па-сяброўску амаль што. А як Андрэй прыйшоў сюды, то Гарошка зрабіўся падкрэслена ветлівы, афіцыйны, ніколі не ўспамінаў ранейшыя таварыскія адносіны. Сахута прыняў такую лінію паводзінаў, калі было за што пахваліць Гарошку, не забываў гэта зрабіць і менавіта публічна. Пакрытыкаваць, паўшчуваць лепей вочы ў вочы, як некалі вучыў Даўгалёў. Той нават голасу не павышаў, а гаварыў: «Даражэнькі мой, што ж ты зрабіў?.. Калі такое паўторыцца, будзем лаяцца. Страгача ўляплю...» Але да «страгачоў», як правіла, не даходзіла, чалавек разумеў сваю прамашку, імкнуўся выправіць недахоп. Не цярпеў ён і ліслівасці, а вось тых, каторыя стараліся як хутчэй выканаць яго даручэнне, любіў. Сахута часта згадваў урокі Даўгалёва, свайго земляка і настаўніка.

У райкомаўскай зале сабраліся маладыя партыйцы. Яны і праўда былі маладыя: рабочыя, інжынеры, чыгуначнікі, лётчыкі. Па-святочнаму апранутыя, з усхваляванымі тварамі. Шмат было ў зале прыгожых жанчын. Гэта здзіўляла Сахуту, але ў той жа час і радавала: чаму жанчыны, будучыя маці, а некаторыя ўжо мелі сем'і, ідуць у партыю, няўжо ў іх зашмат вольнага часу? Усё часцей ён лавіў сябе на думцы: у большасці сваёй ідуць людзі ў партыю не па ідэйных меркаваннях. Настаўніца разумее: завучам, а тым больш дырэктарам, ёй не быць, калі не стане членам партыі. Інжынера не прызначаць начальнікам цэха, лётчыка — камандзірам экіпажа, калі ў кішэні не будзе мець чырвоную кніжачку, «хлебную картку», як завуць у народзе партыйны білет. Асабліва радавала, калі ў партыю ўступалі рабочыя — а райкому даводзілася квота: колькі рабочых, інжынераў, настаўнікаў прымаць... Зялёная вуліца была рабочым, а інтэлігенцыю трымалі ў рэзерве, інжынеры, урачы, настаўнікі стаялі ў чарзе гадамі...

Пасля кубачка кавы Сахута неяк узбадзёрыўся, ды і выгляд людзей, якія чакалі ад яго добрых слоў, пажаданняў, дзейнічаў быццам наркотык. Перад кожным выступленнем ён перажываў уздым, мабыць, як артыст перад выхадам на сцэну.

Спачатку Андрэй Сахута ўручаў партыйныя білеты і кандыдацкія карткі маладым камуністам, моцна паціскаў рукі мужчынам, далікатней — жанчынам. Паціскаць рукі таварышам па партыі ён навучыўся даўно, яшчэ ў камсамоле.

І калі паціскаў руку рабочаму хлопцу, разумеў, што і гэты малады чалавек будзе мець нейкія перавагі, хай сабе і не кар'ерысцкія памкненні кіруюць ім. Рабочы разумее, што брыгадзір-партыец яму можа даць лепшае заданне, надбавіць прагрэсіўку. І кватэру, і машыну можна атрымаць хутчэй. І пасля работы можна часцей затрымацца: піва папіць, а то і налева схадзіць, а жонцы скажа: быў партыйны сход ці засядала партыйная група ці партбюро. І будзе ягоная версія вельмі праўдападобнай.

Вядома ж, гаварыў Сахута не пра гэта. Узнёсла, з пафасам апавядаў пра планы нашай вялікай краіны саветаў на пяцігодку, падкрэсліў асноўныя асаблівасці сучаснага моманту, ну, канечне ж, спыніўся на задачах раёна. Прывёў некалькі фактаў, як партыйцы раёна змагаюцца за павышэн-

не працоўнай дысцыпліны, выкрываюць лайдакоў, злодзеяў, выступаюць супраць п'янства.

Гаварыў першы сакратар без паперкі, глядзеў у вочы маладым таварышам па партыі. За шмат гадоў камсамольскай, савецкай, а цяпер і партыйнай работы Андрэй Сахута засвоіў адно: які б даклад ні рабіў, з якой бы прамовай, кароткай ці доўгай, ні выступаў, яго задача — пераконваць. І гэту ягоную здольнасць улаўлівалі не толькі слухачы, але і вышэйшыя кіраўнікі. І гэта адна з прычын таго, што не тугадума Гарошку, а яго, Сахуту, вылучылі на пасаду першага сакратара райкома.

Была ўжо сёмая гадзіна, калі Андрэй Сахута зайшоў у свой кабінет. І тут жа заліўся трэллю тэлефон, нібы ў ім спрацавала рэле. «Каму там карціць? Можа, Рада?» — мільганула думка. Але ў трубцы пачуўся знаёмы барытон Пятра Махавікова:

— Здароў, зямляк! Так позна ты працуеш! Усё азадачваеш падначаленых? Дай ты перадыхнуць людзям...

— Каб жа толькі падначаленых! Яны сваю справу знаюць туга... Во, толькі што ўручыў партыйныя білеты маладым камуністам.

— Ёсць яшчэ дзівакі? — сцішана засмяяўся Пятро.

— Ты лягчэй на паваротах! Шкада, што ты не ў маім раёне на ўліку. Выклікаў бы на бюро і страгача ўляпіў. Ты ж сам расказваў пра ваш партыйны сход. Як персанальную справу разбіралі...

— Ой, было такое. Цырк на дроце. А хіба гэтым трэба займацца партыі? Ды і тэлебачанню таксама... Мы не вучым людзей жыць, быць шчаслівымі. Жылі раней людзі без тэлебачання, без райкомаў. Дзяцей раджалі больш, чым зараз. Песні часцей спявалі... А цяпер не жыццё, а імітацыя жыцця. Імітацыя работы. Імітацыя кахання... Але хопіць, а то нехта падслухае...

— Старэеш, браце. Таму і буркатлівым робішся. Але гэта не тэлефонная размова. Давай калі сустрэнемся.

— От, каб на Бесядзі! Юшку зварыць, паплаваць! Здаецца, увесь бруд, стомленасць... Усё б змылася. Ты хоць на Радаўніцу пабыў.

— Ну, давай з'ездзім. Можа, у наступным месяцы?

— Гэта ж месяц трэба чакаць! Ды і ці ўдасца? Адпачынак у мяне ў верасні. Раней, мусіць, не ўдасца вырвацца. Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць...

Яны яшчэ трохі пагаманілі і развіталіся. Дату сустрэчы так і не прызначылі.

Тыдні праз тры патэлефанаваў Асіноўскі, з хваляваннем сказаў:

— Адшукаў мяне карэспандэнт «Правды» па Беларусі. Хоча пазнаёміцца. Я кажу, што працую нядаўна. А ён сваё: днямі прыеду.

— Дык чаго ты спалохаўся? Раскажаш і пра задуму, пра магазін...

Андрэй супакоіў новага дырэктара, толькі развітаўся, як азвалася «вяртушка», пачуўся хрыплаваты голас партбоса з гаркома:

— Чаго гэта ты лезеш на ражон? Табе што, рабіць няма чаго? Дадумаўся: даваць даручэнні пісаць у «Правду»! Знайшоў насценную газету. Баявы лісток... Калі карэспандэнт раскапае гісторыю пра Зайцава і апазорыць нас на ўвесь Саюз, з трэскам вылеціш з райкома. Пакладзеш партбілет. І пойдзеш у лес. Радавым ляснічым. На большае можаш не разлічваць!

— Пайду. Хоць заўтра. З радасцю.

— Не вякай! Я не скончыў, — рыкнуў бос. — Мне толькі што званілі з ЦК. Адчыталі, як школьніка. За тваю самадзейнасць. І гэты Асіноўскі... Ветэраны пазяхаюць на партсходах, перашкаджаюць выконваць план.

Кепскаму танцору... Магазін яму падавай. Камерсант знайшоўся. Растлумач гэтаму хрэну маржоваму, што яго задача даваць прадукцыю. Якасную і танную. А дзяржаўная сістэма гандлю прадасць. Ты хіба не бачыў, якія чэргі ў магазінах? З неба зваліўся...

У трубцы пачуліся кароткія гудкі. Андрэй хацеў шпурнуць яе на апарат, але спахапіўся: хіба тэлефон вінаваты, што кіруюць хамуйлы.

Ні раённы партыйны лідэр Андрэй Сахута, ні ягоны бос з гаркома, ні баец ідэалагічнага тэлевізійнага фронту камуніст Пятро Махавікоў не маглі і ў страшным сне ўбачыць, што праз дзесяць гадоў райкомаў не будзе, а шматмільённая КПСС ператворыцца ў пусты гук, пра яе пачнуць гаварыць як пра злачынную арганізацыю, і мільёны партыйцаў будуць маўчаць. Затое былы дысідэнт, аўтар «Зияющих высот» стане заўзятым апалагетам камунізму.

Тым часам звыкла цякла Бесядзь, несла сваю духмяную крынічную плынь далёкаму спрадвечнаму акіяну. Рака не зважала на гістарычныя пленумы і з'езды, на ўсялякія «ізмы». Але даводзілася ёй выплёўваць брудную жыжку з фермаў і комплексаў, якія «прывязвалі» на яе берагах зацятыя партыйныя функцыянеры.

Да аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, якая засыпле мурожныя берагі Бесядзі смертаноснымі радыенуклідамі, заставалася пяць гадоў.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981 г.*

*2 чэрвеня. Магілёў. Пчаляры Касцюковіцкага лясгаса абавязаліся да канца пяцігодкі павялічыць колькасць пчаліных сем'яў на лясных пасеках са ста пяцідзесяці да паўтары тысячы.*

*11 чэрвеня. Буэнас-Айрэс. Каля 8 працэнтаў усяго працаздольнага насельніцтва Аргенціны не маюць работы.*

*20 чэрвеня. Пінск. Больш чым 140 кватэр з усім комплексам гарадскіх выгод пабудавана ў новым саўгасе «Парахонскі», які вырас на меліяраваных землях Палесся.*

*29 чэрвеня. Найробі. Вынікам першага года незалежнасці Зімбабве стала ўмацаванне ў краіне адзінства, роўнасці і дэмакратыі, заявіў тут прэм'ер-міністр рэспублікі Р. Мугабе.*

## XVI

Пасля размовы з Лідай па тэлефоне Пятро хадзіў нібы пад зямлёй: не бачыў ні сонца, ні вясновай квецені, не чуў птушыных спеваў. Як жа так? Усё ў прыродзе абуджаецца, а маладая прыгожая жанчына памірае і ніхто не можа ёй памагчы? І што б ні рабіў, Пятро з болем у сэрцы думаў пра гэта, а расказаць пра свае пачуцці не мог нікому, бо сваю сувязь з Лідай, пра якую здагадваліся многія, ён глыбока хаваў і нікому не прызнаваўся. Ён мог бы з'ездзіць да яе, і нават павінен, бо яна — супрацоўніца ягонай рэдакцыі, але з галавы не выходзілі яе словы, яе апошняя просьба — не прыязджаць і абавязкова прыйсці на пахаванне з букетам белых ружаў, хоць з такімі кветкамі хадзіць на хаўтуры не прынята.

І ў сваім дзённіку нічога не пісаў пра Ліду. І тут ён не мог быць шчырым і адкрытым, так і хадзіў з невыказным горам, насіў яго ў сабе. Але Пятро разумеў, што ягоныя перажыванні нельга параўнаць з пакутамі Ліды. Ён пабядуе і будзе жыць далей, а для яе ўсё скончана.

Май набліжаўся да сярэдзіны, вясна рыхтавалася перадаць зялёную эстафету першаму летняму месяцу. Неяк у суботу Пятро ўзяўся за свой дзённік. Не, пісаць нічога не хацелася, не той быў настрой, проста гартаў, перачытваў ранейшыя запісы. Кінуўся ў вочы вось гэты:

*«Учора была атэстацыя рэдактараў. Перад гэтым давялося пісаць на кожнага характарыстыку. Можна было перапісаць ранейшыя, якія ёсць у асабовых справах, але ўсё роўна валтузні багата. Мне давялося прадстаўляць сваіх «арлоў» на паседжанні камісіі, адзначаў хто як працуе, хто варты павышэння, казаў і пра недахопы. У канцы камісія прызнала, што я прадстаўляў свае кадры лепш за іншых галоўных, бо не хаваў недахопы, даваў грунтоўную, аб'ектыўную характарыстыку. А што хаваць? І падначаленыя хай ведаюць, што я думаю пра іх...»*

Ведаю, ведаю... Кепскі я стыліст. Не тая адукацыя, не філолаг, — аграрнік і ваенны лётчык. Зрэшты, дзесьці чытаў, што Чэхаў быў самым выдатным стылістам, а ён жа ўрач па адукацыі. Значыць, не ўсё залежыць ад адукацыі. Зноў кепска: ад — ад... Збег зычных.

Ехаў днямі на задзел да старшыні тралейбусам. Сядзеў каля акна, ззаду — бабуля з унукам. Раптам чую: «Чаму дзядзя глядзіць у маё акно? — капрызліва запытаўся малы. — Хай глядзіць у сваё». Бабуля пачала супакойваць унука — яму гады чатыры, — што акно агульнае, як і тралейбус, для ўсіх. Але малы не здаваўся. «Акно маё», — і болей нічога не прызнаваў. Во, расце ўласнік! Трэба ж дадумацца!

Увечары расказаў гэтую гісторыю дома. Ірынка і Косцік смяяліся. «І ты яму нічога не сказаў?» — спытала Ірынка. Я маўчаў, тады Косцік глыбакадумна зазначыў: «А што яму скажаш? Пры ўсіх, у тралейбусе... Бабуля такі гвалт уздыме, што пашкадуеш...» — «Маеш рацыю, Косцік. У тралейбусе лепей памаўчаць». — Ева зірнула на мяне, у яе вачах убачыў удзячнасць, што не падзяляю дзяцей на сваё і чужое. Я сапраўды рэдка думаю пра тое, што Косцік — не мой сын па нараджэнні, па крыві, а па выхаванні ён мой, як і дачка.

***14 мая.** Сёння чацвер. Сцэнарны дзень. Начытаўся «стенариев», як гаворыць дырэктар праграм, да ачмурэння. Учора адбыўся партыйны сход. Разглядалася персанальная справа Р., былога карэспандэнта Усесаюзнага тэлерадыё. Парторг прачытаў ліст былой жонкі Р. у ЦК КПСС, у якім яна пісала: «Муж маральна разбэшчаны чалавек, яшчэ ў Белдзяржуніверсітэце падрабіў подпіс выкладчыка і быў выключаны, калі пачаў працаваць на Беларускім радыё, вельмі дагаджаў гасцям з Масквы — купляў ім шыны для аўтамабіляў, шапкі даставаў. Прызначылі яго ўласным карэспандэнтам, дык пачаў усё цягаць з дому на карпункт, нават кававарку знёс, грошай мне не дае, дзецям не дапамагае, партузносы не даплачвае, п'е, гуляе, жыве ў палюбоўніцы»... Старшыня сходу Конюхаў прачытаў праект пастановы партбюро: аб'явіць вымову і запісаць у асабовую картку.*

*Пасля гэтага далі слова самому Р. Высокі, цыбаты, вузкатвары, ціхім голасам ён пачаў нешта гаварыць. «Мацней! Не чуваць!» — загула зала. Р., не падымаючы вачэй, сказаў хрыпатым голасам:*

*— Мне нялёгка тут сёння выступаць з гэтай трыбуны. Стаяць перад вамі... Вы слухалі пісьмо. Я не буду яго каментаваць. Некаторыя факты я прызнаў. Але многа няпраўды. Пачалося з таго, што мы атрымалі кватэру. Чатыры пакоі. І жонка пачала мяне выжываць. І напісала вось гэтую кляўзу. Мяне дзесяць дзён трэслі ў Маскве. Прымусілі напісаць заяву...*

*Няпраўда, што не клапаціўся пра дзяцей. Сыну купіў джынсы, паабяцаў звазіць у Маскву на алімпіяду і звазіў, дачцэ купіў кофту. Я гавару блытана, прабачце... Прашу вас зразумець. Гэта пісьмо — помста раззлаванай жанчыны. Мы два гады ўжо не жывем разам... Я не хачу на яе нагаворваць. На судзе адмовіўся ад кватэры. Ад падзелу маёмасці. Усё пакінуў ёй... Я вінаваты. Па-дурному неяк атрымалася. Свае памылкі разумею і хачу выправіць іх...*

*За час выступлення ён ні разу не падняў вачэй. А на тэлеэкране быў такі ўпэўнены, усмешлівы і гаварлівы. Прафесіянал! Пасыпаліся пытанні наконт падробкі подпісу, наконт шынаў і шапак. Ён адказаў, што нічога не купляў, а падказваў, дзе можна «дастаць». Пачуліся галасы: хто рэкамендаваў Р. у партыю?*

*Падняўся Уладзімір Клімчук. Усе прыціхлі, бо гэтага аксакала тэлебачання добра ведаюць і паважаюць.*

*— Я даўно ведаю Р. Энергічны, талковы чалавек. Тут гаварылі, што ён кар'ерыст, любіць пакрасавацца на экране. Я не згодзен з гэтым. Журналісту зрабіць кар'еру цяжка. Бо ніхто за цябе пісаць не будзе. Раз нехта дапамог, два, а потым рабі сам. І калі дурань — гэта адразу відаць. Экран бязлітасна высвечвае ўсялякую дурноту... Ну, а што любіць пакрасавацца... Дык гэта можна сказаць і пра мяне. Пра любога, хто выступае часта, паводзіць сябе ўпэўнена. Хто працуе прафесійна. Таму і даў рэкамендацыю. Я не апраўдваю яго, але вельмі шкада... Бо малады зусім чалавек. Не магу не сказаць пра яго жонку. Мы таксама ведаем яе шмат гадоў. Чаму яна дасюль маўчала? А як развяліся, пачала ліць бруд. Я за тое, каб вымову аб'явіць, але не запісваць...*

*Адразу паднялося некалькі рук: людзі прасілі слова. Першай яго атрымала сталага веку кабета з хімічнай завіўкай, рэжысёр музычнай рэдакцыі:*

*— Не магу зразумець дзеянні жонкі. Як можна на чалавека, якога любіла, ад якога нарадзіла дзяцей, пісаць такое? Яна не мае права на ўсю кватэру. Тысячы жанчын з двума дзецьмі жывуць у двухпакаёўках, а то ціснуцца ў аднапакаёвых кватэрах. А яна будзе раскашавацц... Трэба хадайнічаць, каб аднавілі Р. на рабоце...*

*Сход загуў, як патрывожаны пчаліны вулей. Старшыня сходу зусім разгубіўся, яму нешта гаварыў намеснік старшыні Дзяржтэлерадыё. Падняўся мой былы шэф — кіраўнік сельгасрэдакцыі, рашуча пайшоў на трыбуну.*

*— Калі я слухаў пісьмо, у галаве круцілася думка: трэба выключаць такіх прахіндзеяў... А цяпер я не ведаю, як галасаваць? І яна цаца добрая. Абое рабое. Спачатку ён падрабіў подпіс — выключылі з універсітэта. Потым аднавілі. Скончыў вучобу, хутка рос па службе. Вырашыў — усё можна. Пасадзіў сына ў службовую машыну і павёз у Маскву на алімпіяду. Адхапіў шыкоўную кватэру. Не даплачваў партузносы. Відаць, усё-ткі трэба запісаць вымову...*

*Тое, што прамоўца падтрымае прапанову партбюро, я не сумняваўся, бо добра ведаў свайго былога шэфа. А сход тым часам загаманіў яшчэ мацней, нібы лес пад ветрам. Хто крычаў: падвесці рысу, значыць, болей не выступаць, а той-сёй настойваў, каб адкласці, стварыць камісію, праверыць факты. Тады ўсхапіўся дырэктар праграм, на трыбуну не пайшоў, гаварыў з месца, усім была відаць адно галава, круглая, быццам більярдны шар.*

*— Таварышы, калегі! Адкладваць няма чаго. Р. свае памылкі прызнае.*

*Пісьмо гэтае, самі разумееце, на якім кантролі... Я прапаную падвесці рысу і галасаваць за прапанову партыйнага бюро.*

*Дырэктар сеў з выглядам пераможцы — я зрабіў, што мог. Пачалі галасаваць. Прайшла прапанова партбюро. Тады на трыбуну выйшаў пасмялелы віноўнік:*

*— Шаноўныя калегі! Я хачу, каб вы паверылі мне. Я не безнадзейны чалавек. Апраўдаю ваш давер, — цяпер ён смела глядзеў у залу, ад ранейшага сораму не засталося і знаку.*

*На маю думку, Р. — прахіндзей, спрытнюга і цынік. Але жоначка ягоная яшчэ горшая. Яму ўсё сыходзіла з рук дасюль. Зрэшты, і на гэты раз партыйнае спагнанне нязначнае. Праз год яго здымуць. Праўда, з работы вытурылі — гэта сур'ёзна. Але ён не прападзе. А мо і добра, што не выключылі?.. А жонка хацела зусім спляжыць. Мабыць, дужа злая, што два гады не спіць з ёй? Лютая. Нянавісць выспела. А можа, перад дзецьмі хоча апраўдацца? Бацька — нягоднік, з работы знялі, з партыі выключылі, таму яна і развялася з ім...*

Так гэта ці не так, а тэлевізійныя партыйцы празасядалі паўдня. А я яшчэ гадзіну патраціў на апісанне гэтай брыдоты.

Пятро схаваў у стол свой сшытак, узяў дыпламат, каб ісці дамоў, але яго затрымаў тэлефонны званок:

— Пятро Захаравіч! Я вас шукаю. Добра, што вы на месцы... Гэта рэжысёр сельгасрэдакцыі. Сяброўка Ліды. Вестка ў мяне зусім нядобрая, — у голасе жанчыны пачуліся слёзы, Пятро ўсё зразумеў, унутрана сцяўся, адчуў, як пахаладзела пад сэрцам. — Памерла Ліда. Сёння. Пахаванне заўтра...

— Можа, трэба што памагчы?

— Пакуль не. Прыязджайце на могілкі. Аўтобус пададуць да старой студыі. А дванаццатай гадзіне. Яна завяшчала, каб ніякіх прамоў, ніякіх вянкоў... Кветкі можна...

Пятро ціха паклаў трубку на рычаг. Здаецца, чакаў гэтай весткі, ведаў, што ўсё скончана, але не думаў, што так балюча зашчыміць сэрца ад жалю, бездапаможнасці і скрухі.

Успомніў Лідзіну просьбу: прыйсці на могілкі з букетам белых ружаў...

***16 мая, субота.*** *Учора пахавалі Ліду. Згарэла, нібы свечка. У запавеце напісала, каб труну на могілках не адчынялі, ніводнага вянка і ніводнай прамовы... Адкрыты пратэст супраць двурушнай балбатні. Грызлі яе зайздросніцы-каляжанкі і ў сельгасрэдакцыі, і ў літдраме. Пятнаццаць гадоў аддала тэлебачанню, яно і даканала яе... Не склалася жыццё з кіношнікам-выпівохам. Застаўся дзесяцігадовы сын. Па сутнасці — круглы сірата. Мужа на пахаванні не было... Высокая, зграбная, лёгкая і грацыёзная, вялікія вочы, сінія, ясныя, грыўка каштанавых валасоў... Сапраўдная беларуская дзяўчына-паляшучка. Мусіць, занадта прыгожая і чыстая для нашага жыцця. Пражыла трыццаць сем... Магла б жыць, каб спахапілася раней, не запусціла хваробу. Можа, зрабілі б аперацыю, і ўсё было б добра... А можа, не хацела болей жыць?*

Пасля пахавання Ліды хадзіў Пятро сумны і змрочны, дакараў сябе, што апошнім часам не сустракаўся з ёй: выбіў прыбаўку да зарплаты і гэтым задаволіўся. А з галавы не выходзіла думка: чаму гэтам бязлітасна абышлося з Лідай жыццё? Работа, клопаты прымушалі яго круціцца, як вавёрка ў коле, і Ліду забыць не мог.

Надышло лета. Супрацоўнікі прасіліся ў адпачынкі. Праўда, тут быў графік, загадзя складзены адказным сакратаром рэдакцыі разам з прафсаюзным лідэрам. Адпачынак Пятра выпадаў на канец лета, падаў ён заяву на пуцёўку ў санаторый, бо часам шчымела сэрца, як ён гаварыў урачу, — клапаны стукаюць, і ціск быў павышаны.

Неяк пасля вячэры ён прылёг з газетаю на канапе. Азваўся тэлефон. Ева зняла трубку, гукнула:

— Пятро, цябе!

— Слухай, стары, ёсць прапанова. Паехалі на Купалле ў Заслаўе. Мы здымаем. Ёсць месца ў машыне. Праз гадзіну ад'езд. Ад старой студыі. Паехалі, не пашкадуеш, — угаворваў калега з літдрамы Клімчук.

Учора неспадзявана трапіў на Купалле. У Заслаўі. Калі пад'ехалі, адразу кінуліся ў вочы тэлевізійная тэхніка, мноства міліцыянтаў і дружыннікаў. На замчышчы, на старадаўнім вале, напроці царквы, у якой зараз краязнаўчы музей, тоўпілася багата людзей. Дзяўчаты з філфака Белдзяржуніверсітэта ў вянках з васількоў і рамонкаў, у кужэльных сукенках спявалі песні.

Дождж сапсаваў гулянне. Так хацелася ўсім, каб хмара з грымотамі і маланкамі прайшла міма. А яна паўзла супраць ветру, і неўзабаве лінуў дождж. Мы схаваліся ў машыне, да нас далучыўся гісторык Мікола Ермаловіч. Цікавая была гутарка ў машыне пра нашу гісторыю, я быў удзячны дажджу, бо пазнаёміўся з вельмі цікавым чалавекам. Дзесьці каля адзінаццаці святкаванне Купалля пачалося. Магутныя вайсковыя пражэктары асвяцілі высокі вал. Успыхнулі вогнішчы, спачатку малое на вале, дзяўчаты і хлопцы заспявалі пад бубен старадаўнія песні. Сам Ян Купала, прыгожы доўгавалосы студэнт, і Купалінка, яснавокая прыгажуня ў вянку, вадзілі карагод. Палала, дыміла, сыпала іскрамі, хлопцы размахвалі паходнямі, нешта крычаў барадаты рэжысёр, бегаў, круціўся, як ваўчок, кінааператар.

Нягледзячы на дождж, не раўнуючы язычніцкае, паганскае буйства апанавала ўсіх, калі запалілі вялікае вогнішча. Дзяўчаты з нейкага ансамбля пад фанаграму спявалі, з віскатам і лямантам лёталі вакол вогнішча, бо песень купальскіх яны не ведалі. Пачалася бутафорыя...

Задума была цікавая. Месца выдатнае, слаўнае гістарычным мінулым — амаль тысячу гадоў Заслаўю, сюды лёгка патрапіць: электрычкай ад Мінска паўгадзіны язды. Завадатары рыхтаваліся, нават сцяг адмысловы зрабілі і ўзнялі з акна царквы — блакітнае палотнішча, на ім надпіс, той жа, што і на значку. Упрыгожылі свята коннікі з недалёкай Ратамкі, прыехалі мастакі, пісьменнікі, навукоўцы.

Была чацвёртая гадзіна, неба пачало святлець, калі ехалі дамоў. Маладыя яшчэ весяліліся. Той-сёй рыхтаваўся шукаць папараць-кветку. А хто шукае, той знаходзіць...

## XVII

— Пятрок! Нешта пчолы разлёталіся? Глядзі, вунь над яблыняй кружаць. Можа, аблёт? А можа, і рой? — гукнула з веранды Таццяна.

Мамута адразу насцярожыўся, бо аблёт маладыя пчолы звычайна робяць у другой палове дня, а тут яшчэ няма і дванаццаці. Ён узяў загадзя падрыхтаваныя вядро вады і бярозавы венік, падышоў да вулляў. Над зялёным домікам імкліва, на першы пагляд бязладна, кружыліся пчолы. З

ніжняй і верхняй лётак на волю высыпалі сотні новых пчол, яны паблісквалі светлымі, неспрацаванымі крылцамі і з першароднай радасцю ўзляталі ўгору. Над пчальнікам уладарыў звонкі гул.

Пётр Еўдакімавіч адразу вызначыў: выходзіць рой. Папырскаў пчол, што кружыліся ў паветры, вадою, нібы асвяціў іх, благаслаўляючы на вылет у новае жыццё. Ён пільна сачыў, дзе яны пачнуць садзіцца, збірацца ў клубок. Вялікіх дрэў, як тое й належыць на пасецы, паблізу не было, на маладых яблынях і слівах можна здымаць плады, падставіўшы драбіны. Пчолы мітусліва кружыліся над сліваю і з усіх бакоў імкнуліся да яе, нібы тая прыцягвала іх магнітам.

— Ага, вунь дзе яны выбралі месца, — Мамута ўбачыў цёмны камяк пчол на галінках слівы. Камяк увачавідкі рос, набухаў, паветра вакол быццам кіпела ад мноства крылатых насякомых. — Гэта ж вельмі добра. Не трэба нікуды лезці. Падстаўляй табурэт, на яго раёўню і абірай...

Рой быў вялікі, клуб цяжэў, галінкі, на якіх ён размясціўся, згіналіся ўсё ніжэй. Курэль быў загадзя падрыхтаваны, запоўнены гнілякай, заставалася толькі падпаліць. Круглая, лёгкая раешня таксама была гатовая: стаяла абвязаная белым палатном побач. Але на гэты раз найбольш падыходзіла іншая раёўня-скрынка, унутры якой меліся чатыры рамкі сотаў, або сушы з дзірачкамі для вентыляцыі, лётка, якую потым можна было шчыльна закрыць, а верхняе вечка і дно, калі трэба, вымаліся. І гэтая раёўня была падрыхтаваная.

Мамута пачаў распальваць курэль. Падышла Таццяна, убачыла дымок і ўсё зразумела.

— А дзе яны селі?

— Ой, добра селі. Вунь на сліве. Нікуды лезці не трэба. Прынясі, калі ласка, табурэт.

— А лыжка ёсць? Можа, яшчэ адну ўзяць?

— Вазьмі. Не пашкодзіць.

Пётр Еўдакімавіч надзеў на галаву сетку, якая закрывала твар і шыю, узяў скрынку-раёўню, курэль, з якога выбіваўся сiняваты дымок, і хуценька пакіраваў на пчальнік. На купчастай сліўцы тым часам утварылася цёмная варухлівая груша. Пчолы падляталі і падляталі да мітуслівага гурту. Пётр Еўдакімавіч прыглядаўся, ці ёсць трутні. Іх, таўсматых, важных, не было відаць, значыць, рой-пяршак, матка плодная, самцы ёй непатрэбныя.

— Ну, малайчына! Гэткае войска сабрала! Значыць, сілёнку яшчэ маеш. Толькі б сабраць тваіх дзетак ашчадна і цябе не прыціснуць. А табе ўжо трэці гадок. Мяняць трэба, на добры толк. Ну, але калі з роем вылецела, то пачнецца для цябе другая маладосць... — Мамута любіў гаварыць з пчоламі, яму здавалася, што яны ўсё разумеюць, ён мог нават пагладзіць іх, вось толькі прыціснуць нельга — расплата будзе імгненная. Ён ведаў, што за некалькі дзён да выхаду роя старая матка адкладвае вельмі шмат яечак, ачышчаецца і аблягчаецца, бо інакш не зможа ўзляцець. Ён патроху абкурваў рой дымком, каб пчолы адчулі, што гаспадар тут, на месцы, што ім не трэба ляцець на новую кватэру, якую падшукалі пчолы-разведчыцы. А гэта можа быць і дупло ў лесе, і стары вулей. Рой паводзіў сябе спакойна, гул ягоны быў роўны, у ім чуліся надзея і спадзяванне на новае жыццё.

Раявыя пчолы выпраўляюцца ў дарогу з мёдам, іншыя бяруць з сабою воск, прапаліс, каб на новым месцы хутка будаваць соты, бо матка перадыхне дзень-два і возьмецца за работу. Мамута згледзеў пчалу з жоўтымі

кошыкамі на задніх ножках: гэтая прама з поля, з ношкай пылку трапіла ў ройны гурт і засталася тут. Новай сямейцы ўсё спатрэбіцца.

Падышла Таццяна з табурэтам. Яна завязала пад бараду белую хустку, сетку не надзявала. Мамута і сам часта падглядаў пчол без сеткі, але раявыя могуць раззлавацца, тады уцякай, а калі ў сетцы ды ў халаце, каля іх смялей завіхацца.

Раёўню ён паставіў на табурэт, але ўсё роўна было нізкавата.

— Пачну абіраць. Буду трымаць раёўню. А ты прынясі пару паленцаў дроў. Тады і прыладзімся.

Ён пакурыў дымам, узяў лыжкай жменю пчол і апусціў у раёўню, потым яшчэ. Неўзабаве пчолы сплялі жывую лесвіцу і па ёй рушылі ў новую «кватэру», не ведаючы, што яна для іх часовая, толькі да вечара. Тут падзьмуў вецер, галінкі загайдаліся, і гэта вельмі не спадабалася пчолам, яны сярдзіта загулі, адна нават пеканула пчаляра ў руку.

— От, дурніца! Я ж не вінаваты. Таццяна, трымай галінкі. Інакш будзе бяда. Вецер мацнее. А спачатку курні сюды...

Таццяна, якая заўсёды памагала мужу ў пчалярскіх справах, разумела яго з паўслова. Праўда, яна апошнім часам хварэла, лячылася толькі мёдам, таму да пчол ставілася з вялікай пашанаю. Яна прынесла тры паленцы, падсунула пад раёўню.

— Ну, во, цяпер акурат падыходзіць... Каб яшчэ матку ўбачыць, — Мамута прыглядаўся да мітуслівага пчалінага войска, каб згледзець іхнюю камандзірку, але дзе там! Вось падвечар, калі будуць садзіць рой у вулей, тады можна ўгледзець і гаспадыню сям'і.

— Ідуць добра. Можа, адзін справішся? Дык я пайду ў гарод. Лебяда душыць цыбулю. Не магу даць рады.

— Ідзі. Спраўлюся, — ціха адказаў Мамута. Ён трымаў галінкі, каб вецер не матляў іх, і пчолы не злаваліся.

Настрой у яго быў прыўзняты. Радаваўся, што рой не ўцёк, ды гэткі вялікі. Каб яму яшчэ падставіць рамку пячатнай чарвы, ото была б моцная сям'я. Але дзе ўзяць такую рамку? У вулеі, з якога выйшаў рой, непажадана, сям'я і так аслаблена, хоць гэтую чарву яны прынялі б ахвотна, бо свая. Але яны прымуць з удзячнасцю і чужую. А ва ўсіх доміках стаяць магазіны-надстаўкі, іх трэба здымаць, каб трапіць у гняздо. Вырашыў пасадзіць рой, паназіраць за ім. Калі назаўтра пчолы будуць ісці ў поле і вяртацца з ношкаю-пылком, значыць, матка на месцы. Сям'я жыве. Лета толькі пачалося, новая сям'я да сярэдзіны жніўня забяспечыць сябе, яшчэ і гаспадару можа даць паўпуда, а то і пуд мёду.

Тым часам пчолы дружна ішлі ў раёўню, на галінках заставалася няшмат, асобныя камячкі. Але раптам пчолы сыпанулі назад з раёўні. Мамута абкурыў іх дымам: няўжо матка не зайшла? Але ж яны ціха сядзелі, ішлі дружна. Нешта не тое? Ён адсунуў вечка болей і ўсё зразумеў: раёўня была паўнюткая пчол, для ўсіх не хапала месца. Гукнуў Таццяне, каб хутчэй несла круглую раёўню. Гэтых з галінак можна было і не чапаць, яны вярнуліся б дамоў, але раптам сярод іх матка? Таму Пётр Еўдакімавіч страсянуў усіх у другую раёўню. Калі абвязваў яе, адну пчолку прыціснуў — яна схавалася пад матэрыяй і ўджаліла ў палец.

— Ах ты, мілая мая. Я ж не бачыў цябе. Чаго ты сюды залезла? Будзем лічыць, што ета пчаляру на здароўе, — ціха прамовіў Мамута.

Першы сёлетні рой яго прыемна ўзрушыў, хоць раі даводзілася абіраць штолета. Здаралася, што тыя ўцякалі. Летась напрыканцы вясны нечакана

выйшаў рой-пяршак, пакуль Мамута распаліў курэль, вынес драбіну — рой сеў на яблыні даволі высока, — пчолы ўзняліся і паляцелі ў лес за Бесядзь. Ён стаяў і глядзеў ім услед, гатовы заплакаць ад крыўды: падчас зімоўкі загінулі дзве сям'і, а тут яшчэ адна страта. Каб не быў дома, не бачыў, а то ж на вачах уцяклі. Ды і Таццяна падліла масла ў агонь:

— Ну і разявака! Упусціў рой. Цяперыцька солі яму на хвост сыпані...

Нічога не адказаў Пётр Еўдакімавіч, душа і так смылела, а жончын дакор вярэдзіў яшчэ мацней.

Думкі думкамі, але ж трэба рыхтаваць домік для новай сям'і. На пчальніку стаяў свабодны вулей: выставіў з надзеяй, што заляціць прыблудны рой, цяпер ён пасадзіць туды свой. Зняў вечка, уцяпленне — наўлечку, напханую сенам, такая ж была і збоку, ад поўначы. Вулей быў чысты, праўда, напроці адной рамкі насыпаліся дробныя кавалачкі воску — значыць, папрацавала васковая моль. Падняў рамку, убачыў зацягнутую павуціннем звілістую канаўку: па сотах прайшоў чарвяк-вусень. Гэтую рамку трэба выбракаваць. Застанецца пяць, а гэта мала, бо рой вялікі. Вырашыў падставіць яшчэ дзве рамкі вашчыны, хай адцягваюць соты, а раявыя пчолы вельмі хутка будуюць новыя соты.

Сонца абнізілася, вісела над вершалінай кашлатай сасны, што ў Бярозавым балоце. «Пара!» — вырашыў Мамута. Сцішана, роўна шумелі пчолы, значыць, усё ў парадку. Калі б маткі не было, яны б шумелі моцна. Некалькі пчолак праціснуліся праз драцяную сетку круглай раёўні і сталі ахвярамі дробных мурашоў.

Ён узяў у правую руку цяжкую раёўню-скрыню і лёгкую круглую, дзе пчол была жменька. Радавала, што такі вялікі рой, нават не змясціўся ў скрыні на чатырох рамках, але асалоды для Мамуты не будзе. Звычайна ён абіраў раі ў круглую раёўню, потым падвечар Таццяна засцілала абрусам шчыт насупраць лёткі. Гэты шчыт з лёгкіх дошчачак адным канцом упіраўся ў лётку, другім у зямлю. На ніжні край Мамута ставіў раёўню, адхінаў палатно, абкурваў пчол дымком і яны шукалі сцежку ў новы дом. Ён браў іх лыжкаю, высыпаў каля лёткі. Пчолы разгублена затрымліваліся, а потым кіраваліся ў вулей. Паступова яны пракладвалі сцежку, потым шырокім ланцугом ішлі ў новы дом.

— Пайшлі! Як Сувораў цераз Альпы, — гаварыў настаўнік гісторыі Пётр Еўдакімавіч Мамута.

Калі пчолы ішлі па абрусе, ён амаль заўсёды знаходзіў матку. Бывала, што яго апярэджвала Таццяна або нехта з дзяцей: усіх ён прывучаў да пчалярскай справы.

Сёння ён перасяляў пчол адзін, абрус не спатрэбіцца. Ён абкурыў раёўню-скрыню дымам, браў рамкі з пчоламі, ставіў у вулей. Потым выцягнуў дно скрыні, гусіным крылом змёў астатніх пчол, затым на рамкі высыпаў насельнікаў круглай раёўні.

Неўзабаве падышла Таццяна:

— Ну што, у цябе тут? Асадзіў ужо?

— Усё добра. Пчолкі на месцы. Мусіць, трэба днямі паглядзець іншыя сем'і. Пазрываць маточнікі. А то, як сыпануць раі, куды мы іх дзенем? Ды і сем домікаў дастаткова.

— Болей нам не трэба. Хоць бы гэтых дагледзець, — падтрымала яго Таццяна і паклікала вячэраць.

Ужо добра сутонела, калі Мамута падышоў да вулея. Абедзве раёўні —

і скрыня, і круглая, былі пустыя, усе пчолы пакінулі іх і перабраліся ў новы домік. На пярэдняй сценцы яго, вакол лёткі сабралася некалькі купак пчол, быццам абмяркоўвалі між сабою новае жытло, а мо дыхалі свежым паветрам. Магчыма, гэта сабраліся старэйшыя, а мо маладзейшыя ды хітрэйшыя? У вулеі кіпіць работа, світа корміць матку малачком, самыя нецярплівыя пачалі ўжо будаваць соты. Гэтую работу, як і ўсе іншыя, пчолы робяць гуртам. Так не бывае, каб адна пачала, завіхалася. Адна пачынае, яе падтрымліваюць, і самае дзіўнае, што ніхто з іх не схібіць — усё будзе роўна і гладка. І ніхто іх гэтаму не вучыў. На сёмы-восьмы дзень жыцця маладыя пчолы пачынаюць выдзяляць воск і становяцца будаўнікамі і архітэктарамі.

Не толькі радасць і духмяны мёд прыносілі пчолы Мамуту, але і багата клопатаў, здараліся і страты. Гадоў колькі назад напаў на пчол клешчваратоз. Ва ўсіх навакольных вёсках гінулі пчолы. У Мамуты з дзесяці вулляў пасля зімоўкі засталося тры, і то вельмі слабыя, пчолы соваліся, як сонныя. Чым бараніцца, як змагацца з кляшчом, не ведаў, хімічных прэпаратаў не было. Паехаў у раён, там параілі абкурыць палыном ці сушаным хрэнам, аркушы паперы змочваць алеем, засоўваць у лётку, тады абкурыць — пчолы пачнуць чухацца, скідваць з сябе крывасмокаў, якія прыліпнуць да змочанай паперы, уранні аркушы дастаць і спаліць.

Сухі палын знайшоўся, накапаў і хрэну. Праўда, тоўстыя карані Таццяна рэквізавала: Вялікдзень хутка, дзеці, унукі прыедуць, кумпячок вэнджаны з хрэнам — найлепшы пачастунак. Мамута не пярэчыў, бо сам любіў вяндліну з хрэнам. Пасушыў тонкія карэньчыкі і кожны вечар абкурваў пчол. Гэтыя тры сям'і выняньчыў, улетку толькі адна з іх дала рой. Пад восень дачка Юля прывезла мурашынай кіслаты, растлумачыла, як з ёй абыходзіцца. Апрацаваў, усе пчолы перазімавалі добра. Павесялеў Мамута. Праз год пчальнік ягоны падвоіўся.

Мінулая зіма была лёгкая, вясна выдалася цёплая, рана зацвіла вярба, а потым суніцы, чарніцы, асабліва дружна цвілі брусніцы. Ды і сады: слівы, вішні стаялі нібы аблітыя малаком. А потым успыхнулі бела-ружовай квеценню яблыні. Пчаліныя сем'і хутка набіралі сілу. А калі ў прыбяседскім лесе зацвілі маліны, Мамутавы пчолы маглі працаваць на ўсю моц.

У той жа вечар ён пазваніў Юлі. Узрадаваўся, пачуўшы ў адказ:

— Калі ўсё будзе добра, у суботу прыедзем.

— Ты пазвані перад выездам. Дык мы пачнем, а вы пад'едзеце.

Так і дамовіліся. І хоць нялёгкім выдаўся дзянёк: уранні касіў, потым разбіў пракосы, потым парадкаваў рой, заснуць Мамута доўга не мог. Думаў пра сваіх дзяцей. Ён меў поўнае права ганарыцца імі. Старэйшая дачка Валянціна скончыла педінстытут, працавала ў школе, завочна вучылася ў аспірантуры, абараніла кандыдацкую дысертацыю, зараз выкладае ў тым самым інстытуце, студэнткай якога была. Мае двое дзяцей. Юрка такі дамогся свайго — стаў ваенным лётчыкам, цяпер служыць у прыволжскім горадзе, падпалкоўнік ужо, гадуе сына. Вера жыве ў Мінску, урач-кардыёлаг, у яе двое дзетак.

Асабліва ганарыўся Мамута малодшай дачкою Юляй. Яна скончыла тэхнікум, потым сельгасакадэмію, любіць і ведае пчалярства. А цяпер яна галоўны заатэхнік калгаса «Парыжская камуна», што недалёка ад райцэнтра. Часта бывае ў Хатынічах, бо цяпер яе муж — галоўны аграном раённага упраўлення гаспадаркі. І ў іх двое дзяцей. Мамута з радасцю думаў, што ў яго сямёра ўнукаў. Але ў глыбіні душы заўсёды помніў: у Мінску

расце восьмая ўнучка Алеся, дачка Пятра, ягонага і Юзінага пазашлюбнага сына. Унучку Алесю Мамута бачыў толькі адзін раз, калі яна яшчэ хадзіць не ўмела.

Неяк Мамута пасварыўся з Таццянаю, і яна са злосцю крыкнула:

— Можаш ехаць у Мінск... Да сваёй сучкі!

Пётр Еўдакімавіч пра свой грэх з Юзяй успамінаў рэдка, быў упэўнены, што Таццяна нічога не ведае. А яна, аказваецца, тры дзесяцігоддзі ведала пра ўсё і маўчала. Яна ўсё часцей хварэе, найбольш мучае гіпертанія: бывае, што не можа нахіліцца. А трэба ж і карову даіць, і агарод палоць. Пятро стаў цяпер болей памагаць па гаспадарцы, асабліва летняю парою. З гадамі Таццянін характар ўсё болей псаваўся. Таму і спрэчкі з-за любой дробязі ўспыхвалі ўсё часцей.

Сёлета Пётр Еўдакімавіч наважыўся кінуць дырэктарства. Даўно збіраецца аднесці заяву ў РАНА, але духу на гэта не хапала. Але сёлета гэта зробіць. І менавіта цяпер, у чэрвені, каб да новага навучальнага года прызначылі новага дырэктара. Ён параіць на сваё месца Любу Раўнягіну, Любоў Дзмітрыеўну. Яна цяпер завуч, ужо асвойталася, работу ведае, людзей — таксама, ды і сама мясцовая, інстытут скончыла, лепшай замены не знайсці, бо з Мінска ці з Магілёва ў гэтую глушэчу ніхто не паедзе.

Вось дастануць мёд, параіцца з Юляй, з Іванам, зяцем, разам з імі і паедзе ў райцэнтр. Адкладваць надалей не выпадае, бо калі кожны дзень думаць пра гэта, то можна і звіхнуцца на старасці гадоў. Папросіць, каб далі ўрокі гісторыі, а не будзе такой магчыасці, то і так добра. Яму ўжо шэсцьдзесят тры, нарабіўся ў школе ад душы. У яго ёсць гаспадарка, ёсць пчолы — любімы занятак. Ёсць да чаго рукі прыкласці.

А зімой можна і да ўнукаў з'ездзіць. Улетку яны гасцююць тут, у дзеда з бабай. Зімой дзед можа паехаць у Магілёў, у Мінск да Веры з сям'ёй. Паедзе да яе, а там і з Юзяй сустрэнецца, маленькую Алесю ўбачыць. Ведае, што Таццяне гэтыя паездкі будуць не даспадобы, а з другога боку — як запярэчыць? Бацька едзе да сваёй дачушкі. Разам, удваіх, ехаць не выпадае: на каго гаспадарку пакінеш? Вось таму і змрочная ходзіць Таццяна, ціск яшчэ вышэй падымаецца. Але ў Мінск да Веры яна ездзіць часцей, а яго не пускае. Дачка крыўдзіцца. А можа, і яна ведае, што ў Мінску ў яе ёсць брат па бацьку?

«Гэтай зімой будзе вальней з часам, — разважаў Мамута. — Можа, увосень, як убяром ураджай, паеду ў Магілёў, мядку вазьму на гасцінец. А з Магілёва катану ў Мінск». Аднойчы ён так зрабіў. І ўсё атрымалася ўдала. І цяпер з'ездзіць абавязкова. А першая справа — трэба напісаць заяву ў РАНА.

Здаецца, так проста падаць заяву: «Прашу вызваліць ад займаемай пасады ў сувязі з выхадам на пенсію...» Усяго два радкі. А вось пісаць іх рука не падымаецца, і сэрца пачынае шчымець... Урэшце Пётр Еўдакімавіч напісаў заяву, хоць і дрыжала рука, адвёз яе ў РАНА. Там ніхто не адгаворваў, ды і загадчыка не было на месцы — паехаў у адпачынак. Інспектар, маладая жанчына, якую Мамута мала ведаў, пацікавілася, хто можа замяніць яго.

— Замену я падрыхтаваў. Гэта Раўнягіна Любоў Дзмітрыеўна. Завуч нашай школы. Родам з суседняй вёскі, наша выпускніца. Скончыла педінстытут. Сям'ю мае добрую. Бацька брыгадзірам у Вішнях працуе. Некалі, праўда, у чарку заглядваў, цяпер завязаў. Дачка перавыхавала.

— Мусіць, ліміт выбраў? — рагатнула бухгалтарка, якая сядзела за су-

седнім сталом. — Фонды скончыліся, таму і завязаў. Перавыхаваць п'янтоса наўрад ці можна. Хіба, калі сам захоча...

— Можа, і так, — усміхнуўся Мамута. — Любоў Дзмітрыеўна будзе добра кіраваць. Вопыт мае. Умее ладзіць і з калегамі, і з вяскоўцамі. Яна ж тутэйшая. Людзей ведае, і яе ведаюць. Таму што новы чалавек... Ды і не надта хто кінецца ў нашу глуш.

— Ну чаму глуш? — не пагадзілася інспектар. — З вашай школы гэтулькі людзей знакамітых выйшла! Шандабыла Мікалай Арцёмавіч — ваш жа выпускнік. Улада раённая.

— Наш, — з гонарам адказаў Мамута. — А ў Мінску нашых колькі! Махавікоў Пятро вунь па тэлевізары выступае. Галоўны рэдактар. Сахута Андрэй — першы сакратар райкома партыі ў сталіцы. Так што, перадайце загадчыку маю заяву. Ну, і маю прапанову на пасаду дырэктара. І маю просьбу... Ну, каб урокі гісторыі дазволілі весці.

— Добра. Думаю, што мы ўлічым і вашу прапанову. І просьбу, — упэўнена сказала кабета.

«Мусіць, яна мае ўплыў на загадчыка. Раз так упэўнена абяцае», — падумаў Пётр Еўдакімавіч. А яшчэ мільганула ў галаве: «Было б лепей, каб яна сказала: «Што вы, Пётр Еўдакімавіч? Вы такі вопытны кіраўнік. Папрацуйце яшчэ». Ну, хоць бы для прыліку паўгаворвала. Ён бы адмовіўся, раз ужо вырашыў цвёрда, але ўсё роўна было б прыемна: яго паважаюць, не хочуць адпускаць. Зрэшты, хоць бы дзякуй сказала. А то, маўляў, задаволім просьбу. Магчыма, загадчык бы паводзіў сябе інача, хоць і ён не так даўно ў раёне і кадры ведае слабавата. А можа, ён не падпіша заяву, скажа: «Рана ты на спачын сабраўся, Мамута, ты яшчэ патрэбны». Усё можа быць.

Выйшаў з РАНА Пётр Еўдакімавіч з нейкім невядомым раней пачуццём: нібыта і з палёгкай — не трэба рамантаваць школу, нарыхтоўваць дровы, падбіраць кадры, ездзіць у раён на розныя нарады, а, з другога боку, быццам стрэмка, засела ў галаве думка: ты ўжо нікому непатрэбны, адпрацаваў сваё і будзь здароў! Урокі гісторыі могуць даць, а могуць сказаць: «Усё, годзе, адпачывай, Мамута».

Чамусьці выплыў з памяці ўспамін: восенню сорак трэцяга праводзілася першая пасляваенная нарада дырэктараў школ у райкоме. Ён спазніўся, ішоў дажджом пехатой у лапцях, бо іншага абутку не было. Увайшоў у невялікую залу парткабінета райкома, пратопаў мокрымі лапцямі да вольнага месца, якое знайшлося ў першым радзе. Потым сакратар райкома Дар'я Азарава папрасіла яго застацца, распытала, што і як у вёсцы, колькі дзяцей у школе, памагла справіць новыя хромавыя боты.

Да аўтобуса яшчэ заставалася больш як дзве гадзіны, Пётр Еўдакімавіч нетаропка пакіраваў у раймаг, купіць якіх гасцінцаў, потым варта перакусіць у сталоўцы, бо выехаў рана. Людзей на вуліцах райцэнтра было мала. Мясцовыя жыхары ведалі адно аднаго, ды і прыезджыя вяскоўцы часам сустракалі тут знаёмых.

Насустрач ішла сівая жанчына з кавенькай, у руках трымала чорную торбачку, на якой была вышыта вялікая чырвоная кветка. Параўняліся, жанчына спынілася, пільна прыгледзелася:

— Мамута? Гэта вы? Ці я памылілася?

— Я, Дар'я Трафімаўна, — пазнаў ён у гэтай сівой бабульцы Азараву. — Як вы маецеся? Даўно не бачыліся.

— Ды, мусіць, гадкоў дзесяць. Гэтулькі я ўжо не працую. А вы?

— Ой, не пытайцеся, Дар'я Трафімаўна, заяву сянні аднёс у раяна. Прашуся ў адстаўку. Тры гады пасля пенсіі адпрацаваў. Дырэктарства надакучыла. Дужа багата клопатаў. А ўрокі буду весці. Ну, калі дазволяць. Між іншым, хочаце верце, хочаце — не, я толькі што ўспамінаў вас. Тую нараду сорак трэцяга года. Калі ў лапцях прытопаў...

— О Пётр Еўдакімавіч, дык і я помню. Што было тады — помню, як зараз. А што было ўчора, таго не памятаю. Вы, можа, спяшаецеся куды? А я вас тут затрымала...

— Не, у мяне яшчэ дзве гадзіны з гакам да аўтобуса.

— Можа, тады прысядзем трохі ў скверыку? Пагамонім.

Мамута зразумеў, што жывецца ёй сумна, і не заўсёды ёсць з кім перакінуцца словам. Жыве Азарава адна. Сын у Магілёве. Улетку прыязджаюць унукі, заходзяць былыя выпускнікі — яна дваццаць гадоў працавала дырэктарам школы.

Пётр Еўдакімавіч уважліва слухаў і не мог даць веры, што гэтая бабуля ў акулярах, са зморшчаным тварам, з чырвонымі павекамі ёсць тая самая прыгожая, паўнагрудая жанчына, з гладка прычасанымі цёмнымі валасамі, у гімнасцёрцы, туга перацягнутай шырокім камандзірскім рэменем. Тады гаварылі, што ў яе закаханы першы сакратар райкома Акапян. А потым пачалі гаварыць, што ў яе раман з хатыніцкім старшынёй калгаса Казакевічам — праз гэта яе знялі з пасады сакратара па ідэалогіі і прызначылі дырэктарам школы, а Макару Казакевічу нібыта далі вымову.

— Невядома, колькі таго жыцця засталося. Хачу да вас у Хатынічы з'ездзіць. Пакланіцца магілцы Макара Тарасавіча, — ціха сказала яна.

«Значыць, праўда. Была ў іх любоў», — падумаў Пётр Еўдакімавіч, а ўголас сказаў:

— Прыязджайце. Да мяне зойдзеце ў госці. Я недалёка жыву. Ад крамы якраз па вуліцы...

— Я помню. Некалі ж часта ездзіла па раёне. На выбары да вас прыязджала. І яшчэ нейкія справы меліся. На пахаванні Свідэрскага была. Жахлівая сцэна. Ніколі не забуду... Можа, Даўгалёва падгавару. Ён машыну раздабудзе, то і прыедзем.

Мамуту не хацелася з ёй развітвацца, але разумеў: час ляціць. Азарава нібы здагадалася пра ягоныя думкі, спытала:

— Можа, у вас тут якія клопаты? Вы ж некуды ішлі...

— Дар'я Трафімаўна, а ведаеце што? Давайце зойдзем у рэстаран, перакусім чаго. Я ж яшчэ ваш даўжнік. За хромавыя боты не разлічыўся. Вы ж тады званілі ва ўсе ўстановы, пакуль дапамаглі справіць боты. Яны доўга насіліся...

— А вось гэтага я не памятаю. Як вы ў лапціках топалі, і мокрыя сляды за вамі цягнуліся, гэта стаіць уваччу. А пра боты... Гэта ўсё забылася. Лічыце, што й не было, — шчыра засмяялася Азарава, і Мамуту падалося, што яна ўвачавідкі памаладзела.

— Ну што ж, хадзем. Час у мяне ёсць, — Азарава неяк гарэзліва зірнула на яго.

У ціхай, амаль пустой зале рэстарана яны добра падсілкаваліся, нават выпілі пляшку віна. На развітанне тройчы пацалаваліся.

— Пётр Еўдакімавіч, даражэнькі, адзіная вам парада. Не думайце, што пасля выхаду на пенсію жыццё скончылася. Гэта не так. Мне ўжо дзве шасцёркі з гакам. Было б лепей, каб дзве пяцёркі... Ну, але што зробіш. Вось пасядзелі мы з вамі, пагаманілі, і я адчула, што памаладзела гадкоў

на пяць. Будзеце ў раёне, заходзьце, калі ласка, — яна назвала свой адрас, нумар тэлефона.

— Зайду. Абавязкова. Мядку прывязу вам. Я ж пчаляр. Хромавыя боты каштавалі дорага. Адной пляшкай віна не абыдзешся...

Дар'я Трафімаўна зноў засмяялася. І ў Мамуты настрой палепшаў. Ён быў вельмі рады, што выпадкова сустрэў гэтую разумную, прыгожую — яна і ў старасці была прыгожая, — жанчыну, якая амаль усё жыццё аддала людзям.

І яшчэ падумалася: якое кароткае чалавечае жыццё! Расцвіў ты ці не расцвіў, пажыў з радасцю ці зусім не нарадзіўся, мусіш старэць і паміраць. Варухнулася крыўда на сваю Таццяну, якая цяпер усё часцей дакарае яго Юзяй: маўляў, ты ўсё жыццё думаў пра іншую... Яна ведала пра Юзю столькі гадоў і маўчала, а цяпер, на старасці, дапякае. Дзіўныя людзі...

Праз тыдзень, адвячоркам, Пётр Еўдакімавіч з блакітнаю сеткай крочыў палявою дарогаю. У сетцы нёс слоік свежага мёду, гэта гасцінец Мацвею Сахуту і ягоным унукам.

Прыгадалася, як нёс поўны гладыш мёду Сахутам дваццаць гадоў таму. Тады Андрэй Сахута, ягоны любімы вучань, толькі ажаніўся, працаваў першым сакратаром райкома камсамола. Дзе толькі няма выпускнікоў Хатыніцкай сямігодкі! Ад Калінінграда аж да самага Уладзівастока разляцеліся гадаванцы вясковай школкі. Зрэшты, лепей было б, каб яны працавалі на сваёй Радзіме, бліжэй да сваіх бацькоў.

Крочыў Мамута лёгка, думалася і дыхалася вольна. Нядаўна прайшоў цёплы летні дождж, высокае жыта, якое сцяною стаяла паўз дарожку, здавалася хлебным водарам напаўняла паветра.

Цёмна-фіялетавая хмара адплывала за Бесядзь. Выблiснула сонца над Бярозавым балотам, а над Бесяддзю ўспыхнула яркая вясёлка. Вышэй была відаць яшчэ адна вясёлкавая дуга, але не такая яркая. Мамуту яна вяртала ў далёкае дзяцінства. Яго маці называла вясёлку весялухай, або сяміцвецікам. А яны, вясковыя хлапчукі, называлі вясёлку цмокам, бо здавалася, ім, што вясёлка п'е, смокча ваду з рэчкі.

Не, што ні кажы, вясёлка — гэта цуд прыроды. А тут яшчэ ў жыце ўдарыла перапёлка: піць-падаць, піць-палоць. Гэта, спрадвечнае, уражвала і радавала душу.

Мамута аж спыніўся, узяў сетку ў другую руку, каб палюбавацца вясёлкай. Памятаў матчыны словы: глядзець на вясёлку — добрая прыкмета. Пахваліў сябе, што пайшоў не па вясковай вуліцы, а па гэтай дарожцы.

Неўзабаве ён выйшаў на выган — нешырокую пясчаную дарогу, што бегла з поля ў вёску. Міжволі паглядзеў налева: там пасля вайны стаяла вялізнае гумно, і ён улетку махаў сякераю — памагаў будаваць стадолу. Там быў ток, еўня-сушыльня, конная малатарня. Пазней малацілі трактарным прывадам. Бывала, і ноччу грукатаў трактар, ляскатала малатарня. Нават вучні сёмых-восьмых класаў працавалі ноччу — адвозілі салому, якую тут жа стагавалі. Цяпер на тым месцы зелянела суцэльнае жытнёвае поле. Дзіўна, як і не было тут нічога. А прайшло ж зусім небагата часу, усяго два-тры дзесяцігоддзі.

Некалі старшыня калгаса Макар Казакевіч, з якім ехалі з раённай нарады, паказваў, дзе чый хутар быў да рэвалюцыі. Стаялі хаты, цвілі сады... І нічога не засталося, падмуркаў з каменю не рабілі, бо вялікіх камянёў у Прыбяседдзі мала, хаты знеслі, дрэвы выкарчавалі, студні засыпалі. І ўсё, хутароў як быццам і не існавала. Мамута ведаў, што поле паўз дарожку хатыньчане называюць — наддаткі, бо тут былі дадатковыя надзелы зямлі

пасля адмены прыгоннага права. Даўно зніклі тыя межы, а людзі іх помняць. Але хутка і гэта забудзецца. Вось табе жывая гісторыя. А колькі пакаленняў людзей змянілася на гэтай зямлі! Археолагі да вайны раскапалі над Бесяддзю старажытную стаянку, дзядок-археолаг казаў маладому настаўніку Мамуту, што нашы продкі пасяліліся тут сто тысяч гадоў таму. Злавіў сябе на думцы, што яму хочацца і далей весці ўрокі гісторыі ў школе.

Здаля Мамута ўбачыў на дарозе веласіпедыста. Сам ён ступаў па левым баку выгана, дзе была тупкая сцежка. Неўзабаве веласіпедыст яго дагнаў. Гэта быў старшыня сельсавета Іван Ягоравіч Сырадоеў.

— Здароў, Пётр Еўдакімавіч! — Сырадоеў саскочыў з веласіпеда.

Мамута спусціўся ўніз са сцежкі, каб парукацца з мясцовым начальнікам.

— Да мяне дайшла чутка... А можа, ета няпраўда? Можа, плётка? Ну, што вы падалі ў адстаўку...

— На жаль, Ягоравіч, ета праўда. Укаталі Сіўку крутыя горкі. Прашуся на ўзбочыну. Каб перавесці дых.

— Шкада, Пётр Еўдакімавіч. Вы яшчэ ў сіле. Маглі б яшчэ працаваць, маючы такі вопыт, аўтарытэт.

— Аўтарытэт, як гаворыцца, справа нажыўная. І Люба Раўнягіна, калі яе зацвердзяць, будзе на месцы. А я хачу пажыць спакойна. Пчолкамі заняцца. Ёсць такі сумны жарт: чалавек жыве нармальна сем гадоў да школы і адзін пасля пенсіі. Ну, а я, маючы пенсію, пражыў тры гады. Можа, яшчэ столькі пратэпаю?

— Ну што вы, Пётр Еўдакімавіч? Тры гады... Жывіце доўга. Между протчым, у газеце чытаў: пчаляры жывуць доўга. А куды ета вы сабраліся, калі не сакрэт?

— Ды які тут сакрэт? Да Мацвея Сахуты. Некалі абяцаў яму мядку на гасцінец. Дык во і тэпаю. Слухай, Іван Ягоравіч, заедзь калі да мяне. Пасядзім, пагамонім. Колькі таго жыцця...

— Ета праўда. Я во ўсё лічыў сябе маладым. Помніце, як фінагентам рабіў? З раніцы да вечара ўсё на нагах. Дайжа веламашыны не было. Усё пехам. А ўжо двойчы дзед! — Сырадоеў з радасцю ўсміхнуўся. — Глядзіш, і на пенсію скора.

Мамута прыкмеціў, што пад вачамі Сырадоева веерам збегліся тонкія баразёнкі зморшчынак, і скроні ўжо сівыя, але загарэлы, абветраны твар быў яшчэ маладжавы. Згадаў, як мінулаю восенню адзначалі ягонае пяцідзесяціпяцігоддзе.

Падышлі да двара Мацвея Сахуты. Гаспадар сядзеў на ганку на лавачцы. Сырадоеў павітаўся з ім, ускочыў на веласіпед і пакаціў па дарозе. Мамута павярнуў да Мацвея.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981 г.*

*3 ліпеня. Тэгеран. Іранскі народ не павінен забываць, што ён знаходзіцца ў стане вайны са Злучанымі Штатамі, заявіў лідэр іранскай рэвалюцыі аятала Хамейні.*

*12 ліпеня. Магілёў. Тут пачалі выпрабляць механізаваныя падборшчыкі льну, якія вельмі дапамогуць вяскоўцам.*

*19 ліпеня. Ленінград. Па палярных водных маршрутах краіны накіравалася навукова-спартыўная экспедыцыя «Палярная зорка».*

*28 ліпеня. Адыс-Абеба. Толькі сацыялістычнае грамадства, якое грунтуецца на моцнай эканамічнай базе, здольнае забяспечыць сапраўды дэмакратычныя правы працоўных, заявіў лідэр Эфіопіі Менгісту Хайле Марыям.*

## XVIII

Летнім суботнім ранкам Пятро Махавікоў ехаў на тэлебачанне. Цэлы тыдзень ён «ваяваў» на курсах грамадзянскай абароны.

Пасля ўсяго ўбачанага і пачутага на занятках Пятра асабліва радавалі светлая раніца, птушыны спеў. Радавала думка, што нікуды не трэба хавацца, шукаць бомбасховішча і наогул не ведаць, што яно існуе.

У кабінеце адразу ўключыў манітор, пашукаў па студыях, дзе якія запісваліся перадачы. На экране была шматкаляровая сетка, толькі ў адной студыі, так званай «стометроўцы», рыхтаваліся да выпуску апошніх паведамленняў, убачыў застаўку «Слова — паэзіі» і незнаёмага маладога паэта.

На стале ляжала копія праграмы на наступны тыдзень, якую заявілі ягоныя памочнікі: галоўны рэжысёр і адказны сакратар, бо намеснік быў у адпачынку. Перадач яны прапанавалі небагата. Збоку адной з іх, прысвечанай абітурыентам, была прыпіска: «Запіс у суботу».

— Вось і пагляджу, што прыдумалі мае архараўцы, — усміхнуўся Пятро. — Калі ў сераду шэф спытае на задзеле, буду ведаць, што сказаць. Хоць і адгаворку маю — ваяваў на курсах.

***25 ліпеня.*** *Зноў субота. Гарачыня і адзінота. Пішу дома. Ева з дзецьмі паехала на экскурсію ў Нясвіж. Адтуль у Мір, пераначуюць і заўтра вечарам павінны вярнуцца.*

*На рабоце таксама зацішша. Народ у адпачынках. Мне паабяцалі пуцёўку ў санаторый «Аксакаўшчына». Падрамантую трохі «матор». Адзін доктар некалі сказаў мне: «Запомніце — сэрца лечаць не лекамі, а жыццём. Дакладней, лечыць лад жыцця. Будзеце разумна жыць, будзе працаваць ваш «матор».*

***26 ліпеня, нядзеля.*** *Ноччу, як па заказу, прайшоў дождж, і зараз неба трохі замурзанае хмурынкамі.*

*Раніцай, не зважаючы на хмарнасць надвор'я, збегаў на возера. Люблю яго ўранні асабліва: мала людзей, чыстая вада і вясёлае сонейка. Праўда, сёння яно выбілася ненадоўга. Неба зноў нахмурылася. Плаваў са смакам. За возера паклон светлай памяці Машэраву: ён прабіваў Вілейска-Мінскую сістэму, дзякуючы ёй і ўтварылася гэтае возера. Вада з яго цячэ праз наш мікрараён — сапраўдная штучная рака ў горадзе. А гэта ж вельмі здорава! Бо наша Свіслач даўно хварэе. Мае рацыю Андрэй Сахута: галоўная праблема ў горадзе — экалогія.*

*Няма сёння гарачыні. Далі маху сіноптыкі: абяцалі плюс трыццаць. Учора так і было, а сёння ўсяго дваццаць два. Народная прыкмета аказалася больш праўдзівай: сонца заходзіла ўвечары ў хмару, і я сказаў: «Надвор'е пераменіцца». Здаецца, у Льва Талстога некалі чытаў, што будучыя пісьменнікі нічога не будуць прыдумляць, а пісаць тое, што ёсць насамрэч у жыцці. Сапраўды, сучаснае жыццё насычана падзеямі, прычым самага рознага кшталту, час ушчыльніўся — хуткасць рэактыўнага лайнера дазваляе за якую паўгадзіны з Мінска апынуцца ў Маскве. Калі такое было! Вядомы факт: Напалеон захапіў Маскву, а ў Казані пра гэта дачуліся праз два тыдні ад праезджага афіцэра. А што будзе далей?! Каб толькі людзі заставаліся людзьмі. І каб меней было «прагрэсу», пра які расказала наша роднеькае тэлебачанне. Дарэчы, само тэлебачанне — хіба гэта не цуд?*

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981 г.*

*6 жніўня. Брэст. Група маладых настаўнікаў нямецкай мовы школ вобласці адправілася ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку. Там яны сустрэнуцца са сваімі калегамі з Міншчыны і пачнуць навучальны год.*

*11 жніўня. Масква. Міністр замежных спраў СССР А. А. Грамыка накіраваў ліст генеральнаму сакратару ААН, у якім патрабуе не дапусціць мілітарызацыі космасу.*

*20 жніўня. Тры дні знаходзіўся ў Беларусі таварыш М. С. Гарбачоў. Ён знаёміўся з праблемамі ажыццяўлення Харчовай праграмы. Учора, 9 жніўня, член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў адбыў у Маскву.*

*26 жніўня. Ханой. Тут прайшоў масавы мітынг пратэсту супраць разгортвання ў ЗША вытворчасці нейтроннай зброі.*

## XIX

Позняй вераснёўскай раніцай Мацвей Сахута выйшаў з двара. На плячы нёс касу — у старой цыратавай торбе ляжалі мянташка, малаток і стары нямецкі кінжал. Лязо ягонае моцна зрэзалася, патанчэла пасярэдзіне, а каля абшарпанага тронка было яшчэ тоўстае. Колькі паскабліў бульбы, парэзаў каровам буракоў гэты стары кінжал! А колькі боханаў хлеба пакроіў! А было ў яго зусім іншае прызначэнне і ягоны ўладальнік, відаць, знайшоў сабе магілу ў хатыніцкай зямлі, а кінжал мірна служыць і зараз.

Дзень быў ветраны. Па-восеньску халаднаваты, калючы вецер дзьмуў з Бярозавага балота: там улетку заходзіла сонца, значыць, вецер зайшоў з паўночнага захаду. Прынясе ён, відаць, дождж, можа і захаладаць. Сахута выйшаў на гарод, акінуў паглядам перааранае бульбянішча, узараны лапік ячання. Вясною, як сеяў, не думаў, што так зародзіць сёлета ячмень, такі будзе роўны, густы. І жонка, і Марына хвалілі яго:

— Ну во, казаў, што пасеяць не зможаш. А еткі ячмень! Як лес густы. І каласы, як пранікі, — радавалася жонка Кацера, калі з Марынай жалі яго, а Мацвей састаўляў цяжкія, туга спавітыя снапы ў абабкі.

Потым сухія снапы склалі ў копку, накрылі, быццам каронаю ўвянчалі, жытнёвым кулем. Малацілі камбайнам, калі закончылі жніво ў саўгасе. І бульба сёлета ўрадзіла. Можна купіць на зіму двух малых парасят — дваім будзе цяплей, дружней будуць есці, расці навыперадкі. Збожжа ёсць, бульбы і буракоў хопіць, на кірмашы ў Саковічах трэба купіць парсючка і свіначку. Свіначку можна будзе закалоць раней, а парсючка гадаваць да зімы.

Настрой у старога быў добры. Улетку ён касіў сена сам, памог трохі ўнук Юрка. Аднойчы на выхадныя прыязджаў Андрэй. На касьбу ён спазніўся, сена было ў копах, памог прывезці, калоў са смакам дровы. За лета Мацвей Сахута трохі акрыяў, падужэў. Харчу хапала, малако і масла сваё, цяжка працаваць ужо не мог — як ні круці, дзевяты дзесятак. Дзякуй Богу, што яшчэ варушыцца памалу. Вось і сёння наважыўся схадзіць ажно ў Кандрашы, павыбіваць з кустоўя атавы. Каровы цяпер туды не ганяюць: хапае ім травы бліжэй, ды і дні ўжо кароткія. Кацера адгаворвала яго, каб не цягнуўся ў такую далеч, а Марына не пярэчыла:

— Ну, няхай сходзіць. Ты памалу касі. Па абедзе я прыйду. Вынесу на прагаліну. Можна адразу і прывезці. Дома дасушым. Граблі не бяры. І вілы, і граблі я прынясу, — сказала Марына.

— Каса і торба таксама груз. Хопіць з яго, — пазяхаючы, прашамкала Кацера.

На выгане Мацвея дагнаў Бравусаў на падводзе.

— Здароў, Мацвей Дзянісавіч! Сядайце, падвязу! — спыніў каня, падаў руку. — Далёка куды? Ды з касою. Хвакцічаскі, ці не позна ўжо?

— Ды не, Усцінавіч, яшчэ не позна. Во ў Кандрашы хачу схадзіць. Можа, атавы троху навыбіваю з кустоў?

— А чаму гэтым шляхам? — здзівіўся Бравусаў, бо добра ведаў хатыніцкія сцежкі-дарожкі.

— Дык жа за Юрліўцам жыта пасеялі. І дарожку між поля зааралі. Вунь ужо рунь зелянеець, — Сахута паказаў рукою на вялікае поле за Упрочным ровам, а за жытнёвым палеткам цямнеўся чубок алешніку — то і былі балоцістыя Кандрашы. — А сам куды сабраўся?

— У Вішнёўку. Прыязджаў днямі Крупадзёраў. Кажа, ты ж, хвакцічаскі, памог бульбу выкапаць. Ну, я канём ездзіў. Разагнаў баразёнкі. Дык ён хоча аддзячыць. Возьмеш, кажа, пару мяхоў дробнай бульбы для свіней. Ну, дык во і выбраўся, — апавядаў Бравусаў, калі яны ўжо сядзелі поплеч на возе.

— Ты ж мог тут павярнуць налева. Бліжэй, — сказаў Сахута, маўляў, і ты едзеш укругавую.

— Нічога, як гавораць людзі, для старца — міля не круг. Далей павярну. Ад Бярозавага балота якраз на бальшак выскачу. На Саковіцкі шлях. Ета ж я да сватоў заязджаў. Ды нешта няма нікога. Свата і ў сельсавеце не было. Можа, у раён паехаў.

— Сваццямабыць, у краму пайшла.

— Як сабе хоча. Хвакцічаскі, дажыдаць яе няма калі. Дарога няблізкая. А дні цяперыцька кароткія, як авечы хвосцік, — Бравусаў ніжэй нацягнуў на лоб палінялую фуражку, сцёбнуў пугай каня.

Неўзабаве пад'ехалі да паваροткі. Сахута падзякаваў Бравусаву і развітаўся. Кожнага чакаў свой клопат. Калі ў старога Сахуты ён быў звычайны, спрадвечны, то ў Бравусава мелася свая таямніца: ад Бярозавага балота ён рэзка паверне ўлева на Мамонаўку-Парцюкоўку — карціць пабачыцца з Просяй Варонінай, спадзяецца застаць яе дома, бо куды можа падзецца жанчына-пенсіянерка. Цяпер не забавіцца ў яе, дамовіцца на вечар. Вось тады, калі будзе вяртацца, можна будзе і затрымацца на якую гадзіну, а то і да раніцы, бо не бачыліся яны ад самай вясны. Засумаваў былы ўчастковы па сваёй палюбоўніцы. І бульбы мех можа ёй пакінуць, бо ў яго сваёй хапае.

Ці мог ён нават падумаць тады, улетку сорак трэцяга, калі з групай партызанаў ехаў праз Бярозавае балота арыштоўваць паліцая Вароніна, што потым яго жонка стане гэткай прысухай. Варонін тады ўцёк, хоць яны і паранілі яго. Просю з дзецьмі напалохалі. Бравусаў крычаў, што яе трэба паставіць да сценкі, але старэйшыя адгаварылі яго, гарачага і бязлітаснага камандзіра партызанскага ўзвода.

Вядома ж, Прося памятала ягоную лютасць, але адно здарэнне прымусіла яе змяніць гнеў на міласць. А было вось як. Свідэрскі прымусіў участковага скласці акт на Просю за самагонку. З гэтым актам Бравусаў і заявіўся ў раён да пракурора Ясючэні, але той завярнуў акт, маўляў, складзены не па форме, няграматна. Прося палічыла сваё выратаванне міласцю Бравусава і з таго часу пачала пазіраць на ўчастковага зусім іншымі вачамі. І гэтага Бравусаў не мог не заўважыць, аднойчы заначаваў у яе. Тады і пачалося іхняе каханне.

У кожнай навакольнай вёсцы ў Бравусава была свая каханка: удовы ды адзінокія жанчыны. Замужніх Бравусаў абыходзіў, хоць некаторыя з іх звабліва паглядалі на блішчастыя пагоны ўчастковага. Толькі з Марынай Сахутай выйшла ў яго асечка.

Цяпер, калі ўзгадваў Марыну, заўсёды лаяў яе ў душы: змарнавала сваё жыццё і памрэ, не зведаўшы мужчынскай ласкі. А была такая прыгожая дзяўчына! Назаўсёды запомнілася, як ён прыехаў у бальніцу сказаць, што ўвечары падвязе яе з дзяжурства. Яна выйшла ў белым халаце, зграбная, прыгожая, у сініх вачах стаялі слёзы: у той дзень утапіўся ў Бесядзі малы хлапчук, вярнуць да жыцця яго не змаглі. І гэтыя сінія вочы ў слязах узбунтавалі ягоную душу.

Але і ў той вечар Марына не далася яму на возе, і яны канчаткова пасварыліся. А неўзабаве Бравусаў ажаніўся — падкацілася Тамара, сказала, што цяжарная, хоць дзіця нарадзілася пазней, чым праз дзевяць месяцаў: абдурыла, зацугляла ўчастковага звычайная малаадукаваная і не дужа прыгожая дзяўчына. І таму, калі пачуў нядаўна пры сустрэчы ля Бесядзі ад Марыны, што і ён падабаўся ёй, аж заскрыгатаў зубамі: чаму і сябе, і яго пазбавіла шчасця і кахання?

Вось і Бярозавае балота. Выплыў з памяці той незабыўны дзень, калі ехалі да паліцая Вароніна. Маглі ж кокнуць Просю з двума дзецьмі. Тры бязвінныя ахвяры, Бравусаў атрымаў бы чарговы медаль, а можа, і ордэн за храбрасць. А ці ж гэта храбрасць? Якое шчасце, што адгаварылі яго... Прося аднойчы пасля гарачых абдымкаў і пацалункаў заікнулася, што памятае, як ён грозіўся паставіць яе да сценкі... Бравусаў не даў дакончыць: «Радзі Бога, не ўспамінай, не вярэдзь душу». Болей яна ніколі не ўзгадвала пра той дзень... І сёння ён заедзе, калі ўдасца захапіць яе дома і дамовіцца аб сустрэчы, а ўвечары яна будзе прагна лашчыць яго, і ім удваіх будзе добра.

Бравусаў пад'ехаў да павароткі. Прыкладна ў гэтым месцы яны дагналі ў той дзень хлопца, які вёз сена, спыталі, дзе жыве Варонін, як праехаць у Мамонаўку. Хлопец адказаў не адразу, спалохана азіраўся вакол. Бравусаў прыстрашыў яго вінтоўкай. А цяпер гэты хлопец — старшыня сельсавета, дарагі сваток Іван Ягоравіч Сырадоеў, у іх і ўнучак ужо ёсць. А маглі ж здуру тады кокнуць: ах, ты не хочаш паказаць, дзе жыве паліцай? Вось табе! Піф-пах! І ніхто б не разбіраўся. Вайна. Хто не з намі, той супраць...

Пасля павароткі Бравусаў тузануў каня, сцёбнуў пугай і неўзабаве спыніўся каля Просінай хаты. На вуліцы нікога не было відаць, але ён па звычцы, нібы злодзей, агледзеўся. Прося ўзрадавалася, сказала, што ўвечары будзе чакаць.

— Дранікі будуць? — ухмыльнуўся Бравусаў.

— Магу спячы. Са шкваркамі. Бульбы сёлета, дзякаваць Богу, накапала ладнай. Хопіць на ўсю зіму.

Задаволены адказам, Бравусаў абняў Просю, моцна, са смакам, як у маладыя гады, пацалаваў і крутнуўся за парог.

Да Вішнёўкі даехаў хутка, хоць і не спяшаўся. Прывязаў каня за грушу-дзічку, што расла ля хаты Крупадзёрава. Зноў зірнуў на высокія глухія вароты, на паркан, усміхнуўся: «Ад каго еты чалавек адгарадзіўся? На шпакоўню-прыбіральню дошак не хапіла. А тут не пашкадаваў. Дзівак». Бравусаў адчыніў дзверы, пафарбаваныя ў густа карычневы колер.

Насустрач выйшаў з хлява гаспадар, высокі, сутулы, у старой, зашмаль-

цаванай куфайцы, падаў шырокую далонь. Бравусаў перад выездам з дому пагаліўся, наадэкалоніўся «шыпрам», таму адразу ўлавіў смуродны пах ад Крупадзёрава.

— Я ўжо цябе дажыдаю. Мяхі прывёз? — хрыплаватым голасам праскрыпеў Крупадзёраў. — А то ў мяне дзіхвіцыт на тару.

— Прывёз. На возе. Ужо браць? — Бравусаў разлічваў, што яны пасядзяць, пагамоняць, як даўнія сябрукі.

— Бяры. Насыплем. А тады пасядзім, перакусім, — Крупадзёраў павярнуўся і патупаў у глыбіню двара.

Бравусаў заўважыў, што гаспадар яшчэ болей схуднеў, неяк згорбіўся, ягоная старэчая шыя пабілася маршчынамі-баразёнкамі, ёй было нязручна ў каўняры палінялай клятчастай кашулі.

Пад паветкай, прыкрытая саломаю, высілася невялікая куча бульбы. Паднядзеленаму Бравусаву не хацелася пэцкаць рукі, бліскучыя хромавыя боты, парадныя галіфэ.

— Ты, братка, выхранціўся, як на спатканне, — ухмыльнуўся Крупадзёраў, паказаўшы два буйныя, нібы ў каня, жоўтыя зубы.

— Ну, я ж, хвакцічаскі, выехаў на людзі. У Хатынічах да свата, заязджаў. Ты ж помніш фінагента Сырадоева? Ён цяперыцька мой сват, старшыня сельсавета. Сын мой ажаніўся з яго дачкой. Ды я і дома ўсякія лахманы не нашу.

Крупадзёраў незалюбіў апошнюю фразу, падціснуў сухія, тонкія вусны, моўчкі пачаў набіраць бульбу ў кош. Бравусаў трымаў мех, а Крупадзёраў высыпаў, перад гэтым ён моцна страсянуў поўны пош, каб вытрасці сухую зямлю, якая наліпла да бульбы. Моўчкі яны насыпалі два мяхі, завязалі іх. Крупадзёраў шырокімі далонямі паляпаў па куфайцы, атрасаючы з яе пыл, пясок.

— А можа, яшчэ насыплем? — зірнуў на Бравусава.

— Не, Павел Іванавіч, хопіць. Сваёй драбязы багата. І буйной накапалі ладна. Сёлета, хвакцічаскі, спрыяльны год.

І слова «драбяза» таксама не спадабалася Крупадзёраву — намёк, што ён кепскі гаспадар і бульба ў яго дробная.

Потым яны абедалі. На стале стаялі літровы слоік мутнаватага пітва, міска салёных гуркоў, чыгунок бульбы і патэльня яешні. Талерак у доме не было — іх замянялі невялікія алюміневыя міскі. У адной з місак жаўцелі нарэзаныя кавалкі тонкага сала.

Крупадзёраў угрэўся, зняў куфайку, цяпер яшчэ мацней вытыркаліся з-пад кашулі худыя, вострыя плечы. Гэта адразу кінулася ў вочы госцю. Бо ён памятаў Крупадзёрава магутным здаравяком, якога баяўся ўвесь раён. Ад ягоных кулакоў трашчалі сельсавецкія сталы. У вёсцы, куды ён прыязджаў, адразу павялічвалася здача малака, мяса, яек, воўны. Выціскаць падаткі ён быў мастак адмысловы.

— А дзе ж твая жонка? Ты ж казаў, што прывёў бабу, — пацікавіўся госць.

— Катанула ў Мугулёў. Да сына. Унукі ж там ёсць. Ейны сын, ейныя ўнукі, — уздыхнуў Крупадзёраў.

— А твае дзеці далёка?

— Далёка. Сын у Данецку, дачка ў Карагандзе. Мая ж тады скурвілася. Ну, як мяне ўпяклі ў цюрагу... Ждаць жа яна не захацела. Шахцёр тут з суседняй вёскі звёз яе ў Данецк. Бабы ёсць бабы, Усцінавіч, сам ведаеш. Пасля вайны галадалі людзі. Я тож, бывала, скарынкай хлеба ды цыбуль-

кай закусваў. А сям'ю забяспечваў. Ну, вот яна і аддзячыла. Тваю маць, шкура барабанная, — на шчаціністым твары Крупадзёрава цяжка варухнуліся жаўлакі, сутаргава сціснуўся «жалезны» кулак скалечанай рукі.

— Што ж ты хацеў? Каб яна дзесяць гадоў, хвакцічаскі, пасцілася? Ды калі прывыкла да скаромнага харчу.

— Ну, хай сама скруцілася. Дык жа і дзяцей супраць мяне наштрапаліла. Сын ужо ведаў, хто я такі. Яму было трынаццаць, як са мною бяда надарылася. Цяперыцька ўжо сорак пяць. Неяк прыязджаў. А дачка і вачэй не паказвае... Ат, свалачное жыццё. Давай вып'ем.

Наліў самагонкі ў мутныя шклянкі.

— Давай за нашых дзяцей. Мой сын, таксама Валодзька, ужо дырэктар школы ў Белай Гары. Яму трыццаць пяць. Саўсім яшчэ малады. Жонка ў яго дачка Сырадоева...

— Ты ўжо казаў пра ета. Помню я Сырадоева. Шустры, вёрткі быў фінагент. Добра, давай за дзяцей. Хай і маім ікнецца...

Кульнулі шклянкі, захрумсталі гуркамі.

— Як ты мог тады пагарэць? Вопытны, мацёры воўк.

— Ат, па дурасці. Круглікаў падвёў, сабака. Ды і я троху зарваўся. У мяне ж была страшэнна вялікая ўласць у раёне. Старшыня райвыканкома для мяне не начальнік. Толькі першы сакратар па партыйнай лініі. Што ты!? Упаўнаважаны Наркамата СССР! У сорак чацвёртым Мінск яшчэ быў пад немцамі, а я пачаў у Лабанаўцы кіраваць. Кантору будаваў у самым цэнтры... У цябе, Усцінавіч, колькі класаў?

— Сем. Яшчэ да вайны скончыў.

— А ведаеш, колькі ў мяне?

— Ну, сем. Мусіць, болей. Ты ж раённы начальнік.

— Ого! Каб сем ці болей. Я б у Мінску быў. А ў Мугулёве дык ета точна. Вучыўся я, браток, у школе ўсяго адну зіму. Адзін клас...

— Як адзін? Чаму? А далей дзе вучыўся?

— Далей, Усінавіч, вучыла жыццё. Улетку зламаў руку. Сена таптаў на возе. Бацька падаваў. Конь тузануў. Я зваліўся і правая рука пад кола. Толькі хруснула... Чатыры месяцы ў бальніцы. Пасвіў авечак. За сем пудоў збожжа. Бацька сказаў: заробіш хлеб — куплю чабаты. Хромавыя. Авечак адпасвіў, сем пудоў далі. На боты не хапіла. Зіму праседзеў дома. Пісаць правай не мог. А левай не навучыўся. Так і пакацілася. Улетку каровы, авечкі, а зімой брындаў па вёсцы. Каля дзевак аціраўся. Кніжкі чытаў. Стаў сакратаром камсамольскай ячэйкі. Тут, у Вішнёўцы. Прыйшоў да настаўніцы, кажу: «Дайце мне паперку, што я скончыў чатыры класы». А яна: «О, не, Паўлічак, не маем права». Надавала мне кніг. Усю зіму чытаў. Вясною здаў экзамены за пачатковую школу. А потым, як стаў старшынёй сельсавета ў Бярозаўцы, у анкетах пачаў пісаць: скончыў шэсць класаў. Напішы сем, дык трэба мець атэстат. Вылучылі намеснікам упаўнаважанага па нарыхтоўках. Паслалі ў Мугулёў на курсы партыйна-савецкага актыву. Спярша сядзеў там, як мыш пад венікам. А потым агледзеўся, асвойтаўся, распетушыўся. Атрымаў пасведчанне. Курсы етыя потым заўсягды выручалі...

Бравусаў слухаў і не верыў сваім вушам: гэты апушчонік, няголены, бяззубы, колішні махляр і злодзей, быў вялікім начальнікам. І ён, Бравусаў, баяўся, калі Крупадзёраў прыязджаў у сельсавет.

— Суровы быў час, Усцінавіч. Суровыя інструкцыі дасылалі прама з Масквы. Давай малако, мяса, яйкі, воўну, скуры. Лупілі па сем шкур з мужыка. Беднага, голага, галоднага..

— Цяпер ты шкадуеш. А тады, хвакцічаскі, здзікаўся над людзьмі, як хацеў.

— А ты не здзікаўся? Мала за самагонку пасадзіў? Пацюпу забыў? Той здуру забедаваў у цюрме і загнуўся праз які год. Дзеці сіраты засталіся. А на мяне бочкі коціш.

— Я не садзіў. Студзянцоў прымусіў акт скласці. Я жалеў людзей.

— Ат, ведаю, як ты жалеў. Цяпер ты не апраўдвайся. Абое рабое. Не даваў бы я план, вытурылі б. Другога прыслалі. А я ў перадавіках хадзіў. Бывала, Акапян, першы сакратар райкома партыі, здаля руку мне цягне. «Павел Іванавіч, душа любезны, будзе план?» А што я скажу? «Будзе, Сяргей Хачатуравіч!» І план быў. Прэміі атрымлівалі. А Круглікаў?.. Помніш яго?

— Чаму ж не? Помню, як аблупленага ведаў.

— Памёр, бедалага. Давай, памянем Круглікава. Хоць праз яго ў цюрагу загрымеў. Хрэн з ім... І мая жысць ні к чорту... Век зжыў, як мех сшыў. А мех дзіравы. Ну, будзь здароў!

Кульнулі шклянкі. Закусілі. Бравусаў адчуў, што галава ўжо наліваецца гарачынёю, паўшчуваў сябе, вырашыў піць меней, бо Прося чакае. Не хацелася тут сядзець і піць смярдзючую самагонку, слухаць слязлівую споведзь турэмшчыка, злодзея і прайдзісвета. Душа ўчастковага інспектара міліцыі, які сурова вынішчаў махляроў, самагоншчыкаў, паўставала супраць. Але на дварэ яшчэ было відна, а да Просі лепей заехаць прыцемкам. Гэтая акалічнасць і адыграла ракавую ролю...

Бравусаў тым часам выйшаў на двор, завярнуў за пуню, шукаючы прыбіральню, але ўзгадаў, што яе няма — сам гаспадар ходзіць у хлеў, каб гною было болей. Давялося спусціць галіфэ пад вішнямі...

У галаве настойліва білася думка: хто ж намі кіраваў? Падкінуў каню сена, зірнуў на гадзіннік, па звычцы агледзеўся: нідзе нікога.

Увайшоў у хату. Гаспадар сядзеў за сталом, слоік быў напоўнены да верху. Бравусаў гэта ўсёк і загадаў сабе: піць толькі для прыліку, каб яшчэ якую гадзіну пасядзець.

Крупадзёраў наліў леваю рукою, як ён гаварыў, «стыканы», але падняць іх не паспелі — ля варот зарыкала карова.

— Пайду заганю Чарнаву. Уцячэ, тады з сабакам не знойдзеш. — Гаспадар цяжка падняўся, патупаў да парога. Бравусаў скарыстаў момант — выліў пад печ гарэлку, наліў сабе вады.

Крупадзёраў неўзабаве вярнуўся. Расчырванелы, скуласты твар ягоны наліўся нездаровай чырванню — мусіць, падняўся ціск. Вочы з чырвонымі павекамі масляніста блішчэлі.

— Давай, Усцінавіч, вып'ем, — і кульнуў поўную шклянку.

Бравусаў выпіў да паловы шклянкі, з разлікам, каб хапіла яшчэ на адзін раз, хоць гэта і была вада.

— А што ты не дапіваеш? Ты ж маладзейшы, здаравейшы... Хаця, можа, і правільна. І я ўжо стаміўся піць, абрыдла жыць... Мусіць, сваю цыстэрну выжлукціў ужо, — памаўчаў, пасмактаў салёны гурок, потым памусоліў бяззубым ротам шматок жоўтага сала. — Які гад еты Арцём. Так рана прыгнаў кароў. Рыкае на ўвесь хлеў. Галодная. Я ім тожа напасу! Выганю на пару гадзін, ды і д-да-моў, — заікаючыся, лаяў Крупадзёраў суседа Арцёма.

— Ну, а чаму б табе не напасвіць кароў як след? Паказаць суседзям, як трэба. Не заядайся з людзьмі, — праўдалюбец Бравусаў узяўся павучаць

суразмоўніка. — Я такі хвакт табе раскажу. Быў у Хатынічах стараста Куцай-Гарнец. Пасля вайны яго пасадзілі. Таксама дзесятку далі. Вярнуўся. Дык, бывала, едзе па вёсцы, дзяцей насадзіць поўны воз. Цукеркі ім дае. Едзе павольна, каб усе бачылі, які ён добранькі.

— Ты што? Мяне з паліцаем раўняеш? Ты сядзіш у маёй хаце. Маю гарэлку п'еш. Ах ты, тваю маць! — узбурыўся Крупадзёраў.

— Заткніся ты са сваёй ванючай гарэлкай! Чаго ты раскрычаўся? Я табе хвакт прывёў...

— Ты мяне з паліцаем не раўняй. Я ўпаўнамочаны Наркамата СССР! А ты — гаўнюк!

— Я капітан міліцыі. Не дазволю злодзеям зневажаць мяне, — падхапіўся Бравусаў.

— Я раённы начальнік... Упаўнамочаны. Не дазволю, каб нейкі шчан-юю-к здзікаў-ся тута, — зароў Крупадзёраў, сціснуў кулакі. Левая рука Крупадзёрава пацягнулася да нажа, але Бравусаў апярэдзіў, скінуў нож на падлогу, «жалезная» рука тады ўхапіла яго за штофлі кіцеля. Бравусаў перахапіў яе, моцна сціснуў, завучаным прыёмам заламаў за спіну, аж нешта хруснула. Крупадзёраў заенчыў ад болю, ірвануўся з усёй сілы, стукнуў участковага нагою ў пах. Той застагнаў ад болю, мёртвай хваткай ухапіў Крупадзёрава за горла...

Яны счапіліся, нібы два павукі ў слоіку. Доўга тузаліся, пакуль Крупадзёраў, быццам мяшок, не асеў на падлогу, захрыпеў, сутаргава сціснуліся і аслаблі рукі, пусціў пад сябе лужу.

— Ах, падонак ванючы... Ты цяперыцька поўнасцю намочаны, — хаўкаючы ротам, як рыбіна на пяску, мармытаў Бравусаў. — Але ж ён канае, хвакцічаскі...

Участковы пазіраў на распластанае даўжэзнае цела і з жахам прыкмячаў, што ягоны хаўруснік па застоллі не дыхае, а п'яныя вочы невідушча глядзяць у закапцелую столь. Бравусаў лінуў са шклянкі рэшту вады ў твар Крупадзёрава, узяў левую руку, тую самую, «жалезную», сціснуў у запясці — пульс не праслухваўся.

«Што ж я нарабіў? Ён жа сканаў...» — хмель імгненна выветрыўся з галавы ўчастковага, думка ліхаманкава працавала: узваліць на воз, прыцемкам завезці і скінуць у Бесядзь. Пачнуць шукаць, знойдуць... Эксперты ўстановяць, што задушаны... Мацвей Сахута ведае, што я сюды паехаў. Жонка, Прося... Закапаць? Дзе, куды? Зноў шукаць будуць...»

У хляве зарыкала карова, Бравусаў аж здрыгануўся, ціхком, бы злодзей, вытыркнуўся за вароты. Неба нахмурылася, увачавідкі цямнела. Пачынаўся дробны, халодны дождж. Ён падумаў, што гэта добра, меней сведак, меней людзі шастаюць дажджом па вуліцы. Раптам яму так заманулася ўцячы адсюль. Сесці на воз, накрыцца плашчом з галавою, каб твару не было відаць, і паімчаць да Просі. Не, да Просі нельга, хутчэй дамоў, каб толькі сцямнела... Карова зноў зарыкала і нібы пугаю сцебанула Бравусава: трэба хутчэй шукаць выйсце! Раптам вернецца ягоная жонка — тады прапаў. Але не, сказаў, што прыедзе праз тры дні, толькі ўчора паехала... А можа, павесіць яго? Запіску пакінуць. Сам сябе... Гэта адзінае выйсце. Пад паветкаю, калі насыпалі бульбу, зглядзеў вяроўку. Крутнуўся ў хату. З жахам зірнуў на распластанае цела. Крануў за руку — яна была ўжо халодная... Ліхаманкава пачаў шукаць ручку ці аловак. Напісаць сваёю ручкаю не адважыўся: тады яе трэба пакінуць на стале. Знайшоў агрызак хімічнага алоўка, выдраў аркуш з пажаўцелага школьнага сшытка. Хацеў

паслініць аловак, але спахапіўся: сліна — уліка. Памачаў у ваду, буйнымі літарамі нашкрэбаў: «Прашчай жонка дзеці унукі Жысць мая абрыдла В маей смерци никога не виниця Я сам сябе даканав. Павел».

Прынёс вяроўку, знайшоў табурэт, намацаў тоўсты цвік на бэльцы. Пакуль ён зрабіў сваю жудасную справу, у хаце ацямнела. Святла не ўключаў. Кінуўся прыбіраць лішні посуд, пакінуў адну шклянку, адзін відэлец. Прыкінуў, што ў слоіку замнога гарэлкі, дастаў насоўку, абгарнуў слоік, тады наліў сваю шклянку амаль поўную, прашаптаў: «Даруй, Павел. Я не хацеў. Бог таму сведка. Ты першы пачаў. Нож хацеў схапіць. Каб празяваў, ты б мяне прырэзаў. Стукнуў балюча. Сам вінаваты... Даруй».

Няўмела перахрысціўся — упершыню за дарослае жыццё. Адным духам асушыў шклянку, спаласнуў вадою, паставіў у буфет. Потым задам сунуўся да дзвярэй. У адной руцэ трымаў фуражку, у другой — анучу, якую заціраў свае сляды. «Добра, што на вуліцы дождж», — мільганула ў затуманенай гарэлкаю галаве. Ужо адвязаў каня, тады спахапіўся: бульба стаіць, трэба ўзяць. Мяхі былі вельмі цяжкія. Даўно ведаў, што мех дробнай бульбы нашмат цяжэй, чымся мех буйной, але не думаў, каб настолькі. Страх падганяў, прыдаваў сілы. Ускінуў мяхі на воз, накрыўся плашчом, тузануў за лейцы. Застаялы конь ахвотна патрусіў дамоў.

Мокры, адубелы ад халоднага ветру — не сагрэла і «аглаблёвая» шклянка, ён уваліўся ў хату. Тамара глядзела тэлевізар, гукнула з другой хаты:

— Што ты так запазніўся? Цягаешся поначы дажджом.

— А, хай яго ліха. Не мог вырвацца раней. Яму ж там і пагаварыць няма з кім. А ў дарозе гуж лопнуў. Пакуль звязаў... Куды бульбу дзяваць? Намокла яна.

— Можа, у сенцах пастаў. Заўтра пасушым.

Ён выйшаў, але неўзабаве вярнуўся.

— Здаецца, і піў мала. Можа, з'еў нешта? Ён кансерву нейкую паставіў. Баюся, што выташніць. Нейк млосна. — Ён выпіў вады, сеў на табурэт ля парога. — Памажы бульбу згрузіць. Узяўся за мех, дык у спіну стрэльнула.

Тамара неахвотна ўскінула на плечы куфайку, усунула ногі ў галёшы, наблізілася да яго.

— Фу, чым ад цябе гэтак пахне? Як з бочкі ванючай. Што ты там піў? І што еў? Не трэба да яго ездзіць. Таварыша знайшоў..

— Ён мяне знайшоў. А не я яго, — у гэтыя словы Бравусаў укладваў свой, аднаму яму вядомы сэнс.

Спарадкавалі бульбу. Тамара зноў села каля тэлевізара. Ён паставіў у пуню каня, кінуў яму сена. У галаве ўвесь час раіліся думкі, а ўвушшу нібы застыла каровіна рыканне. Можа, хто ўжо зайшоў у хату? Але не, святла няма, ніхто не пойдзе. Заўтра знойдуць яго... А што мне будзе? Турмы ён не баяўся. Не шкадаваў Крупадзёрава. Нават мільганула думка: ён адпомсціў упаўнамочанаму за людскія пакуты. А вось дзяцей шкадаваў. Сыну будзе сорамна. Усё-ткі дырэктар школы...

У роце перасохла. Бравусаў патупаў у прымыльнік. Там была прыхавана пачатая пляшка гарэлкі. Адшукаў, прагна каўтнуў. Адчуў, як пацяплела ўнутры. Яшчэ каўтнуў. Потым яшчэ. Піў, пакуль не асушыў да дна. «Эх, каб цяпер памыцца ў лазні. Змыць з сябе ўвесь бруд...» Але сілы на гэта не было, ды і позні восенькі вечар на дварэ. У хаце Бравусаў старанна вымыў рукі, твар, нават пачысціў зубы, што рабіў даволі рэдка, і заваліўся спаць.

Усю ноч яму сніліся кашмарныя сны. Прачнуўся з цяжкой галавой. У хаце яшчэ было цёмна. І першая думка: як там? Калі яго знойдуць? Будуць

выганяць кароў, ягоная пачне рыкаць яшчэ мацней. Можа, той Арцём, якога Ён з такой злосцю лаяў, і знойдзе... Бравусаў узгадаў, што ноччу яму снілася, быццам за ім ганяўся разлютаваны бык, гучна рыкала карова... Захацелася напіцца вады, ледзьве адарваў галаву ад падушкі, але ўстаць не мог: у спіну стрэльнула, ад болю назад адкінуўся, паспрабаваў павярнуцца — таксама не змог, спіну быццам прыкаваў хто да ложка. Можа, зрушыў яе, як цягнуў яго, мільганула думка, ці як бульбу грузіў. Але ж ці мала ён перацягаў мяхоў? А можа, прастыў? Дождж, халадэча. Радыкуліт яго асабліва не турбаваў раней. Толькі аднойчы, калі цалюткі дзень зімой вазіў дровы, назаўтра балела спіна. Тамара націрала гарэлкай, а потым ён лашчыў жонку. І было ім горача, нават боль у спіне адступаў перад спрадвечнай жарсцю... А тут жа немагчыма павярнуцца. Але не гэты боль турбаваў яго. Радыкуліт пройдзе. Тамара натрэ спіну, ён паляжыць дзень-другі — ачуняе. Праўда, і ў паху баліць, моцна ён убрыкнуў. Але і гэта пройдзе. А вось калі ўпякуць у цюрагу, гэта горш.

Загаварыла радыё — на кухні яго ніколі не выключалі, адно прыцішалі гук. Пачуў, што паднялася Тамара, пратэпала ў пакой. Паклікаў яе:

— Што-та не магу падняцца. Быццам шворан у спіне. Ні павярнуцца, ні сагнуцца...

— Ты ноччу трызніў. Нешта гаманіў, крычаў, стагнаў. Дос табе піць. А то кончышся. Ляжаш спаць і не ўстанеш. Можа, давай натру спіну? Ці, можа, грэлку падкласці?

— Добра. Давай грэлку.

Праз нейкі час Тамара прынесла грэлку, сяк-так падсунула пад мужаву паясніцу. Ён адчуў прыемную мяккую цеплыню, сказаў:

— Тамара, ты вось што... Ну, не кажы нікому, што я ездзіў да Крупадзёрава. Пасля чаркі ён прызнаўся, што накраў, хвакцічаскі, бульбы ў калгасе. Я не хацеў браць. Ён кажа: не, ета з майго гароду. А ўчора ты нікому не казала, дзе я? Куды паехаў...

— Ды не. Ніхто да нас не заходзіў. Усё! Болей, каб ты да яго не ездзіў. Ні нагою! Знайшоў друга.

— Добра. Болей не паеду, — ахвотна пагадзіўся Бравусаў. — А радыкуліт... Калі хто спытае, каня шукаў. Прамок. Прастыў.

— Каму якое дзела? Чаго ты так баішся? Як галава? Палягчэла?

— Галава, як на ёй ячмень змалацілі. Нічога, адпусціць. Налі мне грамаў дваццаць. Каб душу прывязаць і галаву палячыць.

Тамара моўчкі пасунулася ў сенцы. А ў галаве Бравусава білася думка не пра выпіўку: значыць, ведаюць толькі Сахута і Прося. Але хто ў іх будзе пытацца? У газеце ж, можа, не напішуць пра Яго? А калі і напішуць, дык няскора.

Пасля чаркі ён супакоіўся, зноў задрамаў.

Амаль тыдзень пракачаўся ў ложку Бравусаў. Радыкуліт памалу адпускаў. Тамара націрала спіну першаком, а ў рот не давала ні кроплі. І ён не настойваў, хоць і вельмі хацелася. А ўваччу стаяла, як выпівае поўную шклянку Крупадзёраў. Ці мог ён падумаць, што гэта апошняя ў жыцці?

Бравусаў усё чакаў, прыслухоўваўся, ці не загудзе каля дома машына. Вядома, якая — міліцэйскі «газік». Але ніхто не паяўляўся. Заходзіў сын, распытваў, што, як, расказаў пра школьныя навіны — іншых навінаў у яго не было. Бацька супакоіў яго: чуецца лепш, ужо можа ўстаць, вось-вось пойдзе.

Сын доўга не затрымаўся, бо заўтра збіраўся ехаць у раён на нараду.

З прыхаваным хваляваннем чакаў Бравусаў вяртання сына з раёна.

Карцела патэлефанаваць новаму ўчастковаму, але стрымліваў сябе, каб не выклікаць падазрэння, ды неяк раней зрабіў яму заўвагу, той закапыліў губу, надзьмуўся, як сыч, буркнуў:

— Я сам разбяруся. Цяпер не той час. Усё мяняецца.

А сыну пазваніў увечары, не стрымаўся. Той ужо быў дома. Распытаў, як прайшла нарада, якія навіны ў райцэнтры. Сын коратка адказаў:

— Нічога асаблівага. Звычайная гаварыльня. І навінаў няма. Як тваё здароўе?

— Ды ўсё, хвакцічаскі, нармальна, — бадзёра адказаў бацька.

Усё і сапраўды «нармальна»: прамінула восем дзён, ніхто да Бравусава не прыехаў, пра смерць Крупадзёрава — нідзе ні гуку.

«Паверылі. Закапалі, як сабаку. Хто пра яго будзе пісаць? Каму будуць спачуваць? У яго тут няма нікога. Вось табе і вялікі начальнік. Махляр і злодзей...»

Бравусаў канчаткова супакоіўся. Ноччу прылашчыў Тамару. Раніцай старанна пагаліўся. Разглядаў сябе ў люстэрка прыдзірліва, быццам шукаў перамены ў сваім абліччы: як ні круці, а ён забойца, хай сабе не зламыснік, ён абараняўся, але ж, хвакцічаскі, справадзіў на той свет чалавека. Хай нялюдскага, але ж чалавека, некалі гэткага грознага начальніка... Раптам заўважыў, што скроні яго зусім сівыя, раней сівізна прабівалася зрэдку.

«Ну што ж, зіма на парозе, — разважаў Бравусаў, — вось і прыцерушыла, але яшчэ малады. Усяго пяцьдзесят восем. Мог даўно загнуцца, а я жывы. Мабыць, лёсам наканавана загубіць чалавека. Просю не далі паставіць да сценкі. Рацэева ўзяў на мушку... Апярэдзіў нямецкі снарад. І то сніўся часта з пашкамутанымі вантробамі. А Крупадзёраў і не сніцца. Сам вінаваты. І гарэлка яго ванючая. Адна Прося падазраваць можа. Сахута, мусіць, яшчэ не ведае, што Крупадзёрава няма. Можа, і не даведацца. Стары, мала дзе бывае. Трэба з'ездзіць у Хатынічы, пранюхаць. Пагамані́ць са сватам. Унука пабачыць. Наконт работы параіцца. І не ў сельсавеце, а дома, за бяседным сталом, па-сваяцку. Работу варта падшукаць. Дома нічога не выседзіш.

І яшчэ мільганула думка: трэба заехаць да Просі, яна, бедная, так чакала яго тады, пэўна, дранікаў напякла. Яму падалося, што чуе пах і смак гарачых Просіных дранікаў са скваркамі. А калі спытае, чаму не прыехаў, скажа, што перапіў, запазніўся, дождж пайшоў. Можна яшчэ нешта прыдумаць. Раптам спахапіўся: «Просі трэба засцерагацца — толькі яна можа падазраваць, бо помніць яго раз'ятранага, бязлітаснага, з таго далёкага сорак трэцяга...»

Не мог ведаць тады Уладзімір Бравусаў, якія душэўныя пакуты, якая расплата чакаюць яго.

## XX

Мабыць, ніколі ў жыцці Пятро Махавікоў не чакаў адпачынку з гэткім нецярпеннем, як на гэты раз. Надакучылі планёркі, лятучкі, рэдсаветы, стаміла штодзённая чаканне: недзе заўсёды нешта сарвецца — запіс ці мантаж перадачы, якая ўжо стаіць у праграме. Клопатаў і тлуму хапала і зімою, і вясною, але асабліва турботным выдалася лета. І вось нарэшце пуцёўка ў кішэні. Санаторый недалёка ад Мінска, у лесе.

Пятро ўжо развітаўся са сваімі памочнікамі, даў даручэнні намесніку, які будзе замяняць яго. Дырэктар праграм, «більярдны шар», паабяцаў дапамагчы з машынай, каб выехаць у санаторый, але па абедзе яго выклікалі

ў ЦК, і ён сказаў Пятру: «Пазваніце ў канцы дня і дамовімся». Пятро ўжо ў каторы раз тэлефанаваў, але ніхто не адказваў. Усе паперы ён перагледзеў, усё лішняе выкінуў. Каб прабавіць час, узяўся чытаць свой кандуіт, які насіў з сабою ў дыпламаце.

***1 жніўня.*** *Зноў субота, зноў пішу на рабоце. Заўтра — Ілля. У Саковічах кірмаш. Ураджай сёлета добры, яблыкаў, мёду — усяго павінна быць поўна. Як мне карціць пабыць там! Пабачыць Бесядзь, пакупацца ў яе чыстай вадзе, хоць і кажуць людзі: Ілля ў ваду на сц...*

*Настрой кепскі. Снілася Ліда. Некуды збіраліся ехаць на здымкі. У Ліды валасы на патыліцы звязаны чорнай істужкай. І яшчэ дзіва: ехаў з намі рэжысёр Вадзім Падабед, барадаты, з люлькай у роце. Зараз бачу яго на маніторы — ён запісвае перадачу пра Вінцэнта Каратынскага. Дарэчы, Вадзім не п'е гарэлкі ўжо шаснаццаць гадоў. Некалі разам з Лідай працаваў у сельгасрэдакцыі, а цяпер у літдраме. Быў і на пахаванні, стаяў вельмі хмурны. Дакараю сябе: ні разу не з'ездзіў на могілкі.*

***10 жніўня, панядзелак.*** *Дзень хмарны, гарачыня спала. За акном сыпле цёплы дождж. Якое шчасце! Хай ідзе дождж, будуць грыбы, акурат пад мой адпачынак.*

*А ў нядзелю, 2 жніўня, ездзілі з Падабедам на Паўночныя могілкі. Сустрэліся на аўтастанцыі Карбышава. Ён з кветкамі і я таксама. Доўга шукалі Лідзіну магілку. Здаецца, нядаўна адчыніліся могілкі, а гэтулькі ўжо вуліц там... Маўклівыя курганкі, на некаторых стаяць помнікі, іншыя толькі абгароджаныя. Адшукалі жоўты курганок, на ім пасохлыя кветкі. Паклалі свае. Моўчкі пастаялі. Вадзім гарэлкі не п'е, то і я нічога не браў. Стаялі моўчкі, кожны думаў пра сваё, дакладней — пра свае стасункі з Лідай. Пагаварылі пра помнік.*

*У гэтыя выхадныя ездзіў у вёску да сваіх. Ева з дзецьмі адпачывае. Усе загарэлі. Суботнім ранкам касіў у садзе атаву, абкасіў вакол хаты. За два дні сена высахла. Памог скласці. Хоць нешта карыснае зрабіў.*

*Па абедзе сядзелі ў цяньку на лавачцы з Евай. Падышла суседка, цётка Ванда, яшчэ яе завуць — Грынкевічыха, бо прозвішча мае Грынкевіч. Слова за слова, разгаварыліся.*

*— Колькі вам, цётка, гадоў, калі не сакрэт? — спытаў я.*

*Ванда сагнутая, сухарлявая, але твар загарэлы, яшчэ даволі свежыя шчокі, выцвілыя светла-карыя вочы пазіраюць з цікавасцю. Пільна паглядзела цётка і на мяне:*

*— Які тут сакрэт? Увосень ужо будзе восемдзесят. Каб раней хто сказаў, што пражыву гэтулькі, не паверыла б. Антось мой пражыў восемдзесят шэсць. Сёння хадзілі да яго на магілку. Два гады ўжо спіць. Такі чалавек быў харошы. Каб калі ці накрычаў ці ўдарыў... А які ўжо майстар быў! Усё-ўсенькае ўмеў рабіць. Вунь хату якую паставіў. Лепшай няма ў вёсцы. І жылі мы добра. Я ж так некалі ўлюбілася ў яго. Страх Божы! Замуж выскачыла ў шаснаццаць гадоў. І так ужо было нам добра. Такі ён ласкавы быў, уважлівы... Помніцца ўсё, як сёння... Але і гора хапіла. Два сыны з хронту не прыйшлі. Дачка памерла, дзеткі ад іх засталіся. Памагала гадаваць. Усяго было. І радасці, і гора. Цяпер бы толькі памерці лёгка...*

*Вось табе і неадукаваная старая! Мы з Евай слухалі, разінуўшы раты. Нейкай спрадвечнай мудрасцю дыхаў яе аповед. Асабліва запалі ў душу словы «я ж так улюбілася ў яго...»*

***29 жніўня.*** *Апошняя субота месяца і лета. Сумная, балючая вестка: памёр Аляксей Пысін. Выдатны паэт, зямляк. Здаецца, нядаўна выступаў*

*з вершамі па тэлебачанні. Чытаў проста, глухаватым голасам. А якія вершы! Якая глыбіня! Валодзя Клімчук абяцаў пазнаёміць з ім. Пысін даволі рэдка прыязджаў з Магілёва ў сталіцу. І тады нечакана паявіўся, пазваніў старшыня Дзяржтэлерадыё, каб адшукалі месца ў студыі, запісалі яго. Клімчук кажа, што шукаў мяне, але не знайшоў. «Свежо предание...» І вось Аляксея Пысіна няма. На шэсцьдзесят другім годзе жыцця... Чытаю некралог. Выдатны паэт. Нядаўна ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў. Ці паспеў яго атрымаць? Яшчэ ў некралогу ўзгадваецца медаль «За адвагу». Найвышэйшая ўзнагарода салдату-франтавіку. Пад некралогам даўжэзны спіс розных начальнікаў — партыйных, дзяржаўных, літаратурных. Ажно пяцьдзесят адзін чалавек! Шэсць маскоўскіх літаратараў, ну і нашы пісьменнікі. Жыў Пысін у Магілёве, ціха працаваў, пісаў вершы. Многіх з гэтых падпісантаў ніколі не бачыў у жыцці. А выходзіць, яны ведалі яго і паважалі. Можа, так і трэба?*

*Летась я купіў ягоны двухтомнік. Прачытаў. Пашкадаваў, што позна адкрыў такога паэта. Купалу, Коласа, Багдановіча і Куляшова палюбіў у школе, а Пысіна адкрыў позна. А гэты роздум салдата перад боем адразу запаў у душу:*

*...Я гляджу на даўняе курганне,*
*На траву, на рыжых мурашоў.*
*Ведайце, калі мяне не стане —*
*Я ў сваю дывізію пайшоў.*

*Як проста і як здорава сказана! Вось і пайшоў Аляксей Пысін у сваю дывізію. Пухам яму зямля.*

*Такі журботны запіс атрымаўся напрыканцы лета.*

Рэзка азваўся тэлефон. Пятро пазнаў бадзёры голас дырэктара:

— Ну што, Захаравіч, зачакаліся? Затрымалі мяне. Тут нічога не зробіш. Калі вам трэба машына?

— Я б хацеў выехаць гадзін у дзесяць.

— Добра. Значыць, у дзесяць вадзіцель пад'ездзе. Адрас ваш ён ведае? Ведае. Значыць, усё выдатна. Шчаслівa вам адпачываць. Не думайце пра тэлебачанне. І меней глядзіце. Раю болей хадзіць па лесе. Найлепшыя лекі.

— Дзякуй вам за добрыя парады. Да сустрэчы!

Пятро загарнуў кандуіт, паклаў яго ў дыпламат, агледзеў кабінет, зірнуў на тэлевізар-манітор.

— Бывай, чароўная скрынка! Не сумуй. Я па табе сумаваць не збіраюся. Да сустрэчы праз месяц.

*Хроніка БЕЛТА і ТАСС, 1981г.*

*6 верасня. Івацэвічы, Брэсцкая вобласць. На жывёлагадоўчай ферме калгаса «Расія» растуць кветкі 30 гатункаў. Штодня цвітуць каля пяці відаў кветак.*

*10 верасня. Варшава. З'езд «Салідарнасці» ў Гданьску — гэта, як заявілі яго ўдзельнікі, агляд сіл, якія рыхтуюцца да сутычкі за ўладу.*

*23 верасня. Вашынгтон. Друк працягвае каментаваць грандыёзную маніфестацыю пратэсту амерыканскай грамадскасці супраць палітыкі адміністрацыі Р. Рэйгана. Маніфестацыя адбылася ў мінулую суботу ў Вашынгтоне.*

*25 верасня. Магілёў. Новы сквер «Вілербан» закладзены ў цэнтры Магілёва. Дрэвы на Алеі дружбы тут пасадзілі члены дэлегацыі таварыства «Францыя — СССР» і прадстаўнікі французскага горада-пабраціма Вілербана.*

## XXI

У мястэчку Саковічы восьмага лістапада на Змітрыя і другога жніўня на Іллю праводзіліся кірмашы. Людзі ехалі за сотні кіламетраў з суседняй Браншчыны, Гомельшчыны і нават з Чарнігаўшчыны. Людзей збіралася багата. Гандаль бойкі, традыцыі ў кірмаша даўнія. У той год паспрыяла: дзень святочны, дарогі сухія. Кожны ехаў нешта купіць-прадаць, на людзей паглядзець і сябе паказаць.

Мацвей Сахута любіў Змітраўскі кірмаш з малых гадоў. На Іллю збіраліся вельмі рана і раз'язджаліся таксама рана — жніво ў разгары. А тут ужо спяшацца няма куды, галоўнае — завідна вярнуцца дамоў, бо дзень ужо даволі кароткі. На Змітрыя ён заўсёды купляў пару парасят — парсючка і свінку. Парсючкі звычайна каштавалі даражэй, свінкі — танней, таму выгадна купляць дваіх, яны лепей ядуць і растуць навыперадкі, і цяплей ім дваім.

На гэты раз у яго быў асаблівы настрой: прыехаў сын з Мінска. Разам з Андрэем прыехаў і Пятро Махавікоў з жонкаю. Стары Сахута пашкадаваў, што не пабачыць сваю нявестку. Нават не стрымаўся, спытаў:

— А чаму ж ты Раду не прывёз?

— Трохі ёй нездаровіцца. Па вясне прыедзем усёй сям'ёй.

Сынаў адказ супакоіў Мацвей Дзянісавіча, бо ён часам думаў: ці заладзілася ў Андрэя сямейнае жыццё? Ён вечна заняты, нарады, засядалаўкі, а жанчыне маладой, прывабнай патрэбна ўвага і любоў. Работу можна памяняць, а жонку, маці сваіх дзяцей, трэба шанаваць і берагчы. Стары Сахута ў глыбіні душы скептычна ставіўся да партыйнай дзейнасці сына. За доўгае жыццё ён цвёрда засвоіў: без хлебароба, будаўніка, настаўніка, урача, шахцёра і сталяра не абыдзешся. Яны патрэбны пры любой уладзе, а без камсамола і партыі продкі някепска жылі і раней. Дзяцей гадавалі, будавалі дамы, шыкоўныя храмы. Жыццё не спынялася ні на імгненне, як не спынялася плынь спрадвечнай Бесядзі. Вядома, сыну ён пра гэта не гаварыў. Некалі ўшчуваў, што той кінуў лясніцтва і перайшоў у камсамол, бачыў, што сыну гэтыя дакоры не даспадобы, а потым стары ўсё болей ганарыўся, калі сын пайшоў угору: у вобласць, а затым і ў сталіцу. Радавала, што сын не ганяецца за чаркаю. Каньяку вып'е, і то не поўны кілішак.

Мацвей Сахута меркаваў паехаць разам з Марынай на кані. Гэта ж куды лепей, чымся на машыне: сядзіш на мяккім шапаткім сене, засланым дамотканаю посцілкаю. Прыемна ехаць, адчуваць подых свежага ветрыку, бачыць вакол знаёмыя з маленства мясціны і краявіды. Але з прыездам сына ўсё памянялася.

— Бацька, паедзем з намі на кірмаш, — прапанаваў сын. — І Марыну можам узяць. Даішнікаў тут няма. А машына вытрымае.

— А парасят куды дзенем? Яны ж могуць падмачыць тваю рэпутацыю, — усміхнулася Марына. — Доўга будзе чуваць. Паеду на грузавой. Даніла абяцаў узяць. Месца там хопіць.

За акном мільганула нечая постаць.

— А вось і ён. Лёгкі на ўспамін, — узрадавалася Марына.

Дзверы расчыніліся — на парозе стаяў Даніла Баханькоў, Андрэеў сябрук з маленства.

— Дзень добры ў хату! З прыездам Андрэй! — гучна, па-вясковаму павітаўся ён.

Сябры абняліся. Былі яны амаль аднаго росту, ладныя, дужыя. Адно

Данілавы рукі, шырокія, абветраныя, з тоўстымі пальцамі адрозніваліся ад гарадскіх Андрэевых. Селі за стол, на якім высілася зграбная пляшка каньяку «Белый аист».

— Не ўсе буслы адляцелі ў вырай. Адзін застаўся, — задаволена ўсміхнуўся Даніла, беручы чарку духмяна-залацістага пітва. — Ну, са святам Кастрычніка! Каб мы дажылі да яго стагоддзя!

— Ну, ета правільна. Глядзець трэба ўперад. І далей, і вышэй. У раёнцы пра ета пішуць штодня, — падняў сваю недапітую чарку стары Сахута.

Андрэй лінуў па кроплі і маці, і Марыне.

— Ой, сынок, мой дарагі. Мне адну кропельку, болей нельга. У галаве шуміць, нібыта ў катле. Кіпіць там нешта несціхана.

— У яе ціск, Андрэй. А ты наліў столькі, — усхапілася сястра, вечны ахоўнік здароўя бацькоў і суседзяў.

— Каньяк і п'юць для таго, каб нармалізаваць ціск. Падняць настрой. Матка, не пужайся, пі смела, — пераконваў сын.

Выпілі, закусілі. А ў старога Сахуты не выходзілі з галавы думкі пра заўтрашні кірмаш.

— Ты ж едзеш заўтра ў Саковічы? — спытаў ён у Данілы.

— Едзем. Ты з намі, Марына? Машына вялікая, крытая брызентам. А то са свінствам у Андрэеву карэту не з рукі.

— Чаму? У багажнік укінем. Калі і дадуць троху смуроду, то пакуль даедзем да Мінска — выветрыцца, — не пагадзіўся Андрэй.

Мацвей Сахута не любіў доўга сядзець за бяседным сталом. Тады гаворка пачынаецца бязладная, а ён ва ўсім паважаў парадак.

— Вы пагаманіце, дзеткі. А я пайду гаспадарку глядзець.

Андрэй добра ведаў бацькаву звычку, таму не запярэчыў, а Данілу захацелася затрымаць старога:

— Пасядзі, Дзянісавіч. Гаспадарка ў вас невялікая...

— Яно так. Гаспадарка малая. Але і курыцы патрэбен догляд, — Мацвей ускінуў на плечы куфайку і падаўся на двор.

Ён адчуваў няёмкасць, што яны сядзяць у хаце, а вадзіцель корпаецца ля машыны. Можа, яму памагчы трэба ці проста пастаяць побач, каб чалавек не пачуваўся забытым і лішнім. Сахута помніў, як вясной гэты самы вадзіцель спрытна выкідаў гной — ён тады добра пасобіў Андрэю ачысціць хлеў.

Неўзабаве выйшлі Андрэй з Данілам.

— Што ў цябе, Эдзік, — спытаў Андрэй вадзіцеля.

— Левая фара слаба свяціла. Памяняў лямпачку. Кантакты зачысціў. Цяпер усё нармальна.

— Тады адпачывай. А мы сходзім да Пятра Захаравіча.

Сябры пасунуліся па вуліцы. Дзень увачавідкі дагараў. Бралася на вечар. Ад Бесядзі напаўзаў халодны рэдзенькі туманок.

Стары Сахута пазіраў услед сыну, ягонаму сябру — першаму чалавеку ў вёсцы, на душы было цёпла і радасна. Хацелася перажыць і наступную зіму, выгадаваць парасят, якіх заўтра купяць, каб і самім было што зачапіць на зуб, і дзецям, і ўнукам.

Яшчэ цёмначы ў старадаўняе мястэчка Саковічы з усіх бакоў ішлі і ехалі кірмашоўцы. Ішлі і проста аматары патаўчыся між людзей, выпіць на капейку — павесяліцца на рубель. Як вясною адусюль збягае вада ў Бесядзь, так гэтым імжыстым, хмарным лістападаўскім ранкам ехаў навакольны

люд на Змітраўскі кірмаш. Ехалі на грузавіках, крытых брызентам, на легкавіках — найбольш «Масквічах» і «Запарожцах». На «Волзе» магло ехаць толькі нейкае начальства.

На шыкоўнай «Волзе» ехаў і Мацвей Сахута. І сядзеў побач з вадзіцелем — так закамандаваў сын, а сам ён сеў на заднім сядзенні разам з Пятром і Евай. Мацвей адчуваў нават нейкі гонар: едзе ён на шыкоўнай машыне, якая возіць па Мінску ягонага сына, высокага партыйнага начальніка. Сын жа казаў, што ў раёне каля пятнаццаці тысяч камуністаў, а гэта цэлая дывізія. Значыць, ягоны сын — партыйны генерал. Калі ехалі па Хатынічах, стары пашкадаваў, што яшчэ цёмна: мала хто ўбачыць... Выехалі раней, бо парасят разбіраюць хутка — самы хадавы тавар на кірмашы.

— Помніш, Пятро, як у вашай хаце адзначалі Кастрычніцкія святы? — спытаў Андрэй.

— Помню. Хоць і даўно тое было.

— Гэта быў сорак дзевяты. Чаму так помніцца? Марына купіла мне першыя ў жыцці баціначкі. Зялёнага колеру. А то ж басанож да снегу бегалі. У школу басанож хадзілі.

— У школу басанож? — з нявераю спытала Ева. — Няўжо было?

— Было. Андрэю пашанцавала. А да чацвёртага класа хадзіў басанож да снегу. Хоць бацька і лесніком рабіў, а грошай не меў, — уздыхнуў Пятро: — А ў пятым класе купілі мне гумовікі. Хадзіў у школу за Бесядзь. У Зарэчча. Андрэй у Белую Гару. Такая была завядзёнка. Палова вёскі Шамаўка ў Белую Гару, а мы — Канчанскі бок — у Зарэчча. Дык вось тады і святкавалі...

Пятро пачаў тлумачыць, што ў іхняй хаце сабралася каля дзесяці сям'яў — усю вёску падзялілі на «дзесяцідворкі», вызначылі большыя хаты, у якіх і святкавалі. Шмат было яшчэ зямлянак. Ева слухала і яшчэ болей дзівілася: яе муж і ягоны сябар гэткія відныя, адукаваныя, аказваецца, бегалі ў школу басанож, жылі ў зямлянках.

Стары Сахута трохі недачуваў, не зусім выразна лавіў гаворку моладзі, таму сядзеў моўчкі, азіраючы праз акенца машыны шэрае наваколле, але пачуў, як Пятро ўспомніў пра яго:

— Дзядзька Мацвей, а ці помніце вы, як у нашай хаце адзначалі Кастрычніцкія святы? — спытаўся Пятро.

— О, даўно тое было, — стары пашкроб за вухам, быццам сіліўся ўзгадаць той ужо далёкі час. — Вы з Андрэем тады яшчэ пацанамі былі.

— Дык я памятаю, як зараз, — ажывіўся Пятро, вы з прамовай выступалі. Чакалі старшыню, а тады, здаецца, дзед Гылігор кажа: «Дос дыжыдаць. Самі з вусамі. Я, кажа, старэйшы стахванавец, а Мацвей — член праўлення. Налівайце стыканы...» Ну, і пайшло вяселле. А тады паявіўся Бравусаў у бліскучых пагонах. Як Бравусаў, жыў-здароў?

— Ну, ужо ў етай самай... у адстаўцы. Але яшчэ крэпкі мужык. Можа, з месяц таму бачыў яго, — ахвотна пачаў апавядаць Сахута. — А Крупадзёраў... Вы не ведалі яго. Ета быў самы грозны начальнік. Упаўнамочаны па нарыхтоўках. Дык павесіўся нядаўна. Казалі, нібыта напісаў пісьмо. Ну, жонцы, дзецям, што абрыдла яму жысць. Семдзесят гадоў пражыў ён. У цюрме гадоў дзесяць адбарабаніў. Бязлітасны быў чалавек. І вот яно як супала. Быў у нас Свідэрскі, старшыня сельсавета. Яго ж вы помніце?

— Помнім, помнім, — дружна адказалі Андрэй і Пятро.

— Дык той быў люты, як шалёны сабака. Ну й жонку засек. І сам засіліўся. Шасцёра дзяцей асіраціў — гэтыя словы адрасаваліся Еве, бо

хлопцы ўсё гэта ведалі. — Было ета ў той год, як Сталін памёр. Вясною пяцьдзесят трэцяга... А вось ужо і Саковічы. Што значыць машына! На кані гадзіну едзеш, а тут мігам. Ужо і прыехалі, — узрадаваўся Мацвей Сахута. — Тут нам направа, таварыш дарагі, — павярнуўся ён да вадзіцеля. — Во, глядзіце, яшчэ панскі сад. Тут паны Галынскія некалі ўладарылі.

На двары развіднела. Яшчэ за сотню метраў да местачковай плошчы абапал дарогі стаялі фурманкі з выпражанымі коньмі. Грузавікі з адкінутымі заднімі бартамі шчыльна абступалі плошчу. Тут ужо ішоў бойкі гандаль. А народ усё прыбываў. Каля вазоў рыкалі прывязаныя каровы, на вазах у скрынях верашчалі парасяты.

— Можа, тут і прыткнемся? Во, каля етага «козліка», — прапанаваў Сахута, калі спыніліся ля абшарпанага «газіка».

— Бацька, хачу купіць табе боты. Кірзачы, ці гумовікі, ці хромавыя, — сказаў Андрэй.

— Не, сынок. Не трэба. У мяне абутку на тры пяцігодкі.

— Можа, матцы хустку? Ці Марыне што-небудзь?

— Матцы ты навазіў столькі хустак, што куфар не зачыняецца. Моль есць. Купі жонцы нешта, дзецям. Ну еты... сувянір які. А я хачу парасятак. І мядку пару кілаграмаў. І ты сваім купі. У нас мёд дзешавейшы і смачнейшы, чымся ў Мінску.

— Ну, Мацвей Дзянісавіч, вас трэба на тэлебачанне. У перадачу «Мой родны кут». Андрэй, угавары бацьку, каб прыехаў у Мінск.

— Не, Пятро, ты сам угаворвай. А лепей прыедзь сюды з кінакамерай. На беразе Бесядзі ён табе чаго хочаш нагаворыць. Значыць, сустрэнемся ў дзесяць у кнігарні. На тым баку плошчы. Там жа абяцаўся быць Мікола Шандабыла. Можа, і Даўгалёў прыедзе.

Пятро з Евай неўзабаве зніклі ў натоўпе. Андрэй пайшоў з бацькам. Даволі прасторны местачковы пляц быў поўны люду. З-за хмараў выбілася зыркае восеньскае сонца. У яго промнях цьмяна заблішчэлі купалы старога храма, які меў сіратлівы выгляд, нібы дом без гаспадара. Затое цёпла засвяціліся гладышы, гаршкі, якія прывёз дзядок-ганчар. Побач другі дзед прадаваў вялікія і малыя кашы. «Трэба два малыя купіць», — адзначыў Андрэй, бо з дзяцінства любіў кошыкі і нажы-сцізорыкі. Далей сталага веку жанчына расклала на посцілцы вянкі цыбулі. Акуратна сплеценыя вялізныя цыбуліны — адна ў адну, у гэтым вянку нагадвалі дзівоснае бурштынавае ўпрыгожванне. «Не забыць узяць у бацькоў цыбулі», — зрабіў яшчэ адну зарубку ў памяці Андрэй. Ён добра ведаў, што ў іхнім гародзе ў Хатынічах заўсёды родзіць цыбуля.

Вакол было шмат садавіны: васкова-залацістых антонавак, чырванабокіх штрыфеляў, груш. З грузавікоў гандлявалі ботамі, гумовікамі. Тут віселі курткі, паліто, касцюмы. Андрэя зацікавіла прыгожая кофта — белая, з адмысловым узорам на грудзях.

— Адкуль прывезлі? — спытаў у прадаўшчыцы.

— З Браншчыны. З Навазыбкава.

— Ого, так далёка! — здзівіўся Андрэй.

— Кофта цёплая. Але дужа маркая, белая, — з практычным вясковым падыходам ацаніў бацька.

Андрэй моўчкі ўсміхнуўся, уявіў Раду ў ёй, вырашыў параіцца з Евай, калі яна ўхваліць, то і купіць. Ён прыкмеціў, што мясцовыя модніцы на яе не звярталі ўвагі, бралі чырвоныя, зялёныя, сінія, а белую абыходзілі.

Ева ўхваліла кофту, з яе блаславення Андрэй купіў падарунак для

жонкі, два малыя кошыкі дзецям, а бацьку два кошыкі з белага дроту — стары ўпадабаў іх, бо лазовыя недаўгавечныя. Купілі мёду, у мяху трапяталіся парасяткі. Гэтая пакупка асабліва ўзрадавала старога Сахуту і Марыну: ёсць прыбытак у гаспадарцы.

— Марына, я твой даўжнік. Памятаю, як ты купіла мне тут, на Змітраўскім кірмашы, паліто. Цёмна-карычневае, драпавае, першае ў жыцці. Доўга насіў яго. Хачу табе купіць кофту ці боты цёплыя.

— Усё ў мяне ёсць. Калі ўжо табе так хочацца... Можа, во кароткія гумовыя боцікі. Каб суха было нагам.

Каштавалі боцікі ўсяго чатырнаццаць рублёў. Марына прымерала, павярнула нагу туды-сюды — яны сядзелі, як улітыя.

— Ну, дзякуй, браток. Хай будуць на памяць, — яна цмокнула Андрэя ў шчаку. У яго зноў варухнулася адчуванне віны: яму, братам, бацькам аддала сваё жыццё Марына.

Кірмаш дасягнуў свайго апагею. Разыходзіцца было яшчэ рана. Усяго тут хапала, адно не гучалі песні, не чуваць было музыкі. Прыгадаліся пасляваенныя кірмашы, бяднейшыя на тавары, прысмакі, вырабы, але куды багацейшыя на музыку і песні. Значыць, бяднеем душой. Вось табе і праграс!

А дзесятай гадзіне Андрэй адшукаў кнігарню — невялікі цагляны дамок, пабудаваны, відаць, не так даўно. Андрэй штурхануў дзверы і апынуўся ў невялікай зале, паліцы паўз сцен яе былі застаўлены кнігамі, на сталах таксама ляжалі кнігі. Справа ад увахода стаяў столік, засланы абрусам. За столікам сядзеў Даўгалёў. Убачыўшы Андрэя, ён цяжка падняўся, падаў яшчэ дужую руку, а потым абняў свайго маладзейшага земляка і калегу, свайго любімага вылучэнца. З кута залы ішоў насустрач Мікола Шандабыла, грузны, чырванатвары, гладка паголены. Парукаліся, абняліся. Хударлявы, падцягнуты Андрэй выглядаў намнога маладзейшым за мясцовага кіраўніка савецкай улады. Міжволі прамільгнуў успамін: вечарынка ў хатыніцкім клубе, Мікола, заўзяты гарманіст і барабаншчык, лёгкі, імклівы, з белазубай усмешкай. Зубной шчоткай і пастай ён не карыстаўся, зубы чысціў цыбуляй, яблыкамі, бручкай і гуркамі, і былі ў яго яны здаровыя і белыя, як часнок.

— А дзе ж Пятро? — спытаўся Мікола.

— Зараз будзе. Ён з жонкаю, таму і позніцца. Хто ходзіць адзін, той ніколі не позніцца.

— Ісціну глаголеш, — усміхнуўся Даўгалёў, зноў сеў ля стала, бо стаяць яму цяжка. — Як наша кнігарня, Андрэй? Будавалі, калі я быў першым, — дадаў з гонарам.

— Кніг багата. Хачу паглядзець. Час жа ў нас ёсць?

— Паглядзі. Зараз прыйдзе старшыня мясцовага сельсавета. Разам са старшынёй калгаса. Яны паабяцалі пачаставаць нас чаем. А вунь і Пятро. Наша тэлезорка, — Шандабыла рушыў насустрач земляку.

Абняліся. Пятро адразу ж пазнаёміў з жонкай:

— Знаёмцеся. Гэта Ева, мая лепшая палавіна.

— А горшая дзе? — нібыта сур'ёзна, нібыта жартам спытаўся Даўгалёў.

— Горшая ў адстаўцы, — жартам расказаў Пятро. А Ева ўсміхалася, бы сцюардэса з аэрафлотаўскага плаката.

— Што ж ты мне раней не сказаў пра гэта, даражэнькі мой? А то я з адной сорак гадоў мучаюся, — рагатаў Даўгалёў.

— Не скажа, Міхаіл Касьянавіч. Калі б дужа мучыўся, то наўрад, ці доўга б вытрымаў. Твой характар я ведаю. Ды і Сямёнаўну — таксама. Я мяркую так: лепей мяняць сяброўак, чымся жонак, — аўтарытэтна зазначыў Мікола.

— Не слухай яго, Андрэй Мацвеевіч. Ён намякае на сакратарак. Не раю іх чапаць. Службовы раман для нашага брата — бомба замаруджанага дзеяння. Рана ці позна яна выбухне. Лепей мець сяброўак, якія табе не падначаленыя.

— Што сказала б ваша жонка, пачуўшы такое? — спыталася Ева.

— Што? Ведаеце анекдот? — Мікола яўна быў у гуморы: — Вечар адпачынку ў завадскім Доме культуры. Усе з жонкамі. Парторг са сваёй, старшыня прафкома — таксама. Муж ёй кажа: глядзі, вунь палюбоўніца дырэктара завода. А вунь тая хімічная бландзінка — сяброўка галоўнага інжынера. «Прызнайся, мілы, а твая каторая?» — «Мая? Вось гэтая смуглявая брунетка ў чырвонай кофце». — «Наша самая прыгожая», — з гонарам адказала жонка.

Усе дружна зарагаталі. У гэты час дзверы расчыніліся — тры дзяўчынкі-школьніцы ўвайшлі ў кнігарню. Пачуўшы гучны смех, спалохана застылі ля парога, гатовыя павярнуць назад.

— Смялей, дзяўчаткі, заходзьце! — першым гукнуў Даўгалёў. — Выбірайце, што вам трэба. Кніг багата.

Выйшла з-за фіранкі і гаспадыня кнігарні, мілавідная жанчына гадоў сарака. З-пад тонкіх броваў на гасцей-начальнікаў зірнулі чыстыя сінія вочы.

— Што вы хочаце, дзяўчаткі? — сціпана спытала яна і павяла іх да кніжнай паліцы.

Разгараўся светлы і даволі цёплы дзень позняй восені. З мястэчка па дарогах і сцежках ва ўсе бакі разыходзіліся людзі. Ехалі грузавікі з вясёлымі прадаўцамі — замачылі ўдалы гандаль. Распаўзаліся фурманкі — коні ахвотна беглі дамоў, ехалі веласіпедысты, некаторыя кірмашоўцы тэпалі пехатою. Па пясчанай дарозе на Хатынічы нетаропка каціліся дзве «Волгі» — першая чорная, услед за ёй белая. І першая, і другая былі поўныя вясёлых, гаманкіх людзей.

Мікола Шандабыла, які сядзеў поруч з вадзіцелем сваёй службовай чорнай «Волгі», быў задаволены, што кірмаш прайшоў выдатна, без усялякіх ЧП — так далажыў яму начальнік міліцыі. Старшыня сельсавета Альшэўскі наладзіў добры пачастунак: была і чарка, і скварка, і чай з самавара. У багажнік госцю паклаў паўмяшэчка яблыкаў антонавак і пару пляшак гарэлкі.

Міхаіл Даўгалёў радаваўся, што пабачыў сваіх маладых сяброў-аднавяскоўцаў, пабыў сярод людзей, добра паабедаў, піў толькі чай — цвёрда трымаўся гэтага правіла, ці, як ён гаварыў: «Я свой ліміт выбраў, фонды скончыліся». А яшчэ радавала, што купіў жонцы кофту, цёплую прыгожую, зялёнага колеру.

Ехалі з імі старшыня Белагорскага сельсавета Іван Сырадоеў і хатыніцкі брыгадзір Даніла Баханькоў. Даўгалёў, хоць і быў самы цвярозы, усю дарогу весяліў, расказваў анекдоты.

Андрэй Сахута і абое Махавіковы ехалі разам. Ева была ў захапленні:

— Такі кірмаш багаты. Вось табе і далёкая правінцыя. А колькі людзей! Колькі ўсяго! І тавараў і прадуктаў. Проста дзіва!

У глыбіні душы Андрэй шкадаваў, што няма Рады, хай бы і яна пара-

давалася, калі яшчэ надарыцца такая магчымасць пабыць на яго радзіме, ды і ў кірмашовы дзень, і ў гэткае цудоўнае надвор'е. Увогуле ён быў задаволены паездкаю, адведаў бацькоў, пабачыўся з многімі землякамі, аднавяскоўцамі. І Марыне купіў, хоць і сціплы, падарунак, бацькам і сабе мёду, жонцы прыгожую кофту. Бацька з Марынаю паехаў на грузавой машыне. Даніла сказаў: «Бацьку твайго пасадзіў я ў кабіну. Давязуць да самай хаты, як пана»

Пятро Махавікоў быў таксама задаволены, што ўдалося з'ездзіць, удзячны сябру, які запрасіў яго. Радасць і гонар за свой кут яшчэ ўзмацняла Евіна захапленне. Гэта жанчына сапраўды зрабілася самым блізкім і родным чалавекам. І цяпер у машыне адчуваў яе цёпло. Еву ўсе ўгаворвалі выпіць чарку, каб сагрэцца, і яна адважылася, таму і задрамала, паклаўшы яму галаву на плячо. Ад яе валасоў патыхала знаёмым водарам парфумы і нечым іншым, мабыць, цэлым букетам кірмашовых пахаў: ранішняга туману, прыдарожнага пылу, яблыкаў, якіх яны купілі.

Машыны спыніліся каля кладзішча, як і было дамоўлена. Андрэй Сахута пастаяў каля магілак сваіх братоў — Толіка, Колі і Васіля. Над курганкамі меншых братоў, якія памерлі даўно, адразу пасля вайны, стаялі заімшэлыя драўляныя крыжы. А над Васілёвай магілай высіўся помнік, рабілі у Магілёве з белага каменя, уставілі медальён з фотаздымкам, на якім Васіль быў у цёмным пінжаку, белай кашулі, пры гальштуку. Прыгадаў, што Васька не любіў гальштукаў, называў іх шворкай-удаўкай. Калі ішоў у клуб, каўнерык кашулі разгладжваў на каўняры пінжака. Такім — маладым здаравяком ён запомніўся Андрэю. Скрушна, крыўдна, што гэтак рана Васіль пайшоў з жыцця.

Падышлі Пятро і Ева. Андрэй расказаў, хто пахаваны тут, паказаў магілкі братоў, бабулі і дзеда.

— Вунь Даўгалёў стаіць адзін. Давайце пойдзем да яго, — прапанаваў Андрэй. — А там і магілкі Міколавых бацькоў блізка. Яго бацька быў першым брыгадзірам пасля вайны. Адзін клас адукацыі меў. А сын усім раёнам кіруе.

— Я дзіўлюся, якія людзі выйшлі з вашай вёскі. З гэтай глушы, — зноў выказала сваё захапленне Ева.

«Перш-наперш, яна ганарыцца Пятром», — падумаў Андрэй і зноў пашкадаваў, што побач няма жонкі: яна ж таксама можа ганарыцца ім.

Праз паўгадзіны сабраліся каля машын.

— А давайце паглядзім на Бесядзь. Але не тут, а ля крамы. Там высокі бераг. Краявід незвычайны. Асабліва ў такі прасветлены дзень, як сёння, — прапанаваў Пятро.

Ніхто не запярэчыў, і неўзабаве шасцёра хатыніцкіх мужчын і адна нетутэйшая жанчына стаялі на ўзгор'і.

— Ну ты, Пятро, прафесіянал! І праўда, лепшага краявіду не знойдзеш, — усхвалявана прамовіў Даўгалёў. Ён стаяў, апіраючыся на кульбу, паварочваў галаву то ў адзін бок, то ў другі. — Выключнае месца. І рака, і лес, і сенажаць, і ручай з крынічнаю вадою. І як далёка відно! Ажно да бабінай гары. Мамута, дырэктар школы, ён жа гісторык. Дык вось, ён расказваў, што перад вайною археолагі вялі тут раскопкі. І даказалі, што першабытныя людзі жылі тут сто тысяч гадоў таму. Чуеце, Ева? Вашы прапрашчуры Адам і Ева любаваліся гэтымі краявідамі сто тысяч гадоў таму назад.

— Не магу ўявіць!.. — неяк разгублена, ціха сказала Ева. — У пячо-

рах... Адзенне са скуры... Не хапае фантазіі ўяўляць далей, як яны жылі.

— А вось жа жылі! І без тэлевізара. І без радыё. З крэмневымі прыладамі. Дарэчы, крэменю тут і цяпер шмат. Таму і вада вельмі чыстая, — аўтарытэтна зазначыў Мікалай Шандабыла. — Край надзвычай прыгожы. Зямля беднаватая. Але як гнайку дасі, дык нешта расце.

— Як сёлета ўраджай? Помню, ты казаў, што «іржавы тазік» прымусіў узяць, як у газетах пішуць, дужа высокія рубяжы.

— Так, замах быў вялікі. Дваццаць восем цэнтнераў збожжа на круг. Узялі дваццаць чатыры. І то з прыпіскамі. Праўда, валавы збор большы, чымся летась. Гэта радуе, — казаў Шандабыла.

Пятро аб нечым пашаптаўся з Данілам, нешта сказаў Еве, а ўголас прамовіў:

— Пачакайце пару хвілін. Мы зараз вернемся.

Утраіх яны рушылі ў краму. Неўзабаве вярнуліся з бутэлькай шампанскага і двума шклянкамі.

— Думаю, што ў такім прыгожым месцы, у такой кампаніі грэх не выпіць па кроплі шампанскага. Некалі тое было, некалі яшчэ будзе, — Пятро спрытна адкаркаваў бутэльку, пластмасавы корак гучна стрэліў, узляцеў угору і пакаціўся з абрыву ў Бесядзь. — Міхаіл Касьянавіч, сімвалічна можна і вам.

— Тры гады нават піва ў рот не браў. А тут не магу адмовіцца, — ён трымаў шклянку, у якой іскрылася дробнымі бурбалкамі залацістае пітво. — Такія шклянкі некалі называлі «малянкоўскімі». Пасля смерці Сталіна Малянкоў адмяніў падаткі. Вось Іван Ягоравіч ета добра памятае. Як тыя падаткі спаганяў.

— Ой, было! Лепей не ўспамінаць, — уздыхнуў Сырадоеў.

— Дарагія мае землякі! І вы, паважаная Ева, вы член нашай хатыніцкай суполкі. Я дужа рады, што мы сянні сустрэліся. Пятру ўдзячны, што зацягнуў сюды і спакусіў на чарку. Хачу пажадаць, каб мы ўсе жылі доўга. У радасці і шчасці. А галоўнае, каб здароўе не падводзіла. Беражыце сябе, свае сем'і, сваіх жонак. А вы, Ева, беражыце мужа. Ён наш летапісец. Ну, даражэнькія мае, усім здароўя ў кожны орган і грошай у кожную кішэню. — Даўгалёў чокнуўся з Евай і выпіў да дна. — Які цуд, браткі! Шампанскае — ета рэч!

— Ну, Міхаіл Касьянавіч! Пажаданне адмысловае. Трэба заказаць пінжак на восем кішэняў. І каб жонка не магла знайсці, — рагатаў Пятро, перадаючы шклянку Івану Сырадоеву. — Трымайце, Іван Ягоравіч, вы таксама франтавік. Паважаны ў нас чалавек. Вам слова.

Іван Сырадоеў зняў кепку, вецер тут жа ўскудлаціў рэдкія сівыя валасы. Пачаў усхвалявана:

— Мне шмат чаго хочацца сказаць. Ды часу мала. Вам трэба ехаць. Дзякуй вам вялікі, Андрэй Мацвеевіч і Пятро Захаравіч, што прыехалі, зрабілі нам свята. Дзякуй, што не забываеце свой родны кут. Дык няхай жа ўсім будзе добра, цёпла ў нашым кутку!

— Вы — паэт, Іван Ягоравіч! — усклікнула Ева.

— Які з мяне паэт? Я чалавек вясковы, — сарамліва ўсміхаўся былы фінагент.

— Ну што, мая чарга? — узяў шклянку Мікола Шандабыла. — І мне б хацелася шмат чаго сказаць, бо сустрэча ў нас незвычайная. І кірмаш удалы, і надвор'е.

— Надвор'е шэпча: пазыч ды выпі, — рагатнуў Даніла.

— Можа, і так. Няхай шэпча. Дзень сянні і праўда выключны. Дзякуй вам, нашы дарагія франтавікі. І нашым гасцям сталічным. Выпіць бы трэба за вас, але трэці тост за жанчын. За любоў. А любоў вышэй за ўсё. Пятро, калі дазволіш, і вы, Ева, калі пагодзіцеся, хачу выпіць з вамі на брудэршафт.

— Хіба ж я магу запярэчыць? — развёў рукі Пятро.

— І мне пярэчыць не выпадае, — шырока ўсміхнулася Ева, наблізілася да Міколы, завяла руку са сваёй шклянкай за ягоную руку, выпіла да дна і пацалавала аўтара тоста.

— Ну, Мікалай Арцёмавіч, малайчына! А я, стары хрыч, не здагадаўся. Налі-ка мне, — падаў голас Даўгалёў.

— Не, не дазваляю. Я ўсё-ткі ўлада! — рагатаў Шандабыла. — Пятро, вядзі рэй. Хай Андрэй скажа.

— У мяне гэтулькі пачуццяў. Але ж час падпірае. Дарагія мае, давайце вып'ем за нашых продкаў, за нашу родную зямлю. За тых, якія жылі даўным-даўно. За тых, якія спяць пад бярозкамі, магілкі якіх мы толькі што наведалі. За светлую памяць, — Андрэй выпіў, не чокаючыся.

Усе прыціхлі, спахмурнелі. Даўгалёў усхвалявана сказаў:

— Даражэнькі, Андрэй Мацвеевіч. Малайчына, што ўспомніў...

Пятро наліў шклянку Данілу. У вялікай шырокай дужай далоні нават гранёная «малянкоўская» шклянка падалася маленькай і крохкай.

— Ужо шмат чаго было сказана... Ну, няхай жыве беларуская птушка — бацян! Хай ён не лянуецца і прыносіць у Прыбяседдзе паболей дзяцей!

— Даніла, ты ў мяне з языка сарваў. Нешта падобнае і я хацеў сказаць, — пачаў Пятро. — Ну, здаецца, пра ўсё гаварылі. Дзякуй усім за свята, за радасць сустрэчы з роднай зямлёй. Давайце вып'ем за нас, бо мы таго вартыя.

— Ну во, бачыш. І коратка, і ёмка сказаў, — зазначыў Даўгалёў. — Ну а вам, даражэнькая Ева, падводзіць вынікі. Падсумаваць усё. Мудра атрымалася. Да камунізму мы не прыйшлі, а вось да матрыярхату, мусіць, прыйдзем. Усё чалавецтва. Мужыкі гэтулькі наламалі дроў, што жанчынам доўга давядзецца разбірацца.

— Гаварыць пра матрыярхат я не збіралася. Але цалкам з вамі згодна, Міхаіл Касьянавіч. Хоць я хачу мужчын пахваліць. Дык вось, дарагія мужчыны! Дарагія землякі майго Пятра. Я кажу — мужчыны, бо мужчына — гэта жыццядайны пачатак. Гэта — космас, неба. І радасць ідзе ад вас. Мы, жанчыны, прымаем тое, што вы даяце. Калі вы не лянуецеся, тады і бацян не сачкуе... Дык хай жа нашаму роду не будзе пераводу. А нашыя рэкі хай цякуць павекі.

— Малайчына! — гучна запляскаў Даўгалёў.

Усе заапладзіравалі, а Пятро цмокнуў Еву ў расчырванелую шчаку.

...Праз нейкі час васьмідзесятыя гады назавуць застойнымі, нават — застольнымі. Але тады пра тое ніхто не ведаў, хоць і адчувалі, і разумелі, што справы ідуць цераз пень-калоду. Што п'юць і пахмяляюцца ўсе: рабочыя і калгаснікі, партыйныя і беспартыйныя, начальнікі і падначаленыя, мужчыны і жанчыны.

Не ведала пра гэтыя людскія клопаты і трывогі Бесядзь. У яе не было застою. Як і заўсёды, рака мчала сваю чыстую, крынічную ваду ў далёкі спрадвечны акіян.

*1999—2002*

## МІКОЛА СТАРЧАНКА

### ВЕЧАР

Сонца — палавіна апельсіна —
За Дняпром над вербамі вісела,
Хмарак лёгкакрылых павуціна
Сарамліва ў небе ружавела.
Лугавы пяшчотна-цёплы вецер
З берага на роўнядзь вод
зрываўся,
А з-за лесу грэбеня
плыў вечар,
Нетаропка ў цемру апранаўся.
Ніклі ў травах, заціхалі гукі
На спакой сыходзячага дня,
Над зямлёю расхінала рукі
Ў зоркавых пярсцёнках цішыня.

### КРЫЖ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ БЯДЫ

Мне крыж чарнобыльскай бяды
Цяпер да скону трэба несці,
Не піць крынічнае вады,
Баравікоў тугіх не есці.
З плячэй радыяцыйны пыл
Мне не струсіць ужо ніколі.
Настане дзень, калі без сіл
На родным упаду я полі.
Свой боль з нябёсамі дзялю,
На іншы свет не спадзяюся.
Люблю збалелую зямлю
І за яе ў душы малюся.

### ПАМІРАЮЦЬ МАЕ РАВЕСНІКІ

Паміраюць мае равеснікі —
Даваенныя хлапчукі:
І начальнікі, і намеснікі,
Пастухі, ратаі, мастакі.
Што пакінулі — то гісторыя,
Ні дадаць да яе, ні адняць,
На сумленне спрытнюгі хворыя
Яе хочуць перарабляць.
Тое ведаю — мы не вечныя,
Ды на сэрцы палын-туга.
Адыходзяць людзі сардэчныя,
І трывогі расце смуга.

### МАРГІНАЛ

Такіх, як ён, цяпер нямала —
Ні селянін, ні гарадскі.
Сяло яго не затрымала —
Заціснуў горад у цiскі.
Неазначальнасць —
метку лёсу
Ён на сваім нясе крыжы.
Ды не забыў святло бярозы,

Не цешаць вока вітражы.
Жыве з раздвоенай душою
У інтэрнаце маргінал:
Ці дома ён, ці за мяжою,
Апошні дзе яго прывал?

Я не прарок і не філосаф,
Але пытаюся: чаму,
Чыёю воляй
гэткім лёсам
Наканавана жыць яму?

## СУМНЕННІ

Сумненні — непагадзь душы,
Яны, як путы.
Навошта пішаш? Не пішы,
Забудзь пакуты.
А думкі просяцца ў радок —
Не да спакою,
Дае нялёгкі мне урок
Жыццё парою.

Душа, пераступі свой страх,
Адкінь сумненне!
Сама ты выбрала свой шлях,
На ім — каменне.
А ты ідзі, душа, ідзі,
З табой цярпенне!
Назад ты толькі не глядзі,
Бо там сумненне.



**ФРАНЦ СІЎКО**

# УГЛІС

## 1
## 1570. Падпал

Апрычнікі наляцелі ўначы. Агалошваючы пустыя вулкі страхавітымі воклічамі і гіканнем, урываліся ў хаты, выцягвалі сонных местачкоўцаў, гналі на пляц перад управаю. Там, акружыўшы з усіх бакоў і весела пазвэнькваючы шаблямі, пратрымалі на марозе да раніцы. А як толькі небасхіл заірдзеўся і заіскрыўся пад промнямі сонца снег на вежах касцёла і царквы, пачалася разня.

Першым схапілі высокага, з шырокімі, як буслінае крыло ў лёце, плячамі ліцвіна-гандляра. Трое апрычнікаў наваліліся ззаду, накінулі на шыю вяроўчыну, прыгнулі долу. Кабета з дзіцем, жонка ягоная, кінулася да мужа, баронячы яго, але яе збілі з ног, штурхнулі ў сумёт. Затым успаролі шаблямі на мужчыне вопратку, падвялі да атамана.

— Падпал яму! — гукнуў той і істэрычна, па-бабску, зарагатаў.

Гандляра павалілі на снег, пабраўшы галаўні, пачалі вадзіць імі па пасінелым ад сцюжы целе.

— Ім таксама! — тыцкаючы пальцам у знямелы ад страху натоўп, загадаў атаман. — Усім падпал!

Праз паўгадзіны пляц нагадваў бойню. Прынаджаныя пахам гарэлай чалавечыны вароны, не зважаючы на стогны і енкі, цярпліва застылі на дрэвах у чаканні зыходу катаў. А тыя, збіўшыся гуртам, раіліся, што б прыдумаць яшчэ.

— Утапіць, вось што! — папраўляючы на галаве высачэзную шапку, гаркнуў атаман. — Да саней і ў раку!

Апрычнікі папрывязвалі паўжывых мужчын да вазкоў і, лупцуючы коней, навыперадкі паімчаліся да ракі. Жанок і дзяцей павезлі следам.

На мосце, паблізу кляштара, спыніліся. Палова апрычнікаў, узброіўшыся сякерамі, пабегла ўніз прасякаць палонкі, палова засталася наверсе. Калі палонкі былі гатовыя і вада хлынула з-пад лёду на снег, тыя, што засталіся на мосце, паадвязвалі безуладныя, абабітыя аб наледзь на дарозе целы мужчын, з рогатам паскідвалі іх у ваду. Затым тое самае зрабілі з жанчынамі і дзецьмі. Некаторыя не патраплялі ў палонкі, да іх падбягалі з баграмі апрычнікі, ссоўвалі пад лёд. Тых, што і ў палонках працівіліся смерці, дабівалі шаблямі.

Калі патапілі ўсіх, рушылі да кляштара па манахаў. Іх таксама пасадзілі на вазы, перакрапаўшы для надзейнасці рукі ружанцамі, павезлі да моста і паўжывых ад пярэпалаху паскідвалі ўніз. Нацешыўшыся ўволю перадсмяротнымі пакутамі няшчасных, хаўрус рушыў у другую, бяднейшую частку мястэчка. Жыхары яе, баючыся нечаканых прыхадняў, хаваліся дзе хто мог. Іх павыцягвалі са сховаў, змардаваўшы да непазнавальнасці, пасеклі шаблямі. А напрыканцы разгарачаныя крывавую вольніцай перабілі ўсю жывёлу і папалілі будынкі. І тут успомнілі нарэшце пра іншаземцаў, што хаваліся ў найдалейшым канцы мястэчка, за ракой.

Ваявода, а з ім паўтары сотні ваяроў, супакоеныя абяцаннем бесперашкоднага вяртання на радзіму, выйшлі насустрач пераможцам.

Іх, сапраўды, адпусцілі. Атаман уласнарусна адарыў кожнага футрам, потым загадаў падначаленым праводзіць да гасцінца. А перад тым паднёс, у дадатак да футраў, па гарнцу ягад.

— Удог, вашества, вкусно есть!

— Godu, jakźe, wiemy[1], — рассыпаючы плады па кішэнях, дзякавалі адарантам пераможаныя і жартам нібыта дадавалі: — Наступным разам мы першыя паямо і тады пабачым, хто каго адолее.

І тыя, і другія пайшлі, а прыпарушаная студзеньскім снегам зямля доўга яшчэ чырваніла, сцінаючыся ад жаху, крывёю ахвяр і сокам абшкуматаных згаладнелымі вуснамі нетутэйшых ягад.

## 2
## 1798. Крайна

І пітво палёгкі не прынесла, наадварот, прыступ млоснасці ўзмацніўся. «Можа, ад лямпы, — зноў пераварочваючыся з боку на спіну, падумала Любаша. — Вунь як газаю смярдзіць». Паспрабавала дацягнуцца рукой да шафачкі над узгалоўем, каб выкруціць кнот, але не здолела: перашкаджала рабрына ложка.

Яна прыўзняла плечы, паволі, пядзя за пядзяю намацваючы далонню паверхню шафачкі, тыцнула пальцамі ў падстаўку. Лямпа гайданулася, саслізнула з падстаўкі і захрасла ў прамежку між столікам і рабрынай. Любаша памкнулася дастаць яе, каб паставіць зноў на стол, але не паспела: узмацніліся схваткі. Боль абхапіў жывот, працінаючы паясніцу, рвануўся ўгору, да грудзей. Яна хацела крыкнуць, паклікаць пакаёвак, ды было запозна. Лямпа гухнула ўніз, трушчачы шкло аб падлогу; смярдзючая лужына разлілася пад узгалоўем. Языкі агню, паганяючы адзін аднаго, перакінуліся на шпалерыну сцяны, абхапілі ніз падушкі. Любаша шырэй раскрыла рот, напружылася ўсім целам, паспрабавала асіліць у сабе боль. На гэты раз моцы хапіла.

Адчайны, патрабавальны дзіцячы покліч узняўся пад столь, аддаючыся рэхам, скалануў паўсонны будынак. З калідора данёсся тупат, пакаёўкі Мар'я і Гапа паказаліся ў дзвярах. Але Любаша іх ужо не бачыла. Таргануўшыся раз і другі на прасціне, яна ціха ўскінула ўгору руку і апусціла яе. Пакаёўкі падбеглі да ложка, разганяючы дым рукамі, узяліся збіваць агонь. Немаўля ва ўзножжы зноў заквіліла. Мар'я, старэйшая і больш дасведчаная, памкнулася да яго, хуценька перагрызла зубамі пупавіну.

[1] Году, як жа, ведаем *(польск.)*.

Лекар Фокс, рухавы, з валізаю ў руцэ, жвава выскачыў з экіпажа, не зважаючы на дождж, імкліва падняўся па прыступках на шырокі, упрыгожаны чатырма ружовымі калонамі ганак графскага дома.

— Нарэшце! — выгукнула з палёгкай Марыя Іпатаўна і кінулася ўніз, дзе ўжо колькі часу перапалоханыя пакаёўкі мітусіліся ля парадзіхі і дзіцяці. — Сюды, пане Эдгар!

Любаша, белая, з пасмамі воглых валасоў на лбе, нерухома ляжала на ложку.

— Выйдзіце ўсе!

Дзеўкі, а з імі і графіня выйшлі з прапахлага дымам пакоя, жагнаючыся, збіліся гуртам у калідоры.

Праз колькі хвілін са спальні зноў пачуўся голас лекара. Марыя Іпатаўна, распіхваючы чаляднiц, першая рынулася на яго.

— Дзяўчынка. — Фокс няспешна памыў рукі, выцер іх ручніком. Затым падышоў да Любашы і ўзяўся мацаць пульс.

— Графіня!

Марыя Іпатаўна, якая дагэтуль не адрываючыся глядзела на немаўля, рэзка выпрасталася. Адна з пакаёвак, здагадаўшыся, што да чаго, узахліпкі загаласіла.

Прыадчыненае акно расхінулася насцеж, быццам сілячыся адагнаць нечаканы прывід смерці, натужліва скаланулася шыбінай.

— Затохлася, — зніякавелым голасам прамовіў Фокс.

Марыя Іпатаўна, нібыта не давяраючы лекараваму выраку, схапіла з шафачкі люстэрка, паднесла да вуснаў Любашы.

Спэцканая рáгамі сажы люстраная паверхня не змянілася...

*

Граф Андрэй Мікалаевіч, саракагадовы мужчына з доўгімі, па модзе, бакенбардамі, сядзеў у кабінеце, гартаў паперы. У фатэлі насупраць Марыя Іпатаўна вязала пруткамі.

— Дрэнь усё!

— Што такое, Андрэй? — па твары графіні прабег цень заклапочанасці.

— Горш не бывае. Собіла мне даверыцца гэтаму Козыраву. Усё абы-як, да ручкі дабіў маёнтак. На, сама паглядзі.

Графіня колькі хвілін няўцямна глядзела на паперы.

— Што гэта? Я нічога не разумею. Растлумач даходліва.

— Табе з Алёшам давядзецца пераехаць у Крайну, вось што.

— Мне? — у голасе Марыі Іпатаўны прагучалі і страх, і нязгода. — А ты?

— Тут застануся, — ціха, але цвёрда сказаў граф. — У мяне месца тут, сама ведаеш, як нялёгка яно дасталося. — Ён падышоў да жонкі, узяў за руку. — А ты разумніца, хутка навядзеш там парадак.

— Ці здолею я?

— Здолееш. Фелікса Дыбу замест Козырава возьмем правіць, і ўсё наладзіцца.

— Хто такі Дыба?

— З ліцвінаў пераселеных. Ён у Крайне ўжо. Не бойся, ён хоць і з паўстанцаў, чалавек памяркоўны. І галоўнае — працавіты.

Графіня ўздыхнула. Ад'езд з горада, ад дабротаў, да якіх прывыкла змалку, яе палохаў. Але пярэчыць мужу не хацелася, і яна пайшла на хітрасць.

— А з Пелагейкай што?

— З Пелагейкай? — Андрэй Мікалаевіч на хвіліну задумаўся. За лёс дзяўчынкі, бацька якой, ягоны бесталковы стрыечны брат-няўдаліца, згінуў падчас бойкі з-за нейкае жанчыны, маці, выхавацелька іх адзінага з Марыяй Іпатаўнай сына Алёшы, памерла месяц таму пры родах, ён, чалавек чуллівы і сумленны, адчуваў адказнасць не меншую, чым за лёс уласнага сына.

— Два месяцы дзіцяці, хай бы акрыяла, — гнула сваё Марыя Іпатаўна.

— Няхай будзе па-твойму, — задаволены, што ўрэшце перамога, хоць і з невялікімі саступкамі, засталася за ім, пагадзіўся граф. — Падрасце дзеўка, па вясне выпраўлю з нянькаю да вас у Крайну. А можа, і сам к таму часу перабяруся.

— Добра, Андрэй, як скажаш.

Марыя Іпатаўна ўстала, трымаючыся як мага раўней, пайшла да дзвярэй.

У бальнай зале дзевяцігадовы Алёша, накрэсліўшы крэйдаю на падлозе квадрацікі, гуляў у класы.

— Плача, чуеш, мама? — сказаў па-французску, хаваючы за спінай перапэцканыя крэйдай рукі.

Сапраўды, зверху, з-за галерэі, за якою быў дзіцячы пакойчык, чуўся манатонны і працяжны, як скавытанне шчанюка, голас немаўляці.

Марыя Іпатаўна, не спыняючыся, моўчкі прайшла паўз сына. Дзіцячага плачу яна заўсёды не любіла, а зараз, пасля непрыемнай размовы з мужам, і наогул не жадала чуць.

Дзяўчынка ікнула, дробненька перабіраючы ў паветры ружовымі пульхнымі ножкамі, гарэзліва пацягнулася рукамі да сцяны, дзе вісела мапа.

— Бач ты, вучонаю будзе наша Пелагейка. — Палашка цмокнула малую, расшпіліла на грудзях кофту. Немаўля торкнулася губкамі ў набрынялую грудзіну, смачна зацмокала.

У пакой увайшла Марыя Іпатаўна. Яна была апранута па-дарожнаму, у вачах свяцілася незадаволенасць.

— Ужо не плача?

— Не. — Палашка пачціва ўсміхнулася. — Вось толькі рукі ўвесь час да мапы цягне.

— Значыць, будзе падарожніцай. — Графіня казытнула малую за шчаку. — Мы ад'язджаем з Алёшам у Крайну, а вы, як толькі пацяплее, прыедзеце з Пелагейкай.

— Слухаюся.

— Дык да спаткання, — Марыя Іпатаўна змахнула з павека слязіну, стукаючы абцасамі, накіравалася да дзвярэй.

Лета было ранняе, нязвыкла цёплае, з бясконцымі дажджамі. Ужо двойчы нахопліваліся і навальніцы. Насычаная вільгаццю зямля ўранку клубілася парай, зноў ішоў дождж, і здавалася, яму не будзе канца.

Палашка з Пелагеяй збіраліся ў Крайну. Той самы экіпаж, у якім пяць месяцаў таму ад'язджала графіня, стаяў ля ганка. Апошнім узгрузілі на яго кошык з полкамі.

Андрэй Мікалаевіч выняў дзяўчынку з зыбкі, панёс да выхаду. Яна крутнулася ў ягоных руках, паказваючы на сцяну, незадаволена захныкала.

— Што яна хоча?

— А вы не ведаеце? Мапу, вось што! — засмяялася Палашка.

— Мапу? Дык здымі яе і нясі ў экіпаж.

Мапу паклалі ва ўзножжы, і малая, пакуль ехалі да Крайны, засяроджана вадзіла пальцам па звілістых, абы-як раскіданых лініях рэчак і дарог.

— А гэта што? — Марыя Іпатаўна, прыкметна пасвяжэлая на вясковым харчы і паветры, падкінула мапу ўгору, сярдзіта зірнула на Палашку.

— Пелагейка любіць, дык Андрэй Мікалаевіч загадаў узяць, — сцінаючыся пад няўхвальным паглядам, адказала тая.

Графіня колькі часу стаяла ў задуменні.

— Добра, павесіце ў сябе ў флігелі, — сказала нарэшце. Затым рэзка павярнулася, пакрочыла алеяй у дальні кут саду.

Палашка ўзяла дзіця на рукі, стараючыся не спатыкацца на брукаванцы, якою кругамі быў выкладзены дзядзінец, падалася за гаспадыняй.

Слуга Міхей, падзівіўшыся хвіліну-другую на незразумелыя знакі, згарнуў мапу ў скрутак, панёс следам за жанчынамі.

### 3
### 1813. Апантаная

*Цемра крыху рассунулася, і адразу сталі бачныя пагоркі. Абодва белыя, з абодвух сцякалі долу, расплываючыся па прасціне, рáгі крыві. Час ад часу яны варушыліся, тады рухацца адразу рабілася лягчэй. Але ногі ўсё яшчэ знаходзіліся ў схроне. Яна адштурхнулася мацней, напружваючыся, папаўзла на святло. Хваля падхапіла яе, перакочваючыся, штурхнула наперад. Пах газы і дыму ахапіў цела, перашкаджаючы як след дыхнуць, засеў у горле...*

Цела сутаргава тарганулася раз-другі, супакойваючыся, паволі абмякла. Лекар Фокс выняў з зубоў дзяўчыны лінейку, кінуў на падлогу.

— Авохці! — Палашка перажагналася. — Гэта... навошта вы лінейку?

— Каб язык не скусала.

— Тое, гляджу, крыві сёння куды меней.

— Дык гэта не ўпершыню з ёю?

— Трэці раз. — У дзвярах стаяла, жмурачы вочы, графіня з кніжкаю ў руках. — Падучка, няйначай.

— Няйначай, так, — згадзіўся лекар.

Пелагея расплюшчыла вочы, абвяла пакой няўцямным паглядам.

— Пі-піць, — вымавіла, выштурхваючы з рота словы вялым, аблепленым ашмёткамі пены языком.

Палашка прынесла вады.

Фокс пахаваў прычындалы, накіраваўся да выхаду.

— Не пашэнціла вам, Марыя Іпатаўна, — сказаў графіні, калі выйшлі з пакоя. — Падучка — кепская хвароба.

— Што добрага чакаць, Эдгар Іванавіч, — з мапаў дзеўка не вылазіць. Хоць ты спалі іх. Спрабавала да іншага чаго прыахвоціць — дзе там! Такая ўтрапёная. Вось і хвароба. Можа, Андрэю Мікалаевічу ўдасца паўплываць...

— А мае вярнуцца?

— З хвіліны на хвіліну чакаем.

Яна бачыла, як дзверы зачыніліся, як пайшоў Фокс, а за ім, шоргаючы падолам сукенкі, графіня.

Колькі часу было зусім ціха. Затым зверху, са спальні, пачуліся гукі: графіня, дробненька ступаючы па паркеце, прайшла праз калідор. І тут жа дзверы зноў грукнулі, нехта спускаўся ўніз.

Пелагея дастала з-пад падушкі насоўку, выцерла рот. Крыві яна ніколі не баялася, і тое, што матэрыя ўвобміг зачырванела, і на гэты раз яе не напалохала.

Крокі былі ўжо зусім блізка. Па хадзе можна было здагадацца, што ідзе мужчына.

Трымаючы адною рукою ля вуснаў насоўку, яна другою адкінула коўдру ўбок. Але як толькі стала на ногі, галава закружылася так моцна, што ўсё паплыло перад вачыма. Яна спрабавала схапіцца пальцамі за выступ сцяны, але сіл не хапіла.

Калі ачнулася, у пакоі было шэра. Нейкі мужчына, нахінуўшыся галавою да самай падушкі, сядзеў скрай ложка.

— Дзядзечка... дзядзя, — пазнаючы Андрэя Мікалаевіча і з недаўменнем гледзячы на ягоны пусты рукаў, сказала Пелагея. — Цябе паранілі?

— Нічога. — Граф уклаў рукаў у кішэню, каб не перашкаджаў, ніжэй схіліўся над дзяўчынай. — Мы адолелі француза, і гэта галоўнае.

— Дзе далёка ты быў?

— У войску Вітгенштэйна... Як палепшаеш, тады раскажу.

— Я зараз хачу. Кутузаў быў з вамі?

— Не.

— Пакажы месца, дзе ты быў.

— Вось тут, — Андрэй Мікалаевіч тыцнуў пальцам здаровае рукі ў край мапы.

Пелагея прыўзняла галаву, з цікавасцю зірнула на кропку пад ягоным пальцам.

— Сядзіба там ёсць?

— Ёсць і даволі вялікая.

— Як наша Крайна?

— Меншая, але вельмі прыгожая. Рэчка звілістая, а наўкола яе — дубровы. Зверыны шмат: казулі, дзікі, зайцы, лісы... Мясціна вельмі вабная.

— А называецца як?

— Дубраўка. Пачакай. — Граф выйшаў з пакоя, але вельмі хутка вярнуўся — са скруткам у руцэ.

Пелагея разгарнула яго.

— Мапа!

— Вайсковая, — удакладніў ён. — Бачыш, гэта месца, дзе наш лагер быў. А на ўсход, праз раку... вось... вось яна, Дубраўка.

— Я хачу туды, дзядзечка!

— Ого, туды! — Андрэй Мікалаевіч засмяяўся. — Гэта надта далёка. — І, бачачы, як спахмурнеў змучаны хваробаю твар дзяўчыны, дадаў: — Пажывем — пабачым, можа, і ўдасца калі.

Вяртанне Андрэя Мікалаевіча добра паўплывала на Пелагею: перасталі даймаць прыпадкі, з'явіўся апетыт, вочы павесялелі. Гувернантка ўзнавіла ўрокі, а ў перапынках між імі дзяўчына, як і раней, амаль увесь час бавіла над мапамі — схіліўшыся над сталом, выводзіла алоўкам лініі паміж Крайнаю і Дубраўкай. Невядомая зямля з рамантычнаю назвай нібыта прываражыла яе.

Тым часам і на дварэ пасвятлела: стаяла сярэдзіна красавіка, набліжаўся Вялікдзень.

У вялікую суботу завіталі госці з горада: графава сястра Таццяна з мужам і сынам Валодзем. Разам з імі прыехаў і сын Дыбы Бронак. Усе чакалі Алёшу, але ён прыехаць не змог — не пусцілі вайсковыя справы.

Малады Дыба нядаўна перабраўся ў горад з Вільні, часова жыў у графавай сястры і меў намер з часам перасяліцца да бацькі ў Крайну. Пелагеі ён адразу спадабаўся сваёй абыходлівасцю і сціпласцю. Усе дні, што госці жылі ў маёнтку, яна прасядзела ў сваім пакоі, баючыся лішні раз трапіць хлопцу на вочы, употайкі назірала з акна, як ён завіхаецца з Феліксам па гаспадарцы.

Кемлівая Марыя Іпатаўна, здагадаўшыся, што да чаго, спрабавала вывабіць дзяўчыну з добраахвотнага схімніцтва, але дарэмна.

Праз дзесяць дзён госці паехалі.

Дзень іхняга ад'езду Пелагея знарок правяла ў суседзяў. А вярнуўшыся надвячоркам у Крайну, рынулася на ложак і ўсю ноч праляжала на адным месцы, бы нежывая.

*Любаша войкнула, камечачы прасціну, сцягнула яе з сябе. Затым выпхнула з-пад галавы падушку, сціскаючы вільготнымі ад пярэпалаху і напружання пальцамі, шпурнула на падлогу. Наўлечка шваргнула, шчэрачыся пер'ем, распаўзлася па шве. Патрывожаная лямпа гайданулася на падстаўцы, газа разлілася, разносячы па пакоі смурод. Бронак, зграбны, у новенькім, навырост пашытым сурдуце, увайшоў на гук, не зважаючы на дым, падаўся да ложка. Пелагея варухнулася, даючы хлопцу месца побач, але дарэмна. Бронак пастаяў з хвіліну ля іх, затым расчыніў фортку, абыякава пасміхаючыся, сігануў у вузкаваты, аздоблены наўкола веццем пакаёвае бярозкі праём. Любаша прыўзнялася, каб паклікаць яго назад, але боль зноў прыгнуў яе долу...*

## 4
## 1815. Падарожжа

Андрэй Мікалаевіч задаволена прашпацыраваў па пакоі, усміхнуўся. Што ж, няблага: ураджай жыта добры, даўгі выплачаны, суконная фабрыка працуе без збояў. Праўда, вайна крыху падарвала гаспадарку, але страты нязначныя і ўдалая здзелка з продажам лесу хутка іх пакрые.

Цяпер, калі ўсё гэтак добра складваецца, можна падумаць і аб падарожжы. Графіня ўжо колькі год трызніць Італіяй. Пабраўшыся, ездзілі туды, але калі тое было?

Андрэй Мікалаевіч трасянуў званочкам.

— Дыбу да мяне! — загадаў пакаёўцы і зноў уладкаваўся за сталом.

Дыба з'явіўся праз пяць хвілін.

— Уваходзь, Фелікс. — Граф падняўся насустрач, падаў руку. — Ну, што там з лямусам?

— Будуецца. — Аканом, як заўсёды, адказваў коратка.

— Ох, і напрыдумлялі мы з табою новаўвядзенняў, скора ўся губерня будзе з'язджацца глядзець. Спачатку фабрыка, цяпер гэтая... лядоўня. Паглядзець ужо можна?

— Можна.

Яны выйшлі на двор.

Ля выкладзенай з камення лядоўні, што месцілася на самым ускрайку

лога, і толькі адзін, паўночны, бок яе заставаўся адкрытым для сонца, завіхаліся цесляры. Ужо былі пакладзены тры ніжнія вянцы зруба, убаку, ля хмызу, зіхацелі абчасаныя да бляску дошкі тэраскі. Андрэй Мікалаевіч пасміхнуўся: усё было акурат так, як ён бачыў у Дубраўцы, калі адседжваўся пасля ранення ў пакоях тамтэйшага памешчыка. Адно — сцены неабшаляваныя. Прыгожа і галоўнае — зручна. Харч не будзе псавацца, бо лёд пад падлогаю, і самому ў спёку можна на тэрасе час прабавіць. У Дубраўцы, бачыў, панская чэлядзь і начуе на тых тэрасах.

— Фелікс!

Дыба кінуў сякеру, якой узяўся ўжо абчэсваць бервяно, падышоў да яго.

— Марыя Іпатаўна хоча ў Італію з'ездзіць, як ты на тое глядзіш?

— Мне што, самі вырашайце.

— А бюджэт вытрымае наш?

— Вытрымае, не хвалюйцеся. — Дыба засмяяўся, затульваючы вочы рукою ад сонца, падаўся назад да цесляроў.

Дарога далася нялёгка. Доўгія стаянкі, рамонт экіпажа, перапады тэмпературы — усё патрабавала цярплівасці і фізічнай загартоўкі.

На дзіва, Пелагея, за якую баялася графіня, аказалася нават больш вынослівай, чым яна сама. Седзячы побач з Міхеем на козлах, дзяўчына не адрываючыся сачыла за мясцовасцю і час ад часу рабіла на мапе нейкія знакі. Рэкі і рэчкі, азёры, балоты — нішто не заставалася незаўважаным, усё рабілася прадметам тапаграфічных вышукаў. І калі 20 траўня ўзбіліся на Апіеву дарогу, мапа нагадвала ссечаную шротам мішэнь.

Вечны горад сустрэў іх сонечнымі промнямі. Час летняе задухі яшчэ не пачаўся, і паветра было свежае і лагоднае. Старая сіцылійка, у якой спыніліся па рэкамендацыі адной княгіні, далёкай сваячкі Андрэя Мікалаевіча, за памяркоўную плату саступіла падарожніцам тры прасторныя, упрыгожаныя пад антычнасць пакойчыкі.

Калі графіня часам адчувала сябе няёмка з-за немагчымасці харчавацца на шырокую нагу, дык Пелагею гэта зусім не бянтэжыла. Піца, якую гатавала ім кухарка сіцылійкі, яе задавальняла цалкам, і яна час ад часу, каб пацвяліць цётку, брала з сабою на вуліцу колькі кавалкаў.

Засмечаныя, наводненыя імпульсіўнымі жабракамі вуліцы горада цягнулі дзяўчыну, як магнітам.

Першы тыдзень прысвяцілі агляду форумаў. Заімшэлыя, паўразбураныя пабудовы Пелагеі не спадабаліся. Затое слон на пляцы Мінервы выклікаў гэткую буру эмоцый, што Марыя Іпатаўна вымушана была зрабіць ёй заўвагу.

Напрыканцы другога тыдня наведалі ватыканскія музеі. Пабыць за экскурсавода ўзахвоцілася дачка гаспадыні Лаура. Яна збольшага гаварыла па-руску, да таго ж няблага арыентавалася ў экспазіцыях.

Неверагоднае мноства жывапісу вельмі хутка стаміла падарожніц. Затое ўсё кампенсавалася ў галерэі мапаў. Ледзь трапіўшы ў яе, Пелагея знерухомела ў здранцвенні перад выяваю-боцікам і абрысамі выспаў наўкола яе. Трыццаць дзве мапы ў сучасным і старажытным выглядзе заваражылі яе так, што Марыі Іпатаўне давялося нават вяртацца па пляменніцу з наступнае залы.

— Пелагея, што такое?

Дзяўчына схамянулася, неахвотна пасунулася следам за графіняй у накірунку Сікстынскай капліцы.

У капліцы было тлумна.

Пелагея прыхінулася плячом да перагародкі, зірнула ўгору. Біблейскія персанажы, раскінуўшыся ў фрывольных позах, цьмяна паблісквалі тварамі праз тоўшчу векавога друзу. Пра асобных яна чула яшчэ ў Крайне — ад дзяка. А вось прозвішча мастака, як ні намагалася, хоць дзяк, памятала, і казаў, успомніць не магла. Адзінае, што ведала дакладна, дык гэта тое, што маляваў ён, стоячы на падстаўках і задраўшы голаў, так што вада і фарба ручаямі ліліся небараку на бараду і ў вочы, а суставы ламала ад доўгага сядзенння бокам пад самым плафонам.

Уся зала была раздзелена надвое перагародкай.

— Тут Папу выбіраюць, — патлумачыла Лаура. — Вунь уваход. Яго замуроўваюць, а ў каміне разводзяць агонь. Размуроўваюць, як дым пасвятлее.

Працэдура падалася Пелагеі цікавай, яна нават пакратала дзверы рукамі. І хуценька пайшла прэч з памяшкання. Хацелася есці, ды тут, у музеі, жаваць піцу было неяк няёмка.

Кожны дзень прыносіў новую хвалю спёкі, і Марыя Іпатаўна, баючыся, каб Пелагеі не зрабілася блага, вырашыла вяртацца дахаты. 14 чэрвеня, накупляўшы правіянту і прэзентаў для графа і ягонай сястры, апошні раз выправіліся ў вандроўку па горадзе.

— Купі сабе што-небудзь на памяць, — спыняючыся ля крамы з біжутэрыяй, сказала графіня.

— Добра. — Пелагея ўзяла грошы і, як толькі Марыя Іпатаўна адвярнулася, шмыгнула ў дзверы побач.

Праз пяць хвілін яна вярнулася.

— Вось, купіла, — сказала весела, разгортваючы новенькую, з пахам друкарні, мапу Італіі.

## 5
## 1817. Павэлак

***(з этнаграфічных запісаў сябра гуртка «Шубраўцы» Віленскага універсітэта Юльяна Пачопкі для «Брукавых ведамасцяў»[1])***

*Усякая трасца на чалавека, ага. Тыфус табе, а то ўвосень скуллё ўкашацца. Ну, і лечыш цыбулінай. Прыкладзеш нанач — раненька, глядзіш, і правецъ. А знак сяроўна астанецца. І ўсё на беднага. Пан, як што, ляжыць і ляжыць сабе. А ты роб.*

*Посля вайны дужа хварэлі. Мерцвякоў усюдых, як блох тых, было, па ямах засыпалі. Каторых палілі. Тыфус узняўся, а тады й крываўка. Сем'ямі касіла. Страшна. На двор выйдзеш і дрыжыш, каб ад суседзяў не пераляцела. Мае бацькі і дзве сястры з крываўкі паўміралі.*

*У вайну тэж паскудна было. Перва маскаль наляцеў. Хранцуз далёка йшчэ быў, дык яны заўчэсня. Мальцаў у войска адразачку, а мужыкоў — рабаваць. Хлеб, яйко якое, млечына — усё выметуць. У пана Кандратовіча дзесяць коней узялі, жыта яшчэ чатыры падводы, срэбра. Самога ў крэпасць пасадзілі, паневаж[2] процi йшоў. Але мы ня велька па ім бедавалі.*

---

[1] Выданне гуртка «Шубраўцы», выд. ў 1817–1822 гг.

[2] Бо *(польск.)*.

*Блаж быў пан, жулікаваты. Дзеўку каторую бедную возьмець у пакоі, яна й родзіць тады. Сам з польскага мовіў, і нам загадваў. Сястра ягоная, Канстанцыя, і Тамаш, брат, саўсім другое дзела.*

*Тады, после троху, хранцуз прышоў. Пры шаблях усе, гунуровыя. Аканом панскі з маскалёў быў, дык яго застрэлілі адразу, каб не баразніў. Маладзейшых мужукоў у войска пабралі і знова цягнуць. Сто гарнцаў мёду з пасекі вывезлі, касцёл і цэркву ў мястэчку падчыстую вымелі.*

*Біліся дужа. У нас — не, нічога, а во ля Друі многа палягло. У ліпцы колька дзён чорна а чорна было ад дыму. Гарматы так білі — у вушох залягала. Многа палягло. Каторых шаблямі пасеклі, каторыя пад коней трафілі. Ранілі многа. З маскалёў адзін быў прыбіўшыся да нас ранены. Даглядалі яго, пакуль з падводай за ім не прыехалі. После, палепшаўшы, знова прыязджаў, без рукі ўжо. Бывала, ходзіць усё наўкол пакояў, разглядаець. Лядоўню дужа ўпадабаў.*

*Цяперака во калек многа, ля касцёла ў мястэчку ў нядзелю, як рабакоў тых у бруху. Ага, болі касцёлы ў нас, ксяндзы пры іх, клерыкі. Цэркваў тэж троху ёсці. Упярод, пры вуніі, начыя былі, перараблілі.*

*Зямля ўсякая: і пясок, і гліна. На пяску, як дождж, добра расцець, у сухое лета — па нізябінах. Сёлета дрэнь ураджай, авёс сам два*[1] *калі надойдзець. Арэх тока нішто. Арэхі добра: натрасеш увосень і ясі ўсю зіму.*

*Пакоі ня рушым, так стаяць. Анэгды прыязджалі з воласці, аглядалі. Бытта новы пан маецца прыехаць, а хто, скуль — невядома. Каб жа добры трафіўся.*

*Дзераўца гэта углісам*[2] *даўней называлі. А Кандратовіч як пасяліўся, адразачку флянец прышчапіў і году загадаў зваць. Як палякі адышлі, падгніваць стала. Дык адзін вухарац зрэзаў вяршаліну і да дзічкі прышчапіў. І добра зробіў, а то шкода ж. Улетку ад слонца схувацца, і паесць тэж. У вайну ягадамі ратаваліся. Расцець бо велькае і ягад многа. У галаву б'ець, праўда. Пры Кандратовічу, бывала, як што зайдзець з мужукамі, рабункі якія, — яго даець. Тады зразу і паспакайнеюць. Перад вайной было, былі ўзняўшыся, каб чыншу мені плаціць. Дык ён загадаў ахмістрыні наварыць і даў. Трое сутак спалі, як забітыя.*

*Вучыцца — не, ня вучымся. Пашто нам? Добра робіць — граматы не надабя. Чувалася, бытта збіраюцца адчыняць школу, а што з таго будзець, паглядзём. Мая Антолька да навукі здатная. Па ксёнжках чытаць наўчылася. Цяперака да ксяндза ходзіць катахізмаў цвічыць. Хваліць ксёндз, кажаць, разумная.*

*Назвіска наша? Старынскія. Ага, тутака жывём, вун хата ля стаўка...*

## 6
## 1818. Помста

— Перастань! — Пелагея вызваліла руку, нямоцна, больш дзеля прыліку, чым насамрэч, ляпнула хлопца па плячы. — Цётка ўбачыць, будзе нам абаім.

Бронак адсунуўся ад яе, стаў ля шафкі з парфумаю.

— Я рукі тваёй папрашу.

[1] Паказчык ураджайнасці (сам — кратнае ад пасеву).
[2] Выростак *(літ.)*.

— Яшчэ чаго! Забудзься пра гэта, — разгортваючы складзеную ў чатыры столкі мапу і прыкладаючы яе да вольнага месца на сцяне між акном і дзвярыма, сказала Пелагея. — Вось тут добра будзе, праўда? Падай клей.

— Што гэта?

— Копія Дрысенскага ўмацаванага лагера. Дзядзечка прэзентаваў.

Бронак падаў клей.

Пелагея намазала рагі мапы клеем, прыцінула да сцяны.

— Зацяжкая, не хоча трымацца. Ці, можа, клей благі. Памажы мне.

Хлопец стаў ззаду, дыхаючы ёй у шыю, прыціснуў далонь да мапы.

Пелагея рэзка павярнулася да яго, гледзячы ў вочы, парывіста абняла.

— Каханне маё...

— А ты — маё, — вызваляючы галаву, каб пагледзець, ці зашчэпленыя дзверы, сказала Пелагея і ціха засмяялася.

— Пелагея, адчыні, чуеш? — голас Марыі Іпатаўны дрыжэў ад абурэння. — Адчыні!

— Наўрэлі! Хутчэй ты! — Пелагея папраўіла сукенку, пайшла да дзвярэй.

Графіня ўвайшла ў пакой, падазрона бліснула вачыма ў Бронкаў бок.

— Я прасіла, і здаецца, вас, пан Дыба, сюды не прыходзіць. Вы забыліся?

— Я... даруйце, графіня.

— Пан Браніслаў толькі памог мне павесіць мапу. — У Пелагеіным голасе чулася знаёмая Марыі Іпатаўне цвёрдасць.

— Мапу! — усклікнула яна, з жахам гледзячы на свежазаклееную частку сцяны.

І, не чакаючы, пакуль Бронак падымецца, пакіравала да дзвярэй. Па дарозе, аднак, не ўтрымалася, азірнулася зноў.

— Гэта апошні раз, пан Дыба, чуеце?

— Гэта апошні раз! — Пелагея рынулася на ложак, камечачы коўдру, уткнулася тварам у падушку.

Бронак пайшоў ужо, але пах ягоных валасоў з наўлечкі яшчэ не выпетрыўся. Які ён прыгожы, яе Бронак! Аднаго ягонага дотыку дастаткова, каб страціць галаву. А іх хочуць разлучыць! Не, не будзе гэтага! Калі праўда, што графу дораць скарбовы маёнтак у Дубраўцы, яны з Бронкам таксама туды паедуць. А перад тым... О, яна ведае, што перад тым. Толькі кабету тую ў сукні, што прымроілася падчас апошняга прыпадку, зноў пабачыць.

— Пелагея!

Марыя Іпатаўна, бледная і нейкая нязвыкла высокая ў сваёй чорнай аксамітавай сукенцы, зноў стаяла ў дзвярах і гняўліва ссоўвала бровы да аздобленага з абодвух бакоў радзімкамі пераносся.

Пелагея падхапілася з ложка.

— Пелагея, я прасіла цябе не пускаць сюды гэтага мужыка? Скажы, прасіла?

— Прасілі, цёцечка.

— Дык што ж у рожкі са мною бярэшся, неслух? — графіня падышла бліжэй, рэзкім штуршком адарвала руку дзяўчыны ад мапы. — Ён што, падабаецца табе?

— Падабаецца.

— Вось яно што. — Голас Марыі Іпатаўны памякчэў. — Ну, мала што! Мне таксама ў маладосці шмат хто падабаўся. Так што глядзі — больш каб ён сюды ні нагой!

*Галоўка паволі высунулася вонкі, падрыгваючы вейкамі, гучна, быццам просячы як хутчэй вызваліць з абрыдлага схрону, заквіліла.*

*«Да мяне, сюды!» — жанчына ў чорнай сукні схапіла немаўля, хуценька павяла за руку з памяшкання.*

*У доўгім, абвешаным з абодвух бакоў мапамі калідоры акно было расчынена, і праз яго бачнае было нейкае дрэва. Яно ўсё было абсыпана ягадамі і вельмі нагадвала тое, што расло пад акном у Любашы. «Яно», — сказала жанчына, затульваючы целам малую ад скразняку, панесла ў наступны пакой.*

*У вялікім памяшканні з размаляванымі сценамі і столлю два мужчыны: адзін барадаты, з акрываўленымі па локці рукамі і ў высокай баярскай шапцы, другі безбароды, затое з вусамі, у каптане і з сумкаю цераз плячо, з якой выглядваў цяслярскі рыштунак, — штосьці варылі ў чыгуне.*

*Пакой быў раздзелены на дзве часткі перагародкаю, і ў другой яго палавіне мужчыны і кабеты, ссунуўшы на сярэдзіну стала кубкі, чакалі пачастунку. Час ад часу барадаты апускаў у варыва палонік, трымаючы яго перад сабою, нёс да стала. Людзі падхопліваліся з месцаў, навыперадкі падстаўлялі кубкі. Тыя, каму пашчасціла зрабіць гэта першымі, тут жа апаражнялі іх і тут жа, бы ашалелыя, імчаліся да выхаду. Але ён быў замураваны, і яны ў адчаі кідаліся на мур, разбіваючы галовы аб цэглу, валіліся нежывыя адзін на аднаго. Ужо дзесяткі з тры няшчасных, зыходзячы крывёю, курчыліся на тым месцы ў перадсмяротнай агоніі.*

*Безбароды, пагрымваючы рыштункам, падышоў да жанчыны ў сукні, прапанаваў пакаштаваць варыва. «У святым месцы — няможна», — сказала яна, адмаўляючыся. — «У святым сама клін клінам выбіваць», — настойваў ён. — «Свае кліны маем», — сказала яна і выняла з кішэні раслінку. — «Добра». — Вусаты задаволена ўсміхнуўся, вярнуўся да чыгуна. Потым нечакана выхапіў адною рукою са скрыні нож, другою цапнуў хаўрусніка за бараду і хуткім рухам адхапіў добрую яе палову.*

*Жанчына ў сукні, прыціскаючы Пелагею да сябе, рынулася да дзвярэй.*

*«У-уу-ох! — закрычаў ім наўздагон абстрыжаны. — Хапайце іх!»*

*Цэлая плойма грэшнікаў з шапаценнем сарвалася з плафона, ашчэрыўшы страшныя зяпы, кінулася выконваць загад.*

*Раптам паветра затрымцела, і над дзвярамі невядома адкуль ўзнеслася самотная, уся ў чорным, постаць Любашы. Яна павольна спусцілася на падлогу, нячутна ступаючы, дакранулася да сцяны збоч дзвярэй. Дзверы рыпнулі, расчыніліся.*

*«У-уу-ох!» — грымнуў наўздагон уцякачкам і стаяў пад скляпеннем, прыглушаны сцяною голас паўбарадатага...*

Яна варухнулася, правяла далонню па вуснах. Крыві на гэты раз не было, але галава балела моцна. «Сон, значыць», — мільгнула думка і тут жа знікла, адціснутая ў нетры памяці новым, цяпер ужо рэальным, уражаннем.

За акном, шапочучы лісцем, чырванела ў промнях цьмянага, прытомленага за лета вандроўкамі сонца безназоўнае дрэўца з невялікімі, з вішніну, ягадзінамі ўсцяж галін — акурат тое, што саснілася ў сне.

Яна падхапілася, не зважаючы на млявасць у нагах, падбегла да акна.

«У-уд-ог!» — гэтак, здаецца, назваў яго вар'ят з акрываўленымі рукамі. Дзядзька Андрэй кажа, быццам вывелі яго, прышчапіўшы флянс ад куста, пасаджанага нейкім царом у ваколіцах аднаго мястэчка блізу Дуб-

раўкі і прывезенага графам пасля вайны. Быццам з крыві забітых людзей узышоў парастак і палівалі яго вадою з ракі, у якой тых забітых утапілі. І быццам такое атрутнае яно, гэтае дрэва, што як паясі варыва з ягоных ягад, здурнееш і будзеш рабіць абы-што.

Дзверы рыпнулі, асядаючы, крыва загайдаліся на заржавелых завесах. У сенцах было відна, паскі святла, прабіваючыся паўз дзіркі між кроквамі пабітай ветрам і дажджамі саламянай страхі, гойсалі па сценах, зазіралі ў кублы ды цэбры і тут жа выскоквалі зноў на волю. Пелагея аглядзелася.

Хата — сенцы ды адзіны пакойчык — самотнае жытло нябожчыцы Палашкі — якраз тое, што ёй зараз патрэбна.

Яна адкінула засаўку на другой дзверыне, увайшла ў пакой.

Печ была на месцы. Гурба дроў, не скарыстаных гаспадыняю, ляжала пад прыпекам. Тут жа, побач, стаяла прыслоненая да сцяны качарга.

Яна дастала з палка чыгунок, пераставіла яго на прыпек. Цяпер трэба было прынесці вады ды раскласці агонь.

На панадворку Васька, фурманаў унук, абіраў дзяды і цаляў імі ў галубоў.

— Васька, вады! — загадала яна і падала праз акно вядро. — А як прынясеш — пана Браніслава пакліч. Там у маім кошыку ягады, няхай прынясе. І цвікоў заадно прыхопіць.

Застаўшыся адна, яна развяла агонь і, пакуль дровы ўгараліся, агледзела вокны. Адно было пабіта, дзірка зеўрала акурат пасярод шыбы; заткнула яе рыззём. Затым узялася скрэбці чыгун.

Калі хлопцы прыйшлі, усё было гатова.

Яна спаласнула чыгун прынесенай вадою, выліла бруднае, зноў наліла.

— Пастаў на прыпек, — загадала Бронку, гледзячы на полымя невідушчымі вачыма.

Ён выканаў загад — гэтаксама пакорліва, як рабіў усё для яе дагэтуль.

— Цяпер выйдзі і забі дзверы дошкамі.

— Забіць дошкамі? — хлопец сумеўся. — Што ты надумала?

— Мая справа.

Забіўшы вокны, Бронак колькі часу стаяў на двары.

— Што з дзвярамі? — спытаў знадворку, не адважваючыся ўвайсці.

— Таксама забі. Сачы за дымам. Як пасвятлее, адчыніш.

— Добра, — пагадзіўся ён і зірнуў у шчыліну між дошкамі: у хаце было цёмна, і доўгі Пелагеін цень у водсвеце полымя здаўся яму падобным на прывід.

Марыя Іпатаўна адставіла кубак, затульваючы твар шалем, гучна кашлянула.

— Добры напой, — сказала, беручы з падноса яблык. — Як называецца?

— Крамбамбуля, — закаркоўваючы штофік, адказала Пелагея.

— Але ж і назва! А адкуль рэцэпт?

— Андрэй Мікалаевіч прывёз з Дубраўкі.

Марыя Іпатаўна грэбліва перасмыкнула вуснамі.

— Што толькі не прыдумаюць гэныя ліцвіны!

— Але вы самі кажаце, што напой добры.

— Кажу — бо праўда. Але гэта зусім не значыць, што ўсё іхняе добрае. Я не збіраюся сімпатызаваць рэвалюцыянерам. Шляхта тая, ці як там яе, толькі і чакае моманту, каб зрабіць нам якую прыкрасць.

— А дзядзечку яна падабаецца.

— Во-во, падабаецца. — Твар графіні зрабіўся зусім чырвоны. — Спіць і трызніць як найхутчэй у Дубраўку ад'ехаць.

— У Дубраўку? Значыць, вырашылася-такі справа?

— Вырашылася. — Марыя Іпатаўна незадаволена зморшчылася. — Прапанавалі на выбар як удзельніку вайны адзін з маёнткаў, дык лепш не прыдумаў, як тое шляхцюцкае балота ўзяць. Уяўляю, што там за рэзрух.

— І хутка ад'язджаць?

— Праз два месяцы. Я не хачу ехаць. Тут звыклае ўсё, сваё і галоўнае — Алёшава часць побач. А там? Усё нанова трэба пачынаць. Ды хіба пераканаеш Андрэя Мікалаевіча!

— Можа, яшчэ і сам перадумае, — хаваючы радасць за ветлівую ўсмешкай, сказала Пелагея і зноў адкаркавала штоф. — Яшчэ, цёцечка?

Лекар Фокс ужо трэці тыдзень наведваў графіню, але хваробы разгадаць так і не змог. Марыя Іпатаўна паводзіла сябе неспакойна: то кідалася на сцяну, абдзіраючы аббіўку, то пачынала дрыгаць нагамі, то раптам ускідвала ўгору рукі і махала імі да знямогі, быццам намагалася злавіць штосьці нябачнае ў паветры. Часам буйнасць рабілася невыноснай, тады лекар наліваў з прыгатаванага Пелагеяю штофа чарку напою, даваў хворай, і яна тут жа засынала.

Пелагея, як і Фокс, увесь гэты час не адыходзіла ад цёткі. І толькі калі на змену прыходзіў Андрэй Мікалаевіч, давала сабе адпачынак: ішла ў свой пакой і там, лежачы ў ложку, да мятлікаў у вачаў узіралася ў мапу. Да ад'езду ў Дубраўку заставалася яшчэ больш за месяц, але на душы было трывожна. Як то будзе ў тым незнаёмым, адно з дзядзькавых аповедаў вядомым ёй месцы?

Заспакойвала тое, што граф меў намер узяць з сабою Дыбу. Значыць, Бронак таксама паедзе. А можа, і не — хто ведае, як далей усё складзецца? Пітво так слаба дзейнічае, і раптам Марыя Іпатаўна ачуняе і выканае пагрозу іх разлучыць?

Зрэшты, можа, і не ачуняе. Толькі б Фокс што не западозрыў. Ад гэтага ўніклівага немца ўсяго можна чакаць.

Напрыканцы трэцяга тыдня Марыі Іпатаўне палепшала. Але не цалкам: даймалі прыступы млоснасці, балела галава, звінела ўвушшу. І яна аб'явіла мужу, што ў Дубраўку паехаць не зможа, а застанецца ў Крайне да наступнага лета.

Андрэй Мікалаевіч павохкаў, паўздыхаў, ды іншага выйсця, як выпраўляцца аднаму, не было. Вядома, ён паедзе — у суправаджэнні Пелагеі і маладога Дыбы. Старэйшы, каб не агаляць крайнаўскае гаспадаркі, застанецца тут з сястрою графа Тацwянай і яе сынам Валодзем.

Васемнаццатага траўня караван з дзесяці падвод і экіпажа выехаў з маёнтка.

Пелагеін скарб месца заняў няшмат. У самым надзейным ляжала мапа. Спачатку яна хацела ўзяць усе, але ў апошні момант перадумала і задаволілася адной — той, на якой ужо колькі месяцаў чырванела абведзеная алоўкам лінія паміж сядзібай і далёкай Дубраўкай.

## 7
## 1822. Дубраўка

Пелагея запаволіла хаду, углядаючыся з-пад рукі на вокны графіні, павольна спусцілася да ракі.

Бронак сядзеў на ляшчыніне збоч купальні і гайдаў нагою вызваленую напалову з вады лодку. Побач, паблісквываючы халявамі, стаялі новенькія боты — шавец Ёсель надоечы перадаў хлопцу з мястэчка праз знаёмых.

Яна сышла са сцежкі, асцярожна ступаючы босымі нагамі па пяску, наблізілася да лодкі. Бронак падхапіўся з месца, памкнуўся да яе. Але блізка падысці не асмеліўся — не пускала крыўда.

Вось ужо колькі тыдняў, як адносіны між імі прыкметна сапсаваліся. Яны і даўно ўжо былі не такія бясхмарныя, як раней, а тут яшчэ гэты Людвік Лазоўскі... Сядзеў бы ў Вільні, у сваім універсітэце, дык не, закарцела па суседстве з Дубраўкай, у бацькоўскай сядзібе, асесці. Як на злосць, там якраз школка, у якой Пелагея за настаўніцу і ў якую тры разы на тыдзень ездзіць даваць урокі.

— Андрэй Мікалаевіч цябе кліча. — Пелагея порстка ўбрыла ў ваду. — З лямусам нешта.

Бронак злосна пхнуў лодку нагою.

— З лямусам! Я не цясляр, здаецца.

— Пан Дыба такіх слоў не ўхваліў бы. — Пелагеін голас гучаў як ніколі спакойна.

Гэта канчаткова раззлавала Бронка. Але напамін пра нябожчыка бацьку, які памёр падчас эпідэміі тыфусу неўзабаве па прыездзе з графіняю ў Дубраўку, трохі астудзіў раздражненне. Ён саскочыў з ляшчыніны, трымаючы наперавес на руцэ счэпленыя шнурам боты, паплёўся да пакояў. Ужо дапяўшы да пагорка, пачуў, як плёснула ззаду вада. Азірнуўся: Пелагея, шырока раскідваючы рукі, плыла праз затоку да другога берага.

Андрэй Мікалаевіч сядзеў на ганку, зморшчыўшы лоб, моўчкі назіраў, як цеслі завіхаюцца ля будоўлі. Нерваваўся: ці ж так марудна ішла б справа пры Феліксе? Трэці год, як мужыкі, рабуючы нічыйную яшчэ тады сядзібу, спалілі лямус, і так хочацца як найхутчэй яго аднавіць. Можа, наогул не варта было брацца за справу. Але ж як без лямуса і асабліва — без лядоўні? Вунь колькі ялавічыны спрахла летась. Зіма выдалася мяккая, адліжная, а хто ўгадае, якая будзе сёлета?

На ганак у суправаджэнні пакаёўкі выйшла Марыя Іпатаўна, абапіраючыся на кіёк, накіравалася да вогнішча пад дрэвамі — там другая пакаёўка, Туфіля, варыла варэнне з прынесеных дзеўкамі ягад.

Андрэй Мікалаевіч хацеў загаварыць з ёю, але не наважыўся. Жончына зацятасць у адносінах да Пелагеі і яе нелюбоў да тутэйшага люду ўсялякую размову нязменна ператваралі ў спрэчку. Ды і зараз ёй, падобна, было не да размовы: выгаворвала Туфілі.

— Колькі казаць табе: ложка, а не лыжка! Калі ўжо ўцяміш?

— Уцяміш тутака! — Туфіля злосна, ажно разляцеліся пырскі, тыцнула лыжкай у варэнне. — То з польскага вучыся, то цяперака во — іначай ужо. Маладзейшыя няхай, а нам і гэтак добра.

З-за сажалкі выбегла Антолька, размахваючы сачком, падляцела да маткі. Туфіля выняла з чыгуна аблепленую пенай лыжку, дала дзяўчынцы — аблізаць. Тая борзда аблізнула, але адыходзіць не спяшалася.

— У школу каб...

— У школу! — усплёснула рукамі Туфіля. — Надумалася! Хто цябе возьмецъ туды, мурзатую? Літараў навучылася, і досіць.

Калі Пелагея вярнулася да пакояў, ужо шарэла. Цесляры парадкавалі рыштунак, ля вогнішча Туфіля студзіла, памешваючы лыжкай, варэнне.

— Пачакай! — Бронак саскочыў з рыштаванняў, перагарадзіў ёй дарогу.

— Што ты хочаш? — яна сцяла вусны, атрасаючы на хаду мокрыя валасы, пакіравала напрасткі да вогнішча.

— Паспрабуйце, панечка. — Туфіля зачэрпнула з чыгуна гусціні, падала дзяўчыне. — Як, добрае?

— Нішто. Смакам тое, што ў Крайне вараць, нагадвае. З чаго яно? Туфіля пацiснула плячыма.

— Не ведаю. Бытта з дзерава нейкага дзеўкі па кустах назбіралі.

— З дзерава? З якога дзерава?

— Ды з таго, што ў кустах расцеъ...

— Я паглядзець хачу. Пакажыце мне.

— Антолька пакажаць, яна з дзеўкамі хадзіла.

— Дзе яна?

— У капцільні, Зосі каўбасы памагаець перавешваць.

— Пайду паклічу. — Пелагея торкнула лыжку назад у чыгун, пайшла алейкаю да пакояў.

Бронак зноў перагарадзіў ёй дарогу, але яна адпіхнула яго.

— Адчапіся, — сказала абыякавым голасам і, звяртаючыся да Туфілі, дадала зводдалеку: — Глядзі варэнне, пераверне хто няўрокам — будзе вам ад Марыі Іпатаўны.

Дрэўца было невысокае, але галінастае. Хоць ужо і шарэла, вёрткая Антолька лёгка расшукала яго сярод хмызу.

Пелагея прыклала далонь да камля — руку апякло холадам.

Якраз гэтак халадзіла, успомніла, і крайнаўскае.

Сярод лісця на самым версе яшчэ дзе-нідзе чырванелі ягады.

Антолька порстка падскочыла, абжаргаўшы камель лыткамі, узабралася на веце, скінула колькі ягадзін уніз. Яны былі салодкія і крыху прытарныя.

— Яно адно тут, ці яшчэ ёсць?

— Адно-адненькае. — Антолька аправіла сукенку.

— Ну, дзякуй табе, што паказала. Прыйдзі ўвечары, мапу падару.

— Тую, зялёную?

— Тую. Хочаш?

— Хачу. — Антолька хвіліну памаўчала. — І яшчэ ў школу хачу, Палагея Юр'еўна.

— Не Палагея, а Пелагея. Добра, паглядзім.

Хмыз упобачкі расхінуўся, і з яго выйшаў, крыва ўсміхаючыся, Бронак.

— Хадзем. — Пелагея схапіла Антольку за руку, хутка, не азіраючыся, пайшла прэч.

Млын і сядзіба ўжо засталіся далёка ззаду, а яны ўсё крочылі па алеі, не зважаючы на аблокі, што насоўваліся на сядзібу з захаду і поўдня, размаўлялі пра школьныя справы. Гаварыла больш Пелагея, Людвік жа

ўважліва слухаў: мова субяседніцы не заўсёды была яму зразумелая. Лазоўскія, хоць паходзілі з дробнае шляхты, дома гутарылі па-польску. Ды і ва універсітэце, дзе большасць студэнтаў складалі шляхціцы, таксама панавала пальшчызна. Нягледзячы на гэта, малады паніч Пелагеі падабаўся. Праставаты і занадта адкрыты — душа наросхрыст — Бронак у параўнанні з ім нагадваў селяніна.

Пачало імжэць.

— Хадземце сюды. — Людвік разгарнуў парасон, даючы Пелагеі месца побач, пасунуўся да краю алеі.

— Не было б грому, — прыстройваючыся збоку, сказала яна.

— Вы баяцеся грому?

— Трохі.

— Тады пойдзем назад.

Яна хацела сказаць, што вяртацца да маёнтка не жадае, але пасаромелася.

Паўвярсты да пакояў праляцелі як адна хвіліна. Дождж перастаў, абое бачылі гэта, але выходзіць з-пад парасона не спяшаліся.

— Вы, чула, у Вільню паедзеце, — пазіраючы на дзяцей, што валтузіліся ля школы, сказала Пелагея.

— Еду. Прывезці вам што-небудзь для школы?

— Мапа патрэбная. Мая, што з Крайны прывезла, зусім абтрапалася.

— Добра, будзе вам новая.

— Толькі ж па-польску не вязіце.

— Чаму?

— Так, не люблю.

Людвік хацеў штосьці запярэчыць, але не паспеў: угледзеўшы настаўніцу і маладога пана, падбегла Антолька.

— А дождж ня йдзець!

— Сапраўды. — Людвік склаў парасон, уздыхнуў. — А вы, панна Пелагея, у Вільню не хацелі б са мною з'ездзіць?

— У Вільню? — яна на хвіліну сумелася. — Хацела б, ды зараз не выпадае.

Сказала так і тут жа пашкадавала. Але і ўзрадавалася, убачыўшы, як зрабіўся сумным загарэлы, крыху шыракаваты для дваццацігадовага дзецюка твар паніча.

*Дым імкліва ўзняўся ад падлогі ўгору, пакалыхваючыся, самкнуўся над ложкам. Любаша здрыганулася ўсім целам, не жадаючы паддавацца стыхіі, перагнулася галавой праз рабрыну. Затым схапіла аберуч Пелагейку, прытрымліваючы за шыю, перадала ў рукі Бронку. Хлопец падхапіў немаўля, стараючыся як радзей дыхаць, панёс да дзвярэй. Другая мужчынская постаць аддзялілася ад закурадымленай сцяны, памахваючы парасонам, пайшла ім напярэймы. Пелагея памкнулася да яе, вызваляючыся з Бронкавых абдымкаў, саслізнула на падлогу. Патрывожаны рухам дым гайдануўся, воблакам асеў на твар парадзіхі.*

Увесь тыдзень, што Людвік быў у Вільні, Пелагея дапамагала ахмістрыні па гаспадарцы. Ішлі дажджы, з'явілася шмат грыбоў, і сяляне кашамі насілі іх у маёнтак. Усяму гэтаму трэба было даць рады.

Марыя Іпатаўна з пакояў амаль не выходзіла, падпёршы рукою шчаку, сядзела ў ядальні і раскладвала пасьянс. Яна вельмі пастарэла за апошні год і ўсе падзеі, што адбываліся навокал, успрымала як прыкрую перашко-

ду ўласнаму спакою і засяроджанасці. Адзіным месцам, дзе яна яшчэ калінікалі з'яўлялася, была пякарня.

Там, у сутарэнні між склепам і кухняю, заўсёды пахла хлебам і прыправамі, там яна адчувала сябе ўтульна і бяспечна. Яе звычка адшчыпваць ад кожнага бохана па кавалачку скарынкі не падабалася ахмістрыні, але яна на тое не зважала. Пакуль ахмістрыня не паскардзілася графу і той не даручыў Пелаґеі пагаварыць з жонкаю.

Размова скончылася нічым. Марыя Іпатаўна, абражаная, зачынілася ў спальні і двое сутак нікому нават не адгукалася. А потым, калі Пелагея выправілася ў школу, зайшла ў яе пакой, паскідала мапы ў грубку і падпаліла. Юшка была зачынена, і памяшканне напоўнілася дымам.

Калі Бронак з чаляднікамі адчынілі яго, графіня ляжала ў міжсценні пад сталом і амаль не дыхала. Столь і кафля на грубцы зачарнелі, пах гарэлай матэрыі разнёсся па пакоях. Марыю Іпатаўну вынеслі на двор, і там яна, хапіўшы свежага паветра, хутка ачуняла.

Пелагея, даведаўшыся пра здарэнне, толькі пацiснула плячыма. Гэта было на яе непадобна, і Бронак вырашыў скарыстаць сітуацыю як зачэпку для размовы. Але яна не адрэагавала. Чаканне новага спаткання з Людвікам цалкам завалодала яе думкамі.

Людвік вярнуўся, як і абяцаў, праз тыдзень, напярэдадні дня Усіх Святых. Была субота, Лазоўскія збіраліся ў мястэчка да касцёла. Царква, што павінна была неўзабаве адчыніцца ў суседняй вёсцы пасля перабудовы з уніяцкай, яшчэ не працавала, і Андрэй Мікалаевіч таксама вырашыў з'ездзіць у мястэчка. Пелагея, згараючы ад жадання як хутчэй пабачыць Людвіка, паехала з ім.

Спаткаліся ля Юдэлевай крамы. Імша ў касцёле і царкве скончылася адначасова, граф забег па нешта ў краму, а фурман Лазоўскіх якраз спыніў коней побач.

Людвік, крыху стомлены пасля падарожжа, выглядаў занадта засяроджаным. Пелагея хацела нагадаць пра мапу, але ён першы загаварыў пра яе:

— Два дні шукаў такую, якая ёй патрэбна, але ўсё-ткі знайшоў.

— Бачыце, стрымалі слова! — сказала яна жартам і ўпершыню за ўвесь тыдзень гучна, весела засмяялася. — Ну, дзякуй, а то Марыя Іпатаўна мае папаліла якраз.

— Хочаце, падвязу вас аж да Дубраўкі?

— Не-не, — азіраючыся на дзверы крамы, з якой павінен быў з хвіліны на хвіліну выйсці Андрэй Мікалаевіч, адмовілася яна. — Тут недалёка сяброўка мая, Карольця, жыве, дык хочам да яе заехацца.

З кожным днём рабілася сцюдзёней. Але настрой у Андрэя Мікалаевіча быў добры: работы на лямусе падыходзілі да завяршэння. Склеп, лядоўня, галерэя — усё было гатова, заставалася толькі набыць гонту для страхі.

Дапамаглі Лазоўскія. Старэйшы Людвікаў брат Валенты, які пасля вайны два гады адседзеў у крэпасці ў Дынабургу за помач французам, зараз рабіў у зямельным банку і намовіў лістоў у знаёмага немца. Напярэдадні Задушнага дня шэсць падвод прывезлі іх ад парома, а яшчэ праз чатыры дні дах быў даведзены да ладу.

Цяпер, калі ўсё было зроблена як след, а палеткі прыбраныя, можна было і адпачыць. Напрыканцы лістапада ў Марыі Іпатаўны быў дзень на-

раджэння, вырашылі яго справіць, запрасіўшы гасцей. Графіні, якая любіла атрымліваць падарункі, гэта спадабалася.

Падрыхтаваць запрашэнні гасцям даручылі Пелагеі. Яна напісала тэксты прыгожымі літарамі, і ў суботу Бронак іх развёз: два Лазоўскім, паваяговаму суддзі Барэйку і ягонай жонцы і Пелагеінай сяброўцы-настаўніцы Карольцы.

На пачатку наступнага тыдня Пелагея з Бронкам, запрэгшы падводу, двойчы з'ездзілі ў мястэчка па бакалею і прэзенты для імянінніцы. Абодва разы Пелагея, каб менш загаворваць у дарозе з хлопцам, брала з сабою Антольку.

Добра ўцямнела, у пакоях пазапальвалі лямпы, а гасцей усё не было. Андрэй Мікалаевіч раз-пораз пазіраў на гадзіннік. Марыя Іпатаўна, робячы абыякавы выгляд, каторы раз раскладвала карты. Пелагея з ахмістрыняй і пакаёўкай Зосяй завіхаліся ля стала.

Першыя, хоць ім і было далей за ўсіх, прыехалі местачкоўцы. І тут жа, амаль следам, і брычка Лазоўскіх падкацілa да ганка.

Старога Лазоўскага не было, затое разам з Людвікам прыехаў Валенты. Не такі вытанчаны ў абыходжанні, як брат, ён ад першае хвіліны не спадабаўся Марыі Іпатаўне.

— Яшчэ турэмшчыкаў не хапала, — падлавіўшы момант, калі ўсе выйшлі на двор праветрыцца, сказала яна Пелагеі. — Вось уробіць што, тады будзеце ведаць.

— Што ён уробіць, цёцечка? — засмяялася тая. — Скажаце!

Яна хуценька ўвайшла ў будынак, нячутна прычыніўшы дзверы, хіснулася за шафку, дзе стаяў ложак для чэлядзі. У памяшканні пахла стружкамі, з-пад ісподу, хоць лёд яшчэ не паклалі, пацягвала холадам.

Дзверы з пакояў расчыніліся, нехта, шоргаючы нагамі па жвіры, няспешна наблізіўся да лямуса. «Можа, Бронак», — падумала яна і стаілася ў цемры.

Аднак ішоў не Бронак. Пра тое яна адразу здагадалася, як толькі чалавек пачаў намацваць уваход. Бронак ведае пабудову і наўрад ці будзе гэтак доўга валаводзіцца з дзверынай. Ды і не парфуміцца ён, а тут ад паху не прадыхнуць.

— Вы тут, панна Пелагея? — голас, крыху прастуджаны ці то проста сіплы ад выпітага, канчаткова развеяў сумнеў.

Яна выйшла са схову, моўчкі наблізілася ў цемры да Людвіка.

— Я тут,— сказала, з жахам адчуваючы, як рука міжволі пацягнулася да ягонай.

Людвік абхапіў яе за стан, абдаючы дыханнем, прыціснуў да сябе — так моцна, што яна войкнула ад болю. Але вызваляцца не стала — занадна ж жаданай была гэтая хвіліна.

— Хадзем на галерэю.

Нешырокая, ледзь дваім змясціцца, галерэйка была мокрая ад нядаўняга дажджу. Пелагея адхінулася спіною да парэнчы, гледзячы ў густую, з водарам прэлае травы цямрэчу, гучна засмяялася. «Шчасце на краі сусвету — які цуд!» — падумала, зняможана асядаючы на падлогу пад цяжарам Людвікавага цела.

Андрэй Мікалаевіч увайшоў у пакой, знарок, як заўжды, калі хацеў выказаць незадаволенасць, грукаючы ботамі, грузна апусціўся ў фатэль ля акна.

— Што ж Браніслава крыўдзіш, пляменніца?

— Я? Крыўджу? — Пелагея зрабіла круглыя вочы. — Што вы, дзядзечка?

Граф колькі хвілін моўчкі глядзеў на яе.

— Ад'язджае ён, вось што.

— Ад'язджае? Куды?

— У Крайну. Будзе там Таццяне і Валодзю памагаць. Нядобра атрымалася.

— Маёй віны няма ў тым, — ціха, але ўпэўнена сказала яна.

— Такое судзіць цяжка, — устаючы, сказаў Андрэй Мікалаевіч. — Тут кожны сам сабе суддзя. Адно прашу: развітайся па-чалавечы. Ён любіць цябе.

— Любіць! — Пелагея ўздыхнула.— Любіць — гэта добра, але так мала, дзядзечка.

## 8
## 1827—1828. Школа

Марыя Іпатаўна памерла лёгка, суботнім надвячоркам, пад пошум кароткага — узляцеў і тут жа аціх — дажджу. Яшчэ на пачатку лета ў яе распухлі ногі, пухліна паступова паднялася вышэй, спаралізавала сэрца. Так сказаў лекар, і нічога не заставалася, як яму паверыць.

Напярэдадні, бачачы, што жонцы зусім кепска, Андрэй Мікалаевіч выправіў фурмана ў мястэчка па папа. Але было запозна, калі той прыехаў, графіня ўжо не дыхала. Туфіля з дзеўкамі ўзяліся мыць нябожчыцу, Антольку выправілі ў Станулі паведаміць Лазоўскім.

Прыехала адна Пелагея. Нервова прайшла на покуць, схілілася над цёткай.

— Людвік яшчэ не вярнуўся? — глытаючы слёзы, спытаў граф.

— Мабыць, заўтра вернецца, — адказала яна спакойна. Злосць на мужа, што не ўзяў яе з сабою ў Дынабург на хрэсьбіны Валентавага першынца, яшчэ не прайшла, але паказваць яе тут, пры нябожчыцы, было недарэчы.

— Што рабіць мне цяпер? — усхліпваючы, працягваў Андрэй Мікалаевіч. — Такі год нядобры... Бяда адна не ходзіць. Там ліст у вітальні, пачытай.

Пелагея выцерла далонню мокрую шчаку, перайшла ў вітальню.

Ліст быў з Крайны, ад Таццяны Мікалаеўны. Яе Валодзю два гады таму за ўдзел у снежаньскім паўстанні саслалі ў Сібір, і днямі ён там загінуў, пераплываючы на лодцы праз таежную раку. Цяпер яна зусім адна і не ведае, што рабіць з маёнткам.

Андрэй Мікалаевіч увайшоў у вітальню, стомлена апусціўся на канапу.

— Труну добрую зрабілі, — сказаў неўпапад. — А вось дзе пахаваем Марыю Іпатаўну?

— У мястэчку, пры царкве, дзе яшчэ. Не на гэтым жа вясковым, дзе адны каталікі. — Пелагея склала ліст, аддала графу. — А наконт Крайны таксама вельмі не турбуйцеся. Я, можа, хутка туды паеду, дык даведаюся, што ды як.

*Лямпа калыхнулася, слізгаючыся па падстаўцы, павольна спаўзла ва ўзгалоўе. Пелагея рванулася да маткі, каб памагчы адсунуцца, але не змагла: не пусцілі ногі. Тады яна адштурхнулася мацней. Ногі тарганулiся,*

*вызваліўшыся з палону, застылі на прасціне. Людвік, захаканы, з перапалоханым тварам, убег у пакой, не ведаючы, што рабіць, замітусіўся ля ложка. Пелагея працягнула да яго рукі, каб памог ёй прыўзняцца, але ён не зрэагаваў. Воблака дыму, пагойдваючыся туды-сюды на скразняку, хіснулася да ўзгалоўя, накрыла твар Любашы...*

Людвік прыехаў у чацвер, праз два дні пасля пахавання. Разам з ім прыехаў ягоны таварыш-студэнт па імені Фларыян. Незнаёмец, хоць і вучыўся ў Вільні, на пана, нават на падпанка не выдаваў. Пелагеі ён адразу не спадабаўся: худы, бы жардзіна, і гаворыць, як мужык.

Паабедаўшы, мужчыны ляглі з дарогі адпачыць. А як сцямнела, паўставалі і выправіліся з візітам у Дубраўку. Пабылі там нядоўга — каля гадзіны, і, вярнуўшыся, адразу селі вячэраць.

Пелагея, змучаная ўчарашнім прыпадкам і ўсё яшчэ сярдзітая на мужа, моўчкі сядзела з краю стала, слухала вясёлыя аповеды пра тое, як заязджалі па дарозе ад брата ў Краслаўку да Плятараў, як бавілі там час, слухаючы мову ды песні мясцовых сялян.

Краслаўскіх знаёмых Людвіка, як і ягонага ды іхняга захаплення ўсім тутэйшым, Пелагея і не разумела, і не любіла, і часта, каб пакпіць з мужа, наспеўвала, знарок абы-як вымаўляючы словы, якую-небудзь з песень. Але зараз, хоць і адчувала сябе пакрыўджанай і лішняй у стыхіі чужацкага, рабіць гэтага не стала.

— Днямі ў Крайну збіраюся, — сказала толькі, калі захмялелыя мужчыны сціхлі. — Экіпаж трэба падрыхтаваць.

— Падрыхтуем. — Людвік падышоў да яе, паклаў руку на плячо.

Яна адпіхнула руку, стараючыся трымацца годна ў прысутнасці староннята чалавека, выйшла з пакоя.

— Можна? — голас быў гэткі ж, як у Людвіка, але не ягоны.

Пелагея павярнулася тварам да дзвярэй.

— Пан Людвік сказаў мне пра няшчасце з мапамі, дык я вырашыў прэзентаваць вам сваю. — Фларыян, крыху блытаючыся ад хвалявання ў словах, стаяў у праёме і ніякавата ўсміхаўся.

— Па-польску, напэўна?

— Па-тутэйшаму польскімі літарамі. Сам зрабіў падчас экспедыцыі.

— Вось да чаго дайшло. — Пелагея ўзяла мапу, безуважна, быццам звыклыя знакі нічога не гаварылі ёй, агледзела з усіх бакоў. — Вы, часам, не з гэтых... філарэтаў?

— Я думаў, вам спадабаецца...

— Дзякуй, — яна згарнула мапу ў скрутак, кінула на шафку побач з іншымі. — А што за экспедыцыя ў вас?

— Пры універсітэце. Ездзім у аддаленыя мясціны, збіраем розныя матэрыялы — выслоўі, песні... Пасля абмяркоўваем, падаём у студэнцкую газету.

— І шмат такіх, хто гэтым цікавіцца?

— Ну, не шмат, але і нямала ўжо. І з кожным годам болей.

— Няўжо гэта вам цікава?

— Не было б цікава — не займаўся б. — Фларыян мінуту памаўчаў. — А вы мапы даўно збіраеце?

— З маленства. Я новае ўсё люблю: новыя краіны, новае асяроддзе. Ведаеце, несці сваё людзям...

— Значыць, вы місіянерка?

— У пэўным сэнсе. — Пелагея памкнулася рукою да стоса мапаў на шафцы, узяла адну, але разгортваць не стала. — А вось песень вашых я не разумею.

— Яшчэ зразумееце.

— Наўрад, — яна усміхнулася. — А вы... Чым збіраецеся ў нас займацца?

— Яшчэ не ведаю дакладна, але, мабыць, пазбіраю сякія-такія матэрыялы. А можа... Я падумаў... Вы ад'язджаеце, дык мог бы папрацаваць за вас у школе.

— У школе?

Прапанова была такой нечаканай, што Пелагея на хвіліну зніякавела.

— Не-не, пан Фларыян, не хвалюйцеся, я ўжо ў мястэчку знайшла сабе часовую замену, — сказала і ўпотай пахваліла сябе за кемлівасць: такога пусці ў агарод — наламае венікаў.

А агародам сваім — школкаю — тут, у далечыні ад Крайны, яна вельмі даражыла.

На Крайну Пелагея выехала 28 лістапада. Было ветрана, сцюдзёна. Андрэй Мікалаевіч і Людвік раілі пачакаць, пакуль добра ўляжацца снег, але яна адмовілася: надта ж карцела трапіць на радзіму да Калядаў.

Другога снежня была ў губерні. Як і дамаўляліся з графам, спынілася ў ягоных знаёмых. І адразу папалудні, каб не марнаваць часу, выправілася на агледзіны горада. Шпацыр ад галоўнага пляца, дзе жылі знаёмыя Андрэя Мікалаевіча, да губернатарскага палаца заняў каля чвэрці гадзіны.

Здзівілася, калі губернатар згадзіўся прыняць яе адразу.

— Робіце ў школе — гэта добра, — сказаў ён, уважліва выслухаўшы Пелагею. — І як справы рухаюцца?

— Вучу патроху. Маю намер пашырыць асвету сярод просталюдзінаў — у нашай мове, вядома.

Губернатар задаволена крэкнуў.

— Цудоўна! Што сёння зробім — заўтра аддасца. Так што я вас падтрымліваю. А як настроі сярод шляхты?

— Вось пра гэта я таксама якраз хацела б пагаварыць, — задаволеная, што гэтак проста ўсё, бы між іншым, уладкоўваецца, адказала Пелагея. — Калі вы не супраць.

— Вядома, не.

Яны прагаварылі яшчэ з гадзіну і калі спускаліся пасля кароткага агляду парадныя залы па шыкоўнай лесвіцы ў вестыбюль, і потым, калі развітваліся ва ўтульным унутраным дворыку, у Пелагеі было адчуванне, быццам ведае гэтага чалавека ўсё жыццё.

Запарушаная снегам Крайна спаткала яе марозам і перадкаляднаю мітуснёй. За пятнаццаць гадоў тут мала што змянілася, апроч хіба таго, што падраслі дрэвы ды колішнія дзеўкі і хлопцы, дзеці графскіх прыгонных, страціўшы малады імпэт, ператварыліся ў дарослых кабет і мужчын.

Цётка Таццяна адчувала сябе кепска. Пелагеі яна не пазнала і толькі, калі госця назвалася, заплакала, памкнулася вітацца.

— Так, гэта праўда — Валодзі няма. Разам з ім патануў Дыбаў Бронак, яго знайшлі ніжэй па цячэнні праз месяц пасля здарэння.

Вестка пра Бронкаву смерць узрушыла Пелагею больш за ўсё. Яна ж

так спадзявалася на спатканне з ім і прымірэнне пасля ўсіх непярэлівак з мужам! Адчуванне віны перад маладым Дыбам было такое моцнае, што яна паўдня прахадзіла як непрытомная па мясцінах, дзе яны калісьці сустракаліся.

На Каляды прыехала цётчына нявестка з дзіцем. Аднаго пагляду на ейную паставу Пелагеі было дастаткова, каб зразумець: з гэтай гаспадыні не атрымаецца.

Калядныя дні, адзінае за паўгода адхланне ад клопатаў, прайшлі ў маёнтку паныла і маркотна.

Пелагея пералезла праз сумёт, сцінаючыся ад сцюжы, падышла да дрэва. Удог, роспачліва парыпваючы на холадзе голлем, сярод якога пракідаліся дзе-нідзе гронкі мерзлых ягад, мерна гайдануўся ёй насустрач, нібыта вітаючы, азваўся на дотык тысячай сняжынак.

Яна прыгнула адну — самую ніжэйшую з тых, што змагла дастаць, — галінку, асцярожна, каб не парэзацца ў цемры, чыркнула нажом наўскос. Затым схавала флянс пад кажушок, пакідаючы на снезе сляды ад валёнак, пасунулася да сядзібы.

І апошняя справа была зроблена, можна было выпраўляцца ў зваротны шлях. «Дадому», — падумала яна і тут жа сама сябе паправіла: «У Дубраўку».

Дарога назад заняла больш часу: перашкаджалі рухацца перапады тэмпературы. У адлігу сані вязлі, у мароз, наадварот, занадта слізгаліся, дадаючы і без таго здарожаным коням лішняе напругі. Аднойчы заспела замецць, і доўга блукалі ў цемры, пакуль не ўзбіліся на нейкі хутар. Гаспадары, зусім бедныя людзі, паклалі спаць, але заснуць было немагчыма: даймалі вошы. Ды і пахі, якімі поўнілася жытло, сну не дадавалі. Знясіленая нязручнасцямі, Пелагея запыталася, як называецца мясцовасць, і, атрымаўшы адказ, хутка адшукала яе на мапе.

Да Дубраўкі заставалася вёрст семдзесят — нямала, але не так ужо і шмат. Яна асцярожна, каб не раструшчыць незнарок абгорнуты воўнаю флянс, паклала мапу назад у валізу і загадала гаспадыні паставіць майно бліжэй да печы. Але заснуць, як ні намагалася, зноў не змагла. Забалела галава — так моцна, што яна ўстала, баючыся, каб не пачаўся прыпадак, намазала скроні лекамі. І толькі пасля гэтага, прыгрэўшыся ля цёплае печы, прыснула на кароткі — да дасвецця — час.

*Дым паволі ўзняўся ўгору, шчыльным шызым воблакам расплыўся над ложкам. Любаша выпрастала руку, сілячыся дацягнуцца да галавы немаўляці, зняможана адкінулася назад на падушку. Хукнула ў роспачы на дым, каб разагнаць яго, але сіл не хапіла. Дзіця варухнулася, дрыгаючы акрываўленымі ножкамі, забілася ў крыку на прасціне. З-за шафы выйшаў Бронак, развеяў адною рукою дым, другую падаў дзяўчынцы. Яна паспрабавала ўхапіцца за яе, і ўжо амаль ухапілася, як невядома адкуль, мабыць, з-за дзверыны, з'явілася, трэцяя, чужая постаць, стала між імі. Бронак разввярнуўся, каб выйсці з пакоя, але не паспеў. Лёд пад ім хруснуў, распаўзаючыся шчылінамі, пацягнуў пад сябе...*

Яна выняла флянс са шклянкі, трымаючы на святле, агледзела з усіх бакоў. Карэньчыкі, куртатыя, ледзь заўважныя, танюсенькімі чарвячкамі ляпіліся да камля на надрэзе. На дзіва, і лісцікі ўжо былі — ажно тры, а па краях кожнага — дробненькая, з асотную, калючка.

Дрэва таксама, відаць было па ўсім, ажыло: пупышкі надзьмуліся, зрабіліся мяккія і пульхныя, бы нарыў на пальцы.

Пелагея разрэзала нажом кару на дрэве, акуратна, як вучыў садоўнік Зыгмусь, уставіла ў разрэз флянс і гэтаксама акуратна затуліла яго яго столкамі кары. Затым моцна перапавіла надрэз колькі разоў анучаю і завязала яе на тугі вузел.

Усміхнулася сама сабе: соку шмат у дрэве, вунь як пацякло — значыць, прыжыве.

Ад пакояў, з-за алеі, данёсся тупат — нехта ішоў. Яна хіснулася ўбок, шпурнула шклянку ў кустоўе, пайшла насустрач.

Андрэй Мікалаевіч, худы (пасля смерці жонкі ён вельмі змарнеў), убачыў яе, спяшаючыся прывітацца, прыбавіў хады.

— Пелагея! Што тут робіш?

— Ды вось, вырашыла цябе наведаць, дзядзечка, — адказала яна.

— Вельмі добра. Лішні раз перад ад'ездам спаткацца не зашкодзіць.

— Значыць, усё-такі ад'язджаеш?

Ён дапаў да альтанкі, аддыхваючыся, сеў.

— Учора зноў атрымаў ад Тані ліст. Так ужо просіць вярнуцца.

— А з пакоямі што?

— Прадам. Гаспадара, што быў перада мною, Кандратовіча, сястра жадае набыць. Няхай купляе, як-ніяк роднае котлішча. Шкада мне: прывык, і людзі тут неблагія.

— Ага, неблагія! — успыхнула Пелагея. Хацела яшчэ сёе-тое сказаць, але стрымалася: навошта псаваць настрой старому чалавеку.

Ды і спяшалася: у школе прызначыла рэпетыцыю хору крайнаўскіх песень, а яшчэ тры вярсты цягнуцца паўз шарачок.

## 9
## Павэлак

***(з запісаў былога сябра таварыства філарэтаў настаўніка Юльяна Пачопкі для этнаграфічнага бюлетэня)***

*Паночка помню, а як жа. На панадворак тока ступілі, адразачку і прыпомніў. Мала змяніліся, патаўсцелі троху, а твар гэдакі самы. Праўда, патаўсцелі. Наш тэж таўсты. Гэнан самы, Іванцоў, што пры хранцузе быў астаўшыся, сеў. Добры пан, ня ціснець. Як няўрод, і паможаць яшчэ. Летась гужавую*[1] *двума разамі ў Рыгу адбылі, і па ўсём.*

*Апатаўна ягоная памёрла, дык адзін цяперака. Паня дзівакаватая была, усё сама сабой, ні слова з кім. Раз пажар уробіла — ледва рады далі. Каб троху йшчэ, гамон быў ба. Мая Туфіля зёлкамі после адпойвала. Нешта з ахмістрыняй зайшло, во і зробіла. А тады зразу й сохнуць пачала. Пахарон важны быў, з музыкамі. У мястэчка вязлі, як з працэсіі акурат.*

*Мікалаевічу Палагея памагаець. Перва за Бронакам аканомавым улягала, а после, як ён паехаў, з Лазоўскім маладзейшым, пана станулёўскага сынам, знюхалася і замуж за яго зайшла. Тамака ў пакоях жывуць, а сюды нараччас прыязджаюць. Ня любіць нас. Іншы раз глянець — ворах па плячох. Уперад другая была за наўчыцельку, Карольця. Гэна з польскага ву-*

[1] Павіннасць, паводле якой сяляне абавязаны былі даваць свае падводы пану для перавозак.

*чыла, а як Палагея прыехала, саступіла ей. Тэж гунуровая, але дружуць. Анадась, відалася, западрэнкі ля ракі хадзілі.*

*Песні? Не. Бабы болі часці пяюць, а мужукі не. На валоцы зацягаесся — не да песень. За Дзвінай, у Краслаўцы, кажуць, паня ёсці, добра пяець. Нашы ёй наравяцца, простыя. У Станулёх, у пана Людвіка, папытайцеся, ён знаець. Гэна пяець, праўда. Што ж, як нечага болі робіць... Мы па святах тока: на Каляды там у вігілію ці на Вяльканац, а так — не.*

*Дзераўца? Што яму — расцець. Трава каля яго клустая. Летась брат мой, Банэдак, мала ня беркавец*[1] *пошару ўзяў з двух укосаў. Гною многа ад ягад, во і родзіць. Густая трава, касы не сцягнуць. Паспрабаваць сёлета пад жыта ягад растрасці. Цяперака сіла ў мяне, Антолька памагаець. Спрытная дзеўка, каб чалавека ей добрага. Вучанай цяжка найсці: мальцы простыя ўсюдых, а падпанак які сам глядзіць, каб багацейшую ўзяць. Кажу сваей: пашто было ўчыць, ні паня, ні мужычка цяпер.*

*Двор лоўкі, ку-уды! Лядоўню нанова адробілі, гонтай пакрылі. Унізе, дзе крукі для тушаў, дол выцамантавалі, аж блішчыць, хош таньч на ім. У капцільні пліта новая. Тым тыгоднем з Банэдакам комін чысцілі, дык паглядзелі. Куды, гаспадар Мікалаевіч! Шкода будзець, як ад'едзець. Туфіля кажаць, чула, бытта да сястры збіраецца. А можа, чуткі тока. Каб жа ж і астаўся ўжо. А то неспакойна ўсюдых — крый Божа чаго.*

*Што неспакойна? А халерая яе ведаець. Рух нейкі, усе ездзіюць. Упярод цішэй было. Заўчора з мястэчка маршалак*[2] *былы з пісарам з нейкай паперчынай цягаліся. Бытта Польшч ізнова хочуць зробіць. Але нас не чапаюць, усё са шляхтай болі. Каб што й ня зробілася з гэнага цягання. А то будзець, як у вайну. Рабункі ўсякія і голад табе. За Антольку боязна, адчайная дзеўка.*

*Вясна дрэнь сёлета, слізкая. Гнілая, хорт яе: дажджы а дажджы. Чэрвец на носе, а ў гародзе як з восені — шэра.*

*Ага, давідзэня. Як што якое — захадзіцеся, не стыдайцеся. Можа, цяперака? Зраня курыцу засек, мая квашаніну*[3] *робіць — пачастуецеся. Не? Ну, як ведаеце...*

## 10
## 1829. Помста

Яна выйшла са схову, нібыта ўсё яшчэ спадзеючыся на нейкі цуд, рашуча ступіла да ганка. І толькі сабралася пастукаць у шыбіну, як убачыла Людвіка. Ён сядзеў ля стала воддаль ад акна і размаўляў з нейкім мужчынам. Твары ў абодвух былі сур'ёзныя, перад абаімі клубіліся параю кубкі з гарбатай. Праз колькі хвілін яны ўсталі, перагаворваючыся; накіраваліся да дзвярэй.

Пелагея хіснулася назад у схоў, стрымліваючы дыханне, стаілася ў прыцемку паміж плотам і зараснікамі бэзу.

Выйшаў адзін незнаёмец. Трымаючы рукі ў кішэнях і штосьці ціха насвістваючы сабе пад нос, прайшоў міма яе і знік у цемры.

Яна вярнулася да ганка, зазірнула ў акно.

---

[1] Мера вагі, раўняецца 10 пудам.
[2] Тут – кіраўнік мясцовае шляхты.
[3] Халадзец (разм.).

Людвік сядзеў на ранейшым месцы. Карольця, стоячы ззаду, адной рукой абдымала яго за плечы, другою вадзіла па грудзях. І, гледзячы праз заімглёную шыбіну, няцяжка было здагадацца, што яму гэта даспадобы. Сцэна, аднак, працягвалася нядоўга.

Карольця адняла рукі, трымаючы перад сабой лямпу, пасунулася ў спальню. Людвік пайшоў следам за ёю, не чакаючы, пакуль яна распранецца, дацягнуўся рукою да лямпы, выкруціў кнот.

Пелагея, як здранцвелая, застыла перад акном.

Значыць, усё праўда, што ёй казалі.

Хацелася заплакаць, але слёз не было.

Яна рванулася з месца, прытоптваючы кветкі на клумбе, пашыбавала ў завулак, дзе, заўважыла яшчэ, калі ішла сюды, да Карольці, стаялі не распрэжаныя мужавы коні.

*Яна падхапіла Любашу за плечы, Людвік — за ногі, і яны, тузаючы, пасунулі безуладнае цела на край ложка, падалей ад дыму. Воблака парадзела, адступаючы, бязладнымі пасмамі хіснулася пад столь. Але тут жа зноў асела ўніз, да галавы Любашы. Людвік кінуўся разганяць яго наўлечкаю, але яму перабаразнілі. Карольця, вясёлая, у новым белым строі, выплыла з-за рабрыны, схапіла Людвіка за руку, пацягнула да сябе. Пелагея памкнулася да іх, каб развесці, але сяброўка адпіхнула яе. Затым загарадзіла Людвіка сабою, трымаючы за руку, падышла да Любашы і гучна зарагатала. Падхоплены выдыхнутым ёю паветрам дым зноў самкнуўся ў воблака, пагойдваючыся, павольна асеў на Любашын твар.*

Яна вырвала з рота лінейку, яшчэ не апрытомнеўшы як след, адарвала галаву ад падушкі.

— Вось так, панечка. — Антолька, падтрымліваючы яе адною рукой за плячо, другою спрытна сцягнула з падушкі акрываўленую наўлечку, кінула на падлогу.

Пелагея расплюшчыла вочы. Антолька і Фларыян, стоячы ва ўзгалоўі, спачувальна глядзелі на яе.

— Вам лепш паляжаць. — Фларыянаў голас канчаткова вывеў яе з забыцця.

Але яна не паслухала: счакаўшы, калі Антолька з Фларыянам выйдуць, тут жа паднялася, перайшла ў фатэль. І толькі паспела ўладкавацца ў ім, як з калідора пачуліся крокі.

Людвік, чырвоны ад хады, у заляпаных гразёю ботах, уляцеў у пакой, кінуўся да яе.

— Бедная мая, — загаварыў, прыкленчваючы побач. — Прабач, што гэтак позна... Коні, трасца іх, сарваліся з прывязі, дык пешкі давялося з мястэчка шкандыбаць. Цёмна, хоць вока выкалі, чыста збіўся. А тут дождж яшчэ... Даруй!

— Усё парабіў, што меўся? — не зважаючы на перапрашэнні, спытала яна. — Карольці перадаў, што прасіла?

— Ой, Карольці! — ён ускінуў рукі пад столь, ляпнуўшы сябе па лбе, дастаў з кішэні паперчыну. — Зусім забыўся да яе зайсці. Ну, прабач, не крыўдуй.

— Ладна, сама паеду.

— Сама! — запярэчыў Людвік. — Не пушчу адну.

— Пусціш. — Пелагея адкінула галаву на спінку фатэля, паказваючы, што размова скончана, заплюшчыла вочы.

Яшчэ шмат што мела сказаць мужу, але зараз было не да слоў.

Карольця, надзіва свежая пасля неспакойнае ночы, спачатку доўга, нашмат даўжэй чым звычайна, шукала засаўку, і ўсё ніяк не магла ачомацца ад неспадзяванага візіту: цікуючы спадцішка за выразам твару госці, хапалася то за адно, то за другое. Нарэшце, упэўніўшыся, што ўсё нібыта ціха і ёй нішто не пагражае, супакоілася, прынялася ладзіць пачастунак.

— Усё сама. — Пелагея няўхвальна ўсміхнулася. — Узяла б якую дзеўку, хай бы рабіла.

— Антольку б — узяла.

— Антольку! А мне хто будзе памагаць? Ды ёй і падвучыцца не пашкодзіць.

— Глядзі, навучыш на сваю галаву.

— А ты?

— Я — іншае... Флякі навучу гатаваць.

— Флякі! Пальшчызну ў мазгі ўбіваць! Дужа вы рахманы[1], палякі, як пагляджу!

— Вы лепшыя бытта! Адно і гледзіцё, каб што ўхапіць чужое.

— Чаму ж і не, як дрэнна ляжыць? Чыя сіла, той і пан.

— Яшчэ паглядзім, чыя насамрэч. — Карольця прымірэнча міргнула. — І заюшлівая ж ты, сяброўка.

— Але ж сяброўка?

— Канешне.

Неўзабаве сядзелі за сталом, елі клёцкі са смятанай. Кожны раз, падчэпліваючы відэльцам клёцку, Пелагея ледзь стрымлівалася, каб не шпурнуць яе ў задаволены, шчаслівы твар гаспадыні.

Запівалі кампотам. Смак яго з першага глытка здаўся Пелагеі знаёмым.

— Што за ягады такія?

— Году. Ты хіба не ведаеш? Бабуля мая, калі яшчэ ў Кандратовічаў за настаўніцу была, з мазураў прывезла саджанец. Ягад шмат, Канстанцыя мне праз дзевак перадала. Дзеўкі кажуць, чэзнуць дзераўца пачынае. Бытта хтосьці прышчапіў іншы флянс, і ён усе сокі забірае. Дык хачу зрэзаць яго. А то прападзе дрэва. Файны напой, праўда?

— Па мне, дык занадта салодкі. — Пелагея адставіла кубак убок. — А вось прыязджай у наступную суботу — сваім пачастую, — сказала, падымаючыся з-за стала. — Прыедзеш?

— Прыеду, канечне, — хаваючы радасць за ветліваю звыклаю ўсмешкай, адказала Карольця і цмокнула сяброўку ў шчаку.

Калі яна вярнулася ў Станулі, было яшчэ светла. Дзеўкі ў пастаўніку даілі кароў, Людвік з Фларыянам, закасаўшы калашыны, лавілі на водмелі ля віра ракаў.

— Ты! Нарэшце! — Людвік кінуў снасць на каменні, хіснуўся да жонкі. Хацеў пацалаваць, але яна адштурхнула яго, дагэтуль пёк, поўнячы сэрца агідаю, развітальны пацалунак Карольці.

Ён адышоўся, не пажадаў больш назаляць, пакрочыў да пакояў.

Пелагея злезла з вазка, падышла да водмелі.

Фларыян, робячы выгляд, што вельмі заняты, нервова пераступаў у вадзе з нагі на нагу.

— Як з'ездзілі? — спытаў, чырванеючы.

---

[1] Тут — спрытнюгі (дыял.).

— Ніяк, — адказала яна і шпурнула ў хлопца сарваную з ляшчыніны галінку.

Ішла другая гадзіна, а яна ўсё ніяк не магла заснуць. Было мулка, цела абдавала гарачынёй, у грудзях балела.

Яна паднялася з ложка, шкадуючы, што адпусціла Антольку да бацькоў у Дубраўку і цяпер няма каму падаць вады, пасунулася калідорам у кухню.

Цёплая вада смагі не наталіла. Але праз адчыненае акно з ракі павяваў вецярок, і яна вырашыла выйсці на вуліцу. Асцярожна, каб не пабудзіць Людвіка, спусцілася ўніз, адшчапіла засаўку.

На дварэ было цёмна. Але ў верхнім акне лямуса, у Фларыяна, гарэла свечка.

Яна перайшла праз дзядзінец, прытрымліваючы падол, падалася на галерэю.

Фларыян, зусім голы, ляжаў на ложку і штосьці чытаў. Пачуўшы рыпенне масніц, падхапіўся, каб апрануцца, але не паспеў. Пелагея імкліва ўвайшла ў пакой, здымаючы сарочку, зводдалеку хукнула на агонь.

— Вы? — сіплым ад нечаканасці голасам збянтэжана прамовіў Фларыян.

— Я, — перакульваючыся праз ягонае цела да сцяны, адказала Пелагея і сцішана засмяялася. — Не пазнаў?..

— Як, лепей табе? — Людвік нахіліўся над ёю, прыклаў далонь да лба. — Заўтра фэст у мястэчку, хочаш паехаць?

— Не. — Пелагея скінула коўдру, моўчкі паднялася з ложка.

— Як знаеш. — Людвік пабыў у пакоі яшчэ хвіліну, не ведаючы, што сказаць, пайшоў да сябе.

Пелагея апранулася, апаласнула ў кухні твар, выйшла на двор. Фларыян, прыхінуўшыся спінаю да таполі, гайдаў Лізу на арэлях.

— Дзе Антолька? — не вітаючыся, спытала яна.

— У склепе. Паклікаць?

— Калі не цяжка.

Фларыян адпусціў арэлі, знік у пакоях. Хутка зноў з'явіўся, за ім, падскокваючы, выбегла на двор Антолька.

— Па ягады пойдзем у Дубраўку, — саступаючы Фларыяну месца ля дачкі, сказала Пелагея і хуценька, быццам чаго баючыся, падалася прэч.

Ягады, невялікія, з недаспелы арэшак, былі зусім зялёныя. І толькі з паўднёвага, сонечнага баку дзе-нідзе ірдзелі чырванню. Антолька памкнулася, каб сарваць спялейшыя, але Пелагея не дазволіла.

— Вось тут абярэм і хопіць, — сказала, прыгінаючы долу галінку са шрамам ля камля, — тую самую, з Крайны.

Ягад на флянсе было няшмат, затое ўсе сакавітыя, з характэрным прытарным смакам. І самому флянсу, было відаць па ўсім, новае месца прыйшлося даспадобы.

«Год-два, і запануе, — з задавальненнем аглядаючы бухматае, без адзінае плямкі лісце, падумала Пелагея. — А яшчэ лепей памагчы яму. Фларыяна папрасіць, ці што?»

І толькі гэтак падумала, як пачула ад алеі конскае цоканне. Хіснулася з кустоўя да логу, моцна трымаючы Антольку за руку, стаілася ў зарасніках бэзу.

Але іх ужо заўважылі. Фларыян, пасцёбваючы пугаўём росную, вог-лую цімафееўку, саскочыў з вазка, пакрочыў да схову.

— Дрэва хочаце паглядзець, пан Фларыян? — Пелагея штурхнула Ан-тольку да вазка, не чакаючы адказу, папраставала пожняю назад да году.

Праз колькі хвілін былі на месцы.

Фларыян памкнуўся, каб абняць яе, але Пелагея не далася.

— Не цяпер і не тут, — сказала гулліва, з ноткаю дакору ў голасе. — Спачатку зрабіце ласку, падпарадкуйце дрэўца. Бачыце, камлі старыя, трэ-ба іх ссекчы, каб здароваму не заміналі расці. Зробіце?

— Зраблю, — цяжка дыхаючы, адказаў Фларыян. — Цяпер?

— Заўтра. Усе паедуць на фэст, а вы застанецеся і... зробіце. — Пела-гея паднялася на дыбачках угору, нібы дзякуючы за згоду, цмокнула хлоп-ца ў шчаку.

Пасля вулічнае спёкі ў сутарэнні было прахалодна. Доўгая, на ўсю вы-шыню пакояў капцільня, рэзка звужаючыся, паступова пераходзіла на зло-ме ў комін. Адтуль павяваў вецер, там, на скразняках, боўталіся ў кошы-ках на дубовых шастках падсохлыя кілбасы.

Пелагея выграбла з пліты попел, ссыпала ў вядро. Затым паставіла на пліту чыгунок з вадою, абклаўшы з усіх бакоў дровамі з пасечаным ядлоў-цам, падторкнула знізу пакулля.

Дзверкі ўверсе, насупраць шасткоў, ляпнулі. Фларыян, жмурачыся ад святла, пассоўваў шасткі багром ад сябе, адно за адным паздымаў колцы кілбас.

— Што цяпер?

— У лямус занясі, — загадала Пелагея. — Вернешся — закладзеш ува-ход цэглаю. А тады — у Дубраўку адразу, дрэва парадкаваць. Глядзі, каб не ўгледзеў хто.

— А вы як?

— Мяне, з Дубраўкі вярнуўшыся, пільнуй. Дым пасвятлее — адкладай.

Фларыян пайшоў, а яна зноў нахілілася над плітой.

Сухі ядловец успыхнуў, поўнячы капцільню пахам лесу, адчайна за-трашчаў. Пелагея варухнула яго качаргой, хаваючы твар ад іскраў, высыпа-ла ў чыгун ягады.

«Будзе вам фэст і да фэсту», — падумала весела і прычыніла пліту.

Дым зрабіўся зусім белы, і варыва стаяла гатовае на прыпеку, а Фларыяна ўсё не было. Пелагея рванула дзверы раз, другі — каб гук у адказ.

«За смерцю яго пасылаць», — падумала злосна і тут жа пачула за дзвя-рыма крокі. Хацела азвацца, але пабаялася — раптам Людвік?

— Разбіраць, ці што? — голас быў Фларыянаў.

— Хутчэй.

Вызваленыя ад кладкі дзверы бясшумна расчыніліся.

Фларыян, расчырванелы, з плямамі поту на плячах, ступіў у капцільню.

Пелагея выхапіла сякеру з ягоных рук, шпурнула ў кут.

— Доўга так! Што здарылася?

— Сукі, як камень, — вінавата адказаў ён. — Ледзьве пассякаў.

— Ніхто не бачыў?

— Не... Піць хочацца.

— На, папі. — Яна зачэрпнула з чыгуна варыва, падала хлопцу. Затым, пакуль ён піў, заліла прысак вадою, пайшла да выхаду.

Фларыян нагнаў яе, абхапіў рукамі за плечы.

— Не тут. — Яна саштурхнула ягоную нагу з парожка, аціраючы з вопраткі сажу, пайшла па сходах у спальню. Там распранулася, легла на ложак.

Фларыян, не адважваючыся ўвайсці следам, таптаўся па той бок дзвярэй.

Яна паднялася, не зважаючы на чорныя пісягі, што засталіся на прасціне ад рук і плячэй, падышла да дзвярэй.

— Хадзі, — гукнула ціха і, нібыта баючыся, што ён не пачуе.

Але ён пачуў.

Туфіля ўжо двойчы абвяшчала, што кілбасы зварыліся, і адмысловы Юдэлеў селядзец закалянеў на надрэзах, а Карольцы ўсё не было. Людвік прапаноўваў сесці за стол без яе, але Пелагея не згадзілася: трэба пачакаць.

Канстанцыя, бавячы з Фларыянам час у вітальні за картамі, каторы раз наракала на пустадомка, што ў нядзелю, пакуль былі на фэсце, абсек дрэва ў садзе.

Неўзабаве з'явілася і Карольця. Лёгка саскочыла з вазка, папраўляючы на хаду капялюшык, упырхнула на ганак.

Селі за стол.

Людвік памкнуўся да штофіка, каб наліць, але Пелагея яго апярэдзіла. Сама адкаркавала штофы, сама наліла: з большага — мужу, Фларыяну і Канстанцыі, з меншага — сабе і Карольцы. Свайго, аднак, не выпіла, употай, як толькі госці заняліся ежаю, выліла пад стол. Фларыян заўважыў тое, але змаўчаў. А калі дайшла чарга да другой, падставіў сваю чарку.

— Мне таксама з гэтага.

— З гэтага, дык з гэтага. — Пелагея выліла рэшту Фларыяну, адставіла пусты штоф на падаконнік.

І тут краем вока ўбачыла, як рука мужа слізганула пад сталом да Карольцінай. Хацела ляпнуць па ёй, але стрымалася: хай пацешацца.

Вечар прайшоў удала. Праўда, крыху падпсавалі тутэйшымі песнямі мужчыны, але тое цягнулася нядоўга. Захмялелы Фларыян хутка некуды знік і спеўны хаўрус распаўся сам сабою.

Развіталіся далёка за поўнач.

Першая ад'ехала Канстанцыя.

Людвік спрабаваў угаварыць Карольцю, каб засталася нанач, але тая адмовілася: баліць галава ды і ў школу заўтра. Дырэктар гэткі строгі — крый Бог спазніцца.

— Як хочаце, панна Карольця. — Людвік падсадзіў госцю ў вазок, вярнуўся да жонкі на ганак.

— Дзе Фларыян? — спытала яна абыякава. — Спіць, ці што?

— У лямус, мусіць, пайшоў, — адказаў ён.

— Ну і няхай. — Пелагея махнула рукой, шырока, на ўвесь рот, пазяхнула.

*Яна спаўзла з ложка, слізгаючыся нагамі па падлозе, хіснулася следам за мужам. Людвік азірнуўся, няпэўна пераступаючы з нагі на нагу, зрабіў крок назад. Ягоны шырокі, акаймаваны зверху шапкаю чарнявых валасоў твар раптам павузеў, выцягнуўшыся, ператварыўся ў Фларыянаў. «Я тут», — Фларыян дастаў з рукава мапу, разгарнуў перад Пелагеінымі ва-*

*чыма. Яна схапіла мапу абедзвюма рукамі, трымаючы перад сабою, узялася хукаць на літары. Літары зліліся ў адно, трушчачыся, воблакам паплылі да Любашынага ложка. Любаша прыкрыла твар рукамі, стараючыся абараніцца ад неспадзяванае навалы, штосілы закрычала. Фларыян абхапіў галаў далонямі, быццам не маючы сілы чуць гэты крык, выскачыў з пакоя...*

Яна прачнулася ад паху гарэлага. «Ці не дзеўкі што ўчмурылі?» — падумала, падхопліваючыся з ложка, і хіснулася ў кухню.

У кухні ўсё было ў парадку.

Пелагея прыгледзелася: гарам несла з акна. Дым пасмамі слаўся ўсцяж сцяны, ахопліваючы шыбіну, урываўся ў пакой праз расчыненую фортку.

— Уставай, гарыць нешта, — тузанула яна Людвіка і выскачыла на ганак.

Гарэў дальні, амаль нябачны ад фасада, вугал лямуса.

Людвік, босы, у адным споднім, выскачыў на двор следам за Пелагеяй.

— Чэлядзь будзі! — загадала яна. — У дзежках вада... Калі не хопіць, — хай яшчэ прывязуць.

Але вады хапіла: бэлькі не паспелі як след угарэцца.

Ды толькі агоралі полымя, як загарэлася зноў — у другім канцы будынка.

Пелагея кінулася туды.

Фларыян, паўголы, з ускудлачанымі валасамі, стаяў скрай галерэйкі і тыцкаў абматанаю пакуллем палкай у пазы сцяны.

Яна выхапіла палку з ягоных рук, моцна выцяла ёю хлопца па спіне. Ён войкнуў, хапаючыся далонямі за парэнчы, вухнуў на падлогу. І тут жа зноў ускочыў. Напружыўшыся так, што ажно зрабілася чырвонаю шыя, выкруціў з перагародкі перакладзіну, замахнуўся ёю на Пелагею. Туфілін Павэлак з фурманам схапілі яго ззаду за плечы, зноў прыгнулі долу. Але ён зноў вырваўся, адбіваючыся ад мужчын кулакамі, сігануў уніз.

Дагналі яго ля курціны. І пакуль валтузіліся на пожні, Пелагея прынесла з лямуса вяроўку, злаўчыўшыся, звязала ёю ногі зламысніка.

— Зачыніце ў капцільні, там хутка працверазее, — загадала Павэлку і, звяртаючыся да мужа, абурана дадала: — І каб нагі заўтра ягонай у маёнтку не было!

Яна вызірнула ў акно, стараючыся не спэцкаць рукі аб пафарбаваныя напярэдадні, да прыезду гасцей, аканіцы, счакала, пакуль Людвік падыдзе бліжэй.

— Ну, што? — спытала знарок абыякавым голасам, як толькі ён узышоў на ганак. — Завёз?

Людвік моўчкі хітнуў галавою, уздрыгваючы, бы ад холаду, усім целам, наблізіўся да акна.

— Няхай едзе, адкуль прыехаў. — Пелагея махнула рукой. — І няма чаго браць у галаў, такой бяды. Трэба глядзець, каго запрашаеш...

— Карольця памерла, — не зважаючы на яе тыраду, сказаў ціха Людвік. — Лекар там... Кажа, нешта са страўнікам.

— Карольця! — Пелагея ўсплёснула рукамі. — Што ж маўчыш!

— Маўчы, крычы — усё адно не паможаш.

—Я паеду ў мястэчка. — Яна абаперлася локцем аб падаконнік, не зважаючы на фарбу, высунулася з акна — паглядзець, ці далёка вазок. — Коней выпраглі ўжо?

— Запражэм, не вяліка журбота. — Людвік уздыхнуў, парыпваючы чаравікамі па сухім, выпетраным сонцам і ветрам жвіры, пашкандыбаў да стайні.

Пелагея колькі хвілін моўчкі глядзела яму ўслед, затым схамянулася, кінулася ў кухню. Там старанна перапаласкала вадою штофікі з-пад напояў, што пілі звечара, ні слова не кажучы агаломшаным пакаёўкам і ахмістрыні, усцягнула паверх кашулі чорную сукню і пайшла на двор.

Калі яна прыехала да Карольцы, сяброўку якраз меліся перакладаць з ложка ў труну. Моня і Ядзя, сёстры нябожчыцы, абедзве з апухлымі ад слёз тварамі, сядзелі пры сястры, на покуці дзве кабеты засцілалі складзеным у некалькі столак палатном стол пад труну.

— Як неспадзявана! — прысаджваючыся побач з сёстрамі і змахваючы з павек слёзы, сказала Пелагея. — Што сказаў лекар?

— З жыватом нешта, — усхліпваючы, адказала Моня. — Дзякуй вам, што прыехалі. Сястра вас заўсёды хваліла.

Ядзя прыўзнялася з табурэта, прыадчыніла дзверы ў кухню.

— Panie Skinderski, już[1].

Двое мужчын, з выгляду настаўнікі, увайшлі ў пакой, прытрымліваючы каленямі труну, каб не слізгалася на табурэтках, пераклалі ў яе нябожчыцу.

Сёстры, прыгалошваючы, сталі абапал стала.

— Калі што трэба памагчы — кажыце, не саромейцеся, — не стрымліваючы слёз, што ручаём паліліся з вачэй, сказала Пелагея і папраўіла падушку пад галавой у Карольцы.

## 11
## 1831. Бурленне

Гамонка доўжылася ўжо больш за паўгадзіны. Рэй, як заўсёды, вёў ксёндз Паплаўскі — ягоны сіплаваты, але добра пастаўлены голас Пелагея ведала выдатна. Усе астатнія галасы, апроч, вядома, Людвікава, былі ёй незнаёмыя. Яна хілілася скроняю да зачыненага знутры акна, але запозна: размова скончылася, цені ў пакоі замітусіліся. «Разыходзяцца», — падумала яна і кінулася назад, да вазка.

Першы выйшаў з плябаніі ксёндз. Прытрымліваючы абедзвюма рукамі полы сутаны, перайшоў праз панадворак, затрымаўся на хвіліну ля падводы.

— Зайшлі б на гарбату, пані Пелагея, — сказаў, ветліва ўсміхаючыся. — А то змерзнеце на марозе.

— Нічога, — яна ўсміхнулася ў адказ. — Ужо і тут свайго дачакаюся.

З плябаніі выйшлі яшчэ трое, за імі, пахістваючыся, бы п'яны, і зашпільваючы на хаду гузікі кажуха, — Людвік.

— Але ж зімна, халера, — сказаў, падыходзячы да вазка.

— Было, паночку, вайлакі абуваць. — Антолька, бухматая ў новым кажусе, выскачыла з плябаніі, плюхнулася на салому побач з Пелагеяй.

— У карчму на настойку зазірнуць, ці што, — закілзваючы каня, працягваў Людвік.

— Ага, у карчму! — зазлавала Пелагея. — Заўтра ад'язджаць. Забыўся?

[1] Пан Скіндэрскі, ужо *(польск.)*.

— Паспеем. — Людвік, распаўнелы ад бясконцых чаяванняў, катурхавата, ажно асеў вазок, ускараскаўся на сядзенне побач з фурманам. — Ладна, едзем дахаты. Ой, трасца, скрутак забыўся! Скоч, Антолька.

— Што там, у тым скрутку?

— Сякія-такія паперы. Нічога важнага.

— Нічога дык і нічога. — Пелагея глыбей ухутала твар у каўнер кажушка, абыякава пазяхнула.

Што мужчыны ёй не давяраюць — здагадвалася даўно, але ўдаваць свайго ведання да часу не хацела.

Вільня сустрэла іх капяжамі. Маразы адпусцілі раптоўна — горад захлынаўся ў гразэчы.

Спыніліся ў Людвікавага сябра па універсітэце Жымайлы. Людвік, аддаўшы Пелагею і Антольку пад апеку гаспадаровай жонкі Яніны, адразу ж знік па нейкіх неадкладных справах.

Першыя два дні правялі ў агледзінах горада. Кляштары і касцёлы мільгалі перад вачыма, як у калейдаскопе. На трэці дзень выправіліся да Вострай Брамы. Там мелася быць імша. Але пакуль караскаліся паўз шчыльны натоўп да касцёла, яна скончылася.

Цьмяны, з пазалочанаю апраўаю лік святой здаўся Пелагеі занадта суровым. І яна, пакуль Жымайліха з Антолькаю маліліся перад абразом, моўчкі прастаяла, унурыўшы галаў у каўнер, збоч алтара.

Нехта наблізіўся да яе ззаду, нахіліўся да пляча.

— Ты? Нарэшце! — яна страпянулася, тузанула мужа за рукаў. — Нядобра мне тут... Выведзі на паветра.

*Любаша схапіла абраз, трымаючы абедзвюма рукамі, двойчы правяла ў паветры перад воблакам дыму. Дым рассеяўся, але не дарэшты. Плойма чужых людзей, перагаворваючыся, выплыла з-за шызаватае заслоны, схілілася над ложкам. «Мама!» — Пелагея кінулася да маці, каб адагнаць іх, не даўшы сабе рады, зачапілася нагою за рабрыну ложка, павалілася на падлогу. «Чужаніца! Чужаніца!» — пазіраючы спадылба на яе, загароджваючы сабою Любашу, закрычалі ўсе наўкола. Яна падхапілася з падлогі, не зважаючы на кпіны, падбегла да Любашы. Выхапіла з рук абраз, моцна сціскаючы за раму, паднесла да матчынага твару. Любаша тарганулася раз і другі, супакойваючыся, знямела на прасціне...*

— Ва універсітэт? Гэтак позна? — яна саштурхнула з пеліны ката, рэзка ўстала. — А мяне бытта і няма ўжо.

— Так трэба.

— Пойдзем удваіх.

— Удваіх? — Людвікаў голас прагучаў насмешліва. — Усе па адным, а я — з жонкаю. Скажаш!

Яна зноў хацела запярэчыць, але не паспела: у пакой увайшла, несучы перад сабой паднос з гарбатнікам і кубкамі, гаспадыня.

— Хай сабе засядаюць у сваім камітэце, — сказала, ставячы прычындалы на стол. — А мы па-жаночы пагамонім.

Людвік, атрымаўшы ад Яніны неспадзяваную падтрымку, хуценька выйшаў.

— З мужчынамі нялёгка. — Жымайліха ўздыхнула. — Усё кудысьці спяшаюцца, чагосьці шукаюць.

— А як што не так — мы, жанчыны, вінаватыя, — падтакнула Пелагея.

— Гэта праўда. Паглядзіце літаратуру: як найбольшы злачынца — абавязкова жанчына. Я днямі ў аднаго тутэйшага, віленскага пісьменніка спытала, чаму так. Дык ведаеце, што адказаў? Што мы, жанчыны, больш багатыя ў выяўленні пачуццяў, таму нас выгодней апісваць у творах. Не здзіўлюся, калі і ў гэтай сітуацыі, як што не атрымаецца, нас абвінавацяць.

— Вы камітэт маеце на ўвазе? — робячы абыякавы выгляд, спытала Пелагея. — Дарэчы, што за ён?

— А то вы не ведаеце! — засмяялася Яніна і тут жа знізіла голас да шэпту. — Неўзабаве, чула, збіраюцца выступаць. А чым усё тут скончыцца — невядома. Народ пакрыўджаны ўсімі, таму апатычны. А без ягонае падтрымкі — куды ж... У вас, можа, іначай крыху?

— Ды я... надта не прыглядалася, — задаволеная, што гэтак міжволі, без залішніх выпытванняў, удалося высветліць сутнасць справы, адказала Пелагея і ветліва ўсміхнулася. — Дзякуй вам за гасціннасць.

Ад'язджалі праз тыдзень. Жымайлы ўгаворвалі застацца яшчэ, але яны не згадзіліся: трэба паспяшацца, пакуль зноў нахапіліся марозікі, ды і па гаспадарцы процьма спраў — вясна на носе.

Напярэдадні ад'езду доўга сядзелі ў гасцёўні, дзяліліся ўражаннямі ад Вільні. Быў пост, таму не пілі, але напрыканцы мужчыны не вытрымалі, кульнулі па чарцы. Выпіўшы, узахвоціліся прашпацыраваць па вуліцы.

Пелагея, спаслаўшыся на галаўны боль, на двор не пайшла і, як толькі ўсе выйшлі, хуценька паднялася ў кабінет гаспадара.

Скрутак ляжаў на століку сярод папер. Гэта быў план выступлення дубраўскіх касінераў. Яна прыклала паперчыну да шыбы, прытрымліваючы адною рукой, другой акуратна перакалькавала алоўкам на чысты аркуш.

Першы і адзіны прыпынак зрабілі ў Краслаўцы. Плятараў дома не было, гасцей прыняла ахмістрыня. Была ноч, памыўшыся з дарогі, адразу леглі спаць.

Пелагея прыхінулася целам да мужавага пляча, ласкава правяла ладонню па мокрых валасах.

— Каханне маё, — сказала, цалуючы ў патыліцу. — Такое цудоўнае атрымалася падарожжа.

— Табе спадабалася? Праўда? — Людвік павярнуўся да яе тварам, абхапіў за шыю. — Я рады.

— Я таксама. — Яна падсунула нагу пад ягоную, легла на жывот. — Хочаш, буду памагаць табе?

— Памагаць? — разамлелы ад яе нечаканай пяшчоты, вымавіў ён. — Пра што ты?

— Пра ўсё... Пра камітэт паўстанцкі. — Яна старалася гаварыць як мага абыякавей. — Ты мусіш мне давяраць.

— Я і давяраю.

— Няпраўда.

— Праўда. — Людвік схіліўся над ёю, нібыта просячы даравання за ўсе ранейшыя непаразуменні, прытуліўся да грудзей.

*Любаша напружылася, быццам жадаючы затуліць дзіця ад нечаканых гасцей, пасунулася да сцяны. Каля дзесятка мужыкоў, усе з жалязякамі наперавес, абступілі іх, пачалі пераварочваць ложак. Любаша ўхапілася адною рукою за ложак, другою дастала з шуфлядкі бутэльку з пітвом, шпурнула на сярэдзіну пакоя. Мужыкі пакідалі жалязякі, насядаючы адзін на аднаго, збіліся гуртам ля прэзента. Адзін адкаркаваў бутэльку, трымаючы за гарляк, адпіў некалькі глыткоў. «Файны напойчык», — сказаў, аддаючы другому, што стаяў побач. Затым першы чыркнуў запалкаю, паднёс яе да гарляка. Змесціва ўнутры пасудзіны ўспыхнула, воблака дыму, пакалыхваючыся, запоўніла пакой. Мужыкі патапталіся колькі хвілін ля ложка, зноў пахапалі жалязякі і, агалошваючы будынак воклічамі, рынуліся на двор...*

Увесь час па вяртанні з Вільні Пелагея дзяліла паміж школаю і дапамогай мужу. На пачатку сакавіка двойчы з'ездзіла па даручэнні Людвіка ў мястэчка да Паплаўскага са спісамі касінераў. Аднак і касінеры, і камітэтчыкі па-ранейшаму ёй не давяралі. Тады яна вырашыла спаткацца з кіраўніком камітэта Тамашом Кандратовічам, братам Канстанцыі.

Спатканне адбылося ў Дубраўцы, у прысутнасці Канстанцыі. Яна была імянінніца, і брат прыехаў яе павіншаваць. Пачаўся перадвелікодны пост, іншых гасцей не запрашалі, і Пелагея адчувала сябе ўпэўнена.

Калі яна прыехала, брат і сястра пілі ў гасцёўні гарбату. Тамаш, мужыкаваты з выгляду дзяцюк год сарака пяці, з паставы выдаваў на мядзведзя і ўвесь час, пакуль сядзелі за сталом, моўчкі спадылба назіраў за нечаканаю госцяй. Аднак Пелагею тое не бянтэжыла. І калі загадзя папярэджаная Канстанцыя, нарэшце, выйшла, яна хуценька дастала з кішэні тое, дзеля чаго прыехала. Чатыры залатыя пярсцёнкі, спадкі Людвіка па нябожчыцы-матцы, зbabліва бліснулі ў паўзмроку пакоя.

— Ахвярую на патрэбы камітэта, пан Тамаш.

— Камітэта? — масіўныя, абветраныя да крыві вусны мядзведзя крануліся стрыманаю ўсмешкай. — З чаго б гэта?

— Жадаю паспрыяць агульнай справе. — Пелагея развяла рукі ўбакі. — Хіба не маю права?

— Чаму ж, маеце. — Тамаш узяў дарунак, паразглядаўшы хвіліну-другую, паклаў побач з кубкам. — Дзякуй ад усяго камітэта.

— Не варта дзякі, — адпіваючы з кубка гарбату, сказала Пелагея і, быццам што ўспомніўшы, спехам дадала: — Прашу толькі, мужу нічога майму не кажыце, а то ўсердзіцца, што не параілася.

— Не буду, калі просіце, — хаваючы пярсцёнкі ў кішэню, бо ўжо вярталася ў пакой Канстанцыя, сказаў Тамаш. — Сястра, пост постам, а расстаралася б ты чаго мацнейшага. Па чарачцы — у гонар слаўнай сваёй каляжанкі.

Раз'язджаліся позна ўвечары. Праводзіўшы злёгку захмялелага Тамаша да вазка, жанчыны яшчэ з паўгадзіны сядзелі ў гасцёўні, гамінілі пра розныя дробязі.

— Напой гэты — такі моцны, — сказала напрыканцы, ужо ўстаючы з-за стала, Пелагея. — Не з дзерава, што ў хмызняку?

— З яго, — уздыхнула Канстанцыя. — Больш не будзе. Учора дзеўкі хадзілі па мёрзлыя на кампот — каб сук табе, усё ссечана. Спачатку ўлетку нехта скалечыў, адну галінку пакінуў, цяпер і яе не стала. Падобна, як

дзяцёнак пасваволіў. Дзеўкі ісподчыну знайшлі ля камля, акурат дзіцячая. — Канстанцыя хіснулася ў камору, дастала ісподку. — Во яна.

— Зялёная! — забыўшыся на хвіліну, што павінна ўдаваць п'янаватую, выгукнула Пелагея. — Дай сюды, выкіну дзе па дарозе.

І з абыякавым выглядам сунула трафей у кішэню.

Дзверы расчыніліся, Антолька, паўсонная, з распушчанымі па плячах валасамі, памкнулася да Пелагеі. Ды тут жа, угледзеўшы нядобры бляск у вачах настаўніцы, адступіла назад.

— Твая ісподка?

— Мая.

— Значыць, гэта ты была там, ля дрэва? — Пелагея ступіла ў пакой, не размахваючыся — перашкаджалі занадта вузкія рукавы кажушка — ударыла дзяўчыну ісподкаю па шыі. — Так дзякуеш за ўсё добрае? Хто цябе падсуклеціў?

— Ніхто. — Антолька, збітая з тропу нечаканым нападам, спалохана застыла ля ложка.

Рука Пелагеі рванулася, каб ударыць зноў, але штосьці быццам ёй падказала: не варта.

— Навошта ты ссекла сук? Я пытаюся!

— Каб людзі не труціліся. — Дзяўчына страпянулася, ускочыла з нагамі на ложак. — Вы не бачыце? Людзі цёмныя, ніц не разумеюць... Ядуць гэту труцізну, а потым хварэюць, робяць абы-што, самі сябе гатовы пазабіваць. Не месца яму тут!

Пелагея ў злосці схапіла дзяўчыну за руку, тузаючыся, сцягнула з ложка.

— Табе ведаць, чаму месца, а чаму — не! Можа, у касінеры яшчэ запішашся? — пагляд яе ўпаў на сцяну за спінаю Антолькі. — А гэта што?

— Мапа.

— Адкуль яна?

— Пан Фларыян прэзентаваў. — Антолька прыхілілася цясней да сцяны, быццам хочучы абараніць прэзент, прыкрыла мапу далонямі.

Пелагея памкнулася да яе, каб адпіхнуць, і ўжо зрабіла гэта, як у калідоры раптам пачуліся крокі.

Людвік, ружовашчокі з марозу, усунуў галаву ў пакой, недаўменна глянуў на жонку.

— Цырк у вас, ці што? — сказаў, весела прыжмурваючы вочы. — Ну, дзеўкі!

— Здагадлівы ты, — падыходзячы да мужа у тон яму, паўжартам, сказала Пелагея. І дадала, выходзячы следам у калідор: — Паслязаўтра выбіраюся на Крайну. Дык парупся, каб вазок падрамантавалі.

— На Крайну? — здзівіўся ён. — Быццам гарыць!

— Гарыць! — злуючыся, запярэчыла яна. — Неспакойна гэтак наўкола, не ведаеш, чаго чакаць. Лізу на ўсялякі выпадак завязу да Таццяны Мікалаеўны. Ды і падручнікі новыя трэба паглядзець для школы. У губерні сякія-такія клопаты.

— У губерні! Што ж за яны ўжо?

— Мая справа, — накіроўваючыся да свайго пакоя, адказала яна і ўжо ад дзвярэй усмешліва дадала: — Думаеш, у цябе аднаго сакрэты!

## 12
## 1833. Павэлак

***(з запісаў выкладчыка медычнай акадэміі Юльяна Пачопкі для этнаграфічнага даведніка)***

*Пакоі гладка спусцелі, даняго. Перва Тамаша забралі. Ён у капцільні хуваўся, дык уночы падпільнавалі. Зразу на воз і ў мястэчка. А тады далі недзя выслалі. Канстанцыю ня рушылі па першасці, покі не здаў нехта. Касянераў усіх — за шкірку. І зробіць нічога наўпроць не паспелі. Палагея бытта нечым падпаіла. Тады, напіўшыся, і падурнелі. Косы пабралі і ну гойсаць па дзядзінцы. Хмыз, кветкі — усё панішчылі. Ледва рады Канстанцыя дала. Скора казакі наляцелі, пацягнулі ў каталажку. Па дзесь дзень ніводзін не вярнуўся. А што ж: было глядзець, што робіш. Мы як сядзелі ціха, дык ніхто нам нічога ніякага.*

*У мястэчку многіх пабралі. Ксяндзоў чатырох, пісара, наўчацялёў. Паноў тэж мала асталося, цяперака з Крайны прысылаюць. Да нас бытта Палагея, чуў, маецца вярнуцца. Стануляўскія пакоі згарэлі, дык тут, у Дубраўцы, сядзець. Хто кажаць, касянеры спалілі, хто на́чы. Людвік у крэпасці, дык адна будзець. Мы гасіць лёталі ў Стануль, ды запозна. Усё згарэла, адзін во нейкі скрутак паспеў я выцягнуць з-за падваконніка. Антолька глядзела, кажаць, навука, як зелле робіць. Аддаць Палагеі, як вернецца.*

*Наробілася, хорт яе. А ўсё шляхта. Жылі б спакойна, і не было б гэдакага страхоцця. А то месцься во цяпер, як на дозарках, чакай горшага.*

*Маладых цяперака, каторыя граматныя, у Крайну пасылаюць — паном прыслужываць. Каторыя й вучуцца там. Антолька да навукі здатная была. Шкода, звязалася абы з кім. Тэж былі арыштаваўшы за помач касянерам. Бытта Палагея ўдала па злосці, што мапы ейныя спаліла. Добра, Мікалаевіч, дай Бог яму здароўя, заступіўся, паперчыну нейкую прыслаў. А то невядома, чым скончылася б. Цяпер у Краслаўцы, у Плятарыхі за пакаёўку. Можа, Палагея, як вернецца, возьмець да сябе. Калі адпусціцца.*

*Дзеўка з гонарам, ага. Мяне ўсё ў касянеры гэны падсуклечвала. Але я не пашоў: пашто мне? Каб толку з таго паўстання. Вось ружніца мне, што аднаго скінуць пана, а другога пасадзяць. І добра зробіў, што не паслухаў. А то б і гніў дзе ў крэпасці.*

*Дзераўца гэна па ўсём. Яшчэ перад паўстаннем нехта сукі паабразаў. Антолька кажаць — яна, але я ня веру. Палагея дужа злавалася. Тады ў Крайну паехала, другое прывязла. Ля курціны вунака пасадзіла. Я ў той дзень, як касянеры падурнелі, нашоў яго. Абгарадзіў троху алешнікам, няхай расцець, думаю. Во й падрасло, ужо колька ягадзін сёлета будзець.*

*Без пана цяжка, халерая. І вырасцець што — не дасі рады. Жыдам здаём у мястэчка. Плоцюць мала, а ўсё ж не быткуецца. Лён нішто ўзяўся — вызвалка будзець якая-ніякая.*

*Так і жывеш: то вайна табе, то яшчэ якая трасца. Іншым разам як падумаеш, колька людчыкаў пад зямлёй усюдых, страшна зробіцца. Па касцёх ходзім, і па нашых некалі будуць хадзіць. Будзеш гэдак во ляжаць, а па табе праўнукі — тэп, тэп. Ці ўспомнюць то?*

*Вы ўжо тэж з барадой, гляджу. Пасівелі. А й што: гады не маладзюць. Цяжка ж ня робіце, пэўна? Ага, кожнаму сваё. І жыць як, і ўміраць. Урэмя надыйдзець, усіх Бог прыбярэць. Гэдак.*

## ІВАН ЛАГВІНОВІЧ

### КВЕТКІ

У свеце цудоўным Божым,
у светлай душы вясны
з любові зямной прыгожай
народзяцца зноў яны.

Аздобяць сабой палеткі,
асветляць усцяж шляхі...
Калі зацвітаюць кветкі —
даруюцца нам грахі.

* * *

У савінай начы і ваўчынай
расставаўся з ласкавай жанчынай,
што ў каханні — ні многа, ні мала —
рай зямны сатварыць абяцала.

Я ў такое баяўся паверыць,
рай да грэшнай юдолі прымерыць,
бо раней быў за веру прыкуты
да галеры зямное пакуты.

### НАЧНІЦА

Пашкадуй свае крылы, начніца,
не ляці на адкрыты агонь.
Свет суровы, і трэба вучыцца
пазбягаць небяспечных прыгод.

Набліжацца да полымя жарсці
можна з вопытнай, мудрай душой.
Выбачай, я не дам табе ўпасці
па той бок — за жыццёвай мяжой.

Ашукаецца ў сувымярэннях
заварожаны полымем зрок.
Датыкнешся да тайны гарэння —
атрымаеш смяротны апёк.

Ля агню я знайшоў прымірэнне
з адзінотай, маркотай, тугой.
Не хачу, каб агмень суцяшэння
стаў прычынаю смерці тваёй.

* * *

У журбе да цябе прыхілюся,
прытулюся душой да цябе;
сівізною сваёй пахвалюся:
на сівых, кажуць, мода цяпер.

Ты даруй: не хацеў я пра гэта,
але вецер дыхнуў палыном.
Схамянуўся, а ўжо і не лета.
Наша жыта мы зжалі даўно.

Мо ваўкі ці цыганскія коні
ўночы выпілі зоркі ў рацэ.
Ні буслоў у лужка на далоні,
ні шпакоў у бярозы ў руцэ.

Заікаюся, словы глытаю,
аціхаю душой спакваля...
Нашай долі пара залатая
адшугала крылом жураўля.

* * *

Вынаходнік памылак, няўдач і дылем,
выхаванец крутога прагрэсу,
што ні год — адыходжу далей і далей
ад прыземленай мудрасці лесу.
Давядзецца наноў гэты свет адкрываць,
хоць і позна — жыццё на зыходзе...
Як што-небудзь наважуся зноў будаваць —
буду ўзору шукаць у прыродзе.

ІМЯНІНЫ

У збаночку-вазе на стале
восеньскі букет з лістоў апалых.
У барвова-залатым святле
томік вершаў слыннага Купалы.

Сам сабе ствараю зорны час
з культам урачыстае хвіліны.
Я сягоння буду адзначаць
імяніны Явара й Каліны.

Да стала прысяду, разгарну
песнярову кнігу-чараўніцу,
разгарну — бы ў спёку зачарпну
студзяніцы з чыстае крыніцы!



**ГЕОРГІЙ МАРЧУК**

# ДАВЫД-ГАРАДОЦКІЯ КАНОНЫ

***Канон (ад грэчаскага «норма») — адна з форм песнапення, што з'яўляецца дыялогам паміж чытальнікам і хорам.***

Давыд-Гарадок — мястэчка ў глыбіні Палесся, радзіма аўтара.

## КАНОН БОГУ

У ягоную прысутнасць вераць і старыя, і малыя. Без Божага благаславення і крыжа не выбіраюцца ў далёкую дарогу, не пачынаюць ніякую справу, не сядаюць за абедзенны стол. Гэтая еднасць Бога, людзей, хат, вуліц адчуваецца штодня, перадаючыся ад аднаго да другога.

— Уратуй, Госпадзі.

— Бог у помач.

— Дай Божа, каб Гасподзь захаваў.

— Дапамажы, Божа.

У святочныя дні людзі дабрэюць. І не толькі таму, што баяцца рабіць у святы, бо гэта ганьба, грэх. У такія дні боская прысутнасць поўная, усе як бы трымаюць у такія святочныя дні адказ перад Ім за паводзіны ў хаце і на людзях, за дробныя грахі. Мякчэюць сэрцам і сваю крыўду, а часам і злосць за свае часовыя няўдачы не паказваюць.

— Ты до царквы, Оля? То пачакай, пойдзем разам.

Звыклыя да цяжкасцей на сваіх плячах, звыклыя не прасіць і не плакацца, самастойна змагацца з нялёгкай доляй, людзі ў такія дні хочуць адчуць плячо суседа, сябра, аднакласніка. Хочуць быць бліжэй да Бога. Не давядзецца пачуць, каб клялі Бога. Крыўдаваць — о, гэта можна.

— А дзе той Бог? Усё няроўна дзеліць. Добры, чэсны памірае, а паразіт жыве.

Нават калі хто з самых надта ж занятых заробкам грошай забудзе перахрысціцца, дык велічны, няхай і па-местачковаму сціплы звон бомаў падштурхне яго да гэтага.

— Даруй, Госпадзі. Свято ж сёння.

Жанкі сварацца:

— Няма на цябе Бога.

Дзяцей вучаць перад кантрольнай, экзаменам:

— Не забудзь папрасіць у Бога: «Дай, Божа, каб добрэ було. Памажы».

Застаючыся адны ў хатах па вясне, калі маладзейшыя едуць гандляваць насеннем кветак у свет, старыя бабулі і дзяды ўмеюць раіцца толькі з Богам і вядуць бяседы, замкнуўшы дзверы на тры зашчапкі і два замкі.

У адзін час усе гарадчукі ўзнімаюць вочы на неба, калі праплывае чорная навальнічная хмара:

— О, сіла нябесная ідзе! Спасі, Госпадзі, уратуй нас.

Ад дзіцячага яшчэ наіўнага жаху перад Усявышнім «слухайся, а то Божанька пакарае» з гадамі ўсе пераходзяць да змірэння і нават набожнасці. Калі памірае чалавек, кажуць: «Бог прыбраў. Так трэба Богу. Дзякуй Богу, пажыў сваё». Мужчыны не любяць ставіць свечкі ў царкве хоць за «здароўе», хоць за «памін душы». Калі маці палохае Богам дзіця, яно яшчэ не зусім верыць, калі ж яе падтрымае і бацька — то ўжо запомняць на ўсё жыццё чатыры-пяць з сямі грахоў. Да жыцця, аднак, не адносяцца як да Божага дару, не ўмеюць сябе шкадаваць. Толькі ў старасці больш згадваюць пра пекла, а так яго і не ўспамінаюць, дазваляючы сабе дробныя грашкі, але раніцою, калі адны, каб не ўслых, каюцца, б'юць кулаком у грудзі:

— Богам клянуся, больш не буду. Усэ. Капцы.

У свае апошнія дні і гадзіны на зямлі просяць:

— Божа, не пакінь дзяцей і ўнукаў адных без сваёй ласкі і апекі, не пакінь.

А тых, хто не верыць у Бога, а замяняе веру ва Усемагутнага верай у сілы прыроды, шкадуюць — не прынята спрачацца пра існасць Бога. Самы прыемны і ўзнёслы камплімент «Вочкі, як на іконе. Тварык, як ў анёла. Анёльскае дзіцятко». Анёл успрымаецца як пяшчота, чысціня, безграхоўнасць, як памочнік Бога. Нацельны крыжык і іконка — самыя дарагія святыні, якія ахоўваюць і цела, і душу. Тут не знойдзеш хаты, у якой не было б на покуці іконы. Усе дзеці прыгожыя, але яны найпрыгажэйшыя з кветкамі ў руках на цвінтары царквы. Невымоўная лучнасць боская напаўняе духоўнай энергіяй і веліччу. У хрысціянскія святы ля царквы больш абазнаныя мужчыны на свой лад пераказваюць старонкі Евангелля. Бог давыдгарадчукам не надае сілы, але яны цвёрда вераць, што з ім жыць лягчэй і надзейней. Асабліва бачаць боскую руку ў квецені садоў, якімі так багаты гарадок. Дзіўна, але прыказак, прымавак, якія тычыліся б чорта, не пачуеш. Не любяць тут жартаваць з нячыстым і ягоным атачэннем. Прытрымліваюцца правіла: лепш быць далёкім, але ўсё ж сваяком Бога, чым найбліжэйшым суседам чорта. Прычым, з гэтым няпісаным правілам згодны і спагадлівыя, і неміласэрныя. Усюдыіснае тэлебачанне — дык нават і яно не пахіснула тысячагадовую хрысціянскую свядомасць, не разбурыла рытуалы жыцця, не зацьміла галовы, штодня нараджаючы новых «куміраў». Не ўсе адпавядаюць боскаму пачатку, але ўсе ведаюць пра яго, шануюць лад жыцця і перадаюць ад пакалення да пакалення. Хітра прымружыўшы натруджанае вока, гарадчук пра замагільнае жыццё скажа:

— Нешчо там усё ж е. Мо недзе далёка. Не можа быць, коб Бог ды не прыдумаў шчо.

Не вераць навукоўцам, якія кажуць, што праз пяць мільярдаў гадоў Зямлю спаліць Сонца.

— Таж усё ўстроіў Гасподзь ды знішчыць. Не.

Самае жахлівае і непрыемнае праклянцце: «Коб цябе Бог пакараў» і самае прыемнае пажаданне: «Коб цябе Бог любіў».

Бог не ўспрымаецца як байка, а як добры чалавек, які пастаянна сочыць за кожным. Сляза цячэ з радасцю, калі немаўлятка апускаюць у купель са святой вадою, — хрысцяць. Гэта мо адзіны выпадак, калі плач дзіцяці ўспрымаецца спакойна і лагодна. Таямніца народзін і смерці... Ніхто нічога не ведае, не помніць. Адзін знойдзецца, які скажа, што помніць і папа, і крыж, і свечкі, калі яго ў тры месяцы хрысцілі. Яму не вераць, але паважаюць за словы «Бог мяне сюды прывёў, тут жыць і буду. Нікуды не з'еду. Людзі некаторыя паехалі і хутка паўміралі». Знаходзячыся чацвёртую частку свайго жыцця ў дарозе, у чужых краях, гарадчукі вельмі ж адданыя свайму мястэчку. Здараецца, і часта, што едуць за тысячу кіламетраў, каб адсвяткаваць з усімі Вялікдзень. Рэлігія — грандыёзны, надзейны метад заспакаення трагічных сумненняў чалавека аб бессэнсоўнасці жыцця. «Не гнявіце Бога, не звяртайцеся да яго, калі вам кепска», — вучаць маладых. Гарадчукі клічуць Усявышняга па загадзе сэрца і закліку душы. Тут ужо дадаць няма чаго. У маладых, вядома, — недавер, сумненні, легкадумнасць і ў адносінах да Бога. Старым крыўдна, што вера ўжо не такая моцная і прачулыя казанні святара слухаюць без належнай пашаны.

Няма такога чалавека на зямлі, якому Бог яшчэ не дапамог. З тым у душы і жывуць.

## КАНОН ГАРЫНІ

Рака не чалавек, яна злой не бывае. Шуміць, бяжыць вада Гарыні, і куды яна нясе нашы гады? Так, відаць, думае рыбак, які сядзіць на носе лодкі з вудаю ў руках і кідае суровы погляд на гурбу падлеткаў, якія, як жарабяты, выкідваючы ўперад ногі, з галёканнем скачуць у ваду. А можа, гэта нам хочацца, каб ён думаў пра хуткаплыннасць жыцця, а ён разважае пра звычайнае, простае і больш нервуецца, што неслухмяныя хлопцы распужаюць усю рыбу. А вас не цікавіла, аб чым думае рыбак, седзячы на беразе ракі? Не хочацца верыць, што толькі пра рыбу. Вада, як і агонь, сваёй зменлівасцю падштурхоўвае да развагі. Дрэва статычнае. Атрымаў асалоду ад прыгажосці, ідзеш далей, ад вады ж вачэй не адарваць. Ракой не грэбуюць і не абагаўляюць, як дзе-небудзь, проста ставяцца да яе паважна, як да старэйшай сястры. Яе някідкую прыгажосць ацэньваюць у сталым узросце, добра павандраваўшы па свеце і шмат пабачыўшы. Спачуваюць гаспадару, дом якога стаіць над ракой.

— От, неспакой. Жыві і заўсёды думай, коб вада не знесла. Знай, мерай бераг. Ці з'ела яго вада?

У векавой барацьбе вады і сушы найчасцей перамагае вада. Але аб гэтым не думаеш, здаецца, усё нязменна: нізенькі беражок, якому дапамагае ярка-зялёная трава, утрымлівае паток, як і дзесятак гадоў. А бяссільны пясок у адну ноч змывае: глядзіш, о дзіва, пасярод ракі вырасла сакавітажоўтая пясчаная каса. Рыбак сям'ю не пракорміць, от забаўкі дзеля, аднак гарадчукі здзекаў над рыбакамі не дазваляюць сабе. Няма такой сям'і, у якой не любілі б ці не ўмелі варыць юшку. Яна, рака, першай і выхоўвае, загартоўвае характар чалавека, дорачы не толькі штодня сотню-другую верхаводак, але і ўмацоўваючы слабыя ад недаядання мышцы — летам у купанні, а зімою на каньках. Не кожны з падлеткаў ды з дарослых дасць нырца з парэнчаў высокага моста ў ваду. Рака мае свой нораў, паказуху,

дурноту не дарue. Тапельцаў, здараецца, знаходзяць за тры-пяць кіламетраў ад месца трагедыі.

— Не ходзі, дзіцятко, адзін на бераг, коб не ўпасці.

І ўсё ж яна добрая. На Макавея, у дзень свята кветак, жанчыны кідаюць з моста адну-дзве кветкі з букеціка, які толькі што асвяцілі ў царкве. Плывуць гладыёлусы, аксамітки, бяссмертнікі, астры. Ціха прымае дары рака. Далёка плывуць кветкі, не тонуць, нібыта Млечны Шлях на шырокай сінявата-зеленаватай роўнядзі. Вербы, лозы, таполі, гледзячыся ў ваду, робяць яе зялёнай. Жанчыны з незвычайнымі, прасветленымі тварамі доўга з сумам глядзяць, як знікаюць удалечыні кветкі: сплываюць мары і надзеі, няспраўджанае шчасце... Ніхто з людзей не помніць, не засталося сведак, а рака памятае, як з яе лёду на Хрышчэнне выпілоўвалі вялікія крыжы, у якія ўстаўлялі свечкі. Таямнічы месяц у небе не так прыцягваў да сябе позіркі, як гэтыя крыжы, што свяціліся на лёдзе. Відавочна адчувалася тады боская сувязь зямлі і неба...

Памёр дзевяностагадовы майстар, які адзін умеў рабіць давыд-гародоцкія дубы-лодкі. Ніхто яго смерці не заўважыў, як звычайна не заўважаюць яе ў вельмі старых людзей. Рака заўважыла. Яна без лодкі, як агарод без кветак. Такое адчуванне, што маторныя лодкі яе раздражняюць, а вясло яна сама лашчыць. Бяжыць вада, цячэ рака, куды яна адносіць мары? Так соладка ляжаць на цёплым пяску і спадзявацца, што наперадзе толькі добрае. І гэта сапраўды так. Проста на рацэ гэтая радасць жыцця больш адчувальная. Чарпануў прыгаршчай рыбак ваду, абмыў ёю твар. Спякотна. Толькі ў гарадку і ўмеюць, і вудзяць рыбу жанкі.

— Олена поставіла на газ бульбу, побегла да ракі, навудзіла рыбы, вярнулася дык яшчэ і бульба ў гаршку не зварылася. О, спрытная! — не верацъ аж, апавядаюць адзін аднаму пра такі фінт гарадчукі.

Вада цёплая. Рыбак акунае кепку ў ваду і надзявае яе мокрую на галаву, папярэдне выкруціўшы, каб не цякло на патыліцу. Смехата. Ваду з ракі для піцця і на чай не бяруць: багата ілу, калісь, калі ўсюды і ўсё было больш чыстым, бралі. У туманныя дні з моста моладзь з заміраннем сэрца кідае ў ваду каменні. Усе чакаюць з таямнічай усмешкай, калі камень булькне. Хто не пачуе гук свайго каменя, жаданні ў тым годзе не будуць здзяйсняцца. Усіх, чые хаты стаяць на набярэжнай, клічуць рыбакамі. Не крыўдуюць. Дзяцей адных гуляць у лодкі не пускаюць, крый Божа. Тыя любяць спусціць босыя ногі ў ваду і боўтаць. Сварацца на дзяцей за самавольства і б'юць трохі нават папругай. Увечары закаханыя блізка да вады не падыходзяць — ідуць на Царкоўную гару, адтуль бачна, як у вадзе адлюстроўваюцца зоркі. Так ціхая гаспадыня гарадка і жыве: як сімвал вечнага жыцця, як памочніца, як таямніца, як райская асалода, як доктар, які лечыць бясплатна, здымае нервовы стрэс, і як гонар: «А ў вас такой прыгожай ракі няма, як у нас». Ніхто не крыўдуе, што яна перажыла дзевяцьсот пяцьдзесят тысяч жыццяў гарадчукоў ад дня існавання і невядома колькі яшчэ гэтых тысячаў перажыве. Садзіцца за таполямі сонца. Вялікае чырвонае сіта. І заўтра будзе светлы, цёплы дзень. Дай Божа яго ўсім сустрэць. Рыбак не ідзе дахаты, хоць ты заманьвай яго, не заманьвай. Не дае спакою думка, які год не дае: аб чым можа думаць прыгорблены ўжо трохі, ссівелы, але яшчэ ў сіле рыбак, які ляніва камечыць пальцамі левай рукі мякіш белага хлеба?

Бяжыць рака, шуміць вада, нешта пяе па-свойму, не прасі яе, не пачакае, забярэ і знясе і твае гады. Гарынь мая, Гарынь.

## КАНОН ХАЦЕ

Гарадчук нараджаецца з мараю разбагацець, пабудаваць новую хату, паставіць на ногі — вывучыць дзяцей і дзецям збудаваць новую хату. Гарадчук задаволены, калі работа ладзіцца, калі дзеці не хварэюць і калі грошы «ідуць». О Божа, як гэта нямнога і як цяжка гэта даецца. І каб абавязкова хата была, як у людзей. З вялікімі вокнамі, з ганкам і верандаю, на чатыры-пяць пакояў, каб у адных вокнах сонца ўзыходзіла, а ў другіх — садзілася, «коб» залай на вуліцу і «коб» у хаце былі шафы, дываны, іконы, дарожкі, вазоны, модны імпартны цюль, люстра як мінімум на тры лямпачкі, умывальнік, і «коб» падлога не рыпела, бо гэта, кажуць, чэрці па ёй ходзяць так. Калі вы пераступіце парог, вас абавязкова павядуць у залу, пасадзяць у мяккае крэсла альбо на тапчан, знімуць фартух, вытруць рукі і сціпла сядуць побач, каб выслухаць, з чым завітала сваячніца ці сусед. Чужых і цыганоў у залу не прыводзяць — сустракаюць на ганку, а калі не паспяваюць, дык на парозе, а лепш каля форткі.

Хата... Тут кожная рэч чакае, каб да яе дакрануліся. У ёй жывуць, пакуль не разбураць вятры дах і не прасочыцца святло між бярвенняў. Здараецца, і падлога правалілася, і печ не грэе, і грубка копціць, і цвіль на дзвярах і вокнах, і клямка злізалася, і стаяк не трымае скабу пад зашчапку, згніў увесь, і дах дзіравы, а людзі трываюць, бо будаўніцтва новай хаты ў гародзе ідзе марудна. Моды няма, каб святкаваць улазіны, калі сталярку не паставілі і падлога не панасціланая. Асірацела хата без агню ў печы, вынеслі газавыя пліты напрыканцы дваццатага стагоддзя ў летнія кухні. «Му печ не топім да зімы», — кажа адна суседка другой. Вось з вёсак нанеслі чарніц. Хочаш смачных пірагоў, затапі печ. Хату даглядаюць, як нявесту. Каб з вуліцы была, як лялечка: абмаляваная, пафарбаваная... Хіба п'яны ці зусім нядбайны гаспадар пойдзе ў чобатах у пярэднюю. Барані Божа. Затаўчэ жонка ў плечы, аблае, пакрыўдзіцца на тыдзень. Улетку ўсе сілы і час забірае агарод, а ўзімку затое і рукамі , і спінаю, і пятамі ля грубкі можна адагрэцца на цэлы год і нагаварыцца ўдосталь. Вочы зліпаюцца ад жадання сну, а ўсё слухаў бы і слухаў бы пра тое, «шчо було, шчо будэ». Не прамінуць прыгадаць і славутую прыказку:

— Не живі уныло, не жалей шчо было, погадав, шчо будэ, бережы шчо е.

Печ і грубка не адпускаюць, не хочацца ўзімку ехаць у вялікі свет, ды патрэба гоніць. Адна за адной жанчыны ходзяць паглядзець, што новага купілі ў хату. Усе хваляць. Няма моды ганіць густ гаспадыні. І як высокую ацэнку дадаюць:

— Трэбо і мне таке ўзяць.

На бягу ў хаце не п'юць і не ядуць. Толькі за сталом і толькі, каб усе селі. Здаецца, і невялікая хата, а вяселле на сто гасцей памесціцца, праўда, танцаваць выходзяць на вуліцу. Прапіваюць маладую. Няхай ідзе на свой хлеб, а да бацькоў ходзіць на булкі. У хаце свае дзівосы: нават ад гульні ценяў, якія дасылае, дзякуючы ветру, лямпачка пад абажурам на слупе, што ўкапаны перад вокнамі на вуліцы. Час ад часу недзе пад падлогаю ці на вышках шкрабаюць спадарожнікі жыцця мышы, а на вуліцы мяўкае кошка, просіцца ў хату. Усе пад цёплымі коўдрамі спяць. Ідзе адчыняць дзверы, «коб» упусціць кошку, хіба бабуля. Госцю ўставаць не прынята. І боязна. Здаецца, што ў вокны глядзяць нябожчыкі, прыглядаюцца, што гэта за чалавек спіць на іх ложку. А ў сонечны дзень жывая казка. Церам-церамок.

У кожнай хаце багата люстэркаў. *О, раздолле сонцу! Хочацца танцаваць. І* маладыя напрапалую ўключаюць магнітафоны. Хоць і хацела б адпачыць ад бяссоннай ночы бабуля, не даюць, ідзе ў гарод палоць грады. Маладыя, прытанцоўваючы, ідуць ад аднаго люстэрка да другога, з аднаго пакоя ў другі. А раптам з якога-небудзь акна ўгледзіш таго, каго, здаецца, кахаеш. Кажуць:

— Твой хлопец. Твая дзеўка.

Хата і ратуе.

— Люба, а дзе чоловек? Пойдзем з ім па чарцы вып'ем.

А яна яго ўвапхнула ў хату і загадала сядзець і не рыпацца, бо трэба яшчэ паехаць на поле, прывезці бацвіння, морквы, буракоў, маладой бульбы. І той ціхенька сядзіць, не падыходзіць да вокнаў.

— Няма яго з работы.

Ліпаю ў печы не паляць. Душа ліпы ў агні плача. У хаду альха, бярэзіна, сасна, лаза ці брыкет — гэта ў тых, хто першы пабудаваў катэдж з катлом атаплення.

У жалобныя дні даюць нябожчыку пераначаваць, лежачы ў труне, у зале. Пасля пахавання ў вялікай журбе, няхай часам і сварыліся часта, прыходзяць да жонкі памерлага сваякі, суседзі, збіраюцца ў зале, дзе стаяла труна, і гамоняць, гамоняць… Нехта з самых блізкіх сваякоў застаецца на ноч, і не на адну. На сцены партрэты памерлых не прынята вешаць. Фатаграфіі нябожчыка ў труне, каля царквы і на могілках хаваюць ад дзяцей у шафах пад бялізнаю. Там, дзе засталася ў хаце ўдава ці ўдавец, ружы пад вокнамі, што на вуліцу, не садзяць. Па хаце, якая згарэла (рэдка ад маланкі), плачуць, як па чалавеку. На папялішчы амаль не ставяць новую, біруць другі пляц, якіх так у мястэчку не хапае. Тады, як закон, будуюць не з сасны, а цагляную. Здаралася, што хаты, зрубленыя старымі майстрамі, паводка зносіла ў Гарынь, дык яны не рассыпаліся, не паддаваліся вадзе і лёду. Кожна хата мае характэрны пах, але ў кожнай пахне хлебам, зёлкамі, сушанымі грыбамі. Ад сушаных на бляхах альбо запечаных у печы антонавак прыемна казыча ў носе.

О хата, любая хата, маленькі ноеў каўчэг, калыска. Кажуць, калі памрэ гаспадар, то комін пакосіцца налева, а калі гаспадыня — на правы бок. Стол стаіць абавязкова пасярэдзіне залы і абавязкова пад ажурнай цыратаю. На ім люстэрка, крыштальная ваза без кветак і гадзіннік, які моцна пікае. Хата не любіць цішыні. І муха, бывае, б'ецца ў шкло, і матылёк, а то і аса заляціць, і малярыйны камар столь таўчэ, і конік, які праз адчыненае акно ўскочыў, заблудзіўся, цыркоча. Яблыні і вішні пільнуюць вокны. Тады нават і вялікі дождж у хаце не бачны. Яго чуюць па гуках на даху. Усе ўпэўнены, што ў хату, у якой на покуці абразы Хрыста, Божай Маці, Міколы-ўгодніка, маланка не ўдарыць. Яно на тое і падобна. Б'е ў стагі, дрэвы і толькі раз за дзесяць-дваццаць гадоў у хату. О, тут, кажуць, «вельмі награшылі». Навальніца разрывае неба, недзе побач бухае, як у пекле, а гаспадары сядзяць ціха-смірэнна, за кожным разам паўтараючы: «Святы Божа, Святы крэпкі, спасі нас». Не крыўдуюць, калі, седзячы ўвечары на беразе ракі з півам і гарэлкаю, нехта адзін скажа:

— З вамі, хлопцы, добра, але пайду дахаты.

У ёй карэнні, пачатак культуры, гаспадарлівасці, густу, чысціні, чалавечага цяпла, якое толькі хата ўмее акумуліраваць і нікому да рэшты не аддаваць, хоць перабывае ў ёй за век яе тысяча людзей. Не, не ў раддоме рэжуць пупавіну, пупавіну рэжуць у Хаце. Нішто так не калечыць хату, як смерць гаспадароў.

Радуйся, калі засталася бацькоўская хата, і ёсць куды вяртацца. Стократ радуйся, калі ёсць куды і ёсць да каго.

Радуйся.

## КАНОН ВУЛІЦЫ

У стуку па шкле акна ёсць свая музыка: «Тук, тук, тук...»

— Жэнік, выходзь на вуліцу!

Узімку ці ўлетку, увосень альбо ранняй вясною — заўсёды чуецца ўслед:

— Куды ляціш? Цяплей апраніся.

Хапаеш блінец, ясі на хаду і гэць на вуліцу. Дзве сястры-блізняты, якія ідуць да ютрані, шарахаюцца ўбок, далей ад хорткі, з якой вылятаюць апука[1], а за ёй і сам футбаліст. Тут глядзі, каб не разбіць у гарачцы каму-небудзь акно. І свае папругай наб'юць, і пацярпелы, калі дагоніць, дасць капняка. Лепей карты каля лодкі, перавернутай уверх дном і яшчэ не засмоленай. Настаўнікі па гэтай незаасфальтаванай вуліцы не ходзяць, нават па ваду, ведаючы, што ў гэтым калодзежы самая смачная, чыстая, светлая вада. На вуліцы ўпершыню бачыш зоры на небе і, гледзячы на іх, уяўляеш упершыню зямлю як планету. Надакучваюць карты, а падлеткам хутка ўсё прыядаецца, можна ў цыркі, у маянку альбо проста пасядзець на калодах ды гуляць у пляўкі, хто далей плюне. Але нешта ўсіх томіць, гняце душу, якая толькі-толькі нараджаецца. Такое пачуццё, што ўсе ведаюць нейкую таямніцу, але недагаворваюць. А вось і яны... Тры сяброўкі. Не ідуць — плывуць у каляровых сукнях да кален, усміхаюцца, ідуць міма, як бы грэбуючы хлопцамі. У іх жа шыі, як на аўтапілоце, паварочваюцца ўслед за дзяўчатамі. Далоні пацеюць і нешта кожны, хто пачне гаварыць, заікаецца. Доўга цягнецца паўза. Аж пакуль не звернуць увагу на маці, якая б'е свайго сямігадовага сына:

— Навошта забіў жабу? Га? Не забівай. А коб цябе так мучылі, га? О горэ...

Усе і ўсіх, і пра ўсіх ведаюць. У каго што дзе ляжыць, якога колеру шпалеры, колькі яблынь у садзе і ранніх груш.

— Суседзе, ты не сварыся на іх. Кралі да нас, мы кралі, і яны крадуць. Шкода табе слоіка вішняў? — супакойваюць суседзі адзін аднаго. Свая вуліца, самая свая, самая родная. На сваёй вуліцы сваіх аднагодкаў не б'юць і не крыўдзяць. На іншых вуліцах ці каля клуба — там і пабіцца можна, а тут братэрства.

Да дзевак са сваёй вуліцы хадзіць не даюць:

— Танцаваць можаш, а праводзіць дахаты не дамо! — папярэджваюць, крывячы губы. Пакуль дзяўчына сама не прыйдзе на выручку:

— Ідзі адсюль, а то мацеры скажу, шчо лезеш да мяне.

Адбівае, як агнём, апякунства. Злосць і крыўда доўга не праходзяць. Вулічныя мянушкі ніякімі ганаровымі званнямі і высокімі пасадамі не вытравіць:

— Да Мацёнкі дачка прыехала...

— А Баценько ўчора гуркі ў Мінск вазіў...

Гудзе ўся вуліца двойчы: калі на ёй вяселле і калі провады ў войска. Вынесуць на вуліцу з хаты і ежу, і сто грамаў нальюць.

---

[1] Мяч.

— Колі твойму ў армію?

— Яшчэ два гады.

— Ой, коб войны не было.

Зніклі размовы ля калодзежа, у якім кожны, хто чэрпаў вядро вады, бачыў сваё: і месяц, і сонца, і старую ігральную карту, і корак ад шампанскага. Зараз амаль у кожным двары свой калодзеж, з якога электраматор гоніць у хату ваду. Суседкі на лаўках пад плотам збіраюцца надвячоркам, калі «ўсэ поробілі». Бывае, вецер ад ракі нечакана прынясе прахалоду, а разыходзіцца надта ж не хочацца. Самы разгар бяседы. Тады адна хутка ідзе ў хату, выносіць свэдар, кофту, целагрэйку, жакет... раздае субяседніцам. Няма сілы, каб магла прыпыніць задушэўныя размовы:

— А твой ето...

— А твой як завёўся...

Каровы падоены. Мужчыны глядзяць па тэлевізары футбол. Бэз адцвітае. Вішня цвіце-красуе. Так не хочацца развітвацца з пражытым днём. Нікому не хочацца. Невымоўна шанцуе той вуліцы, па якой не ездзяць машыны. Ужо багата якія вуліцы ў паслячарнобыльскі час пазалівалі асфальтам. Мужчыны выносяць з хаты гладкія, як іх лысыя галовы, самаробныя сасновыя табурэткі. На лаўцы ім сядзець «нязручно і мулко». Рэжуцца ў карты. Як толькі хто ўключыць адзіную лямпачку на слупе, разыходзяцца, расціраючы рукамі зацёкшыя спіны. У яшчэ не густой цемры чуецца:

— Жэнік, Жэнік, ідзі дахаты.

Дарма. Усіх цягне да клуба. Там музыка, па-моднаму дыскатэка, там танцы і там тыя тры прыгажуні, і зноў, як на зло, у кароценькіх спадніцах. Таму гукай маці, не гукай, а пакуль не закончацца танцы — не чакай. Добра, калі яшчэ адразу пасля танцаў стомлены прыцягнецца дахаты. Бывае, без кружкі малака і лусты батона кладуцца спаць, каб заўтра зноў на вуліцу. Дома трэба рабіць, а на вуліцы — воля.

Рэдка выпадае, калі суседзі сварацца на вякі-вечныя, хоць дробныя сваркі здараюцца часцяком, ды ўсё на п'яную галаву. Тое, што за плотам, на вуліцы, тое — нічыё. Доўга, ляніва і неахвотна прывыкаюць да таго, што на нічыйнай тэрыторыі. Гарэзлівыя падлеткі ганяюць на роварах па чужых вуліцах, разганяючы курэй, а па сваёй едуць без «фраерства», павольна-паважна. Толькі на тваёй вуліцы жыве адзіны на ўвесь гарадок мастак. Таму, здараецца, пахне фарбамі і пакостам. Але яго не цэняць, не ўмеюць ганарыцца яго талентам.

Доўгі-доўгі дзень, як тычка пад бобам у гародзе. Адзін-другі закурылі, каб бацькі не бачылі. Хочацца, цягне падысці пад акно хаты адной з трох прыгажунь: а раптам пашанцуе, падгледзіш, убачыш тое, ад чаго кроў кіпіць. Іхнія грудзі наліліся за апошні год, як салодкія грушы. Аднак усе саромеюцца прызнацца адзін аднаму ў гэтым патаемным жаданні, і таму ніхто нікуды не ідзе. Вось перад войскам можна будзе ўсё.

Павольна вяртаюцца ад царквы з вячэрні дзве сястры-блізняты. Яны ў строгіх сініх сукнях, на якіх белыя карункавыя каўнерыкі. Калі сочыш за імі штодзённа, яны вельмі набожныя і ходзяць у царкву амаль кожны дзень, дык, здаецца, час плыве павольна, марудна, а маладым...

— Божа, як мала быў на вуліцы! Які кароткі дзень!

Родны кут у кожнага свой, для гарадчукоў ён — родная вуліца. У войска праводзяць усёй вуліцай. Прыйдуць сваякі Ганна, Олена, Надзя, Наталка, Люба, Одарка, Марыя. Прыйдуць суседзі Іван, Грыцко, Якаў, Валодзька, Васё і Коля. Плачуць толькі мама і бабуля.

— Жэнічак, Жэнічка, ты ж напішы адразу, як прывязуць на месца. Сыночак, родненькі. Як мы без цябе, як вуліца?

Прыйшлі і тры прыгажуні, каб праводзіць. Ідуць усе пад гукі марша «Прощание славянки», які ліха іграе на баяне музыкант з клуба. А потым усе разам спяваюць тую песню, якую любіць слухаць альбо спяваць навабранец. Тры прыгажуні спяваюць таксама. Але адна спявае сумна. Апошні ветэран апошняй вялікай вайны раптам зацягне і сваю «Кацюшу». Тут ужо спяваюць усе. Яшчэ памятаюць словы. Усе спачуваюць навабранцу што ідзе ў войска, ідуць, здараецца, і з радасцю — хоць прафесію там дадуць — а таму: ці дачакаецца яго адна з трох прыгажунь, на плечы якой ён пяшчотна накінуў свой пінжак. Ягоны сябар старанна вучыцца іграць на школьным баяне. Маці яго робіць у школе тэхнічкай. А яе бацькі заможныя. Ён не хоча адчуваць, што ён ёй не пара. Бедны. Вучыцца іграць. Свеціцца адным акном школа. Рыпіць хлопец на баяне. Нешта ўжо атрымліваецца. Ён вучыць песню, якая падабаецца ёй. Яму хочацца перамагчы, быць першым. Яму хочацца быць каханым, кахаць, а можа, ён ужо кахае. Згубіць цікавасць да сваёй вуліцы, калі хутка таксама пакіне яе, падасца ў свет. Да той пары, пакуль яго не вырвуць з горада тэлеграмай на пахаванне стогадовага дзеда, пра якога ён, прызнацца, і забыўся. Але гэта будзе пасля, а пакуль ён з захапленнем спявае пад гукі баяна, які трошкі шыпіць, бо трэснулі мяхі. Ён дамажацца яе ўвагі, абавязаны дамагчыся. Пойдзе з ёй па ландышы. Запішацца ў той самы школьны гурток самадзейнасці, у які запісалася і яна. Толькі б хадзіла яго вуліцай, не абыходзіла яго хату. Ён дамажацца яе, бо не ў характары гарадчука адступаць ад свайго. І Жэнік піша здалёк свой першы ліст не бацькам, не сябрам з вуліцы, а ёй.

Плыве, усё пад тую ж знаёмую мелодыю «Прощание славянки», вяселле. Жаніх сочыць за кожным рухам, крокам нявесты, моцна трымае яе за руку. Усё ж галалёд. На ўсім шляху ад царквы, дзе абвянчаліся, і ад клуба, дзе падпісалі грамадзянскі акт, шчасліва-насцярожаная нявеста адорвае цукеркамі тых, хто трапляецца насустрач, а больш суправаджае працэсію з сарака-васьмідзесяці чалавек, якія ідуць за маладымі парамі. Яна іх дастае з абшытай блісчынкамі і каралінамі сумачкі і кідае на адзін бок, на другі. Яна хоча, каб жыццё яе было салодкім. Стары звычай і ніхто не грэбуе гэтым свяшчэнным рытуалам. Нагнецца, падыме цукерку, калі не зловіць на ляту. Ад царквы да роднай хаты нявесты суправаджаюць маладых падлеткі і дзеці, намагаючыся назбіраць цукерак як мага больш, напіхваюць іх у кішэні. Шакаладныя прыносяць дахаты, а карамель ядуць на хаду. Божа праведны, як весела, як смачна. Пашанцуе таму, хто спрытна зловіць найбольш шакаладных. Імі ён пачастуе ў хаце маці, бацьку, дзеда, бабу. Усе пакаштуюць, і ўсе прыгадаюць і сваю маладосць, і сваё вяселле. Сыпле снег, змяркаецца і на душы ва ўсіх узнёсла і светла. Даруйце штодня адзін аднаму дробныя грахі, каб яны не перараслі ў вялікія недаравальныя.

На вуліцы будуюць новую хату… То не памрэ вуліца — родны сэрцу кут.

## КАНОН АГАРОДУ

Адгарадзіся ад жывёл, людзей плотам вакол хаты — дык і будзе агарод. Праца ў ім чорная, цяжкая, брудная, але агарод гарадчукоў корміць. Калі ідзе купля-продаж, менш звяртаюць увагі на хату, а больш на агарод. Ці вялікі, ці не ў нізіне, ці не топіцца вадой падчас паводкі, бо менавіта ў

агародзе закапаны капіталы гарадчукоў. Агарод не толькі пад кантролем гаспадароў, але і пад законам уладаў. Асцярожныя, перажыўшыя за свой век мноства формаў улады, гарадчукі кажуць: «Не чапай уладу, пакуль улада не зачапіла цябе».

Дзіву даешся: шэрыя, непаглядныя пасля зімы грады вакол хаты, якіх-небудзь дзесяць сотак, гатовыя забраць і сцежку да хорткі, калі б не была выкладзена цэглай, вясной непазнавальна мяняюцца пад капаніцаю гаспадароў, набываюць выгляд геаметрычных фігур, мініяцюрных пірамід, якія праз тры тыдні ўпрыгожацца кветкамі ўсіх краін і ўсіх гатункаў. Яны так заварожваюць, што ты адчуваеш сябе калі не ў батанічным садзе, дык у індыйскім фільме, а мо нават у казцы.

— Пайду накрыю грады цэлафанам, бо па тэлевізары казалі, што маразы будуць.

— Пайду паліваць гарод, бо і заўтра суша, казалі па радыё.

— Шчо рабіць? Нешчо роза не прынялася. Аж з Рыгі везла.

— Ой, Ганно, адпачні, а то і памрэш на градах, — чуецца ля магазіна ў чарзе па хлеб. Чаму ў чарзе? Таму, што акуратныя гарадчукі і гарадчанкі прыходзяць акурат у тую мінуту, як прывозяць з пякарні хлеб. Чаго прыходзіць раней, губляць час. Трэба ў агародзе палоць грады. І вось тысяча жанчын у адзін дзень і адзін час пад спякотным сонцам у тры пагібелі твораць з агарода дасканалыя палотны, нібы ткуць з жывых кветак дываны.

Сем колераў у вясёлкі, дык памножце яшчэ на сем і то, відаць, не будзе хапаць, каб уявіць усю гаму фарбаў. Тут баішся пахваліць якуюсь кветачку, каб, не дай Бог не пакрыўдзіць іншую. Кветкі рэдка зразаюць у вазы, хіба на дарогу якомусь паважанаму госцю альбо школьніку на першае верасня. А ўжо ўмеюць выхваляцца гатункамі і відамі адна перад адною, нібы энцыклапедыю чытаюць. У агарод ходзяць штодня, пакуль носяць ногі і слухаюцца рукі. Зеллю, якое надакучвае ўсё жыццё, знаходзяць месца:

— Кінь краля́м альбо вымасці ямку на вуліцы, вымасці.

Увечары, калі сонца яшчэ не закацілася за раку, стомлена сядзе жанчына на ганак і не мае сілы разагнуць спіны. Можа, упершыню за дзень і звярнула ўвагу на хараство свайго агарода. Аж сляза пабегла па загарэлай шчацэ. Можа, успомніла, што й маці, і бабуля, як і яна, у тры пагібелі гаравалі на агародзе. А пах, дзівосны пах трохі ўзнімае настрой, кружыць галаву, абуджае ўспаміны… але чамусьці ўсё горкія. Такая прыгажосць, а на сэрцы вечны неспакой: чалавек недзе затрымліваецца, дзеці далёка ў горадзе — нешта не звоняць, ужо ж і тэлефон паставілі, от каб дзяды дажылі да гэтага цуда! Бярэш у рукі трубку, ідзеш у агарод, на вуліцу, на раку…і звоніш куды хочаш, хоць касманаўтам. Трэба разагрэць боршч. Неахвота. Пасля, калі прыйдзе гаспадар. Як багата дзён у годзе, а ўсё трэба жыць у імя агарода, на агародзе, для агарода. О, Бог паслаў і час, і месца, і лёс. А каб перайначыць усё, нанова пачаць жыць… не… і жадання няма, і грэх… як-ніяк усё ж заробак е. Насенне красак у пакецікі, пакецікі на рынкі краіны, і зноў жыві надзеямі на агарод.

— О, точка выпаўзла. А няхай жыве, усіх не паўбіваеш.

«Трэба такога цвета, як гэна роза, дачушцы сукенку купіць. Дзе на ўсэ грошай набрацца?» Старыя, паміраючы, казалі: «Даглядай чоловека, дзяцей і хату з гародам». Але ж божачкі, божачкі, пальцы месяцамі не ведаюць гэтага гарадскога манікюру і лаку.

Агарод — удзел жанчын, іх крыж і радасць. Жанкі ўстаюць першымі і

кладуцца спаць апошнімі, просячы на ноч ціхі дождж, каб усім соладка спалася. Узімку ўсім хочацца адпачыць ад агарода і сумуюць без кветак. На градах адзін попел ды косці ад рыбы. Ну, не верыцца: няўжо зноў зямелька наводзіць прыгажосць? На агародзе працу вытрымліваюць тыя, хто не баіцца адзіноты. Хто яе баіцца, ідзе працаваць у магазін, у школу. З краскамі не размаўляюць, але вельмі часта дакранаюцца да іх, гладзяць. Яны таксама, як чалавек, жывуць нядоўга. Глядзіш на кветкі і абавязкова прыгадваюцца дзеці, вяселле і пацалункі. З агарода красак нябожчыку на труну не рвуць. А нашто? Калі ён іх сам даглядаў, палівай. Няхай растуць. І ў раддом не носяць. Няхай дзіцятка з маленства да жывых кветак прывыкае. Як нельга ўявіць неба без воблакаў, так і гарадок без агародаў уявіць нельга. Гарадчук не танцуе гожа, калі адзежа непрыгожа. Пры кветках не будзеш хадзіць абы як. У горад — да царквы, да універмага, па хлеб, да клуба, да бібліятэкі, да чайной-рэстарана — гарадчук не выйдзе ў будзённай адзежы, хоць ты яму выпрві залаты зуб. Вакса і шчоткі для абутку заўсёды на ганку, пад рукою і на віду. Нават кветку, якую пабіў град, падвязваюць, даюць яшчэ пажыць.

— Не тапчы мне краскі! — сварыцца маці, высунуўшыся ў акно. — Бяры ровар ды хлеба прывязі.

Усе дзеці ў гэтых адносінах вельмі акуратныя, дапытлівыя і разборлівыя: якія кветкі адналетнія, а якія мнагалетнія. Павязі падлетка на абласную выставу, спытай, якія кветкі растуць на Палессі, і ён на адным дыханні выдасць: астры, гваздзікі, ружы, лілеі, настуркі, півоні, рамонкі, флёксы, гладыёлусы, пахучы гарошак, цынія, мацыёла, бальзамін, ільвіны зеў, мальва, павой, вяргіні, рута, мята, медуніца, аксаміткі, ірыс, касач, наготкі, калы, дэльфініум, незабудкі, ландышы, хрызантэмы, маргарыткі, петунія, бяссмертнікі… Не верыцца, што на дзесяці сотках, дзе трэба і цяпліцы мець, можа такі міні-батанічны сад размясціцца. Дагляд за імі надакучвае да хваробы, а паспрабуй забяры ад гарадчанкі граду кветак — і біцца будзе, і судзіцца пацягне. Нельга ўявіць гарадчанку без яе прыязі да прасянай кашы, галубцоў, кампоту з вішняў, налісніка́ў, халоднага, дранікаў, бульбы са смажаным у цыбулі салам, да пірагоў з вішнямі, чарніцамі, макам, карыцай. Цяжкавата ўявіць яе без залатых завушніц, каляровых хустак, паліто з каракулевым каўняром. І зусім цяжка ўявіць яе без любові да кветак. Калі гандлюе гарадчанка на рынку насеннем кветак, яна непрыступная, як бэз, які расце перад вокнамі міліцыі. Вось чаму перад сном пасля слоў малітвы «Святы Божа, Святы Крэпкі, Святы бессмяротны, памілуй нас» яна дадае: «Пашлі, Госпадзі, дожджык, коб у гародзе кветкі не згарэлі».

## КАНОН ШКОЛЕ

Як нялёгка першы раз адчыняць масіўныя цяжкія дзверы школы першакласніку і як лёгка неахайна адчыняюць дзверы нагой у апошнім класе дзеля форсу, разумеючы, што гэта некультурна. Ратуючыся ад голаду, з Усходу прыехала ў школу маладая пара настаўнікаў. З адным чамаданам, вазонам-фікусам, без мэблі і посуду. Усё іх здзівіла: і адносна ладныя хаты, і звычаі, і норавы людзей. А дзеці? Дзеці ўсюды аднолькавыя: цікаўныя, гарэзлівыя, непаслухмяныя і добрыя. Цікаўнасць пераходзіць у веды, рухавасць у самадысцыпліну, непаслухмянасць у годнасць. Яны, гэтыя чу-

жыя настаўнікі, слухаючы гаманлівых смуглявых жанчын і рана палысе-лых мужчын, не разумелі іх гаворкі: «Отакешаньке. Муло. Абу шчо». На вялікім і магутным даводзілі дзецям сваё:

— Этнос. Стержень порядочности. Самообразование. Толерантность. Гармония. Духовность.

Адны пераходзілі з класа ў клас у чаканні новага адкрыцця свету, іншыя ў чаканні першага пацалунка. Але каб не на людзях. Барані Божа. З закрытымі вачыма. У напалову цёмным калідоры, бо ў цёмны клас яна баіцца зрабіць крок. Каб класны кіраўнік 8 «А» не прыкмеціў, каб класная кіраўніца 8 «Б», яго жонка, не заўважыла. Вуліца выяўляе таленты, школа садзейнічае іх развіццю. На вуліцы воля была ўсеабдымнай: хочаш, гуляй у хованкі, у вайну альбо ідзі гнуць на першым лёдзе «рагожу», Гані Махі!, каб аж сэрца заходзілася ад рызыкі — ці трэсне лёд пад нагамі, ці правалішся, ці паспееш збегчы з палонкі. У школе ўсё іншае: свабода падпарадкоўваецца дысцыпліне і абавязкам. Хадзіць «коб за ведамі» яшчэ не ходзяць, не разумеюць, што веды аблягчаюць жыццё, бо, як вучаць бацькі — аблягчаюць жыццё грашыма і толькі імі. Ідуць, каб атрымаць адзнаку па прадмеце, каб быць усім разам у класе, на танцах, на ўборцы бульбы, буракоў, кукурузы альбо на святочнай дэманстрацыі, на канцэрце. Бацькам спакайней, калі дзеці ў школе. Першая работа, хоць і грошай не плацяць. Класныя не стамляюцца паўтараць:

— Навучыцеся бачыць прыгажосць і цаніць яе. Любіце радзіму, упрыгожвайце яе сваімі талентамі.

У царкве што — натхняюць тых, хто паў духам, на шлях дабрадзейнасці. Гарадчукі не наіўныя, але сентыментальныя. «Што е, то е». У школе, неўпрыкмет сталеючы, увесь час круцішся вакол прывычкі да працы і вакол стрыжня прыстойнасці. Паміж сабой царква і школа тут не спрачаюцца. Усе дзеці хрышчоныя, дома ўсе вераць у Бога, а ў школе робяць выгляд, што згодны з гісторыкам-атэістам.

— Только благодаря атеизму человечество приблизило прогресс...

Прастора замкнутая, але душу не ўтрымаць — яна недзе высока і вольна лунае па-за межамі класа. Над вухам, як надакучлівыя мухі, лётаюць словы пра геаметрычныя фігуры і матэматычныя формулы (каб на іх ліха), а перад акном расцвіў бэз, з радыё, якое вісіць на слупе «хіміі» механіка-трактарнай станцыі, далятае сюды неўміручая мелодыя «Бесаме мучо». Нудзіцца душа. Разамлела цела. Цягне невядома куды, але ж упарта цягне. Хутчэй бы гэты апошні званок. Неўпрыкмет прыходзяць новыя незнаёмыя словы, якія прымушаюць задаваць пытанні, цікавіцца іх сутнасцю. На вуліцы былі свае «байструк, транзістар, курва, салага, засранец», а тут «этнас, пухавік, атамны рэактар, лазер, камп'ютэр», а на падыходзе яшчэ ж новыя: «чорныя дзіркі, байкер, дэфолт, тэрарыст, кланіраванне». Ніхто за вушы ў выдатнікі не цягне. Здольныя ад прыроды да навукі ў пяцёрачнікі выб'юцца самі. Падчас канікулаў пераманьвае Дом піянераў — там більярд і танцы ў паўзмроку, — школа з цёмнымі вокнамі выгляд мае непрыкметны, аж жахліва. Нішто так яе не зневажае, як адсутнасць званкоў і дзіцячых галасоў.

У маладой прыгожай пары класных кіраўнікоў нарадзілася другая дачушка. Ехалі часова, каб перакантавацца год-другі, ехалі без цёплага споднягa і зімовай шапкі. Вайсковае галіфэ і фрэнч ён насіў на ўрокі аж восем гадоў. Неўпрыкмет перабраліся з цеснай камуналкі ў сваю хату. Купілі ровар, лодачны матор «Вихрь» і тэлевізар. Патроху звыкліся з мясцовым лю-

дам, які не разумелі і не ўсё прымалі. Цяпер жа на «конікі» самі настаўнікі апранаюць маскі Чорта, Дзеда, Бабы, Казы, Мядзведзя, Коніка, улазяць у старыя лахманы, мяняючы галасы, і ходзяць у марозную ноч калядаваць, спяваючы «Шчодры вечор». Ідуць у хату да бацькоў сваіх дзяцей. Ніхто і не здагадваецца, адкуль конікі, з якіх кварталаў: з Аселіцы, Мельнікаў, Гары, Вугоня, Новаселля, Радзічаў. А гэта ўсходнікі — нязломныя атэісты. Смеху варта. Фізік Ёшка любіў апранацца ў цыганку. Для сугрэву возьме сто грамаў белай, каб весялей было. Трыццаць-пяцьдзесят хат пакуль з віншаваннем абыдзеш, збіраючы харчы і грошы, натомішся, як трактарыст на ворыве.

— Так. Стоп. Дзяўчаты направа, хлопцы налева. А ты куды, Ёшка? За дзеўкамі? Забыўся, кім нарадзіўся? А-ёй, а-ёй…

Рогат на ўсю вуліцу. У мяцеліцу хадзіць яшчэ казачней і для тых, хто конікаў водзіць, і для тых, хто чакае. Больш веры ў цуд, у спраўджванне мараў.

Вясна, паколькі яе найбольш чакаеш, — надакучвае за пяць месяцаў, зіма, хоць і не сцюдзёная, але снежная — пралятае, як камета. Вось і ластаўка пад страхой прывяла птушанят. Кажуць, Бог асабліва беражэ тую школу, у паддашшы якой гняздуюцца ластаўкі. Заўтра апошні званок. Дык які сэнс жыцця, пытае вулічны філосаф — мясных спраў майстра? А чорт яго ведае. Крэда, ідэя, сэнс жыцця!

— То паслухай, скажу. Расце дрэва. А навошта? На зіму спілавалі, нарэзалі дроў, дровы далі дым, дым пайшоў у неба і там з іншымі дымамі арганізавалі хмару. Праліўся дождж. У зямлі з зярнятка прарастае новае дрэва, падобнае на тое, што спілавалі. І яго спілуюць, і яно дасць дым. І так бясконца. Дрэва расце, каб яго спілавалі.

Апошні званок — урачыстасць не толькі школы, усяго гарадка. Прыйшлі Алена, Валодзя, Іван, Надзя, Грыцко, Люба, Паўло, Наталка, Якаў, Лісавета, Яўхім, Марыя і Васіль. Ад званка да выпускнога адзін крок, усе спакойныя, бо не было такога выпадку, каб на экзаменах камусьці паставілі двойку. Нервуюцца больш бацькі, бо дзеці добры год ужо ходзяць парамі. Нехта больш смелы марыць увосень падаць заяву на шлюб. Сустракаюцца ўсе выпускнікі на Царкоўнай гары, каб убачыць узыход сонца. Больш заможны прыходзіць з відэакамерай. Божа, колькі разоў сустракалі ўзыход з бацькамі на рыбе, на сенажаці… Чаму ж сёння такі ён шчымлівы? Чаму пасля гучнага «ўра-а!» раптам усе замаўчалі? Чаму выцер крадком слязу класны кіраўнік 11 «А» і чаму класная кіраўніца 11 «Б» адвярнула галаву ўбок? Заўтра воля. Не, сёння воля! Вось яно і прыйшло, першае выпрабаванне адзінотай. У каго душа яшчэ не зусім прачнулася, таму лягчэй. Бывай, школа. Чаго плакаць? Заўтра будзе інстытут, тэхнікум, а хоць бы і вучылішча, але не будзе больш ніколі таго, хто сёння побач, разам, не будзе роднага класа, які прывучыў аддаваць дабро іншаму. Школа навучыла трохі ўсіх быць людзьмі, бо навучыць адразу на ўсё жыццё немажліва. Не шукайце сабе новых сяброў, лепшых за школьных, іх усё адно не будзе. Прыйдуць дахаты класныя кіраўнікі. Кветкі ў вазах, кветкі ў слоіках, на стале, на табурэтках. Стаміліся, перахваляваліся ад светла-сумнай радасці, а спаць не хочацца.

— Віншую цябе, любая, вось і яшчэ адзін год.

— Ага. А дзесяць не хочаш?

— Няўжо дзесяць? Не верыцца.

Даўно не ўспамінаюць пра пераезд у вобласць ці, на крайні выпадак, у

раён. Школа стала сваёй. У новым навучальным годзе класная пойдзе на павышэнне: завучам. Абяцалі дырэктарства і класнаму, скроні якога, нягледзячы на яшчэ маладыя гады, кранула сівізна. Куды ехаць? І гарадок зрабіўся больш сваім. Трэба тут дзяцей ставіць на ногі.

— Спі, любая. Заўтра трэба будзе наведацца ў школу. Наша XX стагоддзе, а ім аддамо XXI.

Жонка ўжо не чуе апошніх слоў, яна соладка спіць, прыціснуўшы да грудзей малодшую дачушку. Не пабудзіць іх і птушка івалга, якая заліваецца ў садзе. Пачынаецца новы дзень салодкай катаргі, якую называюць жыццём. Спявай, івалга, загойвай нашы душэўныя раны.

## КАНОН ВЕТРУ

Слабы чалавек, слабы. Паслухаем лепш музыку ветру. У дзяцінстве ў маім родным мястэчку ён ахоўваў і прыносіў тайны прыроды, таямніцы навакольнага свету — найбольш неба, у якім, так думалася, ён і нараджаецца. Упершыню ён западае ў памяць узімку, сярод ночы. Наўкола цемра. Месяца на небе не відаць. Вочы адпачываюць. Ляжыш у халоднай пасцелі напружаны, да ўсяго прыслухоўваешся. Пачынаецца з ледзь чутнага посвісту, потым нешта нябачнае (нібыта кінулі жменю проса ў акно) кранае шыбу… і зноў свіст — ужо ля другога акна, у кухні. Мінае хвіліна, другая, а шум не знікае. Пачынаеш здагадвацца, што гэта запрацаваў на ўсю моц самалёцік на жэрдцы ў двары суседа. Разнастайныя гукі адольваюць твой сон. Манатонны, з інтэрвалам у паўмінуты ляскат перарывае шум драўлянага самалёціка. Аніяк не ўцяміш адразу, адкуль гэты ляскат. Здагадваешся: гэта рве старую, ухопленую ржою бляху на даху хаты суседа, які жыве насупраць. Яшчэ хвіліна — і свіст гасцюе перад усімі вокнамі. Нябачная рука кідае ў іх ці то снег, ці то град, вецер шукае шчыліну, каб прарвацца ў хату. Устае баба, засоўвае ў грубцы юшку, каб не так дзьмула, не настудзіла хату. Але позна. Твар, валасы, руку, якая ляжыць пад шчакою, ахутвае нешта халоднае, непрыемнае. Ляскае клямка: дзверы ў сенях рассохліся, зачыняюцца няшчыльна, вось іх і тузае туды-сюды. У хуткім часе мноства гукаў — ляскат, посвіст, шыпенне, як бы адыходзіць на другі план; загаманіла печ, ці той, хто жыве ў печы, а мо дамавік, які прысутнічае ў хаце. Пачынаецца з коміна, на адной аднастайнай ноце, потым гук спускаецца павольна да прыпечка, рэзка так вуркоча, страшыць густымі пераліваміі нарэшце пачынае выць, чамусьці доўга не знікаючы, не зменьваючы рытму. Робіцца страшна. Накрываешся цёплым верхнікам амаль з галавою — толькі адзін нос і тырчыць. Успамінаюцца паданні ды аповеды дзеда і бабы пра даўніну. Прывіды чарцей ды іншай нячыстай сілы блукаюць па хаце. Нешта ўпарта прымушае слухаць толькі гукі, што ў печы.

«І што гэта на нас так нябожчыкі крыўдуюць», — кажа баба дзеду. «Мо і па мяне прыйшлі?» — адказвае ціхім голасам дзед. Пры слове «нябожчыкі» робіцца зусім жахліва. Такое пачуццё, што яны стаяць пад вокнамі і падпяваюць ветру: «гу-у-у-у». Ірве аканіцы. Скрыпіць бляшаны абажурчык ад лямпачкі, якая вісіць на слупе перад хатаю. Лямпачка то загараецца, то тухне. Святло ад яе не даходзіць да акон. Мора гукаў уладарыць над хатаю, такое пачуццё, што і сама хата рыпіць, ходзіць хадуном. Гоніць паветра праз дзіркі ў падлозе. «Застагнала» старая груша, і яе пабудзілі.

Нейкі час наогул няма ў гукаў перапынку. Пануе дзівосная сімфонія: завывання, свісту, ляску, шуму, грукатання, вуркатання, піску ды енку. Паступова сцюжа заціхае, свіст аддаляецца, слабне, але яшчэ не хоча супакоіцца там, у коміне. Паціху, слаба, але ж завывае. Пад гэта выццё нарэшце супакойваешся і засынаеш. Сняцца белыя коні з густымі грывамі, якія бягуць па вуліцы. Ранкам у хаце холадна-холадна. Нікому першаму не хочацца пакідаць цёплы ложак. Анучы ля парога белыя ад снегу, снег на вокнах, на падушцы.

«Дзякаваць Богу, перазімавалі. Хутка Стрэчанне, — кажа баба і злёгку штурхае дзеда. — Уставай, прынясі дроў!»

На Стрэчанне ўпершыню не хаваешся ад ветру, ідзеш у школу, смела падстаўляючы яму свой бледны, сумны твар. Ляціць побач варона. Трымае яе нябачная хваля і без рухаў крыла. Холаду, колкасці ў ветры значна менш. У другой палове дня ўсё пераменіцца зноў да зімы, але ўжо не так страшна, нябачная сіла павярнула вецер, і цяпер ён дзьме ў спіну. Моцна так, аж штурхае, так і хочацца развесці ў бакі рукі, каб і цябе ён панёс на хвалі, як варону. Прабірае халадок, праз майку далазіць да спіны. Шукаеш закутак, дрэва, каб хоць трошкі схавацца. Здараецца, у такія моманты дзякуючы ветру прытуліцца да цябе і дзяўчына-аднакласніца, якая табе даўно падабаецца. Гоніць яшчэ па-зімоваму злы вецер першы дробны дожджык, але дарма… Ужо не напалохаць — побач першае каханне, і кроплі дажджу на тварах толькі ў радасць. Ды і самому ветру доўга буяніць не хапае сілы. Непрыемныя хіба што скразнякі, яго «дзеці», якія гуляюць ля дома каханай дзяўчыны, але і яны не перашкаджаюць каханню. Вымаўленае з асаблівым хваляваннем «да заўтра» добра чутно і лёгка нясецца ветрам да твару каханай, якая стаіць на ганку хаты і глядзіць табе ўслед. На Вялікі дзень вецер не толькі адчуваеш, але і бачыш. Увесну ён яшчэ не шуміць у лістоце дрэў, а іграе, забаўляецца з маладым лісцем, дапамагае яму расці. Люляе. Ранняй вясною ён амаль ніколі не бывае моцным. Асцярожна так пералятае з дрэва на дрэва, гайдае павольна галлё, распрамляе лісточкі, дапамагае ім дыхаць, набіраць сілы. Хораша ехаць у сонечны, цёплы дзень у кузаве на адкрытай машыне з канцэртам у далёкую вёсачку. Усе падстаўляюць твары сонцу, не баючыся стрэчнага ветру. А ён, гарэза, варушыць косы, зрывае з галоў шапкі, хустачкі… Яшчэ і думак няма аб смерці, як няма думак і аб тым, што твая каханая дзяўчына здрадзіць табе, выйдзе замуж за другога… Ёсць толькі вецер, які «раскручвае» тваю прагу кахання, весялосці, жыцця. Свісту няма, імклівы вецер бязгучны. Ён добры і цёплы. Так хочацца, каб і тваю кашулю ён напоўніў і ператварыў яе ў ветразь. Як хораша ён распушвае яе цёмна-жоўтыя косы, як прыемна яны кранаюць твой твар. Такое ўражанне, што адсюль вецер нясе адно толькі слова: «кахай, кахай, кахай». У дні летняй спякоты ён — ратаванне, дапамога.

Ты пасля хваробы, яшчэ кволы, не выходзіш на вуліцу, слабы, адзінокі… Знікла каханне. Свет адвярнуўся ад цябе. Няма каму адкрыць фортачку. Душна. Як хочацца глытка свежага паветра. Злёгку задрыжала фортачка, і — о, дзіва — раптам адкрылася сама. І вось уляцеў ён, вецер! У гэтую пару заўсёды халодны, гаючы. Не адзін. Прынёс пах язміну, акацыі. Гоіць, гоіць тваю раззлаваную адчаем і няўдачамі душу. Выцягвае цюль праз балконную шчыліну на вуліцу. Прыемным халадком абдае твар, грудзі. О вястун волі, якія ж прыемныя, гаючыя твае хвалі! Якая асалода твая музыка! Як ненадакучліва, спакусна ты запрашаеш, загадваеш пакінуць панельную камяніцу і вырвацца на волю, на прастор, да вады, да

лесу. «Твая жанчына так любіць лес!» — нібыта падказвае ён. І ўжо суправаджае цябе ўсю дарогу. Лашчыць рукі, твар, губы... Руплівец, паплечнік усялякага руху, ён не дазваляе, каб нам што-небудзь надакучыла, ён усё па-свойму змяняе, змяняе свет вакол нас. Ганяе па асфальце газету, пустую бутэльку, носіць у небе «кітайскага дракона», нясе прыемны пах вогнішчаў на бульбяным полі, падхоплівае жоўта-шэрае лісце, круціць яго па дарозе. Адцвіло ўсё, адвесялілася, абсыпалася. У гэтую пару нізкага шэрага неба і частых дажджоў сум ахутвае тваю душу і тужлівыя думкі аб непазбежнасці смерці не даюць спакою. Вецер не радуе, раздражняе. Ён усю пяшчоту, цяпло аддаў лету. Нібыта адчуваючы сваю вінаватасць, ён хаваецца на берагах рэк, у вербах, у чароце, на адкосах у пажоўклых травах. Гукі яго прыцішаныя, сціплыя, але ж па-ранейшаму таямніча-прывабныя. Асабліва асцярожна, велічна нясе ён па восені ад невялічкай царквы гукі звону. Здараецца, зіма надыходзіць і без яго дапамогі. Стаяць марозныя, ціхія, сонечныя дні. Рэха няма. Усё сцішылася. Але ж не можа быць так, каб таго, хто нараджае рух, той самы рух не нарадзіў. Вецер толькі прытаіўся на хвіліну, ён назапашвае новыя гукі для новых мелодый. Дастаткова табе, а калі ўжо не стае сіл, твайму ўнуку сесці ў сані, стаць на лыжы ды пакаціцца з гары, і ён, вятрыска, тут як тут. Падхопіць цябе на свае нябачныя крылы, прапяе нешта хутка над вухам, і вы зноў разам. Прыслухайся да яго музыкі, якая абавязкова абудзіць у тваёй душы не толькі ўспаміны, але і надзею на тое, што не ўсё лепшае ў мінулым, што і ты жывеш не дарма.

## КАНОН БАЗАРУ

Не, не і яшчэ раз не: у гарадку базар не шумлівы, не крыклівы, ніхто там вас за рукаў не скубе, не патрабуе саступіць дарогу. Так, жыць без людзей кепска, з людзьмі нудна, а на базары ўсім добра. Будзённых базараў тут не бывае, усе святочныя. Ён для ўсіх такі знаёмы, які паўтараецца сто, тысячу разоў, заўсёды асаблівы, новы і з сюрпрызам. Бадзёра крочаць у цэнтр мястэчка і старыя, і маладыя. Старыя, яны ўжо разжыліся, трохі нажыліся, ідуць, каб падтрымаць завядзёнку-традыцыю. Мястэчка гандляроў, купцоў, дробных купчыкаў, рамеснікаў жыве чаканнем базару і базарам. Нават у гербе — на лодцы торбы з таварам. Не ходзяць на базар толькі хворыя. На ім няма героя, усе героі: і тыя, што ненастырна прапануюць свой тавар, і тыя, што з важным выглядам прыцэньваюцца. Няпісаны закон такі: прыйшоў — хоць на пяць капеек, а купі, інакш які ты гарадчук. Заспаныя падлеткі ідуць за бацькамі ўраскачку, цяжкавата: бо базар пачынаецца ад шостай гадзіны раніцы. Ідуць, бо ведаюць: выкленчаць грошай на новую спадніцу, джынсы, світэр.

— Коб свойму дзіцяці ды не купіці. Такого не бувае.

Сірата, рабая дзяўчына гадоў шаснаццаці, трымаецца збоку, ля ганка кінатэатра. Цікаўнымі васільковымі вачыма зыркае на ўсе бакі, глядзіць, што выставілі на капоты ды багажнікі гандляры ў машынах, што стаіць на сталах, што ляжыць на бардзюры ці на асфальце. Яна з цікавасцю, без зайздрасці, сочыць за чырванашчокімі дзядзькамі і гострымі на язык у каляровых хустках жанчынамі. Бабуля сіраты, якая гадоў дзесяць ужо ходзіць з кавенькаю, вынесла на продаж першыя яблыкі. Расклала некалькі штук на сурвэтцы, а астатнія прыкрыла хустачкай у пакунку. Пах ад іх на ўсю

плошчу. У дзяўчынкі яшчэ не было ў роце і макавай расінкі, ёй так хочацца яблычак, але не паложана, тое, што прынеслі на продаж, недатыкальнае. У кожнага свой сад, але ж чужыя — смачней. А то, здараецца, прынясе жвавы муж, ідучы ўпэўненым крокам дахаты, клін сыру, а жонка з парога ў гнеў:

— А шчо ты, сляпы крот, купіў сыр? Хіба ж не бачыш, шчо мой под гнётам ляжыць? Шчо ты мяне перад людзьмі ганьбіш?

Ён маўчыць, ён любіць налісnікі з сырам. Купіў, каб больш напякла. Маўчыць, адчуваючы сябе вінаватым.

На базары не прадаюць хіба што толькі павукоў. Калі не знойдзеш неабходнай табе рэчы — закажы, і назаўтра купец ранічкай прынясе яе табе дахаты. Таго, хто разлічваецца доларамі, больш паважаюць. Ды гарадчук хітры: на чорта свяціць усім, што маеш долары. Гарадчук на ўласным вопыце ведае, што народ жыве цяжка тады, калі на капейку ці на рубель нічога нельга купіць. Адзін перад адным, аднак не наракаюць на цяжкое жыццё.

— Ой, Настачка, прыехала дачка і пацягнула на базар. І пахварэць няма калі. Кажа, купі сведор тут, бо ў іх даражэйшыя. Ходзім, усё не можам выбраці. Ютрань звоняць, а не купілі.

— Ідзі да чайной. Там украінцы стаяць. О, красоцце, а не сведор, як у кіно.

Няма такой моды — хадзіць па базары і курыць. Калі выбяраш мяса, адсякуць і абавязкова дадуць прывесак. Вясковыя людзі — яны сярод начы выбраліся ў мястэчка, прывезлі парасятак, курачак, качак, гусей, коз — ставяць свае падводы ўздоўж вуліцы, якая ўпіраецца ў плошчу. Да іх ідуць апошнімі.

— Дзядзько, купі ў нас парася. Дзёшава аддамо, а то дахаты ехаць трэбо.

Нейкім незразумелым пачуццём прадавец ведае, што сёння ягоны тавар купяць. Сонца ўсё вышэй і вышэй. Ужо залівае святлом вітражы ў царкве. Але разыходзіцца яшчэ не хочацца. Дзве гадзіны ідзе гандаль, а праляцела ўсё, як пяць хвілін. Яшчэ ўсіх не пабачылі. Трэба ж нагаварыцца пра дзяцей, пра сон, пра агарод, пра серыялы і пра маючае адбыцца вяселле, пахваліцца імпартнай машынаю, якую купіў сын, ды пажаліцца на цэны на газ, дровы, электрычнасць. Заціхае памалу і свінячы віскат, ад'язджаюць вяскоўцы. Здымаюць свае палаткі, складаюць у багажнікі тавар задаволеныя альшанцы… Трохі ўтаргавалі. Прадалі каўбасы і ўкраінцы. Каму няма куды спяшацца, асабліва ўдаўцам, старым халасцякам — ні дахаты, ні ў лазню, ні ў царкву — яшчэ па інерцыі ходзяць па крузе альбо таўкуцца на ганку чайной, чакаюць, калі адчыняюць, каб дзербануць куфель піва, а пакуль слухаюць былога настаўніка гісторыі:

— Капіталізм — гэта набыццё капіталу, утрыманне капіталу, прымнажэнне капіталу.

— Чорт з ім, з капіталізмам. Ты пенсію атрымаў? Частуй півам.

Апошнім базар пакідае стары каваль, які восем месяцаў ходзіць у валёнках. У кузні яго даўно не гарыць агонь, дзверы забітыя, інструмент ляжыць у хаце, няма каму перадаць: сын на Поўначы, не паспеў яго навучыць кавальскай справе. Ён прадаваў старыя-старыя, як ён сам, цвікі, якія прыхапіла ржа. Ніхто сёння не купіў аніводнага цвіка. Каваль не сярдуе, ён пабыў на базары. Дасць Бог сілы — пойдзе і на нядзельны, яшчэ больш людны. Усяго толькі два грудочкі яблыкаў прадала бабуля з сіратою. Баба незадаволена бурчыць, больш сама сабе пад нос. Праўда, на хлеб утаргавала. Ёй па старасці плацяць пенсію вельмі малую. Але яна штодня дзякуе

Богу і за гэты дар. Рабая дзяўчынка ўсміхаецца. Можа, успамінае, што на яе вельмі па-асабліваму паглядзеў нейкі хлопец. Адзін яблык яна з зайздросным апетытам есць, а другі моцна трымае ў руцэ. Яны кіруюцца дахаты павольна, разважліва, нібыта развіталіся з вялікім пярэстым каляровым светам шчаслівых твараў, бо ваўкаватых на гарадоцкім базары не бывае. Сонца ўжо добра прыпякае ў плечы. Горкі і салодкі, шчаслівы і нешчаслівы, але дзівосны час базару мінуў. Мажліва, заўтра ім ды іншым пашанцуе больш. Сірата з нейкім сумам азіраецца назад: такое адчуванне, што ёй хочацца вярнуцца. А там нарэшце атрымаў свабоду бяздомны і заўсёды галодны сабака з нагамі як спіцы. Ён таксама чакаў свайго часу: разлёгся пасярод плошчы, выцягнуўся, падстаўляючы палінялы цёмна-жоўты жывот сонцу. Хораша на базары, хораша.

## КАНОН ЧАСУ

Хто і куды хавае ад нас Час, хавае надоўга, калі не назаўсёды? Не толькі ў гарадку старыя любяць казаць: «Не лезь папярэд бацькі ў пекла. Прыйдзе час і ты сам уцяміш, шчо ты любіш і шчо не любіш».

Я ЛЮБЛЮ: вецер, флёксы, малых дзяцей, купалы царквы ў сонечных промнях, мокрыя дрэвы, сароку, варону, дзятла, яблыневы сад, рачулку, што цячэ з лесу, хросны ход, шлях да мястэчка, дзе жыў у дзяцінстве, сцірты саломы на полі, дождж уначы, пах хлеба, тэлефонныя размовы гасцей, акардэон, народную музыку, вакзалы, вярбу, казкі, адзінокую грушу ў квецені, егіпецкія піраміды, карыкатуры, школьныя сшыткі, чорную туш, тэленавіны, кусты бэзу, язміну, сасновы бор, маленькіх ягнят, качак, дакументальныя фільмы пра джунглі, вазоны, марскую форму; яшчэ люблю: разглядаць свае і чужыя фотаальбомы, гартаць кнігі, вожыка, плысці ў лодцы, Мазырскі тэатр, крытыкаваць і філасофстваваць, збіраць маліны, слухаць успаміны старых людзей, рабіць падарункі, атрымліваць лісты, слухаць арыі з опер і аперэт, калядную ёлку, італьянскую мову, кішэнны гадзіннік, лузаць струкі, кіслую капусту, піва, ехаць на ровары ўздоўж жытняга поля, туман, занесеныя снегам вясковыя хаты, рэкі Прыпяць, Нёман, Гарынь, возера, стральбу з лука, цырк, вузкакалейку, актавую залу ў школе, насіць у кішэні каштаны, фарбаваць плот, вокны, ехаць у санках, лічбы пяць, два, чатыры, рускае мастацтва дзевятнаццатага стагоддзя, мастакоў Адраджэння, люстэрка, правінцыйныя гасцініцы, поплаў, сустрэчы з чытачамі, фільмы Феліні, драматургію Астроўскага, кліпы, старадаўнія кнігі, кажух, хадзіць босым па беразе ракі, прасяную кашу, кампот з вішняў, вальсы, духавыя аркестры, словы: каханне, дым, трава, грэх, неба; а яшчэ чырвонае сухое віно, сабак, зялёны і жоўты колеры, маленькія іконы, след на небе ад рэактыўнага самалёта, глядзець на агонь, узгадваць дзяцінства, маці, садзіць бульбу, смажыць яе, галасы ўсіх птушак, белыя аблокі, пакаянне.

Я НЕ ЛЮБЛЮ: ноч, крык чайкі, змяю на тэлеэкране, ісці і ехаць праз мост, незнаёмага ў пад'ездзе, глядзець, як спілоўваюць дрэва, ехаць у ліфце, спаць на зямлі, стаяць у чарзе, ісці на лыжах, навальніцу, абгарэлы лес, візіты да стаматолага, пазычаць, штучныя кветкі, рамантаваць машыну, дэтэктывы, фантастыку, паэмы, тэлекаментатараў, жанчын-культурыстак, тэлеграмы, вастрыць нажы, гуляць у карты, гаварыць з цыганкай, слухаць пропаведзь, рэкламу, сядзець у прыёмных чыноўнікаў, лётаць у сама-

лёце, арэлі, стаклетачныя шашкі, алюмініевы посуд, купацца ў незнаёмай рацэ, падганяць каня, канцэрты на стадыёнах, танцы ў рэстаранах, спаборніцтвы інвалідаў, шаблю, чытаць карэктуру, цалаваць руку святару, насценныя календары, паціскаць руку старшыням калгасаў, сцежку да калодзежа міма хлява, спаць на печы, будзіць дзіця, карыду, красворды, цень, чытаць тоўстыя часопісы, амерыканскія фільмы, віншаваць са святам па тэлефоне, пярсцёнкі, рок-н-рол на базары, абуваць чужыя тапачкі ў гасцях, начаваць у цягніку, есці ў адзіноце, гарэлку, голас з мегафона, парадак на пісьмовым стале, адключаны тэлефон, зашторaныя вокны.

Вось, відаць, большая частка з таго, што любае сэрцу і з-за чаго яно супрацiўляецца. Мажліва, не ўсё, бо як, скажыце, не любіць узыход сонца ці лістапад? Добра, нават лёгка адказваць на такое пытанне, калі дзень пражыты ў адпаведнасці з жаданнямі і святочна. Аднак жа заўтра непрадказальна новы дзень, якому без дазволу наканавана перэтрэсці ўсё, дарагое табе, і тое, што не цэніш. Не выключана, што з прычыны абавязацельстваў і выбару давядзецца рабіць і нешта, нямілае сэрцу, а як зробіш, дык будзеш яшчэ больш цаніць тое, чым поўніцца душа і з чаго складаецца кароткае імгненне штодзённага шчасця. Усё добра... Першы блакіт нябёсаў, свята сустрэчы вясны і зімы — Стрэчанне. І з кожным новым надыходам лютага ажывае даўні цяжкі ўспамін — у лютым памерла мая прабабка Таццяна.

Сакавік, як кажуць, сонца ўжо блізка, хаця аблокі яшчэ нізка. У гэтым месяцы так хочацца прыспешыць надыход цяпла, без якога сумуеш, першы дождж, і ў гэтым месяцы зноў прыгнечанасць — напрыканцы сакавіка памёр дзядзька Якаў, што прыехаў у афіцэрскім шынялі. Ён звычайна наведваў нас, калі ішоў дождж, бо ў пагодлівыя дні толькі і ведаў, што з раніцы да цемры рабіў у полі, на падворку, на сенажаці. Цяпер дажджом да нас ніхто не прыходзіць.

Красавік — нарэшце чыстае блакітнае неба, першая трава, першая зеляніна на дрэвах і кустах. Вербная нядзеля, прабіваюцца да сонца півоні. Ах, як любіла гэтыя півоні мая цётка Зося, што вярнулася з Польшчы праз трыццаць гадоў дажываць век у родным Давыд-Гарадку. Ах, як любіла! Што ж ты, красавік, не даў ёй нарадавацца, забраў яе ад нас?

Май — кожны дзень цуд, кожны дзень свята, кожны дзень здзіўленне, захапленне, мноства фарбаў, гукаў, птушыных спеваў... У першы майскі дзень мой лепшы сябар Ванька, з якім душа ў душу жыў са школьных гадоў, упаў ад інсульту на вуліцы каля бэзавага куста. Хочацца выкрасліць першы дзень мая, каб у астатнія дні бесклапотна цешыцца жыццём, ды які год ніяк не выкрэсліваецца гэты першы дзень.

Лістапад — халодны вецер, надакучлівыя дажджы, кароткі светлавы дзень. Старыя кажуць, што такой тужлівай парой і хочацца, і лёгка паміраць. Жаданні жаданнямі, а да лістапада глухая непрыхільнасць: адабраў ён ад мяне любую бабу Насцю, асіраціў дарэшты.

У залатым, прыгожым кастрычніку на чужыне заўчасна, як падае з дрэва знешне прывабны, але нясмачны яблык, памёр мой бацька Васіль.

Заўсёды наганяе тужлівыя думкі, скруху пачатак восені — верасень. Не адкупіцца яму сваёй шчодрасцю і багаццем... не змагу яму дараваць смерці майго няўрымслівага жыццялюба дзеда Змітрака.

У чэрвені ў царкве стаўлю дзве свечкі. За спачын. Холадна на душы ў цёплым чэрвені. Тады памерлі мая цётка Олена і стрыечны брат Аляксандр.

У зеніце лета — ліпені — на душы гаркаваты асадак. Прадзеда Міхайлу ніколі ў жыцці не бачыў. Не захаваўся і ягоны фотаздымак. Аднекуль ці то ад кагосьці ведаю, што памёр у ліпені. Няма да месяца схільнасці.

Больш за ўсё баюся жніўня. Гэта на яго долю выпала маё самае страшнае пракляцце. Ён адабраў маю маладую маці, маё ласкавае, пяшчотнае, добрае сэрца. На яе магільнай пліце хачу напісаць толькі такія словы: «Мама, не было дня, каб я не ўспамінаў пра цябе». Чорны жнівень, чорны…

Снежань, студзень — вось і ўсё, што засталося. Няўжо з іх трэба выбіраць і мне, каб і маё дзіця з часам смуткавала ў адзін з гэтых месяцаў? Няўжо? Не хочацца даваць веры. «Трэба. І ў цябе ёсць магчымасць выбару», — нібыта чую за спіной чыйсьці голас. «Так добра ж усё размеркавана. Абірай!» — падказвае голас кагосьці нябачнага. І я, падымаючы галаву да неба, моўчкі згаджаюся, прымушаючы сябе злёгку ўсміхнуцца: «Усё ж добра…».

«Усё добра», — кажуць мне, уратоўваючы мяне ад адчаю, Змітро, Грыцко, Якаў, Іван, Сашко, Янэк, Нікола, Васіль, Олена, Ганна, Надзя, Наталка, Насця, Люба і Марыя.

## КАНОН МАЦІ

Я ад цябе далёка, у іншым горадзе. Ты нават не ведаеш, калі б прыйшла на некалькі хвілін у свой дзень анёла адтуль, адкуль яшчэ ніхто не вяртаўся, якімі б словамі я цябе сустрэў. Я здагадваюся, чым пацікавілася б ты, угледзеўшы мае трохі азызлыя шчокі і глыбокія маршчыны на лбе: «Ці не хварэеш, сынок?» Папрасіла б паказаць праўнучку, якую назвалі тваім імем, пацікавілася б: «Дзе ўсе нашы, як хата?»

Нашых і не паменшала, і не пабольшала. На месца тых, хто пайшоў за табой, прыйшлі, дзякаваць Богу, новыя сваякі. Нешта вельмі даўно ніхто не дасылае лістоў і пасылак з яблыкамі ды салам. Сяброўкі-аднагодкі твае ўсе паўміралі, а мае аднакласніцы ўсе пайшлі на пенсію. Хаты няма. На нашым пляцы чужыя людзі збудавалі камяніцу. Царкву, у якой ты вянчалася і ў якой цябе адпявалі, адрадзілі, адрамантавалі наноў. Адсвяткавалі дзевяцісотгоддзе гарадка. Які ж прыгожы, велічны помнік паставілі заснавальніку князю Давыду. Шкада, што стаіць ён горда адзін, без людзей, якія з ім прыехалі. Нашы продкі. Людзі зноў баяцца голаду, як і колісь, і меней нараджаюць дзяцей. Па-ранейшаму ўсе гандлююць насеннем і гуркамі. Гоняць кароў на пашу ды моляцца, каб быў ураджайны на бульбу год. Ты сварылася: «Не прыдумляй, сынок, кажы праўду, біць не буду». А я прыдумляў і стаў пісьменнікам. У творах малюю твой партрэт і пішу твой характар, даруй. Як ты і ўсе гарадчукі, люблю кіслае малако, таплёнае і бабку на патэльні. Старэй за мяне сын тваёй сястры Коля і яе дачка Маня. За мной ідуць дзеці тваіх братоў Таня, Маруся, Лена. Мы ўсё бліжэй і бліжэй да вахты, да якой ты не дажыла, бо пайшла вельмі маладой. Я ахвотна пішу і пра гарадчукоў, часцяком іх прыхарошваючы, бо людзі, як і пры табе, сустракаюцца розныя: і злыя, і нядобрыя, і зайздросныя. Як успомню, што й яны ўсе памруць, то й не хачу іх ганьбіць. Не асуджаю. Словы «так» і «не» належаць Богу, і чалавек мусіць выкарыстоўваць іх вельмі асцярожна. Ты прывяла мяне на Божы свет, узяла за руку, паказала вуліцы, царкву, вадзіла на навагоднюю ёлку і да прычасця, пры-

вяла ў школу, на старым-старым цвінтары паказала магілы продкаў. Я іх не запомніў, каюся. Грэшны. Мала часу — цябе ўжо анёлы прыспешваюць. Трэба казаць тое, з чаго пачынаў. Дык вось, я цябе сустрэў бы словамі: «Мамо, не було і дня, коб я не ўспамінаў цябе».

Хачу, каб палажылі ў роднай зямельцы на старэнькіх могілках, якія маўкліва ахоўваюць продкі: жвавы дзед, сціплая бабуля, ласкавая маці, працавітыя дзядзькі ды ўвішныя цёткі. Калі ж не знойдзецца месца, хачу, каб паклалі ля царквы, каб хоць духам, ценем, а ўсё быць бліжэй да хуткаплыннай Гарыні, Царкоўнай гары, роднай вуліцы. Як гэта прыемна — быць сярод таго, што і ўтварыла характар, паўплывала на пачуцці і замацавала адметнае.

Хачу, каб побач спяшаліся дзеткі ў школу, каб прыселі на лаўку старыя дзяды, нетаропка пагаманілі. Хачу, каб грукацеў воз па бруку і каб у святы, асабліва на Вялікдзень, дзеці бегалі вакол царквы, кідалі ўгару запаленыя шышкі, можа, адна з іх упадзе з неба і на мяне. Хачу чуць лёгкі пошум ясеняў, ліпаў закасцельных, звон бомаў над галавой. Сонца, асабліва прыгожа асвятляючы купалы, пасылае ад іх промні на вокны і дахі хат. У прастольныя святы, на Казанскую, прыедуць з суседніх мястэчак і вёсак па міласціну жабракі, сляпыя музыкі. О, колькі радасці будзе ад сціплых гукаў гармоніка. Хачу, каб лашчыў, лятаў нада мною даўка-прыемны пах чаромхі і густы пах бэзу. Хачу чуць, як радуецца жыццю на званіцы ластаўка, як спявае шпак і сварацца вароны. Уначы ляжаць не боязна. Будуць вяртацца з вяселляў, улазінаў, адведак, будзе гаспадар, выпіўшы, спяваць, а жонка таўчы яго ў плечы. Хачу чуць іх песні, лаянку, плач дзіцяці, якога, як калісь мяне, прынясуць у храм хрысціць. На Радаўніцу, Пакровы нехта абавязкова прыйдзе, пакладзе на магілку чырвоныя яйкі, пасху, кветачку, нальe чарачку. Распусціцца акацыя. Дзіця, седзячы на плячах у бацькі, пацягнецца да бялюткіх суквеццяў дрэва. У суботу ды нядзелю, калі моладзь збярэцца ў клуб на танцы, будзе пранізваць марозную прастору, несціся аж да зорнага неба шчымліва-журботная мелодыя танга, гарэзлівая полька.

Хачу, каб роснай раніцаю ў першым жнівеньскім тумане гналі побач па вуліцы на пашу каровак, авечак, каб ляніва брахаў сабака, падганяючы іх. Толькі тут, у родным мястэчку, ціша не будзе палохаць, а лашчыць раўнавагай і спакоем. Як хораша! Усё побач. Усё тваё. Роднае. Вечна зменлівае і пастаяннае ў нязменнасці.

Яшчэ хачу...

Не хачу, не хачу, паміраць не хачу!

Мне падалося, што пасля гэтых слоў ты, як заўсёды, падтрымаеш мяне і ўмацуеш мае жыццёвыя сілы: «Так, сынок, не памірай. На зямлі столькі добрага, харошага, столькі любові разліта, што не паспяваеш наталіць душу і напалову. Прызнавайся ўсяму жывому ў каханні, бо ў старасці на гэта не хопіць часу».

У царкве Казанскай Божай Маці спяваў невялікі хор мясцовых пеўчых. Спявалі, як заўсёды, хораша і ўзнёсла. На паўсілы пеўчыя не спяваюць. Я стаяў, як зачараваны, ля царкоўнай брамы і слухаў, слухаў, слухаў… Сцішылася прырода. Аж да нябёсаў неслася: «Господи, да исправится молитва моя…»



ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ

*АБРАЗКІ*

**Бабулька**

Бабулька завяшчала сваю кватэру і ўсё, што набыла за жыццё, не вельмі блізкім родзічам — бліжэйшых не мела. І пачалі тыя родзічы чакаць бабульчынай смерці. А тая жыве і жыве, часам захварэе, здаецца, вось ужо ўсё, а потым акрыяе і зноў жыве. Надта жывучая бабулька.

**Клетачка**

Па вуліцы ішоў мужчына — метры два ростам, шыракаплечы, сінявокі, элегантна апрануты. І не верылася, што некалі ён быў малюпасенькай, нябачнай воку клетачкай у лоне сваёй маці.

**Цудатворцы**

Да экранаў тэлевізараў прынікалі мільёны людзей з надзеяй, са спадзяваннем. А з экрана тварылі свае цуды Чумак ды Кашпіроўскі. І гэта казала не пра тое, што Чумак ды Кашпіроўскі вялікія лекары, а пра тое, што людзі нашы хворыя. Не знайшоўшы ратунку ад сваіх немачаў у дактароў, яны шукалі ратунку ў жулікаў. А тэлебачанне давала тым жулікам дарогу.

Чаго мы толькі не перажылі...

**Апала**

Пакуль акадэмік Сахараў ствараў вадародную бомбу, якая магла знішчыць палову чалавецтва на зямлі, яго прывячалі, чаплялі на грудзі высокія ордэны.

А як загаварыў пра забарону атамнай зброі, пра небяспеку новых войнаў — трапіў у вялікую апалу.

**Каласавіны**

Пачатак лістапада, на вуліцы то сонейка, то дождж, дзьме халодны вецер. Але сёння дзень нараджэння Якуба Коласа і ніякая непагода не перашкодзіць святу.

Каласавіны пачаліся з Уздзеншчыны, і вялікі гурт людзей — цэлы аўтобус, што прыехаў на свята, наведаў музей Слова ў вёсцы Нізок —

радзіме Кандрата Крапівы і Паўлюка Труса, музей Пальчэўскага ў вёсцы Стальбоўшчына, краязнаўчы музей у самой Уздзе.

Экскурсаводамі ў Нізаўскім музеі, у музеі Пальчэўскага былі дзеткі, вучні, можа, пятых-шостых класаў. І трэба было паслухаць, як разумна праводзілі яны экскурсіі, як прыгожа, хараша гаварылі па-беларуску.

Сярод тых, хто прымаў удзел у Каласавінах, быў намеснік амерыканскага пасла ў беларускай амбасадзе. Ён гаварыў па-беларуску.

У час развітальнага застолля, калі яму далі слова, ён сказаў:

— Я сёння слухаў вашых дзетак, як вялі яны экскурсіі ў музеях. І калі ў вас ёсць такія дзеткі, то ваша культура, ваша мова не загінуць ніколі.

**Малітва**

— Я малюся табе, Матка Боская, перамяні мой лёс, адвядзі ад мяне бяду, што стаіць на парозе...

— Ніякія малітвы не могуць змяніць таго, што наканавана лёсам... Як магу я стаць папярок волі Госпада, — адказала Святая Мадонна.

**Госць**

Парушынкі белыя за акном. Першы сняжок. І быццам госць з далёкай дарогі завітаў пад тваё акно, і табе прыемна яго бачыць. Ён яшчэ ненадоўга тут затрымаецца, хутка адыдзе, растане, але потым адумаецца, што так даўно тут не гасцяваў, і прыйдзе надоўга, і будзе гасцяваць, пакуль табе не надакучыць і пакуль сам не зразумее, што пара адыходзіць.

**Чаму?**

Людзі! Усе вы смяротныя! То чаму вы чыніце адзін аднаму зло? Чаму вы такія жорсткія? Злом нічога вы сабе не прыбавіце, толькі адберацё...

**Таямніца**

Чалавечым розумам не зразумець, як магла прайсці такі шлях прырода — ад малюпасенькай, нябачнай воку клетачкі ў акіяне-моры да безлічы жывых істот, так разумна прыстасаваных да існавання і да вянца яе тварэння — чалавека з яго граматай, мастацтвам і вадароднаю бомбаю. Усё, што тлумачаць нам вучоныя, філосафы, — толькі гіпотэзы, версіі і адна з такіх версій — Бог. Але праўды мы ніколі не даведаемся, ісціна застанецца пад замком.

**Дамба**

Беларуская літаратура, як рака, плыве ў сваім рэчышчы спакойна, прыстойна, але некаму, бачыце, перашкаджае яе плынь і папярок гэтай ракі насыпаюць запруду. Міжволі мялее рака, слабее плынь, здаецца, вось-вось высахне, знікне, на радасць сваім ворагам.

Але раптам прарывае запруду, і бурны паток поўніць рэчышча, магутнымі хвалямі ўскіпае рака, свежым дыханнем поўнячы наваколле, — з'яўляюцца аўтары, з'яўляюцца творы сусветнага маштабу. Так было ў дваццатыя гады, так было ў шасцідзесятыя мінулага стагоддзя.

Але, напалоханыя магутным цячэннем, зноў пачынаюць работу слепыя краты, зноў точаць зямлю, насыпаючы дамбу.

Але прарве і гэту.

**Пераборлівы**

Прыйшла бабулька ў магазін і пытаецца ў прадаўшчыцы:

— Ці ёсць у вас што-небудзь для сабачкі?

— А во — кілбаса крывяная, кілбаса ліверная...

— Дык ён жа, гад, гэтага не есць, — гаворыць бабулька. — А якіх костачак, мяска таннага?

— Не, няма, — адказвае прадаўшчыца.

Бабулька ўздыхнула, памулялася і купіла сабачку доктарскай кілбасы, а сабе — ліварнай.

**За што ўшчувалі**

Дырэктар выдавецтва «Беларусь» Захар Пятровіч Матузаў некалі гаварыў:

— Мяне ў ЦК ніколі не ўшчувалі за тое, што я выкрасліў, а за тое, што выпусціў у свет.

**Кіно**

Некалі мы, у маладосці, глядзелі цудоўныя фільмы італьянскага неарэлізму, выдатныя фільмы польскага рэжысёра Анджэя Вайды, савецкія карціны — «Балада пра салдата», «Ляцяць журавы», непаўторныя фільмы грузінскага кіно. Мы спачувалі героям тых фільмаў, лілі слёзы над іх цяжкім лёсам, і душы нашы дабрэлі.

У сённяшніх фільмах — кроў, насілле, смерць. І моладзі падабаюцца тыя насільнікі, звышчалавекі, яна прымервае іх да сябе, тыя звышчалавекі робяцца іхнімі героямі, і ім нікога і нічога не шкада.

**Будучыня**

Маладыя! Не глядзіце на старых, кволых людзей грэбліва і з пагардаю! Гэта — і ваша будучыня!

**Сон**

Мы засынаем і трапляем у неспазнаны свет. Мы сустракаемся ў тым свеце з людзьмі, якіх на яве ніколі не бачылі. Мы ходзім па гарадах, у якіх ніколі не бывалі. Мы бачым карціны, пейзажы, нікім ніколі не намаляваныя, мы бачым у сне тых, каго даўно няма на свеце.

Страх у сне нашмат мацнейшы, чым на яве. І пакуты нашмат мацнейшыя, чым калі мы не спім.

Бываюць сны, што варожаць на кепскае, і бываюць сны — вешчуны дабра. І ніхто не можа растлумачыць — што гэта за свет, у які трапляем мы, калі засынаем.

**Сяброўкі**

Жылі-былі чатыры сяброўкі — аднакашніцы.

Спачатку хадзілі адна да адной на вяселлі — з ружамі, гваздзікамі.

Потым хадзілі адна да адной на радзіны — з ружамі, гваздзікамі.

Хадзілі адна да адной на дні нараджэння — таксама, вядома, з кветкамі.

І не агледзеліся, як тых дзён нараджэння набегла дужа багата.

Цяпер ходзяць адна да адной на пахаванні — з ружамі, гваздзікамі.

**Талент**

Талант — буйная грашовая адзінка, пры Аляксандры Македонскім важыла каля 25 кілаграмаў срэбра. Можа, адсюль, ад той «манеты» і слова «талент», якое абазначае вялікія чалавечыя здольнасці? Чалавек, абцяжараны багаццем... Багаццем духоўным...

**Сімвалы**

Дзяржаўны сцяг, дзяржаўны герб не выдумляюць, не малююць кожны раз да новай кан'юнктуры. Дзяржаўны сцяг, дзяржаўны герб вынікаюць з

глыбокай гісторыі. Ад сімволікі, якую падарыла гісторыя, вее цяплом, жывым дыханнем. А прыдуманыя сцяг і герб — як манекены, ад якіх ні цяпла, ні дыхання. Яны не поўняць душу патрыятызмам, іх не любяць, не шануюць.

**Органы**

Вучоныя кажуць, што людзям для трансплантацыі найбольш падыходзяць унутраныя органы свінні.

Можа, таму, што і ў чалавеку шмат свінскага?

**Кульбіт**

Ніяк не прывыкну да такога кульбіту — учарашнія камуністы, прапагандысты атэізму, ды і кіраўнікі дзяржаў, сёння ў царкве кладуць крыжы і цалуюць абразы. А тэлебачанне — яшчэ нядаўна прапаведнік атэізму, сёння паказвае набажэнства ў цэрквах, віншуе вернікаў то з нараджэннем Хрыста, то з яго ўваскрэшаннем. І мала які артыкул у газеце ці часопісе не ўпамінае Бога.

Можа, як сёння мы асуджаем сваё мінулае, так заўтра нашы дзеці будуць асуджаць сённяшні дзень?

**Некалі**

Бывала, паміраў пісьменнік, і труну з яго целам выстаўлялі ў зале Дома пісьменнікаў, і выстройвалася чарга з тых, хто хацеў аддаць яму апошнюю даніну, — пастаяць каля труны ў ганаровай варце. Ціха іграла музыка, лунаў настрой смутку, часта мірачы перад тварам смерці нават вялікіх праціўнікаў.

Сёння сваякі, у каго яны ёсць, сяк-так хаваюць пісьменніка — без усялякага ўшанавання з боку саюза, і пра тое, што наш калега адышоў у іншы свет, даведваемся хіба з некралога на пятнаццатай старонцы «ЛіМа».

**Ад Пушкіна**

Як жа шмат згубіла руская мова з часоў Пушкіна! Некаторыя ідыёмы нам сёння і разгадаць цяжка. Напрыклад, з «Яўгенія Анегіна», дзе аўтар расказвае, што дзядзька Яўгенія ад суму «в окно смотрел и мух давил». Аказваецца, «мух давил» — выпіваў. Такая вось ідыёма. Ад яе да нас дайшло хіба — «пад мухай»...

Таксама як ідыёма «уважать себя заставил» азначала — памёр. Ну, падобна на тое, як сённяшняе — «приказал долго жить»...

**Паслядоўнікі**

Адзін галоўны рэдактар сказаў некалі сваім падначаленым:

— Мне не патрэбны таленавітыя, мне патрэбны паслухмяныя...

Так мала цаніў той рэдактар дар Божы, талент і так высока цаніў паслухмянасць.

На вялікі жаль, жывуць у нас аднадумцы-паслядоўнікі таго рэдактара. Яны таксама не любяць таленавітых, а любяць паслухмяных. А самае небяспечнае, што тыя паслядоўнікі — высокае начальства.

**Каша з ніткамі**

Быў некалі ва універсітэце выкладчык беларускай мовы Міхаіл Іванавіч Жыркевіч. І заходзілі да яго часам дадому студэнткі вырашаць свае мовазнаўчыя праблемы. А жонка Міхаіла Іванавіча, жанчына спагадлівая,

хацела заўсёды тых студэнтак падкарміць, бо ішлі першыя пасляваенныя гады і нават хлеб тады выдаваўся па картках.

Аднойчы, пакуль студэнткі з выкладчыкам тыя праблемы вырашалі, яна высыпала з мяшэчка ў каструльку крупу і зварыла кашу. Запрасіла дзяўчатак за стол.

Пачалі дзяўчаткі есці тую кашу, а ў ёй то тут, то там трапляюцца нейкія ніткі. А сорамна ж у гасцях, пры выкладчыках выцягваць тыя ніткі з рота.

Так і з'елі тую кашу з ніткамі.

**Нерэальнасць**

Кладучыся спаць, яна клікала нябожчыка мужа:

— Дзе ты там? Дзе душа твая? У якой нерэальнасці? Прыйдзі ў маю нерэальнасць, прысніся...

**Тэрмін**

Іван Бунін. «Жизнь Арсеньева». Аўтар распавядае, як ішоў ён па дарозе, як дагнаў яго фурман і перадаў часопіс. А ў тым часопісе — вершы, якія малады аўтар, юнак, з месяц таму паслаў у той часопіс.

І пазайздросціла я Арсеньеву (у вобразе якога быў, вядома, сам Бунін). Гэта ж трэба — з месяц таму паслаў вершы ў часопіс, і яны ўжо надрукаваны! А ў нас у часопісе, у газеце твор можа ляжаць і паўгода, і год, а то і болей.

**Тэлезорка**

У тэлевізійную рэкламу выпадкова трапіў рудавата-шэры, з маленькаю галоўкаю і зоркімі чорнымі вочкамі голуб. І вось ён па некалькі разоў на дзень паяўляецца на экране, паважна пахаджвае, азіраецца, нібы сапраўдная тэлезорка.

**Пасажыр**

У тралейбус увайшоў мужчына гадоў сарака — у сіняй балонневай куртцы, у шапцы, крыху збітай на патыліцу, з тварам колеру спелага памідора і з затуманеным позіркам. На ўвесь тралейбус ад яго запахла і выпіўкаю, і закускаю. Сеў на вольнае месца, заклаў нагу за нагу.

На прыпынку паднялася з сядзення жанчына, і мужчына далікатна падтрымаў яе пад локаць.

На наступным прыпынку ўстаў са свайго месца дзядок з кавенькаю, і наш пасажыр дапамог яму дайсці да выхаду.

Здаецца, у чалавека быў такі настрой, што ён гатовы быў абняць цэлы свет.

**Навука**

Самы ранні ўспамін маленства. Мне гады чатыры. З сяброўкай, маёй равесніцай, гуляем на лужку каля лесу. Цераз лужок працякае канаўка з крутымі, зарослымі травою адхонамі. Цераз канаўку перакінута бярвенца — для пераходу. І намерылася я перайсці па тым бярвенцы на другі бераг. Пайшла, паслізнулася і паляцела ўніз галавою. Але трапіла не ў ваду — зачапілася за корч на тым крутым адхоне.

Дзяўчынка, што гуляла са мною, ад страху ўцякла. І зразумела я сваім дзіцячым розумам, што выкарасквацца з той канаўкі мне ніхто не дапаможа, трэба самой. Караскалася-караскалася — неяк выпаўзла.

З таго часу зразумела — калі трапіш у бяду, не чакай дапамогі, выбірайся сама.

**Вусцішна**

Робіцца вусцішна за чалавека і за ўсё чалавецтва, калі бачыш — забойцу чачэнскай дзяўчыны, які выходзіць з будынку суда, сустракаюць з кветкамі, як вялікага героя.

**Сярэднявечча**

Да нас вяртаецца сярэднявечча, ідуць рэлігійныя войны, рэлігійныя спрэчкі. Іслам наступае на праваслаўе, праваслаўныя не мірацца з католікамі, каталікі з пратэстантамі, цемрашальствы ўчыняюць вахабіты — знішчаюць усё, звязанае будзызмам. Ліецца кроў, людзям адразаюць галовы. І гэта насуперак запаведзі кожнай рэлігіі — не забі. І гэта ў дваццаць першым стагоддзі, калі чалавек пахадзіў ужо па Месяцы, калі разумныя апараты імчаць да Марса.

**Родная хата**

Ганак са стрэшкаю і дзвюма лавачкамі абапал, нізкія цяжкія дзверы, металічны язычок клямкі, які так знаёма бразгае, калі націскаеш на яго пальцам. А далей — доўгія сенцы са скрынямі пры сцяне, у якіх мука, крупы.

У дзвярах, што вядуць з сенцаў у хату, — маленькае круглае акенца, вечарамі праз яго свеціцца аганёк газавай лямпы альбо капцілкі, што гараць у хаце.

У час майго маленства ў хаце былі маленькія вокны і земляная падлога, калі яе падмяталі, то перад тым пырскалі вадою. А далей — мэбля, як у кожнай, мусібыць, вясковай хаце той пары. Злева — печ, гаспадыня і карміцелька, у ёй пяклі хлеб, падсцілаючы на под лісты аеру. Справа, пры сцяне, лава, на якую сядаюць суседзі, што зайшлі пагаманіць. Насупраць дзвярэй, пад акном — стол, засланы аблезлаю цыратаю, а злева, таксама пры сцяне — два ложкі. Калі я наведвалася сюды, мяне клалі спаць на печы, і я адчувала яе цёплую чарэнь.

І дзіва-дзіўнае, калі ў Коласаўскія дні мы, група пісьменнікаў і вучоных, ездзілі на радзіму Коласа і заходзілі ў хаты, дзе жыла сям'я Міцкевічаў, дзе нарадзіўся будучы паэт, я бачыла, адчувала ў тых хатах вельмі роднае, сваё, беларускае. На мяне дыхнулі той час, тая эпоха, той водар.

Далёкае, шчымлівае. Цяпер хата, дзе я нарадзілася, пустая, на дзвярах замок, і хоць у іх тая самая клямка, яна ўжо не бразгае — асірацела маўчыць. А ў двары, каля хаты — трава. Здзічэлі яблыня і груша ў садку. Дзе некалі быў агарод, кусцілася бульба — усё запаланіла пустазелле. І так вакол не толькі нашай хаты.

Знікае вёска... Знікае мова... Знікае Беларусь...

**Бутэлька**

Верасень сорак першага года. У Мінску гаспадараць немцы, рвуцца на Маскву. Насельніцтва шукае сродкаў — як выжыць, як пракарміцца. Наша суседка Карабуціха гоніць самагонку. Дала мне паўлітра, папрасіла занесці на базар, прадаць, абяцала аддзячыць.

Хаджу па тым базары (Суражскім). Нехта спыняе, просіць пакаштаваць, але купца не знаходзіцца.

Падыходзіць высокі мужчына ў жоўтым скураным паліто, коратка стрыжаны, чарнявы. Просіць зайсці з ім за рог дома, там ён, маўляў, пакаштуе.

Заходзім. Ён вымае папяровы корак, якім заткнута бутэлька, каштуе, зноў затыкае бутэльку. Потым вымае з кішэні і настаўляе на мяне пісталет.

— Брысь адсюль...

Прапала бутэлька...

**Небяспека**

Перачытваю свае абразкі і думаю: не, гэты не прапусцяць, убачаць у ім абразу некаму, скажуць, што падстаўляю газету ці часопіс пад небяспеку. Колькі разоў было такое. І сама свядома закрэсліваю напісанае.

Сама сабе цэнзар...

**Ну і ну!**

Беларускае тэлебачанне ўзахлёб абвяшчае, што ў мінчан ёсць выключна шчаслівая магчымасць узняць бакал шампанскага разам са спеваком Буйновым!

Ну і ну! — такое шчасце для мінчан! А сярод вядомых беларускіх дзеячаў тэлебачанне не бачыць асобы, з якой маглі б сустрэцца мінчане, хоць і без шампанскага!

**Смерць**

Памёр адзін знаёмы. І вельмі хацелася б ведаць — што думаў ён перад смерцю. Ці каяўся ў подласцях-грахах, што рабіў людзям, ці так і памёр з прагаю злачынства.

Ясна адно — подласці, якія рабіў ён людзям, не ўратавалі яго ад смерці. І яшчэ ясна — душа яго адразу пойдзе ў пекла.

**Каханне**

Сустракаюцца два чалавекі — мужчына і жанчына, чужыя, незнаёмыя. І раптам робяцца самымі блізкімі, самымі роднымі. Відаць, Купідон трапна пацэліў сваёю стралою.

**Геній чалавечы**

У нотнай грамаце ўсяго сем нот, а колькі можна напісаць цудоўнай музыкі.

У матэматыцы дзесяць лічбаў, а якое поле для дзейнасці!

У алфавіце трыццаць дзве літары, а колькі можна напісаць імі слоў, колькі тамоў выдатных твораў.

Прыдумаў геній чалавечы.

**Мыліцы**

Яна выходзіла замуж за чалавека нашмат маладзейшага за сябе. Ёй казалі: неяк непрывычна ў нас, каб муж быў нашмат маладзейшы за жонку, звычайна наадварот.

— Ах, — адказвала яна. — Яшчэ невядома, хто каму ў старасці, як той казаў, будзе падаваць мыліцы.

Прайшлі гады, і сапраўды, яна, старэйшая, даглядала яго, хворага, да апошніх дзён.

**Кара**

У жанчыны загінуў муж. Потым загінуў сын — васемнаццацігадовы юнак трапіў пад трамвай. Яна расказвала мне гэта з глыбокай горыччу. Я сказала, поўная спачування:

— Які ж трэба было ўчыніць грэх, каб панесці такое пакаранне?

Я сказала проста так, перакананая, што ў гэтай жанчыны не можа быць такога граху.

— Быў грэх, — уздыхнула мая суразмоўніца. — Я адбіла мужа ў другой жанчыны. Тая засталася з двума дзецьмі...

Няўжо і праўда, — падумала я, — што жыццё, альбо лёс, альбо той самы Бог караюць за зло, зробленае іншаму?

**Сацыялізм**

На нашай вуліцы нехта наўмысна пабіў ліхтары.

На прыпынку тралейбуса нехта наўмысна зламаў лавачку.

У нашым пад'ездзе нехта наўмысна зламаў паштовыя скрынкі.

На прыпынку аўтобуса, які ходзіць на лецішча, людзі па бярвенцу разабралі альтанку.

У маіх суседзяў на лецішчы нехта наўмысна павыбіваў вокны.

Рускі пісьменнік Эртэль (сучаснік Караленкі, Чэхава, Успенскага), якога мы, на жаль, так мала ведаем, разважаючы пра лёс чалавецтва, пісаў: «Сацыялізм? Але ці думаеш ты, што ён можа быць толькі ў таго народа, дзе дарогі абсаджаны вішнямі, і вішні бываюць цэлыя?»

То ці можна было з нашым народам пабудаваць сацыялізм?

**Старасць**

Вельмі крыўдна, што славутыя артысты, яшчэ нядаўна, на маёй памяці, такія маладыя і прыгожыя, цяпер пабрыдчэлыя ад старасці.

Няхай бы хоць ім, нашым кумірам, жыццё падаравала вечную маладосць.

**З Івана Буніна**

Даў мужыку брашуру аб шкодзе курэння, а мужык потым сказаў, што скарыстаў тую брашуру на цыгаркі.

**Рытуал**

Труну прыбіраюць вянкамі, кветкамі...

Можа, каб не выглядала такім страшным тое, што нядаўна было жывым чалавекам?

**Вера**

Людзі ніяк не могуць прымірыцца з тым, што са смерцю чалавек знікае назаўсёды, што ўсё канчаецца жыццём на зямлі. І прыдумалі другое прышэсце месіі, уваскрэшанне з мёртвых.

Але век за векам даводзілася бачыць, што застаецца ў зямлі ад чалавека. І памалу пачыналі разумець, што з уваскрашэннем, мабыць, нічога не выйдзе. Але ніяк не хацелася прымірыцца з непазбежнаю канчынаю, і тады прыдумалі бяссмерце душы.

Што ж, будзем верыць, што душы нашых любых лунаюць недзе ў паднябессі і некалі нашы душы з імі спаткаюцца.

**Сабакі**

Чэхаў пісаў пра літаратуру і пісьменнікаў:

«Ёсць вялікія сабакі і ёсць маленькія сабакі, але маленькіх не павінна бянтэжыць існаванне вялікіх. Усе абавязаны гаўкаць і гаўкаць тым голасам, які гасподзь Бог даў».

Вось я і гаўкаю...

**Чвэрць**

Ён быў высокі і поўны, яна — маленькая і худзенькая. Яны пажаніліся і ён казаў:

— Гэта мая не палавіна, а чвэрць...

**Яшчэ раз пра душу**

Калі душы ўсіх людзей бессмяротныя, то душы тых, хто на зямлі моцна варагаваў, і там, у бяссмерці, будуць варагаваць, імкнуцца нішчыць адна адну, як рабілі гэта на зямлі. Ці наступіць вечнае дараванне?

Мая душа маім ворагам і на тым свеце не даруе.

**Бабулькі**

Сядзяць бабулькі ў двары на лавачцы, як куры на седале, усіх суседзяў абкудахкалі, толькі яны самі добрыя, прыстойныя.

**Бульбачка**

Мая бульбачка ў склепе пачала прарастаць, расплюшчыліся вочкі, заварушыліся парасткі, значыць, кожная мая бульбачка — жывая істота, і як кожная жывая істота, хоча пакінуць пасля сябе патомства, яна просіцца ў зямлю, каб нарадзіць маладых бульбачак.

І цягнуцца ўгору кволыя белыя парасткі, шукаючы сонца, цяпла, не ведаючы, што тут яго не знойдуць, што не суджана ім тут адрадзіцца.

**Абяцанне**

З банкета, наладжанага з нагоды абароны кандыдацкай дысертацыі аспірантам, вярталіся дадому крыху падпітыя прафесар і яго вучні. Прафесар раптам зазірнуў у сваю будучыню, спыніўся пасярод вуліцы і ў адчаі загаварыў да сваіх вучняў:

— Хлопцы! Гэта ж вы мяне будзеце хаваць! Гэта ж вы мяне будзеце хаваць! Толькі ж добра пахавайце!

— Пахаваем, пахаваем, — супакоілі яго вучні. — Добра пахаваем...

**Скарб**

На Маскву наступалі немцы, і Карней Чукоўскі, ратуючы альманах «Чукакола», загарнуў кнігу ў цырату і закапаў на дачы ў зямлю.

Сусед падгледзеў, што Чукоўскі нешта закопвае, і вырашыў, што той хавае скарб. Знайшоўшы зручны момант, сусед выкапаў той скарб і вельмі здзівіўся, расчараваўся, калі ўбачыў, што гэта толькі кніга. Ад злосці ён расшкамутаў той альманах і выкінуў як непатрэбшчыну.

Што для Чукоўскага было сапраўдным скарбам, для суседа — непатрэбшчынай. Як часта мы і сёння сустракаемся з такой ацэнкай сапраўдных каштоўнасцей.

**Жывое**

На зямлі ўсё жывое — кожная травінка, кожная кветачка, кожнае дрэўца. Нават камень — спрасаваныя жывыя істоты. І нават сама зямная куля — жывая істота, інакай яна не радзіла б, не карміла б мільярды людзей, звяроў і птушак.

**Бег**

Калі хочаш заставацца на сваім месцы, то трэба ўвесь час шпарка бегчы, бо варта спыніцца на хвіліну, як цябе пераганяць, і ты застанешся ззаду.

**Прытча**

Існуе прытча — дзве жабкі трапілі ў збанок з малаком, адна жабка адразу патанула, а другая біла, біла лапкамі, збіла масла і выскачыла з таго збанка.

Дык вось, я падобна на другую жабку. Толькі я ўсё жыццё б'ю лапкамі па тым малаку, а масла збіць ніяк не магу.

**Рамантыка**

Французскім чытачом (а можа, не толькі французскім) граф Монтэ-Крыста ўспрымаецца не як літаратурны герой, а як жывы, рэальны чалавек. У кіёсках Парыжа, Монрэаля прадаецца паштоўка з выявaю вострава і замка Іф, дзе ў затачэнні сядзеў герой Аляксандра Дзюма. Я не вытрывала і купіла такую паштоўку — сярод сіняй марской прасторы непрыступны скалісты востраў, за ім за высокаю каменнаю агароджаю вежы казематаў, на мысе вострава — маяк.

Вабіць нас рамантыка...

**Рэклама**

Ад пачатку да канца прагледзела бразільскі серыял «Зямля кахання». Якія толькі страсці там ні бурапенілі, як пакутавалі ад паваротаў лёсу і мужчыны, і жанчыны. Але на працягу ўсяго серыяла я не ўбачыла ў руках ніводнага героя ніводнай цыгарэты.

А ў расійскіх фільмах аж экран дыміцца ад цыгарэтнага дыму.

Вось вам — і рэклама, і антырэклама.

**Агрэсія**

У жывёльным свеце хто б'ецца між сабою? Самцы за сваю тэрыторыю, за самак. Нават сярод птушак самцы б'юцца — успомнім задзірыстых пеўняў.

Так і сярод людзей — б'юцца хлапчукі, б'юцца маладыя мужчыны. Часта проста так, без прычыны, альбо прычыну тую выдумляючы. У іх, у мужчынах, прыродаю закладзена агрэсіўнасць. І колькі будзе існаваць чалавецтва — не спыняцца ні яна, ні войны.

**Дата**

Калі наперадзе дата, якая цябе да нечага абавязвае, цешыш сябе, што дата тая яшчэ далёка. Але яна насоўваецца, насоўваецца няўмольна, бегу дзён нічым не стрымаеш, і вось яна, тая дата, прыйшла ўжо, і трэба свой абавязак выконваць.

**Бязвольныя правадыры**

У прэзідэнта Туркменістана Сапармурата Ніязава спыталі — ці не бянтэжыць яго, што паўсюль па краіне так густа вісяць яго партрэты, стаяць залатыя помнікі, што народ яго бясконца славіць? І прэзідэнт адказаў наступнае:

— Я сам вельмі цяжка перажываю, што мяне хваляць...

Мусібыць, Іосіф Вісарыёнавіч, вечная яму памяць, таксама моцна перажываў, што яго так моцна славілі. Але вось бяда — такія ўсемагутныя правадыры, касога позірку якіх баяліся людзі, аказваюцца бездапаможнымі перад народнай любоўю, не могуць загадаць народу не славіць іх, бо ўпэўнены — народ іх усё роўна не паслухае.

**Вялікі сакрэт**

Ён выконваў вельмі важнае і вельмі сакрэтнае заданне дзяржавы. І выканаў яго паспяхова. Чакаў, што яго ўзнагародзяць, гадаў, які ордэн дадуць.

І калі па яго прыехалі на чорнай «Волзе» — быў упэўнены, вязуць, каб узнагародзіць.

Дзівіўся, што яго доўга вялі па вузкіх і глухіх калідорах. І нават да канца не зразумеў — што адбылося, калі яго цела прашылі кулі.

Ён не ведаў закона — той, хто далучаны да вялікага сакрэта дзяржавы, — павінен маўчаць.

**Таямніца**

Анечка была няшлюбнаю дачкою — грэх яе маці ў маладосці. Потым маці выйшла замуж і сказала малой Анечцы, што гэта яе тата. З гэтай вераю дзяўчынка і жыла. Вырасла, сама выйшла замуж, нарадзіла дзетак. Так і не дазналася, што сапраўдны яе бацька ніколі яе нават не бачыў. А пра ўсю гэту гісторыю было вядома ўсім і блізкім, і далёкім родзічам, акрамя самой Анечкі. І ніхто ніколі не прагаварыўся.

**Аўчарка**

— Яго новая жонка — дварняжка, — грэбліва сказала былая жонка пра новую жонку свайго былога мужа.

Тая ацэнка дайшла да былога мужа. Ён сказаў:

— Нічога, пажыву з дварняжкаю, з аўчаркаю ўжо быў жанаты.

**Боты**

Некалі на ўсю вялікую вёску Нізок боты былі толькі ў аднаго чалавека — Базыля Міхасёва, і калі ў каго з'яўлялася патрэба выглядаць прыстойна, — ішлі пазычаць боты ў Базыля. І той пазычаў.

**Выпадак**

У 1928 годзе, на экзамене пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, Паўлюку Трусу трапіў білет з пытаннем:

«Раскажыце пра творчасць паэта-маладнякоўца Паўлюка Труса».

Якіх фокусаў не выкідвае спадар выпадак.

**Бабуля**

Яна была маладая, і ёй здавалася, што будзе маладая вечна. І раптам малады чалавек у тралейбусе кажа ёй:

— Бабуля, сядайце, вунь вольнае месца.

Шок... Гэта яна — бабуля?

**Няма Хрыста**

Амаль усе пакоі ў будынку Саюза пісьменнікаў занятыя камерцыйнымі фірмамі.

І не аб'явіцца Хрыстос, які выгнаў бы гандляроў з храма!

**Свабода**

На аўтавакзале, на лаўцы, дзе звычайна пасажыры чакаюць аўтобуса, спаў чалавек. Ён быў босы, разбітыя чаравікі стаялі каля лаўкі, як тапці каля ложка. Босыя ногі былі чорныя ад бруду, такія чорныя, што, здавалася,

на нагах у яго чорныя шкарпэткі. Яго рукі, таксама чорныя ад бруду, былі складзены на грудзях. Сонца свяціла ў зарослы шчацінаю твар, але ён, мусібыць, не адчуваў гэтага, увесь яго выгляд увасабляў асалоду, кайф. І сам ён увесь увасабляў свабоду і радасць ад таго, што можа жыць як хоча і рабіць што хоча. І зусім усё роўна было яму — што падумаюць пра яго людзі.

**Трагедыя**

Немагчыма рабіць мастацкі твор са сваёй асабістай трагедыі, ператвараць у літаратуру ўласны боль.

Куды лягчэй рабіць мастацкі твор з трагедыі чужога чалавека.

**Шкарпэткі**

Пасажыры самалётаў, што лётаюць у Амерыку, цяпер падарожнічаюць у чыстых і цэлых шкарпэтках, бо ў час праверкі пры пасадцы ў самалёт пасажыраў прымушаюць разувацца.

**Эксперымент**

Невядомыя, непазнаныя намі сілы сусвету вырашылі зрабіць эксперымент — стварыць жыццё на адной планеце. Выбралі нашу — Зямлю. Засадзілі яе раслiннасцю, напладзілі звяроў, птушак, стварылі чалавека. І пачалі тыя сілы глядзець — што з таго выйдзе. Калі эксперымент акажацца ўдалым — можна будзе пашырыць яго на іншыя планеты.

І што яны ўбачылі? Адны стварэнні пачалі нішчыць расліннасць, дужыя звяры загрызаць слабейшых, а людзі нішчыць і расліннасць, і звяроў і саміх сябе. Розум, які тая сіла дала чалавеку, той пачаў выкарыстоўваць для самага агіднага каварства.

Надумала тая сіла спыніць экперымент, а потым вырашыла — навошта, яны самі сябе знішчаць, бо што б ні прыдумвалі вучоныя, у іх заўсёды атрымліваецца пісталет. Але той эксперымент пераносіць на іншыя планеты адмовілася. Падлічыла, што эксперымент не ўдаўся.

Так і засталіся мы адзіныя ў сусвеце.

**Зноў пра душу**

Кажуць, калі чалавек памірае, душа яго адлятае ад цела. Але куды адлятае і ў якой форме? Як дымок? Ці як пусты шарык? Ці ў іншай форме, у нейкай субстанцыі?

Памерлі мільярды мільярдаў людзей. І яшчэ памруць мільярды мільярдаў. Дзе ж знаходзяць месца ўсе іхнія душы? Ці сусвет такі бязмежны, што хапае месца ўсім? Ці душы людскія недзе збіраюцца разам і ўтвараюць зоркі?

А калі сустракаюцца душы людзей, што на зямлі моцна варагавалі, калі сустракаюцца душы агідныя з душамі праведнікаў? Можа, там існуе поўнае дараванне грахоў?

**Чаго не бывае**

Дзяўчынка пасвіла свіней на выгане, а тут пачалася навальніца, ды з градам. Градзіны падалі велічынёю з курынае яйка. Дзе схавацца беднаму дзіцяці? І дзяўчынка надумала — залезла пад самую вялікую свінню, трымала тую за ногі, каб не ўцякла, і пад свіннёю перасядзела навалу.

**Дапамога**

З гуманітарнай дапамогі, яую накіравалі галадаючым, да іх дайшла толькі туалетная папера, усё астатняе раскралі па дарозе.

**Малпа**

Усё-такі я разумная, бо ніколі не верыла ў тэорыю Дарвіна, па якой чалавек паходзіць ад малпы. Я заўсёды лічыла, што калі на зямлі з'яўляліся жывёлы, то з'явілася і такая жывёла, як чалавек. А цяпер вучоныя знайшлі чэрап істоты, якая жыла сем мільёнаў гадоў таму назад, і гэта чэрап чалавека.

Хутчэй за ўсё чалавек — разнавіднасць малпы.

**Доля**

Каб дзесятую долю таго, што наш урад аддае спорту, ды даў бы беларускай культуры, літаратуры. То доля нашай літаратуры значна палепшылася б, наша літаратура расквітнела б і праславіла Беларусь.

**Палітыка**

Чуюцца заклінанні-галасы — трэба вызваліць літаратуру ад палітыкі, пісьменнікі павінны займацца толькі прыгожым пісьменствам. Але гэта і ёсць свайго роду палітыка.

Літаратура спакон веку жывілася ўмовамі быцця сваёй эпохі, гэта значыць, палітыкай. Бо іменна палітыка вызначае ўмовы, у якіх жыве грамадства, у якіх жыве чалавек. А калі чалавек — прадмет літаратуры, то як можна маляваць яго не ў лоне палітыкі?

Улада ва ўсе часы патрабавала, каб літаратура служыла толькі ёй, уладзе. Такую палітыку яна прымае.

**Сямёра з лыжкаю**

Калі я бачу вялікі натоўп, то думаю — гэта ж трэба іх усіх накарміць, ды не абы як, а смачна.

Калі бачу шырокі, бясконцы паток машын, то думаю — гэта ж колькі трэба бензіну, каб напаіць усіх гэтых пачвараў.

Калі бачу аграмадныя кварталы высокіх будынкаў, то думаю — гэта ж у кожную кватэру трэба правесці газ, ваду, ацяпленне, каналізацыю, электрычнасць... Колькі працы чалавечай! А у нас жа і сёння, як той казаў, — адзін з сошкаю, а семера з ложкаю...

**Сустрэчы**

Вяртаючыся дадому з далёкага падарожжа, яна ўяўляла не тое, як сустрэнецца з мужам, а тое, як сустрэнецца з сабакам. Руды, вялізны, ён будзе скакаць вакол яе, кідацца лапамі ёй на грудзі, скавытаць з радасці. I яна будзе лашчыць яго, гаварыць пяшчотныя словы, частаваць гасцінцамі, якія купіла спецыяльна для яго.

А потым, калі нацешыцца сустрэчай з сабакам, можна будзе павітацца і з мужам.

**Вера**

Дзе мая маладосць, калі я шчыра верыла, што праўда заўжды перамагае, верыла людзям, верыла, што начальства, якое над намі, вельмі разумнае, і сама кіравалася высокімі ідэаламі? Калі здавалася мне, што ўсё я ведаю і ўсё разумею.

Прайшло жыццё, і цяпер я ведаю, што нічога не ведаю, і нікому я цяпер не веру — ні людзям, ні начальству.

А душа чалавечая здаецца мне сёння скопішчам зла і крывадушша.

**Цішыня**

У Намібіі (Афрыка) у нацыянальным парку Этоша турыстам забараняецца ад цямна да світання выходзіць з машын, голасна размаўляць, барані Божа ўключаць музыку і наогул парушаць цішыню — каб не трывожыць звяроў, каб жылі яны ў спрадвечных для сябе ўмовах.

І яшчэ ў гэтым парку забараняецца хутка ездзіць на машынах, каб не ўздымаць пылу, каб звяры дыхалі чыстым паветрам.

Вось бы ў нас увесці такія законы! А то ў суседзяў да паўночы грыміць тэлевізар, пад акном спявае п'яная кампанія, на вуліцы ўсю ноч выюць машыны.

Нас бы так аберагалі, як звяроў у Намібіі.

**Бездань**

Мы баімся бездані, што пад намі — у гарах, у скалах, у морах і акіянах, і не баімся бездані, якая над намі.

Бездань зямная мае, хоць недзе і глыбока, дно. Бездань нябесная сапраўды бяздонная.

**У тэатры**

Атрымліваеш задавальненне ад п'есы, оперы, балету, калі побач з табою сядзіць каханы чалавек. Без яго відовішча траціць і сэнс, і асалоду.

**Не дажылі**

Можа, і добра, што не дажылі да сённяшняга дня Максім Танк, Пімен Панчанка, Іван Мележ. Ім, мусібыць, і ў страшным сне не прыснілася б, што робіцца сёння з беларускаю літаратураю, з Саюзам пісьменнікаў.

**Сутыкненне**

Уяўляю, як змагаліся бацькі за пуцёўкі сваім дзецям на адпачынак у Іспанію. Якая барацьба ішла ў горадзе Уфа за месца ў самалёце. І, вядома, перамаглі бацькі, якія мелі ўладу, грошы. І плакалі пакрыўджаныя дзеці, якім пуцёвак не далі, якіх падманулі.

І вось — трагедыя. У неабсяжным небе, дзе столькі прастору, сутыкнуліся два самалёты. І ўсе дзеці загінулі.

Цяпер плакалі тыя, што перамаглі, і дзякавалі Богу тыя, каго абмінулі. Не заўсёды перамога абарочваецца шчасцем.

**Дарога ў рай**

Якім павінна быць выхаванне, як трэба задурыць галаву чалавеку, каб ён апаясаўся дынамітам і ўзарваў сябе ў людным месцы толькі дзеля таго, каб разам з ім загінулі людзі, якіх ён лічыць сваімі ворагамі. Самазабойцу і забойцу пераканалі, што як толькі разарвецца яго цела на кавалкі, душа адразу патрапіць у рай.

Але тыя, хто штурхнуў яго на такі «подзвіг», сваіх дзяцей такім чынам у рай не пасылаюць.

**Справядлівасць**

Больш за ўсё бывае крыўдна, калі злачынцы, нягоднікі застаюцца непакаранымі. Неабавязкова турмою ці катаргаю, а хаця б пагардаю тых, хто

злачынцу, нягодніка акружае. Але гэта акружэнне бывае такое раўнадушнае, што голасу праўды ад яго не дачакаешся — на гэта ж трэба патраціць энергію, да таго ж — калі нягоднік не зачапіў цябе асабіста — то няхай сабе жыве.

І справядлівасці даводзіцца чакаць хіба ад Бога. Але Бог часта застаецца раўнадушным да людскіх звадак, а можа, спіць на сваіх аблоках. Часам прачынаецца, насылае пакаранне, але таго Божага прасвятлення даводзіцца чакаць вельмі доўга.

**Сіта**

Жыццё прасейвае людзей, нібы сіта. Зверху насыпае ўсё новых, маладых, а старыя трапляюць у высеўкі, у тое, што ўжо аджыло і нікому не патрэбна. І так з веку ў век, і ніколі тое сіта не пусцее.

**Смачнейшае**

Вялікай рускай мовы не хапае работнікам расійскага тэлебачання, і яны называюць свае перадачы то ток-шоу, то дог-шоу, а яшчэ — ноў-хаў, ікс-мэн, біг-бум, хіт-парад і г.д. Лічаць, што чужое смачнейшае...

**Дыктатары**

Вельмі спадабалася думка аднаго разумнага чалавека: «Дыктатары бессмяротныя... пакуль жывуць».

Сапраўды, народ славіць жывых дыктатараў, называе іх бессмяротнымі, а калі паміраюць, — пачынаюць іх праклінаць, выкідваць з магіл, з маўзалеяў.

**Шкадаванне**

Хлопчыка, які нарадзіўся калекам, матка пакінула ў радзільным доме. Не пакінулі яго добрыя людзі ў інтэрнаце для калек. Хлопчык вырас, таксяк навучыўся хадзіць на сваіх скрыўленых ножках. Сказаў журналісту, які распытваў яго пра жыццё:

— Мае бацькі адракліся ад мяне, я іх ніколі не бачыў, але мне іх вельмі шкода...

Якое ж добрае сэрца ў гэтага хлопчыка...

**Смерць**

Пакаранне смерцю — самая гуманная кара, горшая кара — пакаранне жыццём. Нябожчык не адчувае ніякіх пакут, жывы чалавек пакутуе ад голаду і холаду, ад боляў — фізічнага і духоўнага, ад абразы і яшчэ шмат ад чаго. Так што смерць — збаўленне ад пакут... І ўсё ж, ніхто не хоча паміраць...

**Работа**

Мужчын трэба моцна загружаць работаю, каб рабоце яны аддавалі сваю энергію, агрэсіўнасць. Бо калі пакінуць іх без работы, без занятку, яны наробяць вельмі шмат бяды і сабе, і ўсяму чалавецтву.

**Слова**

Як часта мы, зусім механічна, гаворым: дзякуй Богу, слава Богу, барані Божа, дай Бог, не дай Бог, памілуй, Госпадзі, не вельмі ўдаючыся ў іх сэнс. А на пачатку ж іхняга ўтварэння яны мелі вельмі глыбокае і канкрэтнае значэнне.

**Каханне**

Цяпер я веру, што маладая жанчына можа закахацца ў вельмі пажылога мужчыну. Учора па тэлебачанні, на канале «Культура», у перадачы «Астравы» бачыла сустрэчу з кампазітарам Мікітам Багаслоўскім, якому дзевяноста гадоў. Колькі мудрасці, розуму, гумару, самаіроніі і, вядома, таленту. Яго песні некалі спявала ўся краіна, чаго варта адна «Зямлянка». Перадачу ён закончыў словамі: «И я спокойно в суп бросаю лавровый лист из моего венка…»

Я ў яго закахалася.

**Святая хата**

Сорак пяты, галодны год. Жонка Максіма Танка Любоў Андрэеўна кожны дзень варыць вялікую каструлю густога супу — лыжка стаіць. І хто б ні зайшоў — частуе тым супчыкам. Не раз пакаштавала яго і я, бо вучылася разам з пляменніцаю Максіма Танка і часам заходзіла ў гэту святую хату. (Апавядала выпадковая знаёмая.)

**Сталінскі сіндром**

У бальніцы мая суседка па палаце, калі гаварыла пра палітыку, азіралася і шчыльна зачыняла дзверы.

**Жанчыны**

Жанчына заўсёды шчыра паспачувае другой жанчыне, калі ў той бяда. Але жанчына ніколі не даруе другой жанчыне поспеху.

**Цяжкі побыт**

Змучаная бытавымі праблемамі, Сільва Капуцікян уздыхнула:

Як бы я хацела мець жонку...

**Працэдуры**

У працэдурным кабінеце пад канец дня ў белым халаціку сястрычкі кішэнька адтапырваецца. Хто ні ідзе, кладзе ў яе то цукеркі, то шакаладкі.

**Бізнесмены**

Пяцігадовы Дзіма прыйшоў з садка, а дома — мама з мабільнікам каля вуха, тата з мабільнікам каля вуха — вырашаюць свае бізнесменскія праблемы. На Дзіму — ноль увагі.

Узяў хлопчык малаток і пачаў лупіць ім па чым папала, дабраўся ўжо і да шыкоўнага тэлевізара.

Ведайце, што я ў вас ёсць!

## ТАЦЦЯНА БУДОВІЧ

### ВЯСНОВАЕ

Бэз, бэз, бэз...
І зіхоткі нябесны блакіт.
І туга адплывае ў нябыт
па-над хвалямі вогкай травы,
хоць каторую весну не Вы
са мной дзеліце радасць і смутак...

Дождж, дождж, дождж...
Нібы срэбра пад сонцам зіхціць
на сцяблінах, суквеццях, лісці.
Мокры плашчык, прамоклы абутак.

Шлях, шлях, шлях...
Адзінокі мой шлях, далячынь...
І мільён справядлівых прычын
адзіноту сваю апраўдаць.
Не любіць, не чакаць, не жадаць,
неспадзеўкі сустрэць
Ваш пагляд —
вочы ў вочы... Як золь, далягляд...
Толькі мрояў утульны палон,
нібы сон — светлы сон, весні
сон...

* * *

Не папросіць аб літасці той,
хто жадае застацца з табой.
Не парушыць твой звыклы спакой.

А папросіць атруты самота —
і душы не адчуць адзіноты.
Толькі лета — спякота, спякота.

Пасівелыя скроні спакою...
Адзінокае сонца сляпое
адплывае ўслед за тугою...

* * *

П'ю з вачэй тваіх лета спякоту,
але штосьці мяне ад жыцця
захінае, адцягвае ўпотай...
Не шкадуй мяне, хлопчык, дзіця.

Паўтараецца ўсё ў гэтым свеце —
закаханасць, пяшчота, давер.
І на вочы разбэрсае вецер
валасы твае зноў, як цяпер.

І ў абедзвюх руках затрымаеш
тваёй новай сяброўкі далонь.
Захад сонца ізноў раскідае
на аблокі ружовы агонь...

* * *

Мой цень кудлаты, даўганогі
ідзе кудысьці ўздоўж дарогі.
Куды ідзе ён і нашто,
таго не ведае ніхто.
Мінае ён за домам дом
(зіхціць Mc Donald's за рагом),
і не здагадваецца ён,
што хтосьці бачыць гэты сон:
як цень кудлаты, даўганогі
ідзе кудысьці ўздоўж дарогі...

* * *

*Ж.*

Схаваюся ад жыцця
на цёплых тваіх грудзях.
І хай яно без мяне
наперад ляціць, імкне.
Бязмежнасць цяпла твайго...
І болей няма таго,
што раніц і што было
ў мінулым — усё сплыло.
Застаўся вось гэты міг —
сінеча вачэй тваіх.



*ПУБЛІЦЫСТЫКА*

НІНА РЫБІК

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ СШЫТАК

***Няма сёння не толькі ў краіне, але і ў свеце чалавека, які б не ведаў ці хоць бы не чуў слова «Чарнобыль». Але ў розных людзей яно выклікае і розныя асацыяцыі. У адных — непрыхаванае раўнадушша: якая мне справа да ўсяго гэтага, калі і сваіх праблем хапае. У другіх — спачуванне да людзей, якіх захапіла сваім крылом бяда, і разам з тым патаемна-радаснае: дзякуй Богу, што нас абмінула. У трэціх жучком-тачыльшчыкам жыве ў сэрцы трывога за родных і блізкіх людзей, якія хоць нейкі час былі ТАМ.***

***Ёсць і чацвёртыя — тысячы, дзесяткі тысяч людзей, для каго Чарнобыль супраць волі і жадання стаў часцінкай лёсу, да якіх, бы нябачнае кляймо, на ўсё жыццё прыпячаталася азначэнне «чарнобылец». Я — адна з такіх дзесяткаў тысяч. Мой асабісты лёс нічым асаблівым не вызначаецца. Але ў гэтай звыкласці, неадметнасці, падобнасці лёсаў, можа, і хаваецца галоўная трагедыя Чарнобыля?***

***Шчыра кажучы, я доўга вагалася: ці патрэбна абнародаваць гэты вельмі асабісты «чарнобыльскі сшытак»? Прайшло нямала часу, пра Чарнобыль сталі паціху забываць пад нашэсцем многіх іншых трагедый і катастроф. Пра тую аварыю ў свой час было столькі сказана і напісана такіх разумных і правільных слоў, і так мала ад усяго гэтага карысці... Але, зрэшты, я не збіраюся ўздымаць праблемы, шукаць герояў і вінаватых, патрабаваць, абвінавачваць і заклікаць. Я проста хачу расказаць пра тое, як гэта было са мной і маёй сям'ёю, які след Чарнобыль пакінуў у лёсе звычайнага «маленькага чалавека». У некага, магчыма, гэты след больш глыбокі, у некага — не такі прыкметны. А ў нас было так...***

## 1. ПЕРШЫЯ ДНІ

Жылі мы тады ў Хойніках — невялікім гарадку на паўднёвым усходзе Беларусі, у Гомельскай вобласці. Той палескі куток славіўся сваімі цудоўнымі мясцінамі: грыбнікі-заўзятары, акрамя баравікоў, іншых грыбоў не бралі, лічылі гэта ніжэй уласнай годнасці; аматары ягад чарніцы з лесу цягалі кашалямі; рыбакоў і проста адпачываючых вабіла да сябе сваёй велічнай прыгажосцю каралева Прыпяць. Цяпер усё гэта нельга ўспамінаць без сардэчнага болю: цудоўная палеская прырода рукой чалавека за адно імгненне з найлепшага сябра была пераўтворана ў злейшага ворага. І апусцела Прыпяць, пазарасталі травой ды хмызняком патаемныя сцежкі грыбнікоў...

Але гэта сталася пазней, калі нябачная і амаль нячутая датуль радыяцыя пасяліла ў душах людзей адвечны страх. А ў красавіку 1986-га прадказаўшага такую будучыню маглі б назваць вар'ятам.

...Вясна ў тым годзе была незвычайна цёплая. У невялікім садзе, што па-

садзілі мы каля сваёй толькі-толькі пабудаванай хаты, ахінуўся белым вэлюмам абрыкос, вось-вось гатовы былі выпырснуць на волю першыя кветачкі на маладзенькай яблыньцы. Выпусціў разныя смарагдавыя лісты вінаград, які густа аплятаў веранду. Сакавіта, як гэта бывае толькі на пачатку вясны, зелянела трава. Да таго часу паспелі пасадзіць бульбу, цыбулю, моркву. Засталося толькі закінуць грады на агуркі ды памідоры.

26—27 красавіка былі выхаднымі. Муж паехаў у вёску дапамагчы бацькам. Мы з дзецьмі — сыну тады ішоў трэці гадок, дачцэ тры месяцы пераваліла на другі — засталіся дома. Цяплынь стаяла такая, што ўседзець у хаце было немагчыма. Ды і навошта, калі вось яна, доўгачаканая вясна, сонца, радасць?

Малыя порkaліся ў пясочку, я займалася агародам. Калі сонца ўзнялося высока, вырашылі пазагараць: распранула да трусікаў дзяцей, сама надзела купальнік... Хто ж ведаў, што ў той дзень нельга было і носа на вуліцу высоўваць, а калі ўжо выходзіць, то захутаным па самыя вочы.

Падышла да нас суседка: мы з ёй былі зямлячкі-аднавяскоўкі, і замуж — так ужо сталася — пайшлі ў адну вёску, а калі яшчэ і ў Хойніках лёс звёў на адной вуліцы, ледзь не па-суседску, то сталі амаль што раднёй. Пагаварылі пра тое-сёе. Ужо адыходзячы, Зіна сказала між іншым:

— Да бацькоў сёння тэлефанавала. Кажуць, што аварыя нейкая ў Чарнобылі адбылася, на станцыі нешта ўзарвалася. І цяпер гарыць, зарыва віднеецца.

Трэба сказаць, што вёска Уласы, у якой жылі нашы бацькі і дзе прайшло дзяцінства, стаяла ледзь не на самай граніцы — кіламетры праз два за ваколіцай пачыналася ўкраінская тэрыторыя, і да Прыпяці — горада энергетыкаў, дзе была размешчана атамная станцыя, адтуль было рукой падаць — напрасткі кіламетраў пяць. У зорныя летнія ночы на поўдні віднеліся зваблівыя агні горада, на якія пацягнуліся ў свой час многія хлопцы і дзяўчаты з нашага сяла.

Не стану маніць: пасля гэтага паведамлення сэрца не ёкала — мы з дзецьмі працягвалі гэтак жа радасна ўбіраць у сябе шчодрае красавіцкае сонца, верачы, што гэта — на здароўе. Толькі падумалася, што, магчыма, неяк узаемазвязана аварыя ў Чарнобылі і тое, што цэлы дзень у строгім парадку на паўднёвы ўсход ляцяць верталёты. Дзеці спачатку радаваліся, махалі ручкамі. А затым перасталі звяртаць увагу, заняліся іншым.

...Назаўтра на рабоце мяне сустрэў гул патрывожанага вулля. У кабінетах рэдакцыі, дзе я ў той час пачынала працаваць карэспандэнтам, у цэхах друкарні, якія знаходзіліся з намі ў адным будынку, на калідорах, на лесвіцах гаварылі толькі пра адно — аварыю ў Чарнобылі. Знаўцы — а такіх знайшлося нямала, сёй-той меў звычку слухаць «галасы», у некага былі сябры, набліжаныя да ўлад, — сцвярджалі, што аварыя адбылася куды больш небяспечная. Называлі нават узроўні радыяцыйнага фону, казалі, што ў мясцінах ля нашай вёскі ён складае больш за рэнтген, ды і ў Хойніках значна павышаны. Праўда гэта ці не, многа гэта ці мала, а галоўнае, як ад усяго гэтага засцерагчыся, ніхто не ведаў. Ад аднаго да другога перадаваўся толькі адзін цудадзейны сродак: каб не нахапацца радыяцыі, трэба піць гарэлку. Многія недаверліва пацiскалі плячыма, некаторыя смяяліся, як з удалага жарту, іншыя ж паспяшаліся «зрабіць прафілактыку».

Усеагульны вірус трывожнай узбуджанасці заразіў і мяне. Стала вельмі страшна, ад усведамлення невядомасці, незразумеласці надыходзячай бяды і арэолу патаемнасці, які яе ахутваў, страх рабіўся проста панічным. Найбольш спужалася за бацькоў — лічылася, што мы ў Хойніках, за цэлых паўсотні кіламетраў ад станцыі, амаль што ў бяспецы. А вось як яны там?

Патэлефанавала ў вёску суседцы. Голас у цёткі Марусі быў таксама ўстрывожаны. Яна расказала, што над вёскай увесь час лятаюць верталёты, садзяцца ў розных месцах, нейкія людзі ў вайсковай форме і ў белым адзенні бяруць нешта ў пакецікі і шкляначкі, але вяскоўцам нічога не кажуць, толькі супакойваюць. Вясковая фельчарка ўсім перадае словы свайго начальства: трэба кіпяціць ваду з калодзежа і малако, а ў астатнім можна не турбавацца. Маці ж да тэлефона цётка Маруся паклікаць не змагла: яна пайшла на агарод перабіваць свежаўзараную

скібу. (Потым гэтыя тры красавіцкія дні, што правяла мама на агародзе з капачкай, вернуцца да яе шматлікімі хваробамі, мноствам аперацый і пакут.)

У той дзень работы, лічы, не было. Усе займаліся тым, што збіралі, перадавалі адзін другому і разам абмяркоўвалі чуткі, якія наталялі інфармацыйны голад з-за поўнай адсутнасці нейкіх паведамленняў, парад, рэкамендацый з афіцыйных крыніц. Не ведаю, чым былі заняты ў тыя дні мясцовыя ўлады, але па радыё, як і раней, спявалі, праводзілі веснавую пасяўную, рапартавалі аб працоўных перамогах да Першамая...

Вечарам прыяцелька, якая працавала ў аптэцы, паведаміла яшчэ адзін сродак прафілактыкі: аказваецца, трэба піць ёд. Для чаго і навошта, было незразумела, але тое, што жонка першага сакратара райкама партыі набрала ў аптэцы цэлую сумку ёдзістых прэпаратаў, пацвярджала дакладнасць інфармацыі. Прыяцелька і нам прынесла дзве бутэлечкі ёдзістага кальцыю, расказала, як яго ўжываць.

Пра тое, што тыя 50 кіламетраў, што аддзяляюць нас ад Чарнобыля, здольны ўратаваць нас ад бяды, ужо не гаварылася. Бяда была побач: яна вісела ў паветры, пагражала ўпасці нам на галовы з цёплым дажджом, ахутвала, забіралася пад адзежу з кожным подыхам ласкавага ветрыку, лезла ў рот і нос з вулічным пылам, падала з неба прамяністым сонечным цяплом. Мы не столькі разумелі, колькі падсвядома адчувалі гэта. А дзеці не хацелі ні разумець, ні адчуваць: яны прасіліся на вуліцу ў пясочак, капрызілі, што іх не пускаюць, не спалі... Пачуццё безвыходнасці і адчаю сцінала сэрца. А яшчэ — віны: небяспека адчувалася амаль фізічна, а як яе пазбегнуць, як уратаваць дзяцей, што рабіць — мы, звычайныя жыхары горада, не ведалі. А тыя, хто ведаў, нам не гаварылі...

30 красавіка патэлефанавала маці і папярэдзіла, каб не ўздумалі прыязджаць на свята. Расказала, што іх па-ранейшаму супакойваюць, быццам няма нічога страшнага, але ўжо забаранілі выганяць кароў на пашу і адправілі людзей з работы. А ў гэты дзень прыехалі забіраць дзяцей-школьнікаў, сказалі, што адправяць у лагер, бо ім у вёсцы знаходзіцца небяспечна. А дарослым параілі не турбавацца, захоўваць спакой і парадак...

Расквечаны сцягамі горад між тым рыхтаваўся да першамайскай святочнай дэманстрацыі (яна, дарэчы, прайшла, як і звычайна, з паказушнай урачыстасцю, з заклікамі ЦК КПСС і крыкамі «Ура!», і многія бацькі вялі за руку, неслі на плячах і нават кацілі ў калясках дзяцей — паглядзець на свята). Але ўжо найбольш дасведчаныя перадавалі адзін другому, што той-сёй з кіраўнікоў раёна вывез сваіх дзяцей з горада — і тым самым было падказана выйсце астатнім. Вечарам на сямейным савеце было вырашана, што трэба і нам некуды ехаць, ратаваць дзяцей. Перабіраючы ў памяці ўсіх родных і блізкіх, вырашылі, што найлепшы варыянт — Жодзіна, дзе жыў мой старэйшы брат. Меркавалася, што гэта ненадоўга, у крайнім выпадку, на некалькі дзён...

Сабраліся за лічаныя гадзіны. Аднак турбавала другое: як пакінуць горад? Аўтастанцыя ў тыя дні нагадвала вакзалы часоў грамадзянскай вайны. І літаральна кожны быў з дзецьмі... Залішне гаварыць, што ні на Мінск, ні на Гомель білетаў не было.

Але тут прапаганда зрабіла нам падарунак: напярэдадні па тэлебачанню быў паказаны рэпартаж, як паспяхова на станцыі ліквідуюцца вынікі аварыі, і людзі, якія прывыклі верыць таму, пра што гавораць па тэлевізару, пайшлі здаваць білеты. Мне пашанцавала: першага мая я з дзецьмі пакінула Хойнікі.

Сёння я думаю: можа, тая інфармацыя аб ёдавай прафілактыцы, якую мы амаль падпольна атрымалі на прыватным узроўні ад суседкі-аптэкаркі, і тое, што своечасова «паддаліся паніцы», і дазволіла пазбегнуць больш сур'ёзных вынікаў, чым маглі б быць? Хоць, зрэшты, хто ведае, чаго мы пазбеглі, а што нас яшчэ чакае...

## 2. ПЕРШЫ МЕСЯЦ

Такім чынам мы амаль праз тыдзень пасля аварыі апынуліся ў Жодзіна — я з двума малымі дзецьмі і мужава сястра з трыма сваімі: ёй не было дзе падзецца, і мы на тым жа сямейным савеце вырашылі, што ў цеснаце, ды не ў крыўдзе. Незадоўга да таго брат атрымаў трохпакаёвую кватэру, і наш «табар» больш-менш прыстойна размясціўся. Але ўсё ж не пакідала пачуццё вінаватасці за тыя дадатковыя клопаты, што ўзніклі ў родзічаў з нашым прыездам, за неспакой, які заўсёды побач з дзецьмі. Суцяшалі сябе тым, што гэта ненадоўга — на тыдзень-два. Напачатку мы цвёрда былі ў гэтым перакананы.

Аднак, чым менш часу заставалася да прымеркаванага дня ад'езду — 9 мая, тым больш сумненняў узнікала. Блокі ў інфармацыйных праграмах, прысвечаныя аварыі ў Чарнобылі, станавіліся ўсё больш працяглымі, а тон іх — усё больш суцяшальным, і гэтая супярэчнасць палохала. Усё атрымлівалася, як у той жартаўлівай загадцы, якую вастрасловы прыдумалі крыху пазней: чаго на Беларусі не было, няма і што ўвесь час памяншаецца? Адказ — радыяцыя.

Куды больш трывожныя навіны паведамлялі ў тэлефонных размовах калегі па рабоце. Яны расказвалі, што з горада і раёна вывезлі ўсіх дзяцей: да трох гадоў — разам з маці, а старэйшых — з дзіцячымі садкамі і школамі. Горад поўны ваенных. Чуткі пра ўплыў радыяцыі на здароўе ходзяць самыя розныя, але афіцыйная інфармацыя, як заўсёды, супакойлівая. Людзі ўжо мала верылі гэтаму, напружанне нарастала з кожным днём.

Больш за ўсё трывожыў лёс бацькоў, ад іх не было ніякіх вестак. Нарэшце, якраз на Вялікдзень, патэлефанавала маці.

— Без вайны вайна, дачушка, — плакала яна ў трубку. — Ці ж мог хто ў самым страшным сне сасніць, што такое раптам зробіцца? Што мы пражылі за гэтыя дні — не расказаць.

Як аказалася, якраз у гэтую перадвелікодную ноч — усяночную, нашу вёску эвакуіравалі. Усю чырвоную суботу людзі замест таго, каб фарбаваць яйкі, пячы пірагі і прыбіраць у хатах, як гэта было заведзена здавён, грузілі на ферме на машыны жывёлу — калгасную, затым сваю — і адпраўлялі яе некуды ў раён. Мама расказвала, што каровы, навязаныя ля агароджы, плакалі — мокрыя ручайкі струменіліся па цёплых пысах, слёзы адвечных сялянскіх карміцелек падалі ў пясок. А людзі, знемагаючы ад стомы, усё гналі іх на машыны...

Толькі позна ўвечары, калі ўся жывёла — не толькі каровы, але і свінні — была адпраўлена, ім дазволілі вярнуцца дамоў, адпачыць. Каб праз дзве гадзіны зноў падняць: па вяскоўцаў прыехалі аўтобусы. З сабой людзям загадалі ўзяць толькі самае неабходнае, бо высялялі іх, як сказалі, на тры дні — праз гэты час абяцалі вярнуць назад. Ды людзі, прадчуваючы горшае, стараліся захапіць з сабой самае каштоўнае. Толькі, якія каштоўнасці ў калгаснікаў? Бацькі, да прыкладу, забралі старую драўляную ікону — памяць яшчэ маёй прабабкі, вышытыя матуляй ручнікі, што-кольвечы з бялізны...

На золку, калі ва ўсіх цэрквах ішло асвячэнне велікодных яек, спакутаваныя ад перажыванняў і невядомасці людзі пакідалі Уласы. Усе былі перакананы, што калі не праз тры дні, то праз тры тыдні ці праз тры месяцы яны абавязкова вернуцца на родныя селішчы. І ніхто не ведаў, што пакідаюць яны сваю родную вёску, дзе большасць лічыла свае карані дзесяткамі пакаленняў, назаўсёды. Некаторыя, вытрабаваўшы пропуск, прыязджалі сюды яшчэ на гадзіну-другую — забраць забыты дакумент ці якую неабходную рэч. А больш за ўсё — для таго, каб развітацца з роднымі магіламі дзядоў-прадзедаў, паглядзець у апошні раз на сваю вёску, родную хату.

І ўжо больш ніколі пасля той злавеснай майскай раніцы над комінамі ўласоўскіх хат не віўся шызы дымок жыцця, не будзілі вясковую ваколіцу пеўні. За нейкую гадзіну вёска памерла. А мы, былыя аднавяскоўцы, як і тысячы іншых такіх жа гаротнікаў, на ўсё жыццё засталіся людзьмі без радзімы, усюды, куды б ні прыехалі, — чужымі сярод сваіх. Наша шырачэнная, парослая мяккім мурагом вуліца, па якой мы, дзеці, так любілі бегаць басанож пасля цёплага летняга дож-

джу; Грэбень і Старынка, адкуль уся вёска насіла кашалямі крамяныя баравікі, толькі іх прызнаючы за грыбы, усё астатняе грэбліва празываючы казлякамі; крутая Байструковая гара (так і засталося загадкай, чаму яна так звалася), з якой мы, малеча, любілі катацца зімой на санках; крынічка, што ратавала нас ад смагі і стомы на доўгай дарозе ад школы дадому — усё гэта засталося толькі ва ўспамінах...

Неяк потым, праз паўтара года пасля аварыі, мне ўдалося наведаць родную вёску. Былі і потым спатканні, але тое, першае, пакінула самае цяжкое ўражанне... Можа таму, што, нягледзячы на ўсе роспаведы пабываўшых там аднавяскоўцаў, я не магла ўявіць, што за нейкі год хаты могуць так пастарэць, пачарнець — як людзі пасля доўгай і цяжкой хваробы, і ўвачавідкі згорбіцца... Вуліца зарасла быльнягом у рост чалавека без усякага знаку на якую-небудзь сцежку, якія некалі пісягавалі яе ўздоўж і ўпоперак. Праз такі ж быльнёг, як праз дрымучы лес, расхінаючы яго рукамі, давялося прабірацца да парога роднай хаты...

А там, у хаце... На стале ў місах — вараная бульба і кіслыя, даўно заплеснявелыя агуркі — рэшткі апошняй вячэры маіх бацькоў. У куце на вешалцы — татава спяцоўка, у якой ён хадзіў на работу, вісіць, чакае гаспадара. На лістку адрыўнога календара чырванее ўсё тая ж майская велікодная раніца 1986 года. А навокал вэрхал, бы ведзьмы тут баль спраўлялі. Усё больш-менш каштоўнае вынесена, усё, што можна разбіць, — разбіта. І россыпам сярод гэтага друзу — фатаграфіі з сямейнага альбома, патаптаныя нечымі бруднымі ботамі, пакамечаныя — застыўшыя імгненні жыцця маёй сям'і. Вось першы здымак маіх бацькоў: яны, непазнавальна маладыя, крыху напружана сядзяць ля сцяны, трымаючы на руках смешнага карапуза ў доўгай кашульцы — майго старэйшага брата... Вось я, малая, на руках у дзядулі — насупленая, захутаная ў вялікую хустку... А вось сястра з сяброўкай — маладыя, прыгожыя, усмешлівыя, бы жывое ўвасабленне юнацтва...

Сабрала найбольш каштоўныя і ацалелыя ад ботаў вандалаў здымкі, паклала ў сумку. Схадзіла на могілкі, пакланілася магілам сваіх дзядоў, бабуль, родзічаў. А вадзіцель ужо сігналіць, прыспешвае...

Такім было маё спатканне з загубленай радзімай. Аднак я зноў забегла наперад.

Тады, у маі 1986-га, мы, бежанцы, вельмі хваляваліся за здароўе, асабліва дзяцей. Чуткі пра магчымыя наступствы хадзілі самыя розныя, аж да таго, што мясцовыя на поўным сур'ёзе цікавіліся, ці не выпадаюць у нас валасы, і стараліся трымацца ад «чарнобыльцаў» падалей — хто яго ведае, маўляў, мо тая радыяцыя заразная. Таму, калі па беларускім тэлебачанні аб'явілі, што ў адной з мінскіх бальніц праводзіцца праверка «на радыяцыю», мы з дзецьмі назаўтра ж паехалі туды.

Чарга на тую праверку стаяла — куды тагачасным знакамітым гарэлачным. І амаль усе з дзецьмі, пад спякотным сонцам, без вады... Але вытрымалі, сяк-так дабраліся да запаветнага кабінета.

Праверка заключалася ў тым, што стомлены чалавек у белым халаце дакранаўся кожнаму да горла з правага бока доўгай бліскучай белай трубкай і адрывіста дыктаваў жанчыне, якая папярэдне запісвала нашы прозвішчы, нейкія лічбы. У нас ён намераў па 100 —110 (чаго — ніхто не ведаў) і дадаў:

— Нармальна ўсё, можаце не хвалявацца.

На гэтым абследаванне закончылася. Пазней мы даведаліся, што такім чынам правяралі ўтрыманне радыеактыўнага ёду ў шчытападобнай залозе і пячонцы, і ў некаторых лічбы, што паказваў прыбор, былі непараўнальна большыя. У маёй маці, напрыклад, якая прыехала да нас крыху пазней, «намералі» гэтага самага невядома чаго ажно тры тысячы, і яе, як і бацьку (яго з крыху меншай дозай), тут жа паклалі ў бальніцу. Праўда, усё лячэнне зводзілася да бясконцых аналізаў і абедаў з марской капусты.

Мяне ж, заўсёды законапаслухмяную грамадзянку, турбавала апроч іншага тое, што я пакінула работу, ніяк не аформіўшы сваю адсутнасць. Пра вяртанне не

сёння-заўтра размова ўжо не ішла, і пры першай жа магчымасці я, пакінуўшы дзяцей, вярнулася ў Хойнікі.

Хаця мінула нейкіх два тыдні з таго часу, як мы паехалі, я з цяжкасцю пазнавала горад. Хоць на тых самых вуліцах стаялі тыя самыя будынкі, і па-ранейшаму быў знаёмы кожны завулак, але не пакідала адчуванне, што гэта чужы горад, не той, у якім я пражыла шэсць гадоў, дзе займела сям'ю, нарадзіла дзяцей, знайшла сяброў. І жыў ён нейкім чужым, незнаёмым мне жыццём. Так бывае, калі ў доме, дзе вы жылі гадамі, пасяляюцца іншыя людзі, і ў тых самых сценах з'яўляюцца новыя парадкі, традыцыі, пахі, гукі. Так і тут: усюды хадзілі зусім чужыя змрочныя, заклапочаныя людзі, не было з кім нават павітацца. На кожным кроку сустракаліся вайскоўцы. Па вуліцах, бы вялікія зялёныя чарапахі, раз'язджалі бэтээры, і на іх ніхто, акрамя мяне, не звяртаў увагі — адчувалася, што людзі даўно прывыклі. Але больш за ўсё ўразіла тое, што зусім не было дзяцей і вельмі мала — маладых жанчын, усё больш сустракаліся людзі сталага ўзросту ды мужчыны. Здавалася, горад за гэтыя два тыдні пастарэў на цэлыя дзесяцігоддзі.

Афарміўшы без асаблівых праблем водпуск, я вярнулася ў Жодзіна. Але чым далей, тым больш мы адчувалі сябе абузай у братавым доме. Тым больш, што тэрмін нашага знаходжання тут станавіўся ўсё больш няпэўным. І разам з тым вяртанне з дзецьмі ў Хойнікі ўяўлялася злачынствам перад імі, перад іх будучыняй.

Сталі шукаць выйсце са становішча, тэлефануючы ўсім сябрам, знаёмым і сябрам знаёмых. Нехта падказаў, што такіх, як мы, неарганізаваных бежанцаў, збіраюць у Хойніках, каб адправіць куды далей. І, развітаўшыся з гасцінным братавым домам, які даў нам прытулак у першыя, самыя цяжкія дні, у канцы мая мы зноў вярнуліся дамоў.

## 3. ЭВАКУАЦЫЯ

Два дні, што правялі мы ў канцы мая ў Хойніках, — увесь час не пакідала адчуванне, што гэта нейкі чужы, не наш горад, — былі прысвечаны зборам у дарогу, у эвакуацыю. Гэтае страшнае слова ваенных часоў тады трывала ўвайшло ў наш лексікон і ўжо нікому не рэзала слых. Увогуле, вайсковая лексіка, ваенная вопратка, баявая тэхніка ў тыя дні былі больш прывычнымі, чым грамадзянскія — і міжволі думалася: як хутка чалавек да ўсяго прыстасоўваецца, нават да бяды...

Я ў гэтыя дні была занята вырашэннем адной галоўнай для мяне праблемы: як ехаць у гэтую эвакуацыю — адной, з двума малымі дзецьмі на руках. Ды яшчэ ж і рэчы трэба ўзяць, для малых іх патрэбна шмат, і ўсе самыя неабходныя, а на які тэрмін нас эвакуіруюць, ніхто не мог сказаць нават прыблізна. Як размеркаваць магчымасці сваіх рук, каб несці малую дачушку, якая толькі-толькі пачала рабіць першыя крокі, узяць за руку двухгадовага сына і рэчы неяк цягнуць? Пра чыю-небудзь дапамогу не было чаго і марыць — муж-будаўнік дзень і ноч прападаў на рабоце і, як і заўсёды, разлічваць можна было толькі на сябе.

На зборным пункце, куды нам сказалі прыйсці раніцай, высветлілася, што такіх, як мы, «бежанцаў-дэзерціраў», у горадзе нямала: школьны двор быў забіты заклапочанымі эвакуантамі, сумнымі праважатымі, дзецьмі самага рознага ўзросту, чамаданамі, сумкамі, каляскамі — ну сапраўдны цыганскі табар! Найбольш уражвалі дзеці — яны за гэты месяц трывогі неяк пасур'ёзнелі, пасталелі, нібы адчувалі подых бяды. Толькі немаўляты нічога не разумелі і, як заўсёды, гучным крыкам паведамлялі, што ім хочацца есці ці час змяніць пялёнкі. Астатнія, як і дарослыя, знаходзіліся пад жахам ценю Чарнобыля. І нават такія малыя, як мае, не сваволілі, не капрызілі і разумелі слова «трэба». Калі я пакідала іх адных каля сумак і загадвала нікуды не адыходзіцца, а сама бегла некуды запісвацца ці адзначацца — а гэта патрэбна было рабіць бясконца, то яны ціхенька стаялі і цярпліва чакалі, пакуль вернецца мама, не адыходзячы ні на крок. У той момант такая іх

самастойнасць радавала, але потым ад гэткай іх заўчаснай «даросласці» хацелася плакаць. І затым ад многіх людзей у «чыстых» зонах даводзілася чуць, што нашы чарнобыльскія дзеці падобны да старых сваімі паводзінамі, недзіцячай сур'ёзнасцю...

Урэшце, пасля некалькіх рэгістрацый і перарэгістрацый падалі аўтобусы. Іх было шмат, і калі калона рушыла з месца, відовішча атрымалася ўнушальнае: легкавікі з суправаджаючымі адказнымі асобамі і ДАІ, уазікі «хуткай дапамогі», дзесяткі аўтобусаў... Пажылыя жанчыны, што стаялі ўзбоч дарогі, самотна глядзелі ўслед, махалі рукамі, плакалі — па нас ці па сваіх дзецях і ўнуках, што недзе гэтак жа воляй лёсу бадзяліся па свеце, ратуючыся ад нікому да таго часу невядомай радыяцыі...

Нас прывезлі на невялікую станцыю Касцюкоўка, што пад Гомелем. Гадзіны праз дзве чакання — спякота, няма дзе ні прысесці, ні пераапрануць дзіця, не кажучы ўжо пра нейкае там харчаванне — падалі спецыяльны цягнік. Яшчэ гадзіны праз паўтары, ужо надвячоркам, ён урэшце адправіўся. Куды нас вязуць, ніхто не ведаў — толькі прайшла чутка, што некуды на Віцебшчыну. Да месца прызначэння ехалі амаль паўтара сутак. За дарогу ўсе — і дарослыя, і дзеці — стаміліся неверагодна. Горш за ўсё было тое, што ў нясцерпнай духаце вагона вельмі хутка сапсаваліся ўсе прадукты, якія мы бралі з дому, скончылася і вада. Дзеці плакалі, прасілі есці і піць. Цяжэй за ўсіх было «грудначкам», якія знаходзіліся на штучным кармленні; — тыя сумесі, малако, кампоты, што бралі з сабой іх бедныя мацяркі, пракіслі яшчэ ў Касцюкоўцы, а даць ім у рукі звычайны кавалак хлеба, як мы, яны не маглі. Таму паілі сваіх галодных дзетак простай вадой — цёплай, не вельмі чыстай, нясмачнай, якая танюсенькім струменьчыкам цякла з крана ў вагоне. І малілі Бога, каб гэтае пакутлівае падарожжа хутчэй скончылася.

Калі, нарэшце, аб'явілі, што мы прыехалі, уздых аблягчэння быў усеагульным. Цягнік, мінуўшы Віцебск, спыніўся на невялікай станцыі Лётцы. Там нас ужо чакалі аўтобусы, хоць да санаторыя з аднайменнай назвай, дзе нас павінны былі размясціць, было не больш кіламетра. Тут, на пероне станцыі, мы ўпершыню за ўсю дарогу адчулі шчыры, непадробны, не дзеля справаздачы, клопат, сапраўдную ўвагу і спачуванне — і гэта кранала да слёз. Нас сустракаў увесь абслугоўваючы персанал санаторыя — ад урачоў да санітарак, нам дапамагалі несці дзяцей і рэчы. У самім санаторыі зноў жа дапамаглі дабрацца да карпусоў, размясцілі па нумарах — кожнай сям'і асобны, накармілі смачным гарачым абедам, усіх наведаў урач, пацікавіўся самаадчуваннем, хворых — а за час дарогі многія падхапілі розныя кішэчныя інфекцыі — шпіталізавалі. І толькі потым персанал заняўся тым, з чаго звычайна пачынаецца засяленне ў любы санаторый, — афармленнем дакументаў, ды і тое рабілася для нашай зручнасці прама ў нумарах. Дарэчы, і потым, на працягу трох месяцаў, калі санаторый «Лётцы» быў, па сутнасці, нашым домам, мы адчувалі такую ж увагу, хоць такія клопатныя пацыенты, як мы, з ватагай дзяцей самага рознага ўзросту, наўрад ці прыносілі многа радасці.

Санаторый «Лётцы» знаходзіцца непадалёк ад Віцебска, у прыгожым сасновым бары, на беразе маляўнічага возера. Мясціны рэдкай прыгажосці, і адпачываць там, мусіць, адна асалода. Нам таксама жылося нядрэнна: утульна размясціліся ў зручных нумарах са ўсімі выгодамі, нас сытна і смачна кармілі, хто меў патрэбу і магчымасць — прымаў лячэнне. Але адпачынку не было — перш за ўсё таму, што не было душэўнага спакою. Сэрца грызла, як іржа жалеза, безупынная трывога. За бацькоў, якіх выселілі ў Рагачоўскі раён, дзе яны, пакуль будавалі для іх дамы, жылі кватарантамі ў чужых людзей. За дзяцей, якія сумавалі па татку, і ў тыя рэдкія хвіліны, калі ён, раз у месяц вырваўшыся на дзянёк, прыязджаў да нас, не злазілі з рук. А больш за ўсё — за нашу будучыню. Было ўжо зразумела, што радыяцыя — гэта надоўга, магчыма, назаўсёды. Што будзе з намі? Ці зможам мы калі-небудзь вярнуцца дамоў? І як будзем жыць, калі дазволяць вярнуцца? А што рабіць у тым выпадку, калі дарогі назад не будзе? Пытанні не давалі спакою, і адказу на іх не было.

Бестурботнае, камфортнае санаторнае жыццё за тры месяцы абрыдла, як турма. Часта касілі газоны, і калі водар падвяленай травы запаўняў усю прастору — і душу, марылася, як пра самае запаветнае: цяпер бы да бацькоў, у вёску, на пакос — каб ламала спіну ад стомы і не чуваць было рук. Рабілiся вусцішна ад думкі, што родная вёска за калючым дротам, пакінутая ўсімі, і ніхто не косіць на паплавах духмянага разнатраўя. Смаката ў сталоўцы ўжо не лезла ў рот, і хацелася звычайнай маладой бульбы з кропам ці румянага драніка — іх, дарэчы, купіўшы ў складчыну электраплітку і з'ездзіўшы ў Віцебск на рынак за ўсім неабходным, мы прылаўчыліся варыць і пячы прама ў нумарах, рызыкуючы нарвацца на гнеў начальства.

Калі ў апошнія дні жніўня паведамілі, што мы вяртаемся дамоў, у Хойнікі, цяжка сказаць, якое адчуванне было мацнейшым: страх перад тым, што нас там чакае, ці радасць, што мы нарэшце зноў будзем жыць у сваёй хаце, усёй сям'ёй. Хутчэй, апошняе, бо шчыра верылася: калі дзяцей вяртаюць, значыць небяспекі для іх здароўя няма. І ўсё, ці амаль усё — бо цяпло ў бацькоўскую хату ва Уласах ужо не вярнуць ніколі — будзе як раней, да Чарнобыля...

## 4. ПЕРШЫ ГОД І ГАДЫ ПАСЛЯ

Родны горад за гэты час прыкметна пацішэў. Зніклі з яго вуліц бэтээры, хоць вайскоўцаў і людзей у міліцэйскай форме па-ранейшаму заставалася шмат. Але галоўнае — паспакайнелі самі жыхары. Напэўна, уступілі ў дзеянне ахоўныя сілы чалавечага арганізма — немагчыма ж увесь час знаходзіцца ў пастаяннай трывозе. Ды і супакойвалі нас увесь гэты час вельмі ўмела, пачынаючы з мясцовых чыноўнікаў і заканчваючы медыцынскімі свяцiламі з сусветнымі імёнамі. Немалаважным было і тое, што дзяцей пасля трох месяцаў санаторна-лагернага жыцця вярнулі дамоў. Дзеці на вуліцах — гарант таго, што ў горадзе можна жыць, што ў яго ёсць будучыня.

Як жылі мы тады? Нельга сказаць, што пасля вяртання з эвакуацыі наш лад жыцця карэнным чынам змяніўся. Так, былі ў ім нейкія новыя моманты — напрыклад, забаранялася ўжываць у ежу малако і малочныя прадукты ад уласных кароў без папярэдняй праверкі, а таксама грыбы, ягады, гародніну, садавіну. Праверка тая праводзілася ў мясцовай санстанцыі і ў ветэрынарнай лабараторыі. Але яна мела хутчэй псіхалагічнае значэнне, чым сапраўды магла даць адказ на пытанне, наколькі чыстыя прадукты мы ўжываем. Па-першае, таму, што больш года на забруджаных тэрыторыях дзейнічалі так званыя «часова дапушчальныя ўзроўні забруджання», якія шматразова перавышалі існаваўшыя да аварыі нарматывы. Па-другое, кожны ўдой малака і кожную бульбіну занесці на праверку было проста немагчыма, а колькі і чаго насыпана і пад якім кустом, ніхто не ведаў. Па-трэцяе, існуючыя недасканалыя прыборы правяралі толькі наяўнасць радыеактыўнага цэзію, усе астатнія элементы быццам і не ляжалі ў нашай зямлі. Таму, адмовіўшыся ад ужывання прадуктаў, якія мелі ўласцівасць найбольш забруджвацца, — малака, рачной рыбы, лясных ягад і грыбоў, усё астатняе мы ўжывалі сваё ўласнае, зрабіўшы дзеля заспакаення адну-дзве праверкі (а сёння мясцовыя жыхары і тых ужо не робяць, і рыбу ловяць, і грыбы збіраюць). Большасць жыхароў раёна, як і раней, садзілі свае агародзікі, трымалі парсюкоў, курэй. Хоць страх заўсёды прысутнічаў недзе ў падсвядомасці. Не-не, ды і падумаеш: а што, цікава, я падчапіў на відэлец з гэтым апетытным кавалачкам мяса?

Але нават большым за страх было жаданне паспытаць тое, што ўжываць забаранялася, — мне здавалася, што нічога смачней смажаных сыраежак у свеце не існуе. Памятаю, неяк муж, заўзяты грыбнік, прывёз, крыху разгублены, дахаты кош баравікоў: рабі, кажа, з імі што хочаш, але я ўтрымацца не змог... Я таксама не змагла: перабрала грыбы, адварыла і падсмажыла. А затым мы ўпотайкі ад дзяцей, каб яны таксама не сталі прасіць, як злодзеі, з неапісальнай асалодай елі тыя грыбы, махнуўшы рукой на магчымую небяспеку...

З цягам часу і дзяцей перасталі ўвесь час трымаць «пад замком». Ну сапраўды, колькі можна не выпускаць іх на вуліцу? Дзень, тыдзень, месяц? Але ж не гады... Мы супакойвалі сябе тым, што невядома, што можа прынесці ім большую шкоду. І таму дзеткі ў пясочку, дзеткі на травічцы — гэты малюнак ужо нікога не шакіраваў, акрамя, можа, камандзіраваных у горад урачоў і іншых спецыялістаў — тады іх прыязджала да нас шмат, сённяшніх уладальнікаў пасведчанняў «ліквідатараў аварыі» — кожны са сваімі прадуктамі і нават вадой у тэрмасах, якія глядзелі на нас, хайнічан, як на закладнікаў лёсу.

Раён між тым жыў сваім звыклым жыццём. За выключэннем тых шасці гаспадарак, якія былі ліквідаваны ў першы ж год у сувязі з эвакуацыяй жыхароў. У астатніх усё гэтак жа сеялі, убіралі, даглядалі жывёлу. Пры зручным выпадку прыхоплівалі нешта і з тых, пакінутых калгасаў і саўгасаў. Я ўжо не кажу пра тэхніку, матэрыяльныя каштоўнасці — усе яны былі вывезены амаль адразу. Але было і тое, што за калючы дрот ездзілі нарыхтоўваць кармы. Было ў раёне ўрочышча Майдан, якое апынулася ў зоне адсялення. Шматгектарную плошчу яго займалі сеяныя травы. У 1987 годзе вымахалі яны ў пояс. Майдан падзялілі на ўчасткі паміж калгасамі і нарыхтоўвалі там сена. Пра мэтазгоднасць такога мерапрыемства ніхто не гаварыў, ва ўсялякім выпадку, услых. Наадварот, прадстаўлялі касавіцу геройствам. Затым туды ж, на Майдан, вазілі ўдзельнікаў таго «зялёнага жніва» — ушаноўваць перадавікоў. Я была добра знаёмая з адным з тых герояў — гэта мой былы аднавяскоўвец Пятро Лагвіненка. На жаль, ужо нябожчык — яму толькі паспела пераваліць за 60, як за лічаныя дні чалавека «з'еў» рак лёгкіх. Ды і ўвогуле, маіх аднавяскоўцаў ужо больш на тым, чым на гэтым свеце... Прычым адыходзяць, як правіла, тыя, каму б яшчэ жыць ды жыць. І ні ў кога заўчасная смерць не звязвалася з наступствамі аварыі...

Многа ў тыя гады будавалі — і ў саміх Хойніках, і па раёне. Жыллё ўзводзілі будаўнікі з усёй рэспублікі. Па маіх недакладных падліках, больш як 300 дамоў вырасла ў тыя паслячарнобыльскія гады ў вёсках раёна. Практычна на кожнай цэнтральнай сядзібе гаспадаркі з'явіліся новыя пасёлкі з адна-, двухкватэрных домікаў, часта ў тых самых вёсках, якія затым давялося адсяляць...

Час ад часу прыязджалі да нас брыгады мінскіх ці гомельскіх урачоў, якія праводзілі абследаванне пераважна дзяцей. Але складвалася ўражанне, што медыкаў больш турбуе збор інфармацыі, чым стан здароўя, бо ніякіх рэкамендацый мы ад іх не чулі. Дзеці ж хварэлі — быццам і не вельмі сур'ёзна, але доўга і цяжка. Здаралася, што звычайную прастуду немагчыма было вылечыць месяцамі, нішто яе не брала — ні медыкаменты, ні сродкі народнай медыцыны. Ды і лячыць не было каму: урачы як найбольш дасведчаныя людзі паспяшаліся з'ехаць адсюль яшчэ ў першыя дні пасля аварыі, а да нас прыязджалі камандзіраваныя лекары, якіх турбавала толькі адно: хутчэй бы адсюль вырвацца. Здаралася, што пабываўшы за тыдзень тры разы на прыёме, кожны раз трапляў да новага ўрача. Якое ўжо тут лячэнне!

Нечакана чарнобыльская аварыя спарадзіла яшчэ адну праблему, быццам бы не першачарговую, але на самой справе вельмі важную: выхавання. Памятаю роспачнае пісьмо ў рэдакцыю раённай газеты аднаго з бацькоў, які прасіў параіць, як яму ў гэтых умовах выхоўваць дзяцей. «Раней, — пісаў ён, — я ведаў, што аснова любога выхавання — гэта праца, і дзеці былі разам са мной і ў полі, і ў лесе, і ў лузе. Цяпер на ўсім гэтым ляжыць забарона. І я не ведаю, як іх выхоўваць, як растлумачыць, што кветка, дрэва, вада ў ручаіне, уся прырода для нас цяпер — вораг». Сапраўды, на нашых дзяцей, вымушаных большую частку дня знаходзіцца ў памяшканні, хваравіта-бледных, балюча было глядзець. Яны нагадвалі бутоны кветак, якія сталі вянуць, не паспеўшы раскрыцца.

У пачатку 1989 года, амаль праз тры гады пасля аварыі, хваля галоснасці дакацілася зваротна і да красавіцкіх падзей 1986-га. І тая лухта, пад якой, нібы пад ледзяным панцырам, хаваліся звесткі пра маштабы аварыі і ўплыў яе наступстваў на людзей, затрашчала, як счарнелы веснавы лёд на быстрай рацэ. Многае тады адкрылася ўпершыню. Упершыню абнародавалі карты забруджанасці тэрыторый, і аказалася, што яны куды большыя, чым меркавалася і гаварылася. Упер-

шыню надрукавалі статыстыку захворванняў, і высветлілася, што яна ў некалькі разоў большая, чым дааварыйная, гэтак жа, як і прыроджаная паталогія. Упершыню нашых дзяцей павезлі на абследаванне ў рэспубліканскі навукова-даследчы інстытут радыяцыйнай медыцыны, і адтуль амаль ніхто, за рэдкім выключэннем, не вяртаўся з радаснай усмешкай: «Здаровы!» Думка аб пераездзе ў чыстую зону, як вірус, захапіла ўсіх: толькі і размоў было, хто куды выехаў ці збіраецца.

На гэтай агульнай хвалі пераезднай ліхаманкі пакінулі Хойнікі і мы, змянілі месца жыхарства на Астравец Гродзенскай вобласці. Неўзабаве сюды ж пераехалі, паматаўшыся па свеце, і бацькі.

Тут мы ўжо больш за дзесяць гадоў. Выраслі і паехалі вучыцца ў Мінск дзеці — для іх Астравец ужо стаў радзімай. З'явіліся і ў нас новыя сябры і суседзі, многія, дарэчы, таксама хайнічане — нас прыехала сюды больш за сто сямей. Цяпер, праўда, засталося менш — некаторыя не абвыкліся: вярнуліся назад ці падаліся шукаць шчасця ў іншае месца. Ёсць любімая работа, якая прыносіць маральнае задавальненне і павагу людзей. Ёсць дах над галавой. І галоўнае — тое, чаго мы былі пазбаўлены ў паслячарнобыльскіх Хойніках, — еднасць з прыродай, магчымасць пайсці ў лес, набраць грыбоў, пахадзіць басанож па траве без страху. Якое гэта вялікае шчасце, можна зразумець толькі, страціўшы ўсё гэта.

І ўсё ж шчыміць балючай стрэмкай у сэрцы ўспамін аб Бацькаўшчыне, аб роднай зямлі. І нельга пазбавіцца думкі: за што, за чые і якія грахі нясуць пакаранне тысячы ні ў чым не вінаватых людзей, выгнаннікаў са сваёй радзімы?



*КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА*

ВАЛЕРЫ МАКСІМОВІЧ

***Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь завяршае працу над шматтомнай «Гісторыяй беларускай літаратуры XX стагоддзя». Па сваёй глыбіннай сутнасці гэтае выданне, якое стваралася вялікім калектывам таленавітых, вядомых не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі вучоных, стане сур'ёзным абагульняючым даследаваннем літаратурнага працэсу мінулага стагоддзя, у якім улічаны і па-новаму асэнсаваны літаратуразнаўчыя набыткі цэлай эпохі. Не засталіся па-за ўвагаю і асобныя, раней не даследаваныя літаратурныя з'явы і творчыя постаці.***

***Часопіс «Полымя», шчыра вітаючы з'яўленне фундаментальнай працы беларускіх літаратуразнаўцаў, распачынае гаворку пра першы том новага выдання і спадзяецца, што ўдзел у далейшым абмеркаванні прымуць усе, хто зацікаўлены ў развіцці роднай літаратуры.***

*Ад рэдакцыі*

# ПА ШЛЯХУ АБНАЎЛЕННЯ

## *(РАЗВАГІ З НАГОДЫ ВЫХАДУ ПЕРШАГА ТОМА «ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XX СТАГОДДЗЯ»)*

Беларуская літаратуразнаўчая навука і ў цяперашні няпросты час рупіцца зрабіць свой унёсак у працэс пераацэнкі, канцэптуальнага пераасэнсавання фундаментальных асноў нацыянальнай літаратуры, культурных феноменаў на аснове новых метадалагічных прынцыпаў і з улікам новых каштоўнасных арыентацый. З вострым адчуваннем аб'ектыўнай неабходнасці істотнай карэкцыі, ідэйна-эстэтычнага і філасофскага ўдакладнення і абагульнення набытага гістарычнага вопыту сучасныя навукоўцы ў адпаведнасці з падвышаным узроўнем гуманітарнай навукі паступова выпрацоўваюць даволі зладжаную канцэпцыю нацыянальнага культурнага быцця, у якой выключна важная роля адводзіцца літаратуры як незаменнаму чынніку працэсу сцвярджэння гуманістычных арыенціраў грамадства. Патрэба новых падыходаў абумоўлена тым, што ранейшыя ацэнкі, у многім залежныя ад ідэалагічна-вульгарызатарскай і дагматычна-сацыялагічнай дактрыны, у абсягах ацэнак мастацкіх з'яў далёка не заўсёды адпавядалі эстэтычным крытэрыям, а канкрэтна-гістарычны падыход часта падмяняўся валюнтарысцкім, партыйна-класавым. Новая сацыякультурная сітуацыя актывізавала пошукавы характар навукова-даследчай думкі, выклікала да жыцця літаратуразнаўства, свабоднае ад догмаў і прадпісанняў, што дазволіла па-новаму падысці да асвятлення гісторыі літаратуры, да карэкцыі ацэнак і высноў, дачыненых да розных з'яў літаратурнага працэсу. У ацэначную аснову закладзены найперш агульначалавечыя маральныя і духоўныя каштоўнасці ў іх дыялектычнай і дыялагічнай сувязі з сацыякультурнымі, канцэптуальнымі і эстэтычнымі параметрамі.

Фундаментальнае навуковае даследаванне, якім насамрэч з'яўляецца акадэмічная гісторыя нацыянальнай літаратуры, прадугледжвае мэту канцэптуальнага асэнсавання

гістарычнага працэсу развіцця нацыянальнай мастацкай творчасці на працягу ўсяго XX ст.

Першы том даследавання, прынамсі, прысвечаны разгляду літаратурнага руху пачатку XX ст. і ахоплівае літаратурны працэс 1901—1920 гадоў. Вылучэнне адзначанага перыяду як асобнага этапу развіцця літаратуры дастаткова правамернае і мэтазгоднае. Пачатак XX ст. склаў самастойны адрэзак гісторыі беларускай літаратуры з яе ўнутранай цэласнасцю і завершанасцю, у чым пераконваюць шматлікія манаграфічныя раздзелы, прысвечаныя разгляду творчасці пісьменнікаў-нашаніўцаў. За кароткі час літаратура нашаніўскага перыяду змагла вылучыць яркія творчыя індывідуальнасці, стварыць неперайзыдзеныя класічныя ўзоры мастацтва, падняцца да ўзроўню высокаразвітых літаратур і актыўна ўключыцца ў сусветны літаратурны працэс. Эпоха «адраджанізму» (А. Бабарэка) сапраўды была дастаткова багатай на выдатныя літаратурныя знаходкі, што асабліва яскрава выявілася ў характары асэнсавання жыццёвага матэрыялу, у разнастайнасці і шматмернасці падыходаў пры вырашэнні найбольш важных мастацка-эстэтычных задач, што вынікалі з рэальнага жыцця і духоўных запатрабаванняў часу. Якасныя змены ў літаратуры наўпрост былі звязаны з ростам нацыянальнай свядомасці, з праблемай гістарычнага, прававога, сацыяльнага быцця беларускага народа, яго імкненнем да роўнасці, свабоды і незалежнасці.

Такой стракатасці падыходаў і кірункаў, метадаў і стыляў, бадай, не спазнала ні адна эпоха развіцця беларускай літаратуры. Таму і не дзіўна, што ў творах гэтага часу можна сустрэць бясконцую разнастайнасць тэм, праблем, герояў, што лішні раз сведчыць пра непадобнасць індывідуальных творчых манер пісьменнікаў, своеасаблівасць трансфармацыі матэрыялу, розныя погляды на адну і тую ж праблему.

У «Гісторыі...», прынамсі, слушна падкрэсліваецца, што новы этап развіцця мастацкай творчасці з яе ўзмоцненым нацыянальным пафасам патрабаваў больш шырокай філасофскай базы для свайго ўвасаблення і пэўнай, выкліканай новым часам, карэкціроўкі ў сферы ведаў і ўяўленняў. Не толькі ўласнанацыянальныя, але і агульнакультурныя стэрэатыпы ў новым кантэксце набывалі адрозную функцыю, напаўняліся іншым зместам, што адпавядаў логіцы развіцця маладой культурнай традыцыі, станавіліся важнымі складнікамі духоўнага свету народа. Творчасць Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, М. Гарэцкага, іншых пісьменнікаў пачатку XX ст. яскрава засведчыла працэс трансфармацыі ідэйных і творчых прынцыпаў папярэднікаў, выявіўшы пры гэтым шматвектарнасць новых эстэтычных пошукаў. «Аб чым бы ні пісалі гэтыя аўтары, якія б тэмы, сюжэты, матывы ні гучалі ў іх творах, яны ішлі ад змен у жыцці, ад усеагульнага духоўнага ўздыму і прасвятлення і былі накіраваны на тое, каб прывесці традыцыйную сістэму поглядаў і ўяўленняў у адпаведнасць з новымі ўмовамі гістарычнай рэальнасці», — адзначаецца на старонках выдання.

Славеснасць ўвогуле стала той галіной, у абсягах якой выпрацоўваліся першаасновы новай культурнай свядомасці, формы культуралагічнай рэфлексіі аб уласным — нацыянальным — свеце, ідэі культурнай і ідэалагічнай аўтаноміі. Ужо ў літаратуры другой паловы XIX ст. усё больш сталі праясняцца пачаткі асноўнага магістральнага шляху, які заклаў цвёрды падмурак нацыянальнай традыцыі: імкненне ўсвядоміць сябе як асобны самастойны свет, жаданне не толькі асвойтацца ў чужых культурных кантэкстах, але і выпрацаваць свае адносіны да іх, іншымі словамі — самавызначыцца, раскрыць сваю «самасць», знайсці асновы творчай самастойнасці.

Працэс усведамлення сябе як адрознай культурна-духоўнай аўтаноміі ўступіў у новую фазу з пачатку XX ст. разам з узрастаннем агульнай тэндэнцыі да этнакультурнай дыферэнцыяцыі, калі з'явіўся гістарычны шанц нарэшце спраўдзіць сябе як нацыю. Пад уплывам новых прыярытэтаў у культурнай свядомасці пачала складвацца нацыянальная культуралагічная праграма дзеянняў, дзе пануючае становішча заняла субстратная ідэя — ідэя прапаганды народнай культуры, шанаванне мовы, развіццё ўласных нацыянальных формаў пры адначасным прызнанні факта знешніх уплываў і ўздзеянняў. Да назапашанага фонду мастацкіх мадэляў (сентыменталізм, рамантызм, рэалізм) дабаўляецца натуралізм і неакласіцызм, вопыт мадэрнісцкай, сімвалісцкай паэзіі. Але нераўнамернасць і неадэкватнасць развіцця беларускай літаратуры, у адрозненне ад высокаразвітых еўрапейскіх літаратур, мае свае асаблівасці: калі ў апошніх мастацка-эстэтычныя новаўвядзенні выходзяць на пярэдні край, адцясняючы ўстарэлыя эмпірыка-этнаграфічныя комплексы ці зусім ігнаруючы іх, то ў межах уласна беларускай нацыянальнай традыцыі ўзгаданыя з'явы становяцца фактам літаратурнага жыцця, дзейнічаюць у большай меры «неўсвядомлена», на ўзроўні мастацкага абсалюту, істотна дыфузіруюць у рэгіянальную

спецыфіку. Працэс уваходжання літаратуры ў «сілавое поле» транснацыянальных культур адбываўся нязмушана, паступова, гатовы актуалізавацца ў любы момант. Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што менавіта з гэтага часу літаратура ўступіла на шлях паўнакроўнага, самадастатковага развіцця згодна з законамі ўласнага ўнутранага самаруху і ў адпаведнасці з вызначальнымі тэндэнцыямі агульнага пераструктуравання мастацкага мыслення, што ў роўнай ступені вылучае ўсю сусветную літаратуру эпохі пералому стагоддзяў.

У гэтай сувязі на старонках акадэмічнага выдання правільна заўважана, што «бурны працэс абуджэння нацыянальнай свядомасці, уздым і росквіт нацыянальнай літаратуры патрабавалі кансалідацыі грамадскіх і творчых сіл, выпрацоўкі агульнай метадалагічнай асновы мастацкай творчасці, якая абапіралася б на папярэдні сацыяльна-гістарычны і мастацкі вопыт». Агульнай метадалагічнай асновай літаратурнай творчасці варта прызнаць шматузроўневасць і шматлінейнасць літаратурнага працэсу пачатку XX ст., яго надзвычай разгалінаваную сістэму эстэтычных каардынатаў, раўнацэнную значнасць у працэсе жанрава-стылявой функцыянальнасці мастацкіх кірункаў і плыняў. Таму нельга пагадзіцца з тым меркаваннем, што базіснай асновай для паэзіі гэтага часу «стаў сентыменталізм у яго спецыяльным нацыянальным увасабленні».

З улікам паскоранага характару развіцця беларускай літаратуры пачатку XX ст., дыялектыкі і дынамікі літаратурных працэсаў цяжка ўвогуле гаварыць пра ідэнтыфікаваную адаптацыю літаратурна-мастацкіх кірункаў і плыняў у межах беларускай культурнай прасторы, пра наданне ім « кананічнага статусу». Хутчэй за ўсё мэтазгодна прызнаць наяўнасць пэўных *формаўтваральных мадэляў,* у якіх пераламіліся характэрныя эстэтычныя дамінанты асобных кірункаў і плыняў. Пра неарамантызм, неакласіцызм, сімвалізм, імпрэсіянізм, акмеізм, экспрэсіянізм, той жа сентыменталізм мы не можам гаварыць — у дачыненні да беларускай літаратуры пачатку XX ст. — як аб самастойных эстэтычных сістэмах: размова ідзе пра наяўнасць асобных, прыватных іх элементаў, рыс, узроўняў як праявы той універсальнай сінтэзуючай тэндэнцыі, што складала ядро нацыянальнага культурнага працэсу на Беларусі ў розныя часы.

Мы прытрымліваемся думкі, што ў структуры адносін сентыменталізму, рамантызму, рэалізму і мадэрнізму, якія склаліся ў беларускай літаратуры пачатку XX ст., ні адзін з кірункаў не супрацьстаяў іншым: яны не мелі строга акрэсленых межаў, валодалі раўнацэннай значнасцю ў працэсе жанрава-стылявой функцыянальнасці. Ва ўмовах выпрацоўкі агульнай метадалагічнай асновы мастацкай творчасці, якая абапіралася на розныя эстэтычныя ўзроўні і палі, эфектыўным станавіўся прынцып узаемадапаўнення. Кожны з напрамкаў выконваў пэўную функцыю ў мастацкім пазнанні свету. У адпаведнасці з духам новага часу літаратура вырашала свае задачы, пакладаючыся на свае ўласныя ўнутраныя патэнцыі і прыняўшы ў сваю арбіту розныя мастацкія прынцыпы адлюстравання жыцця. Важна ўказаць на адсутнасць фактару супрацьстаяння апазіцыйных літаратурных « кодаў», якія імкнуцца не да адасобленасці, жанрава-стылявой ізаляцыі, а да згарманізаванасці, упарадкаванасці шляхам пераразмеркавання сваёй унутранай структуры ў межах адпаведнай субсістэмы. Вось чаму не такімі істотнымі, відавочнымі заставаліся адрозненні, прыкладам, паміж неарамантыкамі і рэалістамі — ядро іх паэтыкі складалі традыцыйныя жанры, стылістыка і вобразнасць у паказе беларускага мужыка, беларускай прыроды, грамадска-сацыяльных умоў жыцця. Магчыма, у дадзеным выпадку размова павінна ісці пра з'яву творчага сінкрэтызму, пошук *уласных метадаў даследавання* нацыянальнай рэчаіснасці. Літаратура як бы навёрствае ўпушчанае шляхам асіміляцыі даступнага новага вопыту, а індывідуальна-светапоглядныя асаблівасці творцаў абумоўліваюць і індывідуальныя формы такога сінкрэтызму.

На наш погляд, менавіта ў эстэтыцы мадэрнізму, яго нацыянальнай версіі, адбывалася свядомае прызнанне адзінства гістарычных і агульначалавечых каштоўнасцей. Пры гэтым паэзія, як правільна падкрэсліваецца, аказалася жанрам больш дынамічным, мабільным, які адпавядаў агульнай панараме і дынаміцы грамадска-культурнага развіцця і быў найбольш адэкватным спосабам выражэння суб'ектыўна-асобаснага пачатку.

Нельга адмовіць і слушнасць сцверджэння таго факта, што менавіта беларуская паэзія пачатку XX ст. «вызначыла шляхі фарміравання нацыянальнай свядомасці ў беларускай літаратуры, руху да вышэйшай фазы — нацыянальнай ідэі». Сапраўды, выключнай у еўрапейскай літаратуры пачатку XX ст. падаецца тая сітуацыя, калі *ідэя нацыянальнага адраджэння* выступае як факт мастацкай структуры, як яе і светапоглядная і ўласна мастацка-эстэтычная дамінанта. *Нацыянальнай ідэі* падпарадкаваны ўсе ўзроўні вобразнай і стылявой сістэмы твора, пад яе вуглом разглядаецца вартасць і значымасць тых або

іншых эстэтычных катэгорый. З прычыны гэтага феномен адраджэння набывае небывала маштабную зону свайго праяўлення, універсалізуецца. Ён паўстае ў трох вызначальна-істотных іпастасях: светапоглядна-эстэтычнай, сусветна універсальнай і ўласнанацыянальнай. Бясспрэчна адно: у беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя вызначальная роля належала ідэйнаму аспекту. У. М. Казбярук у гэтай сувязі слушна заўважае: «Галоўнымі для пісьменнікаў станавіліся пошукі грамадскіх ідэалаў. А якую форму набывалі аўтарскія ідэі — рамантычную, рэалістычную або нават мадэрнісцкую, — не мела рашаючага значэння»[1].

Працэс трансфармацыі вопыту больш сталых літаратур у межах культурнай прасторы Беларусі насіў канструктыўны, пазітыўны характар, станоўча ўплываў на гістарызм эстэтычнага адчування і стаў запарукаю ўваходжання маладога беларускага прыгожага пісьменства ў шырокі сусветны кантэкст. Увогуле ж у беларускай культуралагічнай думцы пераважаў прынцып эклектызму, што вызначала асаблівасць бытавання беларускай культуры на працягу ўсёй яе гісторыі. Эклектызм выцякае з агульнай гістарычнай прадвызначанасці нацыі, якой даводзілася жыць у атачэнні шматлікіх філасофска-эстэтычных дактрын, знаходзіць сілы не згубіцца ў іх, унутрана ім супрацьстаяць і сярод мноства іншароднага элементу шукаць свой уласны шлях — аптымальную форму духоўнага бытавання. Пазбаўленая магчымасці пісьмовай фіксацыі і забяспечанасці прызнання, аховы на дзяржаўным узроўні сваіх светапоглядных дактрын нацыя вымушана была абачліва дастасоўваць да сваіх уласных патрэб існуючае ў наяўнасці — сваё і чужое, сыходзячы з прынцыпаў мэтазгоднасці і практычнай утылітарнасці, пакладаючыся на здаровы інстынкт і здаровы сэнс. Важна падкрэсліць той факт, што рэалізацыя прынцыпа «эклектычнасці» праходзіла таксама выбіральна, з улікам эстэтычных патрэб мастацтва, уласнага вопыту і нацыянальнай спецыфікі літаратуры. Гэтую асаблівасць можна з поўным правам аднесці не толькі да «філасофіі» і «эстэтыкі» беларускага мадэрнізму, але і да ўсяго механізму культурастваральных працэсаў.

Як сведчанне далучанасці да адзінай цывілізацыйнай прасторы расцэньваецца фактар адкрытасці культур і літаратур, тэндэнцыя да ахоплівання ўсіх сфер грамадскай свядомасці, да задзейнічання розных спосабаў мыслення, што спрыяла іх узаемаўзбагачэнню, скіроўвала на шлях універсалізацыі праз далучэнне да ўсяго багацця агульначалавечай культуры. Генетычную аснову мастацкай карціны свету складаў нацыянальны субстрат (архетыпы, канцэпты, маркеры), што набываў адценне універсальнай культурнай усеагульнасці з прычыны таго, што ў беларускай культуры (літаратуры), у адрозненне ад « энцыклапедычнай» універсальнасці еўрапейскай культуры, своеасаблівым « рэпрэзентуючым сродкам» універсалізацыі станавілася тая ж нацыянальная ідэя, якая звязвала ў адно асобныя феномены нацыянальнай карціны свету. Нацыянальнае прызнавалася кангеніяльным універсальнаму ў тым сэнсе, што асобасная, *індывідуальна-творчая канцэптуальнасць (духоўнасць)* магла выяўляць і выяўляла сябе ў цеснай сувязі з *канцэптуальнасцю (духоўнасцю)* нацыянальнай. Навідавоку эфект *нацыянальнага насычэння універсуму* шляхам рэпрэзентацыі ў творах мастацкай літаратуры ўсёй разнастайнасці нацыянальных атрыбутаў (прыроднага, сацыяльнага, фальклорнага), што станавілася запарукай хутчэйшага далучэння беларускай культуры да сістэмы сусветных духоўных каштоўнасцей. Культурныя архетыпы ў сілу сваёй гістарычнай стабільнасці, устойлівасці не сыходзілі з гістарычнай арэны, а жывілі плённую тэндэнцыю спалучэння ўласнай народнасці з вытанчаным вопытам сусветнай мастацкай культуры.

З розных раздзелаў выдання вынікае тая думка, што фальклор набываў якасць своеасаблівай мастацкай субструктуры, якая дапамагала зразумець узаемадзеянне розных сацыяльных пластоў, убачыць дынаміку іх судачыненняў, выявіць коснасць і адначасова няўстойлівасць сацыяльнай іерархіі. Нароўні з вытлумачэннем сацыяльнага адзначаны прыём даваў магчымасць пранікнуць у сутнасць іншых жыццёвых з'яў, заглыбіцца ў сферу маральна-этычнага, духоўнага, субстанцыяльнага, з чым напрамую звязана ўзмацненне інтэлектуальных пошукаў літаратуры. Прынамсі, характар тых змен, якія адбываліся не толькі ў сферы вобразатворчасці, асацыятыўных сувязяў і эмацыянальнай танальнасці твораў, але і ў плане фарміравання светапоглядных прынцыпаў і ўстановак. З узроўню першаснага, стылізатарскага фальклорны прататып узведзены на іншы эстэтычны ўзровень — на ўзровень мастацкіх абстракцый, гратэскных, алегарычных формаў, іншасказанняў і сімвалаў. Ім ствараецца другі ўзровень твора (г.зв. унутраны сюжэт), які заклю-

[1] К а з б я р у к У. М. Рамантычны пошук: Назіранні над беларускім рамантызмам пачатку XX ст. Мн., 1983. С. 70.

чае абагульняючы сэнс, напрамую звязаны з пастаноўкай сацыяльных, філасофскіх і маральных праблем, з працэсам інтэнсіўнага фарміравання нацыянальнай свядомасці.

Зварот да фальклорных вобразаў-формул ішоў пад знакам глыбіннага пазнання самога духу народнай творчасці, яго этычнага і эстэтычнага светаўспрымання, прынцыпаў мастацкага мыслення праз індывідуальна-творчае пераўтварэнне іх у мастацкім вобразным слове. Фальклор (прынамсі, значная яго частка) станавіўся пэўнай умоўнай формай, з дапамогай якой адкрывалася магчымасць выявіць сутнасць рэальнасці (« гістарычнага сягоння»), надаць твору філасофскую скіраванасць, напоўніць яго адмысловай сэнсавай ідыяматыкай. Мэтанакіраваны, праграмны (ідэалагічны) зварот да эстэтыкі фальклору — паваротны пункт літаратурнага развіцця. Ён быў асабліва важны для канстытуявання мастацкай своеасаблівасці беларускай літаратуры, для працэсу яе эстэтычнай самаідэнтыфікацыі. Апошнія даследаванні неабвержна пераконваюць у тым, што « фальклорная» ідэя на пачатку XX стагоддзя пераўвасабляецца ў ідэю нацыянальную», становіцца часткай « нацыянальнага космасу»[1].

Дзякуючы звароту да фальклорных, язычніцкіх першакрыніц, беларускімі літаратарамі былі зроблены значныя мастацкія адкрыцці. Глыбокая гісторыка-культурная абазнаванасць пераконвала іх у наяўнасці невычэрпных рэзерваў у беларускай народнай паэзіі, багаты ўнутраны патэнцыял якой быў шырока задзейнічаны імі ў пэўных мастацкіх мэтах і ў адпаведнасці з новым гісторыка-культурным мысленнем. Можна нават сказаць, што ўвогуле літаратурная форма ў значнай ступені ствáралася паводле фальклорнага стэрэатыпу. І гэта — адна з праяў той спецыфічнай сітуацыі, што складвалася ў літаратуры на пачатку стагоддзя і якую можна аднесці да ўзораў мадэрнісцкай творчасці. Тут варта згадаць агульнапрыняты пастулат наконт абсалютызацыі формы ў мадэрнісцкім мастацтве і пагадзіцца з тым, што культ формы не заўсёды праяўляў сябе ў вытанчанасці і манернасці — «за гэтым стаяла прага мастацкага ўдасканалення, да якога мадэрністы набліжаліся і прама адваротным шляхам — праз натуральнасць і прастату выражэння. <...> Сутнасць была не ў саміх навацыях — у большасці выпадкаў мадэрністы не столькі ўводзілі новыя тэхнічныя прыёмы, колькі вярталі ў літаратурны ўжытак забытыя каштоўнасці са старога культурнага арсенала, прымушаючы іх гучаць у новай танальнасці і ў новым кантэксце. Наватарства заключалася не ў паэтычнай мове, якая ў сапраўднасці не была вынайдзена, а складзена з гатовага матэрыялу, — сутнасць была ў выяўленні, у «прамаўленні». Гэтая заўвага цалкам дапасуецца і да беларускага мадэрнізму, навізна якога была не ў радыкальным абнаўленні топікі, вобразнай сістэмы, а ў *насычэнні* традыцыйнай, часам трывіяльнай топікі, *новай энергіяй пачуцця.* І гэта стала новым крокам у літаратуры, што надало ёй спецыфічна нацыянальную прыкмету і разам з тым аб'ектыўна пазбавіла падстаў гаварыць пра беларускі мадэрнізм як пра мастацтва элітарнае, мастацтва для абраных. «Рэвалюцыйнасць» праяўлялася ў вяртанні літаратурай на новым вітку гістарычнага кругабегу нацыянальных каштоўнасцей са старога культурнага арсеналу праз адухоўленасць іх неперاходзячага зместу. Наватарства было не ў самой паэтычнай мове, якая абапіралася на народна-фальклорны прататып, — сутнасць была ў самім *факце* выражэння на гэтай мове, што ўпершыню здабыла права на самавыражэнне мастака.

Натуральная перакадзіроўка, актуалізацыя семантыкі асобных вобразаў, матываў, топасаў, архетыпаў нацыянальнага фальклору і стала адной з галоўных прычын « малапрыкметнасці» або абсалютнай «незаўважнасці» (камуфляжнасці) беларускага мадэрнізму ў сваёй і чужой культурнай прасторы. Не выклікае ніякага пярэчання той факт, што новая карціна свету будавалася на аснове менавіта нацыянальнай культуры, якая і тут аказалася найлепшым сродкам і фактарам даследавання тымчасовых нацыянальных праблем, спецыфічнай формай іншабыцця, якая адцяняла і заглыбляла ўласна нацыянальны мастацкі субстрат. У гэтым святле характэрную з'яву ўяўляе сабой творчасць Ядвігін Ш. Аўтар не проста пераапрацоўвае фальклорныя сюжэты і матывы, але і развівае іх, падымае на новы ідэйна-мастацкі ўзровень. У філасофскіх апавяданнях Ядвігіна Ш. алегорыя выступала ў якасці пэўнага літаратурнага прыёму, які даваў магчымасць паразважаць над унутранай сутнасцю чалавека і яго жыцця. Але гэта ў меншай ступені прыём, які дазваляў асуджаць, крытыкаваць стан дарэвалюцыйнага грамадства, як гэта сцвярджалася раней. Хутчэй за ўсё тут выявіла сябе абвостранае бачанне ўсяго чалавечага шляху ў яго адзінстве, у непарыўнай сувязі ўсіх часоў. У апавяданнях пісьменніка, як лёгка заўва-

[1] В а ш к о Л. Гістарызацыя свядомасці: Беларуская літаратура і Беларушчына на пачатку XX стагоддзя. Масты – Гародня – Менск, 1997. С. 128.

жыць, не ўказваецца на пэўны час і месца дзеяння, што, адпаведна, вядзе да абстрагавання герояў у адносінах да якога б там ні было сацыяльнага асяроддзя. Тым больш што гэтыя героі — персанажы ўмоўныя, казачныя, якія не могуць мець рэальных прататыпаў. Мастацкая дэталь, як правільна заўважана ў адпаведным раздзеле першага тома «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя», не адыгрывае тут той ролі, якую яна павінна мець у рэалістычным апавяданні, а псіхалагічная абмалёўка вобразаў занадта агульная. Гэта менавіта той выпадак, калі іншасказальны спосаб абагульнення падкрэслівае другасную ўмоўнасць вобраза ў адрозненне ад першаснай, якая з'ўляецца характэрнай рысай любога мастацкага вобраза. У дадзеным выпадку навідавоку праява сімвалісцкай эстэтыкі.

Фальклорна-міфалагічная форма адкрывала пісьменніку магчымасць універсалізацыі зместу, складаных абагульненняў, філасофскага маралізатарства, нягледзячы на тое, што алегорыя непазбежна выклікае аналогіі з грамадскага жыцця і прыводзіць да раскрыцця пэўных сацыяльных поглядаў аўтара. У алегарычных апавяданнях Ядвігіна Ш. размова ідзе не пра асобнае чалавечае жыццё (хоць і гэта можа ўгадвацца на паверхні вобраза), а пра быццё цэлага народа, нават усяго чалавецтва; не столькі пра дзень сённяшні, як пра сутнасць цэлай эпохі.

Вынайдзеная мастацкая форма алегорыі з'ўлялася адным са шляхоў у агульным рэчышчы літаратуры, што ставіла перад сабой задачу «...адкрыць селяніну вочы на складаны навакольны свет, каб ён ведаў праўду часу. Але гэта можна было зрабіць толькі праз глыбокае раскрыццё яго ўласнага ўнутранага свету, праз самапазнанне селяніна»[1]. Шлях адвольных абстракцый, шырокіх абстрагаванняў у дадзеным выпадку меў мала шанцаў на поспех: канкрэтна-вобразнае мысленне народа не змагло б правільна ўспрыняць абстрактна-абагульненую думку ды і проста зразумець сэнс пачутага, прачытанага. Мастак карыстаўся пэўнымі міфалагічнымі мадэлямі, архетыпамі, якія давалі яму магчымасць свабоднага з імі абыходжання, аблягчалі працэс творчага іх пераструктуравання, але і не дазвалялі выходзіць за пэўную мяжу рэцэптыўнага распазнавання. Тут спрацоўвае не толькі механізм нацыянальнай рэцэпцыі, дакладней, гэты механізм уключаецца ў больш шырокую, універсальную сістэму агульначалавечага культурнага кода, культурнай традыцыі. Тое, што, здавалася б, мае непасрэдныя адносіны да чыста нацыянальнага феномена, пачынае рассоўваць, пашыраць межы свайго ўдзелу і значнасці для іншых наднацыянальных структур з прычыны сталасці сваіх ідэйна-сутнасных канстантаў. Гэта адбываецца дзякуючы пазачасавай зададзенасці ядвігінскай літаратурнай алегорыі, якая набывае ўласцівасці своеасаблівай трансалегорыі, метаалегорыі з ярка выражаным нацыянальна фенаменалагічным кодэксам жыцця.

Падобным «кодэксам» кіравалася і Цётка — першая беларуская будзіцелька, слынная беларуска. Творчасць яе засведчыла станаўленне новага нацыянальнага ідэалу, стрыжнем якога стала ідэя нацыянальнай лучнасці, згуртавання людзей — сыноў і дачок адзінай зямлі-маткі, блізкіх па крыві і па духу. Таму правамерным падаецца пытанне мэтазгоднасці разгляду творчасці паэткі толькі ў рэчышчы рэвалюцыйна-змагарнай плыні, толькі як мастацкае ўвасабленне рэвалюцыйнага ідэалу. Адказваючы на гэтае пытанне, В. Коўтун, у прыватнасці, абсалютна слушна заўважае, што «феномен Цётчынай спадчыны грунтуецца на мностве аспектаў, асэнсаваць якія можна толькі з улікам агульнаеўрапейскай літаратурнай сітуацыі», і што «звыклае меркаванне пра рэвалюцыйнасць грамадскага ідэалу самой Цёткі як даволі яркай прадстаўніцы бунтарнай кагорты, патрабуе ўдакладнення і карэкцыі» (Цётка. Выбр. тв. Мн, 2001. С. 7—8). Бясспрэчна, Цётка, як чалавек высокай духоўнай культуры і шырокага літаратурнага досведу, не магла не цікавіцца новымі ідэямі часу. Не выключана, што яе навуковы і літаратурны інтарэс быў звязаны і з пошукамі тымчасовай ідэалістычнай філасофіі, у чым пераконвае сам змест яе паэзіі і мастацкай прозы. У прыватнасці, крытэрый інтэнсіўнасці ўжо вельмі пасуе як да самой натуры паэткі, так і да створаных ёю вобразаў. Гэта міжволі схіляе да таго, што вобразы бур, ураганаў, віхураў у кантэксце паэтычнай карціны свету Цёткі выступаюць у якасці сімвалу « жыццёвай моцы» (Ф. Ніцшэ), інтэнсіўнасці адчуванняў і нясуць у сабе геданістычны змест (прыгадаем: «*бо **люблю я** ураганы, / Бо я ў буры чую **рай***» (выдзелена намі. — ***В. М.***).

У любым выпадку варта прызнаць, што прысутнасць у паэзіі Цёткі эфекту «бурапеннасці» не выглядае адвольным, нематываваным фактам. Нароўні з іншымі сэнсавымі

[1] Каваленка В. Міфапаэтычныя матывы ў беларускай літаратуры. Мн., 1981. С. 128.

канатацыямі бурапенны матыў ёсць паэтычнае перакладанне матыву вольнасці чалавечых пачуццяў, сведчанне ўзмацнення пафасу напаўняльнасці асобы ў эмацыянальнай стыхіі. З гэтым матывам звязана і жаданне Цёткі паказаць шлях магчымага ўзбагачэння душы, заінтрыгаваць, зачараваць тымі метамарфозамі, якія могуць адбыцца толькі ў выніку актыўнага пошуку, адчайнага змагання з жыццёвай руцінай, застоем. Толькі такі шлях, паводле яе глыбокага перакканання, дапаможа пазбавіцца духоўнай карозіі, дасць магчымасць для духоўнага адраджэння асобы.

Думаецца, больш пазітыўнаму вырашэнню закранутых у выданні праблем мог бы паспрыяць асобны раздзел агульнатэарэтычнага і агульнаметадалагічнага характару, якому, на наш погляд, варта было адвесці ў «Гісторыі...» належнае месца. Неабходнасць уключэння ў структуру выдання адпаведнага раздзела прадыктавана шэрагам прычын. Па-першае, уступны гісторыка-тэарэтызаваны раздзел адразу б засведчыў агульную канцэптуальную, метадалагічную зарыентаванасць аўтарскага калектыву, характар абраных ім ідэйна-светапоглядных прыярытэтаў і прынцыпаў для дасягнення пастаўленай мэты. Па-другое, гэта аблегчыла б паказ панарамы літаратурнага жыцця ў яго грамадска-гістарычнай абумоўленасці, дапамагло б адпаведным чынам сістэматызаваць літаратурныя факты. Прычым з улікам іх не толькі жанрава-стылявой, але і праблемна-тэматычнай, ідэйна-эстэтычнай адметнасці. Па-трэцяе, патрэба ў «запеўнай» метадалагічнай тэорыі ў такім салідным выданні аб'ектыўна запатрабаваная. Пры спрыяльных умовах ёй належала б узяць на сябе функцыі агульнага навукова-метадалагічнага арыенціра, базіснай устаноўкі, «стратэгічнага плацдарма» для далейшых літаратуразнаўчых росшукаў. У гэтай сувязі выклікае шкадаванне і той факт, што ў выданні пры пэўнай характарыстыцы літаратурна-грамадскага руху ў пачатку XX ст. не вылучаны найбольш значныя культурна-асветныя асяродкі, што дазволіла б паўней акрэсліць ролю і значэнне перыядычнага друку, шматлікіх выдавецкіх таварыстваў у працэсе станаўлення і развіцця новай беларускай літаратуры. Спасцігнуць складанасць і шматпланавасць літаратурнага развіццця, яго асаблівасці і заканамернасці — справа не з лёгкіх. Пры ўсім жаданні не дапусціць спрашчэння ці зусім пазбегнуць яго, бадай, немагчыма з той прычыны, што сам прадмет даследавання і матэрыял, які ў яго ўваходзіць, — проста неабдымны. У сувязі з гэтым хацелася б выказаць некалькі істотных, на нашу думку, заўваг.

Па словах аднаго з рэдактараў тома акадэміка В. А. Каваленкі, «Гісторыя...» ў цэлым мае абнаўленчы характар. Для больш рашучага перагляду важнейшых праблем развіцця нацыянальнай літаратуры, па перакананні вучонага, беларускаму літаратуразнаўству не хапае сучаснага філасофска-тэарэтычнага патэнцыялу, які назапашваецца гадамі і дзесяцігоддзямі. Як рэдактара тома акадэміка В. Каваленку не задавальняла і тое, што часам глыбокі, скрупулёзны, сістэмны аналіз літаратурных тэкстаў падмяняецца звычайным крытычным разглядам, у якім «пераважаюць часта асабістыя, эмацыянальна-павярхоўныя адносіны да асобы пісьменніка і яго творчасці». На жаль, адзначаныя недахопы пазбаўляюць чытача магчымасці ўсебакова прасачыць эвалюцыю творчага мыслення канкрэтнага пісьменніка, засяродзіць увагу на дамінантных аспектах творчасці, калі ў асобных выпадках скрупулёзны аналіз саступае месца канстатацыі факта. Не заўсёды ў дастатковай ступені ўлічаны і дасягненні сучаснага айчыннага і сусветнага літаратуразнаўства. Аднак гэта надзвычай важна, так як размова ідзе пра станаўленне «нашаніўскай» традыцыі, беларускай літаратурнай класікі ўвогуле — складанага, шматузроўневага ўтварэння, элементы якога знаходзяцца ў цесным дыялектычным узаемадзеянні. Не выклікае сумнення, што ў гэтай сувязі важна было прасачыць шляхі станаўлення і развіцця нацыянальна-патрыятычнай ідэі не толькі з пазіцый сацыяльнага дэтэрмінізму, але і ў непасрэднай сувязі з характарам складвання новага тыпу мастацкага мыслення, з працэсам эстэтычнага самаўсведамлення маладой беларускай літаратуры, што станавілася ўмовай дасягнення яе ўласнай самадастатковасці, духоўнай сталасці. Асаблівага падыходу патрабуе і паказ самога механізму, спецыфікі «абжывання» ўласна- і іншанацыянальных кантэкстаў дзеля мастацкага мадэлявання нацыянальнага «архетыпа». Бо ва ўсім гэтым бачыцца якасны рост нацыі, якая цвёрда ступіла на шлях свайго самасцвярджэння, самаідэнтыфікацыі.

Асобнай гаворкі заслугоўвае асвятленне вобраза Старца з «Раскіданага гнязда» Я. Купалы. Яшчэ да гэтага часу сацыяльна-класавы антаганізм прызнаецца ў п'есе галоўнай прычынай людскіх драм і трагедый. Але драматычная задума п'есы, сфакусаваная на ідэалагеме «раскіданага гнязда», думаецца, не вычэрпваецца толькі сацыяльным эквівалентам. У творы закранаецца найістотнейшая для творчасці мастака філасофска-этычная, гуманістычная праблематыка, звязаная з далейшым мастацкім спасціжэннем сутнасці ча-

лавека і гуманных адносін да яго. Пытанне прыярытэту каштоўнасцей, карэляцыя паняццяў свабоды і любові, дабра і ісціны, сілы і справядлівасці заўсёды былі ў цэнтры напружаных ідэйна-філасофскіх пошукаў Я. Купалы. Гэтыя важныя светапоглядныя праблемы знайшлі сваё месца і ў «Раскіданым гняздзе» дзякуючы натуральнай скіраванасці п'есы ў плоскасць этыка-філасофскую, светапоглядную.

Стала аксіёмай, што кожны з герояў драмы пэўным чынам персаніфікуе якуюсьці ідэю. Гэта так. Але паставім пытанне крыху інакш: ці можна назваць Старца чалавекам ідэі, які свядома і паслядоўна прытрымліваецца пэўнага жыццёвага прынцыпу? Пагодзімся, што стаўленне Старца да жыцця і да людзей ніколькі не пазначана гранічным маральным максімалізмам, як у таго ж Сымона. Але пры гэтым Старац — не ідэйны суцяшальнік. Ён — язычнік па духу. Нейкага асаблівага піетэту да хрысціянскага канону ён увогуле не адчувае. Бог для яго — не больш як сродак суцяшэння, найбольш традыцыйна прыдатны дзеля гэтай справы, бо ўсім вядомы, знаёмы. Лад жыцця Старца, як, зрэшты, і Лукі з п'есы М. Горкага « На дне», усё ж дыктуецца не «ідэяй», а складаным комплексам пачуццяў, дзе змешваюцца і інтарэс да жыцця, і жаданне зразумець кожнага і адгукнуцца на яго боль, і здольнасць захапіцца чалавекам і пашкадаваць яго. І ўсё ж, шчыра жадаючы дабра абяздоленым і прыніжаным, прапануючы ім выйсце ў жабрацтве, ці можа Старац прэтэндаваць на ролю істага збаўцы, «прарока», «месіі»? Думаецца, не. Герой увасабляе крайне суб'ектыўную філасофію дабра. Словы «добра», «дабро», «добрае» досыць пашыраныя ў яго лексіконе. Ён аднолькава шчыра моліцца за бедных і багатых, добрых і ліхіх, спачувае і ўсцешвае кожнага, хто ў гэтым мае патрэбу. «Я за ўсіх малюся» — такі яго жыццёвы прынцып. Пры гэтым Старац не імкнецца зразумець, асэнсаваць аб'ектыўны стан рэчаў. Ісціна ў ацэнцы людзей, акаляючай рэчаіснасці не мае для яго прынцыповага значэння. Таму і не абцяжарвае сябе неабходнасцю спасцігнуць прычыны кожнай жыццёвай праявы, цвяроза ацаніць сітуацыю, унікнуць у самую сутнасць людскіх праблем, клопатаў, трывог, засцерагчы ад магчымых непажаданых вынікаў. Адсюль — і аднастайнасць у сродках маніпуляцыі чалавечымі слабасцямі, у метадах «спакушэння» спакутаваных душ. Людзі са страчанай надзеяй, з надломленай воляй — спрыяльная глеба для ўдаванага месіянства Старца. І ў гэтым пазіцыя Старца збліжаецца з пазіцыяй горкаўскага Лукі. І ў аднаго, і ў другога як непазбежнасць узнікае апора на хлусню, на суцяшальны падман, таму што нараджае хітрасць, сурагат такой любові, вольна ці міжвольна.

Філасофія Старца — філасофія ўдаванага заспакаення, улагоджвання, цярпімасці. Яго павучальныя тырады — фікцыя, падманны рыгарызм, звычайны папулізм, разлічаныя на слабых духам людзей, ці тых, хто страціў надзейную апору ў жыцці, аказаўся ў цяжкай, амаль безвыходнай сітуацыі. Ён, у сілу сваёй натуры чалавека-валацужніка, жабрака, не здольны «прысвоіць» сабе чужую бяду-гора, паспачуваць шчыра, па-сапраўднаму. Герой выглядае вялікім ідэалістам, самападманнікам, калі празмерна ідэалізуе сваё становішча жабрака, вечнага вандроўніка («Жыву сабе і гора ніякага не знаю»). Старац пазбаўлены не толькі духоўнай радзімы, але, як аказваецца, і радзімы ўвогуле. Так яму зручней. Стан паязджанства фармулюе і адпаведную «неўгрунтаваную» філасофію, пэўную жыццёвую тактыку, выгадную для сябе ў першую чаргу. І сапраўды, філасофія паязджанства нараджае адпаведныя — адчужаныя, сузіральніцкія — адносіны да ўсяго, з чым даводзіцца сутыкацца. Ягоная філасофія, жыццёвы кодэкс — эгаістычныя па сваёй сутнасці, нежыццяздольныя. Старац рэальна больш заклапочаны не лёсам трапіўшых у бяду людзей, а сваім уласным спакоем, уласным — адносным — дабрабытам.

Яго павучанні-пераконванні — не больш як звычайная форма абывацельскай асцярожнасці, абывацельскай коснасці, абывацельскага скептыцызму. Па сутнасці, яны маюць капітулянцкую скіраванасць, бо прадыктаваныя сацыяльнымі ўмовамі жыцця; яны — вынік і сведчанне таго, як шмат «ціскалі няшчасці з усіх бакоў», давілі, прыгняталі. І сфармаваная ў такіх умовах ідэалогія Старца і ёсць ідэалогія ўступніцтва, «мяккасці», цярпення, не падмацаваная мудрай, прасякнутай верай у чалавека гуманістычнай любоўю як «універсальнага пабуджальнага матыву да ўсіх добрых спраў» (В. Жураўлёў). І ўсё ж у падтэксце Купалавага твора гучыць думка пра гуманістычнае паразуменне паміж людзьмі, ідэя духоўнай салідарызацыі, заклік да цярплівага і ўзаемаўзгодненага дыялогу як моцных супрацьдзеючых фактараў у дачыненні да разбуральных, хаатычных і дэструктыўных грамадскіх працэсаў.

Падобную думку, як магістральную, можна вычытаць і ў паэме Я. Коласа «Сымон-музыка». У манаграфічным раздзеле «Гісторыі...», прысвечаным жыццёваму і творчаму шляху Я.Коласа, даводзіцца, што асноватворнай у паэме паўстае думка пра вечную сувязь мастака і яго Радзімы, пра цесную знітаванасць лёсу народа і яго інтэлігенцыі. Ад-

нак варта прызнаць, што той жа талент Сымонкі — і ў гэтым пераконвае змест паэмы — выспяваў хутчэй не дзякуючы, а насуперак традыцыі, калі пад апошняй мець на ўвазе не духоўную пераемнасць, а кансерватыўную патрыярхальную заскарузласць. Пацвярджэнне знаходзім і ў той відавочнай нотцы шкадобы-жальбы з боку самога аўтара ў ягоных лірычных адступленнях-прызнаннях-апалогіях пра няспраўджаныя таленты, у ягонай пяшчотна-шчымлівай прыхільнасці да *«светлых воблікаў закінутых дзяцей»*, у яго паэтычным рэквіеме па ахвяраносных талентах — *«невядомых, непрызнаных, / Не аплаканых нікім»*.

Дарэчы, некаторымі даследчыкамі сцвярджаецца, што «Сымон знаходзіць для сябе сэнс жыцця не ў служэнні народу, як лічылі раней, а ў каханні»[1], хоць пры гэтым і прызнаецца, што «вобраз Ганны адначасова канкрэтны і персаніфікаваны, у ім чуюцца намёкі, зашыфраваны падтэкст, свая сімволіка», натуральна звязаная з вобразам «самой Беларусі». Хоць, заўважым, даволі спарадычныя, амаль выпадковыя сустрэчы Сымона з Ганнай выклікалі і выклікаюць у даследчыкаў пэўны канфуз, неўразуменне. «Зыходзячы са зместу паэмы, мы маем усе падставы зрабіць вывад, — канстатуе У. Казбярук, — што каханне да Ганны — не галоўнае ў жыцці Сымона, не яно вызначае яго шлях і пошукі. Сустрэча з дзяўчынай і пачуццё да яе ўсяго толькі дапамагаюць яму больш выразна вызначыць, акрэсліць, а таксама і здзейсніць нялёгкую, але надзвычай высокую місію»[2]. Асновай для такіх сцвярджэнняў маглі паслужыць і словы самога Сымона, звернутыя да Ганны:

Мы разойдземся. Дарогі
Нашы розна пабягуць:
Паміж намі ёсць парогі,
І нам іх не абмінуць.
Мы, Ануля, — каляіны,
Адной скрыпкі дзве струны —
Іх аднакі скрозь пуціны,
Ды не сходзяцца яны...

І сапраўды, на першы погляд неяк дзіўна гучаць гэтыя словы з вуснаў Сымона, калі пагадзіцца з тым, што ў вобразе Ганны ўвасоблены вобраз самой Беларусі, а сам Сымон прадстаўляе, як сцвярджалася ў ранейшыя часы, «плеяду паэтаў-адраджэнцаў». «Калі б мы згадзіліся з такой трактоўкай, — заўважае У. Казбярук, — то паэма як мастацкі твор аказалася б зусім незразумелай ці нават недарэчнай. Мы не знайшлі б адказу на пытанне, чаму ж тая «плеяда» ўцякала ад сваёй «маладой Беларусі». І чаго яна шукала недзе там далёка ад яе?»[3]

Адзначаны момант мае архіважнае значэнне для спасціжэння ідэйнага зместу паэмы. Уся справа ў тым, што каханне — абагаўлёнае — Сымона да Ганны і ягонае сакралізаванае замілаванне да Радзімы маюць адзіную прыроду свайго паходжання, адзіную мэту — *«каб пазнаць дабро адзіна»*. Гэтае дабро, а разам і Краса не могуць быць спазнаныя шляхам іх эгаістычнага (валюнтарысцкага) прысваення, адасобленасці, шляхам перавядзення іх у рэгістр прынцыпу «маё!» Для Сымона ўмовай спазнання жыццёвай тайнасці, сапраўднай духоўнай сталасці, умовай свабоды ўвогуле служыць чысціня душы. Вось чаму яго ўнутраны імператыў — *«трэба чыстым быць душою...»* — у аснове сваёй мае трагічную наканаванасць з прычыны непрымірымасці канфлікту паміж двума жыццёвымі пачаткамі — артыстычным і практычна-жыццёвым, паміж асабістым шчасцем і грамадзянскім абавязкам. І ці можна сцвярджаць, што выйсце з гэтай супярэчнасці паэт бачыць у сцвярджэнні пазаасабістых каштоўнасцей чалавечай асобы? Нельга! Трагічны гуманізм Я. Коласа, як, зрэшты, і А. Блока, мае метафізічнае паходжанне і разам з тым у ім праступаюць контуры дыялектычнага ўспрымання нацыянальнай гісторыі.

Да бясспрэчных вартасцей выдання варта аднесці той факт, што нароўні з творамі і іменамі класічнымі, хрэстаматыйнымі ў сферу навуковага асэнсавання вернуты многія творы нацыянальнай літаратуры, якія раней лічыліся ідэалагічна заганнымі, палітычна небяспечнымі і былі на доўгі час выкрэслены з літаратурнага працэсу, з айчыннай духоўнай культуры. Як гэта ні дзіўна, але ў літаратурны кантэкст зноўку ўведзены многія творы Я. Купалы, якія раней былі пад адкрытай цэнзурнай забаронай. У гісторыі нацыяналь-

---

[1] Ш а м я к і н а Т. Беларуская класічная літаратура і міфалогія. Мн., 2001. С.140.

[2] К а з б я р у к У. Рамантычны пошук. Назіранні над беларускім рамантызмам пачатку XX ст. Мн.: Навука і тэхніка, 1983. С.172.

[3] Т а м с а м а.

най літаратуры дастаткова рэпрэзентатыўна, прадстаўніча пададзена творчасць не так даўно рэабілітаваных таленавітых пісьменнікаў А Гаруна, Ф. Аляхновіча, В. Ластоўскага і А Луцкевіча (Навіны), што нашмат узбагаціла агульны малюнак культурнага і духоўнага развіцця.

Дзякуючы сістэмна-комплекснаму, параўнальна-тыпалагічнаму падыходу аўтарам выдання ўдалося істотна папоўніць наша ўяўленне пра выключна вялікую ролю і значэнне беларускай літаратуры пачатку XX ст. у спасціжэнні духоўнага вобліку народа, у працэсе яго гістарычнай і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Асабліва каштоўнымі падаюцца тыя месцы, дзе даследчыкі надзіва ўважліва і ўзважліва падыходзяць да эстэтычнай ацэнкі твораў, якія разглядаюцца імі ў цесным кантэксце міжкультурнага ўзаемадзеяння, міжкультурнага дыялогу, што прызнаецца сутнасным звяном пры выпрацоўцы ўласнанацыянальных жыццесцвярджальных ідэалаў.

Аўтары з пазіцый канкрэтна-гістарычнага падыходу і гуманістычных прыярытэтаў падыходзяць да навуковай карэкцыі самых розных аспектаў творчасці, робяць высокапрафесійныя, глыбокія і ўдумлівыя захады па ўзнаўленні і непрадузятым асэнсаванні важных старонак гісторыі літаратуры, спрабуюць па-новаму раскрыць метадалагічна-пазнавальныя прынцыпы і структурна-арганізацыйныя асаблівасці многіх твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд айчыннага прыгожага пісьменства. У арбіту даследчыцкага інтарэсу трапляюць і іншыя, не менш значныя ў канцэптуальным плане праблемы, звязаныя з пашырэннем, задзейнічаннем, актуалізацыяй літаратурнай традыцыі, якая бачыцца важным фактарам дынамічнага існавання культуры, духоўнага свету народа ўвогуле. Стрыжнёвай падаецца думка, што менавіта традыцыя, імпульсы глыбінных пластоў нацыянальнай культуры давалі магчымасць пісьменнікам усвядоміць сябе як асобны самастойны свет, лягчэй асвойтацца ў чужых культурных кантэкстах, выпрацаваць свае адносіны да іх.

Аўтары выдання здолелі істотна разгарнуць, паглыбіць гісторыка-літаратурныя факты, звесткі, ранейшыя ўяўленні і погляды, звярнуць увагу на канцэптуальна важныя моманты, адцяніць іх, узбуйніць, вылучыць сутнаснае, першаступеннае, што, несумненна, паспрыяе больш глыбокаму, філасофска-эстэтычнаму спасціжэнню рэпразентуемай эпохі.



*СПАДЧЫНА*

# «ВЕРУ Ў КАРЫСНАСЦЬ БУДУЧЫХ ЧЫНАЎ...»

## *(Лісты Аркадзя СМОЛІЧА да Зоські ВЕРАС)*

Сяброўства — вялікая каштоўнасць у жыцці кожнага з нас. Яно дае маральную і творчую падтрымку, прытулак душы, магчымасць выказацца, дапамагчы адзін аднаму знайсці сябе ў жыццёвым віры. І проста спатоліць жаданне чалавечых зносін. Тым больш, калі гэта сяброўства паміж жанчынай і мужчынам, якое ўзвышаецца няўлоўнымі пачуццямі нясмелых надзей, пяшчоты, улюбёнасці і ахвярнасці.

Такія думкі выклікаюць лісты з незваротнага мінулага, лісты, якія пісаў будучы прафесар геаграфіі, навуковец і палітык Аркадзь Смоліч у сакавіку 1914 — снежні 1915 года сваёй сяброўцы і аднадумцу, таварышу па нацыянальна-адраджэнскай працы Людвіцы Сівіцкай (знакамітай Зосьцы Верас). Перапіска паміж імі ўзнікла ў той час, калі Л. Сівіцкая вучылася на дзесяцімесячных курсах агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства ў Варшаве, а Аркадзь Смоліч быў студэнтам Нова-Александрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах, куды вярнуўся ізноў пасля выключэння з ліку студэнтаў за ўдзел у палітычных выступленнях 1910 годзе.

Аркадзь Смоліч з радасцю адгукнуўся на заклік дапамагчы ў беларускай справе, якая пачала рабіцца студэнтамі-беларусамі ў Варшаве. Але, як пазней успамінала Зоська Верас, аўтарам першага ліста, адрасаванага Смолічу, была не яна, а хутчэй за ўсё Вацлаў Ластоўскі, які апекаваўся справамі беларускіх студэнтаў і выступіў ад імя варшаўскіх беларусаў, каб наладзіць больш цесныя сувязі паміж студэнтамі. Так і здарылася. «Пасьля перапіскі А.Смоліч і В.Рышкевіч прыехалі ў Варшаву. Мы пазнаёміліся добра і надоўга...», пісала Людвіка Антонаўна ў сваіх успамінах.

Людвіка Сівіцкая мела на той час хоць і невялікі, але важкі вопыт работы ў нацыянальна-патрыятычным руху: была арганізатарам і удзельніцай Гродзенскага гуртка беларускай моладзі — збірала кнігі для яго бібліятэкі, іграла ў спектаклях, пісала вершы, выдавала альманах «Колас беларускай нівы». Аркадзь Смоліч сустрэў у «шаноўнай Паненцы ...саўсім сьвядомую беларускую кабету, якая прынесла з сабою жывую душу адраджэньня, сьвежыя думкі і новыя словы», запаліла агнём свайго сэрца шмат спячых і бяздзейсных. Са шчырай удзячнасцю Аркадзь Смоліч бачыў у ёй чалавека, на якога можна спадзявацца, у цяжкія хвіліны пазычыць бадзёрасці, аптымізму і веры, даверыць адказную і вялікую працу. Не аднойчы ездзіў ён у Варшаву, дзе сустракаўся з Людвікай Антонаўнай і яе сябрамі, знаёміўся з варшаўскімі справамі. У гэты час ён вёў вельмі актыўную грамадскую працу па падтрымцы віленскіх і пецярбургскіх беларусаў, пісаў

эканамічныя нарысы для «Лучынкі», крытычны артыкул пра драму Я. Купалы «Сон на кургане», удзельнічаў у выданні часопіса «Раніца», чытаў лекцыі з гісторыі беларускай літаратуры ў Харкаве, удзельнічаў у навуковых статыстычных экспедыцыях па Украіне, працаваў і вучыўся... Свае погляды на развіццё нацыянальнага беларускага руху шчыра і падрабязна выкладаў у лістах, як бы працягваючы размову, якую вёў з сяброўкай Людвікай у час варшаўскіх вандровак.

У гэтых лістах дваццацітрохгадовы Аркадзь Смоліч выказаў сябе яркім публіцыстам, арыгінальным філосафам, тонкім і праніклівым псіхолагам, разважаючы пра мэты барацьбы і месца ў ёй інтэлігенцыі, пра нацыянальнае аблічча народа, асаблівасці людзей сэрца і людзей розуму, пра веру малую і вялікую, пра згоду ў беларускай сямейцы і раз'яднанасць шляхоў. Можа, часам некаторыя яго разважанні падаюцца крыху наіўнымі і не ва ўсім паслядоўнымі, але, выказаныя ад чыстага сэрца, з гарачым жаданнем прынесці як найбольш карысці ў вялікай працы па адраджэнні Бацькаўшчыны, яны раскрываюць асобу Аркадзя Смоліча, будучага палітыка-дэмакрата і гуманіста, характарызуюць яго першыя крокі на шляху барацьбы за нацыянальную незалежнасць Беларусі.

Трэба адзначыць, што частка лістоў пісалася ў прадчуванні вялікай бяды — першай сусветнай вайны — і на пачатку яе крывавага падарожжа па беларускай зямлі. Таму ў іх столькі болю і жалю за лёсы мільёнаў людзей і роспач ад свайго няпэўнага становішча, і ў той жа час настойлівыя пошукі выйсця з тупіка маладушнасці і бяздзейнасці, каб «знайсці асалоду ў цяжкай, чорнай працы дзеля яснай будучыні». Выклікае вялікую павагу пацыфісцкая пазіцыя Смоліча, для якога прыярытэтам як у палітыцы, так і ў грамадскім жыцці становяцца не ідэі, плыні, партыі, рухі, а чалавек — найвялікшая каштоўнасць сусвету: «А ці можна за самы найлепшы палітычны ідэал забіць ніпавіннага чалавека, хоць аднаго толькі? Я б не згадзіўся ніколі».

Нельга абысці ўвагай радкі, прысвечаныя апісанню родных краявідаў, у якіх Смоліч усведамляе прыроду і чалавека як адзіны, суцэльны, вечна жывы арганізм. Вучоны-географ пераўтвараецца ў паэта, зачараванага казачнай прыгажосцю кветак, раслін, хмар, маланак, вятроў, зор, — хараством і таямніцай любай яго сэрцу зямлі.

У лістах, дасланых з Ігумена (Чэрвеня), Смоліч дзеліцца ўражаннямі ад працы аграномам у Бярэзінскім раёне, у допісах з Харкава — з гумарам апісвае стасункі статыстычнай працы па даследаванні сялянскіх гаспадарак у паўднёвых раёнах Украіны. Вынікі і назіранні навуковай экспедыцыі па Украіне былі выкарыстаны вучоным у 20-я гады ў сур'ёзных эканамічных даследаваннях.

Апошні ліст, датаваны снежнем 1915 года, сведчыць аб незавершанасці планаў вучонага. Ён на ростанях: вярнуцца ў Беларусь ці застацца на нейкі час у Харкаве? Як вядома, Смоліч выбраў Мінск, дзе тады адчуваўся востры недахоп людзей у беларускай справе і дзе ў сувязі з ваеннымі падзеямі сабралася ўся свядомая беларуская інтэлігенцыя, і адразу з галавой акунуўся ў кругаварот вялікіх і малых спраў у Таварыстве дапамогі ахвярам вайны. Працаваў разам з У. Галубком, З. Бядулем, А. Уласавым, У. Фальскім і «дарагой сяброўкай» Людвікай Сівіцкай.

Аркадзь Смоліч і Зоська Верас... Праз гады данеслі яны подых свайго жыцця, свае добрыя справы і шчырыя словы. І ў гэтых гарачых словах напамін усім нам, якой складанай была дарога да незалежнасці і свабоды.

Прапануем увазе чытачоў «Полымя» лісты А. Смоліча да Зоські Верас. Рыхтуючы іх да друку, мы захавалі своеасаблівы (некаторыя словы ён выкарыстоўвае ў некалькіх варыянтах, напрыклад, *яшчэ, йшчэ, ешчэ, ішчэ, не, ні, ня* і г.д.) правапіс А. Смоліча — як адгалосак таго часу, праставіўшы толькі дзе-нідзе знакі прыпынку і зняўшы відавочныя апіскі. Арыгіналы лістоў, большасць якіх напісаны лацінкай, захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў асабістым фондзе пісьменніцы Зоські Верас (ф. 318, воп. 1, спр. 140, лл.1—47 адв.).

Упершыню частка лістоў са скарачэннямі была апублікавана А.Каўкам у літаратурна-навуковым гадавіку «Скарыніч» (Вып. 2, Мн., 1993.).

Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць Яніне Міхайлаўне Кісялёвай за дапамогу ў падрыхтоўцы лістоў А. Смоліча да друку.

***Таццяна КЕКЕЛЕВА,***
***загадчыца аддзела інфармацыі,***
***публікацыі і навуковага выкарыстання БДАМЛМ.***

*Ново-Александрія (Puławy)*
*Люблін[ска] губ.*
*студэнту.....*

*1914 9/III Puławy*

**Паважаная Пані!**

Зь німалою ўцехаю вычыталі мы ў прысланым праз Вас нам лісьце, што пачынае і ў Варшаві рабіцца справа беларуская. Уцеха нашая падобна ў прычынах сваіх да тае, калі бачыш, як кідаюцца зярняты ў чорную, як бы чакаючую сяўбы, зямліцу, і наперад дамысляесься аб багатым ураджаі. Вялікую карысьць зробіце для Бацькоўшчыны, калі папрацуіце добра ў Варшаві, бо ўдасца Вам выкарыстаць шмат-шмат сьпячых сілаў. Вітаем вас шчыра і жычым удачы.

Што ж належыць да нашай памочы ў выдаваньні аднаднеўкі, мусім растлумачыць ось што: сьвядомых беларусоў у Пулавах вельмі мала і ніхто з іх, апрача коррэспондэнцый ды навукова-популярных артыкулаў, ніколі нічога ні пісаў; ні выракаімся таго, што можа б хто з нас і здолеў бы што якое напісаць «с поэзыі», але толькі ні цяпер. Гэта затым, што ў красавіку і траўні — у нас экзаміны, а праз цэлы сакавік тые, хто мог бы што пісаць, заняты падгатоўкай матэр'ялу да «Лучынкі»[1] і да маючага выйсьці ў Пецярбургу ў пачатку красавіка студэнцкага часопісу «Вольные думкі»[2]. Калі Вы аб гэтым часопісе йшчэ ня чулі, скажу Вам, што мае ён быць ідэёвым кіраўнікам беларускай інтэлігентнай маладзёжы і пастараецца ў прозе і поэзыі адбіць найпаўней яе жыцьцё. Мы ня ведаім мэтаў і праграмы вашай аднаднёўкі, якую маніцеся выдаваць, але, калі б яны былі падобны да мэтаў і праграмы ўспомненага пецярбургскага часопісу, дык можа б найлепей было, ні разьбіваючы і так нібагатых нашых духоўных і матэр'яльных сілаў, пакіраваць супольные высілкі ў адзін бок, памагчы тым часам Пецярбургскаму часопісу, каторы тамака можа прынесьці найболей карысьці і зробіць гэта найлягчэй і найлепей, бо тамака вельмі багата інтэлігенцыі беларускай і значная яе частка — нацыянальна сьвядомая. Мы, пэўне ж, ведаім, што ні маем ніякага права даваць Паважанай Пані якую-небудзь параду, але спадзеёмся, што гэта будзе нам даравана — бо ат чыстага сэрца.

Калі каму з нас давядзецца быць у Варшаві, будзім лічыць сваёй павіннасьцяй знайсьці каго з Вашага гуртка і як мая быць аб усім пагаманіць. Можа б і мы калі што памаглі. Тым жа часам былі б вельмі ўдзячны, калі б хто нас час ад часу паведамляў, што і як робіцца ў Варшаўскіх беларусаў; гэта зрабіла б нейкі контакт між Пулавамі і Варшаваю, абеім старонам, як здаецца, карысна.

*Вітаім.*
*А. Смоліч В. Рышкевіч*[3]
*Адрэс «Вольных Думак» — Пецярбург, Суполка «З. с. і ў н.в»*[4]

*29—IV—914 (ст.ст[ыль])*
*Пулавы*

Паважаная Пані! На гэтым тыдні, мо як у нядзелю ці панядзелак, збіраімся ў Варшаву — удвох, ці ўтрох. Тады акуратне разгаворымся аб усіх пытаньнях, паднятых у Вашым лісьце. А калі гэтак ні зложыцца, буду лічыць прыемным абавязкам атпісаць Вам шмат пашырней.

*З пашанаю А. Смоліч.*

*20—V—914 Пулавы*

**Паважаная Паненачка!**

Ня думайце, што я праз недбаласьць сваю, альбо праз запомненьне дагэтуль не пісаў да Вас; ды Вы ж гэтага, мусіць, і ні думаіце, праўда? А не пісаў я толькі дзеля тае прычыны, што быў вельмі завалены работай усялякай, прытым тэрміновай. Першае — экзаміны, — яны ўжо скончыліся, дзякаваць Богу, пасьля — практыка, а там йшчэ ды йшчэ. Пэўне ж часу вольнаго, то можа б кавалак які й знайшоў, а от настрою адпаведнага, каб сабраць — то ні надта. А калі ліст без настрою — дык лепей — ні чытаючы — ў печку, бо нуда — рэч заразьлівая, а нуднасьць і пагатоў... Урэшці з'явіўся і час, і настрой, але прыехаў да нас дзядзька Бабровіч[5]. Як і быць мела, праспрачаліся мы з ім два дні, можна сказаць, што без перадышкі, ну і ведама, да згоды ні прыйшлі ні ў найменьшай з прычынаў спрэчкі. Сёньні ён паехаў, а я ўрэшці бяруся за ліст.

Мне было б дужа прыемна, каб мог калі час ад часу пагаманіць крыху з Паненкаю — хоць праз почту. Варшаўская падарожа заставіла ў мяне вельмі добрые ўспомненьня; лепшай сваёй часткаю яны звязаны з Вашай асобаю. Ласьне, я вельмі рад, што стрэў у Паненцы саўсім сьвядомую беларуску і пры тым такую, здаецца, якою яна і быць павінна. У нашые часы гэта ішчэ рэдка і ўжо дзеля таго дарага і цікава. Дарага затым, што вы — кабеты — прынясіцё з сабою жывую душу адраджэньня, а цікава затым, што характэр гэтае душы, яго асноўныя рысы, ужо выяўляецца і можа быць угледжаны ў першых яе творчынях. Гэтак для кожнага беларуса. Для мяне ж гэта ўсё мае асаблівае значэньне ўжо дзеля таго, што мне соладка кожная думка свежая і новае слова беларускае, а ў Пулавах — гэтак рэдка іх пачуеш! Можа й ніколі. — Дзеля гэтага ўсяго радасна вітаў бы Вашыя лісты, асаблíва, каб яны былі даўжэйшыя. — От між іншым, цікава, як Вы глядзіцё на справу палітычнага адраджэньня Беларусі, як яе прэдстаўляіце ў бліжэйшай і далейшай будучыне? У суседзяў-украінцаў справа гэтая ўжо даўно ўсплыла перад агульную сьвядомасьцю с-пад шматгадовага забыцьця і цяперака ёсьць тэматам аж праз меру «жывых» спіраньнеў. Патроху становіцца яна на чарод і ў нас, бо да гэтага змушае жыцьцё, хуткі развой справы нашай.

Навінаў тутка — каля мяне — ні чутно. Экзаміны, якія меў — паздаваў, офіцыяльных заняцьцеў йшчэ німа, дык цяпер раздольле — рабі, што хочэш. Дужа я рад, што гэтак засталася мне хоць частка вясны. А якое цяпер харáство навакола! Пайсьці мяжою, сярод збажыны сялянскай. Ціша і згода зойдуць у душу. Верныя клятвам засеўным, стаяць грамады расьлінак, бы варта-старожа. Буйные ветры іхніе сьцёблы ламаюць, бьюць пяруны, маланкі рагочуць, але ні ўстрашаць іх, з мейсца ні скрануць. Толькі часамі ў буру шэпты ціхіе, зляканые чуюцца, толькі шэпты... А як сьціхне бура, устануць ізноў — бізбаязные, праменьнямі сонца калосьсе абсушаць. Дымные воблакі ўздоймуцца па-над красуючым жытам, а ветрык разгойдае хвалі з калосьсяў. І жыта морам здаецца, морам палаючым. Дым той ахвярны, жыватворчы, моліцца небу ў гарачы поўдзень. Сходзяцца разам сонцава ласка — у ясных праменьнях з дымам — туманам зямлі. У адно жыцьцё лучыцца неба з зямлёю, уся прырода. Добра тады і сэрцу чалавечаму.

Дый ня толькі ў полі — усюдых харáство. І ў сенажаці, што буйнай травіцаю паднялася, пярэсьціць яснымі краскамі, і ў гаі, поўным птушынага жыцьця, і ў зорах чырвоных і любых, як мара, і ў хмарках, што паўзуць у блакітным плёсе, усюдых, усюдых. Затым жа, мусіць, сьцішаюцца ў людзях ноты балесные, горкіе жаласьці, холад і смага душы. Бо добра, усё добра!

Шкадую Вас, што марнуіцёся ў Варшаві гэткімі часамі. Затое, праўда, маіце ў даступнасьці вялікую пацеху — тэатр. І цяперака спамінаю часта і с прыемнасьцяй «Баладыну»[6]. Ад гэтай п'есы меў я тады саўсім поўнае ўражэньне, поўную ільлюзію. Ні кідаю быць удзячным і Вам за таварыства, мілае і цікавае. Пэўне, неяк надумаімся мы з Рышкевічам ды ізноў паедзім у Варшаву, спецыяльне ў тэатр. Але гэта, пэўне, будзе йшчэ пачакаўшы, бо залежыць ад усякіх чыньнікоў — дробных і буйнейшых. Да К.Сініцкага[7] я ўжо напісаў і пасылаю разам з гэтым лістам. Хто ён і што ён — саўсім нічога ні ведаю, Бабровіч жа яго нібы троху знае — яны землякі, але кажэ так: «Сымпатычны хлапец, але масовік». Урэшці, пабачыце самі, можа што тамака і выйдзе.

Ну, і будзе тым часам годзі. Пішыце і Вы да мяне, Паненачка, ні забывайціся, як там у Вас, што робіцца, ды думаіцца, ды жывецца. Для мяне, паўтараю, Вашые лісты будуць вялікаю ўцехай. А можа ў Пулавы як выберыцися?

*Бывайце здаровы! З нязьменным спрыяньнем, Аркась Смоліч.*

P.S. — Рышкевіч кланяіцца («Раніца»[8] — гэтак ахрысьцілі. Добра?)

Студэнцкі журнал йшчэ не прыйшоў, але ўжо друкуецца. Гэтак пісалі з Пецярбургу. Як атрымаю — прышлю і ў Варшаву ўсім, ці хоць Вам, прынамсі. Напішыце тады, як Вам што ўпадабаіцца. Наогул — атпісуйце хутка — і я ўжо буду старацца — каб ні пазьней, як на другі дзень па атрыманьню. А. С.

*9—VI—914 Пулавы*

**Паважаная Паненачка!**

Мне хацелася адразу, як атрымаў, атпісаць на Ваш ліст, але думаю сабе: пачакаю, можа лепей выясьняцца нікаторые магчымасьці — тады й напішу. Магчымасьці гэтые датычуць глаўным чынам пытаньня, ці можна будзе мне паехаць ў найбліжшыя часы да Варшавы, ці не. Бо пэўне ж, вельмі ня шкодзіла б хоць бы нам з Паненкаю йшчэ раз пабачыцца і пагаманіць — але ў кожным разе — ні ў апошняе, мы ж жыць яшчэ пакуль што пачынаем, а хто жыве, той кратаецца, той заўсёды ўсіх бачыць і чуе. І я спадзяюся жыць, а не мадзець у якім-небудзь тамака Забалацьці. Дык мне і хацелася б цяпер ні ў апошні раз с Паненкаю пабачыцца, але ў другі. Ізноў жа, як ўспамянулі Вы гэтых Сталыгваў[9], думаю сабе, калі ехаць, дык ехаць і ні аднаму, а таксама з кумпаніей. Нагаварыў я гэта Рышкевіча ды йшчэ Балкоўскага[10] (крышталёвы беларус) і, што ж Вы думаіце, — згодзіліся абое. Нават болей. Калі, думаім, ехаць у Варшаву, дык ужо за адным заходам і ў Вільню; а якраз надходзіць Купальле — значыць усё складаіцца, як лепей ні трэба. Ну, Балкоўскі то ў Вільню ні паедзе, але мы з Рышкевічам рашылі. Але цяпер — неяк гэтак выходзе, што і німа ведама, ці паедзім куды мы, ці не. Ласьне, як мы ўпярод думалі — дык найлепей было б прыехаць у Варшаву 22 чэрв[еня] (ст. ст.) — ў нядзелю ранінька, з'ездзіць тады да Сталыгваў і ў ночы выехаць у Вільню. Але цяпер Рышкевіч надумаўся, што яму выгадней паехаць 18-га (бо ён у Вільні бацькоў мае) і даўжэй тамака прасядзець. А я іначай як 22-га ехаць ні магу, дык калі і прыедзім 22-го, дык мусіць только мы з Балкоўскім удвох. Аднак, вельмі быць можа, што Рышкевіч перадумае — тады ўсё пойдзе вэдле пляну.

А можа Паненка надумаіцца, ды таксама ў Вільню на Купальле выбярыцца разам з намі? Я б тады канечне паехаў, бо, бачыце, калі Рышкевіч паедзе раней — дык аднаму ехаць вельмі нудна і можа далей Варшавы ні паеду. Запраўды, выбірайціся, Паненачка, усё-ткі на Купальлі шмат каго пабачыш, — гэта ж наш штогодні з'езд, а цяперака пагаманіць гэтулькі ёсьць матар'ялу — і канечнасці. Паехалі б усяго на два дні — 24-га вярнуліся б. Ну, але як Вам там выпадзе.

Збрыдла мне сядзець у Пулавах, што й ні сказаць. Што дня адных і тых самых людзей бачыш, блізка што адны гутаркі вядзеш, а і то ні праз цікавасьць, а барджэй — каб гаварыць ні развучыцца. Навукаю блізка што ні займаюся саўсім: дрэнны, мусіць, будзе з мяне агроном! Трохі чытаю, трохі пішу. Аб «Сне на кургане» напісаць тое, што мне прыйшло ў галаву тады ў тэатры, ні давядзецца, як бы ні хацелася. Бо прачытаўшы йшчэ раз уважне ўсю драму, я пабачыў, што Купала меў на воку саўсім іншые думкі і гэтые апошніе маюць значэньне толькі часовае, гістарычнае. А мне выображэньне рысавала вечную ідэю, новую зорку праводную. Аднак пісаць крытыку буду і ўжо шмат напісаў, пытаньне толькі, ці будзе надрукавана? Бо й німа дзе і... мала што бывае. Цяперака крытыкі гэтай ні пішу, бо пільна трэба скончыць гэтые экономічные нарысы[11], што я пачаў змешчаць у «Лучынцы». Мушу прызнацца, што пішу біз ахвоты, а барджэй — проста выпаўняю павіннасьць: трэба ж кончыць. Апрача таго пачуваю, што гэтые артыкулы так, як напісана, ня змесьцяць, альбо — пераробяць, альбо павыкідаюць шмат, а то, можа, і саўсім ні надрукуюць, бо ў іх праводзяцца думкі досыць выразна социялістычные, а Уласаў[12] чалавек вельмі баязны. Пры такіх варунках ці ж можа быць гумар? — Ну, аб усім пашырней пагамонім йшчэ ў Варшаве. Пішыце як і што. Я, мусіць, паведамлю Вас перад выездам.

*Бывайце здаровінькі. Аркась Смоліч.*

Калі пабачыце, прывітайце Бабровіча ад мяне. Ён жа таксама, мусіць, паедзе да Сталыгваў?

*Пятніца*
*20 чэрвеня 914*

**Вельмішаноўная Таварышка!**

Прыезджаімо ў Варшаву ў нядзелю а 6 г.30 м. раніцаю. Мае таварышы маюць такіе-сякіе інтарэсы ў горадзе, дый проста хочуць агледзіць уселякіе «цікавасьці». Каля гадзіны 9 — 10, мусіць, трапімо да Вас, калі ні ўгневаіціся за гэткую ранную вызыту. Але — калі б надумаліся ехаць да Сталыгваў раніцаю — можна і гэта зрабіць — тады ніхай толькі хто нас сустрэне на вакзалі, як будзім прыезджаць.

У Вільню мы выедзім з ночным поездам — 12 г.18 м.

Можна было б, а нават і ня шкодзіла б, крыху даўжэй пагаманіць з паважанай Таварышкай, але ўжо хіба адложым да таго часу, як спаткаімся самі. Тады — шмат вальней і выгадней будзе. А то сяджу цяперака ў Інстытуце, у канцэлярыі — у гэтакіх абставінах і думка ніякая лепшая ў голаў ні палезе і хочацца барджэй скончыць пісаньне. Уважаючы на гэтые абставіны, даруйце ўжо мне кароткі зьмест лісту і няпекную его знадворнасьць, а таксама — літэры.

*Бывайце здаровы. Шчыра аддданы А. Смоліч.*

P.S. Прыезджаім утрох: я, Рышкевіч і Балкоўскі. Балкоўскі, мусіць, йшчэ начач застанецца ў Варшаві, бо ў Вільню ня едзе. Аб нашым прыезьдзе паведамлены п. Бабровіч. А можа і Вы надумаліся ў Вільню ехаць?

*Адрас — цяпер на Пулавы,*
*а пасьля 16/VII куды —*
*йшчэ напішу.*

*8—9/VII 914 Пулавы*

**Паважаная Таварышка!**

Вельмі дзякую за ліст: што ні забыліся і хутка напісалі. Гэтымі днямі і я зьбіраўся быў пісаць Вам, ды ведаіце, гэтак быў завалены работаю, што рашыцельна часінкі ня меў вольнай. Нават і ў хаці мяне блізка што ні было, газэтаў ні чытаў, адным словам, як на прыгоне. Дый сягоньні пішу, а ўжо ноч на дварэ і трохі зморany работаю, дык ня ведаю, ці патраплю, як належыцца атпісаць на Ваш ліст, выясьніць поўна і глыбока пастаўленыя Вамі пытаньня. Але папрабую.

Калі мы з Вамі гаварылі аб апошніх і найглаўнейшых мэтах, дык ведалі — і я і Вы — адно аб адным, што гэтыя мэты нават у самай абстрактнай іхняй форме зразумеюцца і прымуцца ад усяго сэрца; бо за гэтай абстрактнасьцяй (яна толькі для парадку і лёгкасьці выразу) для кожнага з нас хаваіцца цэльны сьвет пластыкі, і фарбаў, і гукаў і гэты сьвет можа быць пакліканы ў сферу нашых прэдстаўленьняў гэтым простым абстрактным паняцьцем. І ўсе іншые, да каго б я меў зьвертацца з падобнаю панорамаю ідэяў, зразумеюць і прымуць іх у прэдлаганай форме. Нават болей скажу: яны, вочы іхніе, змарыліся глядзець на шэрыя таны дачэсных мэтаў, а болей меней дысціплінаваны розум патрабуе на розгляд і крытыку мэты глыбей... ля самых вытокаў мысьлі лежачые, такіе, у якіе можна было б паверыць, паверыць затым, што іх думка ні дасягала ніколі датуль тых йшчэ болей абстрактных палажэньняў, якіе маглі б давесьці справядлівасьць гэтай прыніманай на веру думкі-мэты. Але для рознай велічыні інтэлігенцыі гэты канец крытыкі і пачатак веры будзе знаходзіцца на розных ступенях абстрактнасьці. Аднаму мы скажым: «бараніце родную мову, звычаі», другому будзім гаварыць аб нацыональным абліччы, трэйцяму растлумачым, якое значэньне маець развіцьцё творчых сілаў народу, а перад нікаторымі паставім проблему нацыональнай індывідуальносьці — як нейкай вартасьці, што жыве ў сьвеце і кіруе ім, ні гледзячы на час і прастрэні, як адвечнай космічнай сілы. Але кожын канечне павінен даводзіць свае мэты да такога пункту, дзе пачынаецца вера, затым што розум бязсільны. Гэтая вера і зьвязаная з ёю жыцьцёвая моц ахапляе тады сабою ўсю сістэму праканaньняў-мэтаў і спэўняе праваджэньне іх у жыцьцё.

Я, пэўне ж, прызнаю ўвесь вялікі псіхолёгічны розум Вашага патрабаваньня дробных мэтаў, лёгка дасьціжных і праз тое дадаючых ахвоты, — агню. Можа быць, што німала знойдзецца такіх людзей, якіе саўсім задаволюцца гэтымі дробнымі мэтамі, прымуць іх ужо на веру. Але большая частка інтэлігенцыі захоча далейшых перспектываў і, калі ёй іх ні даць, — назаве кіраўнікоў руху сьляпымі і працаваць пры такіх варунках ні захоча. Ды праўда, і Вы з гэтым, мусіць, згаджаіціся.

А от, што належыць да працы для людзей «малой веры», — залатые гэта Вашые словы, і я іх суцэльна прыймаю, дадаючы толькі, што такая праца з нагляднымі рэзультатамі, пацешаючымі і падмацоўваючымі, — яна патрэбна і для людзей з «большай вераю». Ад яе ж гэта і раджаіцца тая ўпартая, сталая вера людзей з гушчы жыцьцёвай; гэтую веру і павінны мы як мага прывіваць тым, што ідуць за намі і асабліва тым, у якіх розум пераважуе над сэрцам, якіе ўва ўсім павінны канечне самі пераканацца, на свае вочы пабачыць. — Бо ёсць два найглаўнейшыя тыпы людзей: людзі розума і людзі сэрца, ці, як павучонаму кажуць, — людзі інтуіцыі. Гэты разьдзел характэрызуе часамі цэльные народы, ня толькі што асобных людзей. Старожытные грекі належылі да першага тыпу: для іх матэматычнасьць, логіка ў рэчах і з'явах — гэта ўсё, за ўдалым красамоўцам — яны хоць на край сьвета. Ведаючы гэта, ня здзівімся тому напоўлегендарнаму факту, які расказуець аб Демосфенесе. А што ён у моладасьці сваёй быў заікатым і як гаварыў што, то трудна было зразумець, чаго ён хоча; але ось бачыць ён, што для збаўленьня бацькоўшчыны ад ворага патрэбен чалавек, які б мог нагаварыць грамадзянаў, праканаць іх сілаю слова аб нібаспечнасьці. Демосфенес пастанавіў сам зрабіцца оратарам — моцна хацеў гэтага — і зрабіўся, і пекнасьці яго прамоваў йшчэ праз тысячы гадоў дзівіцца сьвет. Гэта, між іншым, довад таго, што чалавек можа, абы толькі хацеў, а таксама — добры прыклад тым, што ня ўмеюць «гаварыць». Мы — беларусы, належым, здаецца, барджэй што да другога тыпу, хоць можа і ні так выразна гэта выяўляіцца — у іншых славянаў — шмат выразьней. Затым жа да беларусоў можна ісьці з пропаведзяй ні «гавораной», а толькі перачутай, «бяз словаў, але жывою». Можна паказаць праўду чынам, жыцьцём сваім, можна высловіць яе адным якім выразам найзвычайнейшым, абы толькі ў гэтым выразе вылілася як найболей перачутага, сьвятога. Натуры чыста інтуітыўныя — яны логікі ні патрабуюць, яны пераймаюцца ідэяю, запаляюцца ёю — як агонь ад агня — часта праз адзін узгляд, праз нейкае натхненьне. Каб навучаць такіх, павінна толькі мець веру і агонь — энэргію ў сэрцы.

Цяперака з'яўляецца пытаньне, ці можна знайсьці такую працу, за якую маглі б узяцца ўсе сьвядомые беларусы і якая б усіх задаволіла. Хоць праўда — чалавек усё можа — абы толькі захацеў — але ня ўсё яму з роўнай лёгкасьцей даецца, ня ўсё можа праз удачны рэзультат падтрымаць веру. Значыць — толькі людзі вялікай веры — павінны рабіць усё, што толькі патрабуе справа; а людзі малой веры — тое, на што яны здатны. І самае глаўнае — назначыць кожнаму працу і ставіць яму пэўные вымогі — з як найбольшым зьвяртаньнем увагі на асобнасьці яго характэру, інтэлігенцыі, спосабу жыцьця etc. І гэтага асабліва трэба пільнавацца, калі маеш дачыненьне з людзьмі розуму. Для іх жа кожная ніўдача, кожная нізграбнасьць у тэорыі, альбо факт які-небудзь, дзе за гэтай тэорыяй няйдзе жыцьцё — кожная гэткая драбностка можа пабурыць веру, адняць энэргію і зрабіць з чалавека карыснага — чуць што ні ворага. З людзьмі інтуіцыі менш можна пільнавацца — абы сэрца чыстае ў нас было — а яны ўжо зразумеюць і пойдуць — ня гледзячы ні на што, хоць у сьцяну лобам. Сярод іх найчасьцей спатыкаюцца фанатыкі.

Згода! Якое цёплае, сардэчнае слова! Яго чакая адвеку зямля ўся і марыць аб ёй у залатых снох. З ёю, здаецца, прыдзе ўсё — і воля, і доля, і ўсякае дабро. Хто б яе ні хацеў? А тым часам, кожын, хто гаворыць аб згодзе, ат сваёй думкі, ат сваіх выгодаў ні атступаецца — і дзеля гэтага згода ні прыходзіць. І я — ад усяго сэрца хацеў бы, хочу і нават стараюся аб тым, каб была згода ў беларускай сямейцы. Але я згоду разумею крыху іначэй, чым як Вы пішыце, гэтай згоды — аднэй дарогі, мне здаецца, быць ня можэ.

Перад усім, кожын чалавек, калі ён мае індывідуальнасьць, ідзе толькі сваім уласным шляхам. Можна сьмела сказаць, што ўва ўсякай грамадзе — гэтулькі ёсьць шляхоў, колькі ёсьць выразна адзначаных індывідуальнасьцяй. Тые, хто хоча згоды, павінны дбаць толькі аб супольнасьці як найбольшае лічбы чынаў, каб як можна часьцей людзі рабілі разам, супольна. Але і гэтага ні лёгка дабіцца. Прэце ж, якую Вы грамаду людзей ні возьміце, колькі Вы тамака асобнасьці ў кожным пабачыце: і характэр, і розум, і прызвычаеньнё, усё, усё. А розные людзі — на адным шляху ніяк ні змесьцюцца, хіба толькі праз памылку. Зрэшта ёсьць у гэтай рознасьці шляхоў і нешта пацяшаючае. Прэце ж, калі штонебудзь згубюць — скажым, персьцень які дарагі — дык шмат людзей яго шукаюць — дык ні ходзяць жа яны ўсьлед адзін за адным усе, але расходзяцца ў розные староны. От жа, калі і да нашай супольнай мэты ісьці будуць markedly рознымі дарогамі, дык можа барджэй знойдуць дарогу справядлівую і найпрасьцейшую, а па ёй і да мэты барджэй дойдуць. Такім парадкам найлягчэй знаходзюць і новые дарогі, а гэткіе знахадкі мы павінны вітаць, павінны — ужо дзеля таго, што гэта ёсьць аб'яўленьне творчасьці, а гэтая апошняя — мае мейсца сярод нашых апошніх мэтаў. Бо і праўда. Ідуць людзі адным шляхам — сьледам за якім-небудзь там дзедам ці дзядзькам. На першы пагляд — хараство, парадак. А па праўдзі — гніль, бо сярод гэтых людзей толькі той варт свайго імені, каторы вядзе, каторы ідзе сваім шляхам, а рэшта, што чужые сьцежкі топчуць — яны могуць быць і

добрымі, і разумнымі, але для гісторыі — яны толькі — гарматняе мяса. Яны нічога ні створуць, бо творчасьць — ёсьць аб'яўленьне індывідуальнасьці, а гэтай апошняй яны ні маюць. — Ня гэтага павінны мы хацець для тых, хто нам дарагі. Ніхай кожын з іх будзе індывідуальнасьцяй (лічнасьцяй), ніхай разьвівае асобнасьці свае і дадае ім сілу, а гэтая сіла патрапіць быць творчаю. Ніхай кожын чалавек пакідае свой сьлед у гісторыі — і добры пры тым сьлед. А на гэта трэба яму ісьці сваёю дарогай.

А каб гэтые розные дарогі ні аслаблялі нашых сілаў, патрэбна ўсім тым, хто хоча згоды і таксама хоча, каб дасьцігнута была агульная для ўсіх мэта, — патрэбна пільнавацца от чаго: каб мэта была і заставалася для ўсіх і заўсёды аднэю, каб да яе ні дамешываліся супраціўные ёй, альбо стараючыеся яе выкарыстаць іншые мэты, каб людзей дзялілі толькі рожніцы ў паглядах, а не асабістые сімпатыі і антыпатыі, лепей кажучы — каб гэтые асабістые адносіны ні якім парадкам ні мешаліся з адносінамі партыйнымі, бо ласьне ад іх то і выходзе найболей ненавісьці гэнай партыйнай. І асабліва павінна дбаць аб пашану чужой думкі. Гэтые ўсе рэчы лягчэй шмат дасягнуць, чым зьвесьці ўсіх на адзін шлях, але карысьць была б ад іх усё-ткі ні малая. Дзякуючы ім, удалося б правесьці вельмі многа — мне здаецца — максімум магчымых, супольных чынаў. Я буду дбаць заўсёды аб такой згодзе.

Ну, годзі на сягоньні дужа сэр'ёзных рэчаў, ды ўжо і спаць пара. Мусіць, і Вас змарыў даўгім ды такім нізграбным пісаньнем. Пэўне, чытаючы, задрамаць можна. Праўда? Выбачайце — спешаўся.

Ліст Ваш дужа мяне абрадаваў, асабліва тая частка, дзе Вы гэтак хараша і справядліва гаворыце аб энэргіі і агні ў душы. Ужо ў гэтых словах колькі энэргіі маладой і сьвежай! Мне здаецца, што вялікае маглі б Вы мець значэньне ў справе нашай, каб агонь гэты заўсёды і надалей гарэў у Вас, і каб Вы патрапілі самі знайсьці яму сьвядомы выхад. Але я ні прарок — і толькі кажу аб сваім уражэньню ад Вашага дужа цікавага лісту. — Аб Земкевічу[13] пісаць ні буду, ні варта паперы псаваць, зрэшта я Вам усё сказаў, што знаў. Здаецца мне — ён вораг справы нашай, з ім прыдзецца змагацца. — У Пулавах буду сядзець толькі да 16/VII, а тады еду з экскурсіей у Віцебшчыну і Маскву. Еду, мусіць, з пачтовым 4 — раніцаю. Калі будзіце ў Варшаві 16/VII — дык забягуся на гадзінку. — Маё імя хрышчонае — Аркадзі, а завуць усяк — Аркадзь, Аркась, Аркадзік, Аркадзька і т.д. Выбірайце — якое да спадобы і завіце мяне прасьцей — бо які ж я — зжалься Божа — «пан»? — Але гэта як сабе хаця, а от пішыце — нізабывайціся — часьцей і падрабней, за гэта буду вельмі дзякаваць.

*Бывайце здоровінькі, гуляйце вясёла.*
*З усёй сваёй спагадаю Аркадзі Смоліч.*

Рышкевіч дзякуе за прывет і хутка напіша. Нам усім трэба як найлепей пазнаць адно аднога. Праўда?

Мае пляны бліжэйшай будучыны раптоўне паразсыпаліся. Меўся быў я ехаць з экскурсіей, пасьля крыху ў Мінску пакратацца, пасьля апісываць Валынскіх селяноў, аж тут — на табе. Маёй абароны патрабуе «отечество» ( бо я, бачыце, апалчэнец ), і от мушу ў гэтую сераду перабірацца ў казарму на ўвесь час вайны. Німа што казаць — пекная ніспадзеванка.

Сядзеў праз тры дні ў хаці ў Саломерыч. Трапіў якраз на сястрыно вясельля, крыху пагуляў. Людзей новых пабачыў; з некага нешта можа і будзе. А сягоньні апошні дзень углядаюся ў родные ландшафты, хто ведае, ці давядзецца калі ізноў пабачыць.

Хараша ўсё, але смуткам укрылася. Поўны вёскі плачам і прачуваньнем біды. Як мечам арханёла за ночку адну вымецены з хатаў тысячы, мільёны людзей, крэпкіх і харошых, і паліцца агонь ахвярны па крывавых палёх, а Уладар Цямрыцы глытае гэты агонь — душу міліёнаў — і запануе Ціша, мёртвы спакой.

Можа быць, што і мае дзянькі ўжо падлічыў німіласэрны рок, але над мною йшчэ ні пануе той усёагортуючы жах сьмерці, мне нават удаецца заглушыць усякую думку аб маім заўтры. У такіх выпадках лёгка зрабіцца фаталістам і я такі кажу — хай будзе, што мае быць.

Мне крыху крыўдна толькі. Мая Бацькоўшчына на самым пераломе свайго хвораблівага быту. Хто ведае, чым гэта скончыцца для нашай ідэі — ці аздаровіцца, ачуняе спячы, ці горшай летаргіі дастане. Крыўдна, што ў гэты час прыдзецца рабіць малую і барджэй за ўсё — шкодную працу. Дылема стаіць перады мною!

Я скончу, бо нічога, мусіць, добрага ні напішу, ды Вам ці час ёсьць чытаць. Можа ўжо чуіце гук гарматаў, можа і ліст гэты мой ні дойдзе.

*Бывайце здаровы. Атпісуйце хутка. Адрас — на Лучынку — для мяне.*
*Шчыра аддвны А. Смоліч.*
*22 ліпня 1914.*

*1914*
*жніўня 22-га*
*Саломерыч*

**Вельмішаноўная Таварышка!**

Крэпка вінаватым пачуваюся перад Вамі. Даўна ўжо атрымаў Ваш ліст, ведаю добра сярод якога ніспакою і ніпэўнасьці жывіцё, думаю, што і аб маёй ішчэ «долі гаротнай» клапаціцёся; бо жаночае, чулае сэрца маіце, а яно ні шчасьлівым удачнікам спагадае, але тым, ад каго Доля адвярнулася. — От жа гэта і здаецца мне — нядобрым: Вы мяне шкадуіце, а мяне як раз і шкадаваць німа за што. Бо з войска мяне пусьцілі — такі там указ выйшоў, каб студэнтоў ні браць, — і сяджу я цяперака — рашытэльна нічога ні робючы — у бацькоў.

Ня тое дрэнна, што ў хаці сяджу, але тое дрэнна, што нічога ні раблю, дый рабіць ні хочу.

Шмат чым гэта тлумачыцца, бо трэба ж чалавеку як апраўдацца. Тутака і нідагодные варункі часу, і мейсца, дзе знаходжуся, і тое, што параспадаліся такіе цэнтры, як «Лучынка» (Уласава забралі ў салдаты, дык рэдакцыя ў асобе аднога-ядынага экспедытора перабралася ў нейкі хлеў), а каторые і жывуць ішчэ, дык сядзяць ціхенька. А да ўсяго йшчэ тое, што саўсім я тут адзін-адным, ніхто нават пісаць ні хоча, хоць сабе з Вільні. Дый самому мне здаецца, што ні такі цяперака час, каб пачынаць сэр'ёзную атповедзяльную працу. Праўда, нешта можна было б і цяпер зрабіць. От сабе такі Уласаў і йшчэ нікаторые пастараліся і цяперака па ўсім Мінску вісіць абвеста вялікімі літэрамі (збор на сем'і запасных), надрукаваная па-беларуску (першы раз у Мінску — дагэтуль і тэатровые абвесткі на беларускіе спектаклі пісаліся па-расейску). Пачынаюць рабіцца і іншые, ня менш сэр'ёзные і важные справы — маняцца канцэрт зрабіць беларускі на карысьць запасных, робіцца беларуская ахронка для дзяцей салдацкіх, нават аб школі беларускай гутаркі ідуць. Але гэта ўсё ня ёсьць ішчэ рухам беларускім, бо не вытвараецца народам і нават ні якой грамадою-арганізацыей, а толькі прыватнымі асобамі, нават — прыватнай асобай і да таго ж вельмі няпэўнай пад узглядам сталосьці сваіх намераньняў. Уся нашая задача — толькі выкарыстаць момэнт.

Вялікімі гістарычнымі праявамі багата цяперака жыцьцё. Нам, прызвычаёным да ціхога і роўнага звычайнага сьветла, гэты пяруновы блеск і пяруновая шыбкасьць дзеяў сьлепіць вочы, праражае. Але сходзюць першые ўражэньні, і пачынаем бы здіўлёные аглідацца ў новых абставінах. Пэўне ж толькі яны адны — гэтые абставіны, мэтоды чыну, і могуць змяніцца, тое, што глыбей ляжыць, ня можа змяніцца і на йоту, хоць бы мы таго й хацелі. Бо прадыктавана прадвечнымі законамі духа, а дух ёсьць абсолют, які ня падлежыць змені. — Але тое, што для гісторыі і народу ёсьць мэтодам — яно ёсьць зьместам жыцьця нашага — затым важна і бісканечне цікава разгледзіцца ўва ўсім цяперашнім хаосе гісторыі. У ім цёмна яшчэ, але з'яўляецца неяк само сабою прачуцьцё добрага.

Бачу я, што нічога вартага да чытаньня Вам сёньні ні напісаў. Шкода мне. Жыцьцё маё выкалеілася і ні хоча, як упярод, каціцца роўнай сьцежкай, па вядомай пуціне. Дык затым і ліст гэткі. Ужо прабачайце да наступнага лісту. Атпісуйце хуцінька як у Вас і што. І бывайце здаровы.

*З усёй пашанаю Аркадзь Смоліч.*
*Адрэс: Семково-Городецкое вол. пр. Минского у[езда] с.Соломеричи.*
*Аркадію Смоличу.*

*Адрас — той самы*
*Сёмково-Городецкое вол.пр.*
*Мин[ского] у[езда] с. Соломеричи*

*1914, верасень 9*

Цяпер то і я ўжо пастараўся доўга ні цягнуць, атпісую во на другі дзень па атрыманьні Вашага лісту; калі пашлю, то німаведама, але таксама неяк на гэтым тыдні, як хто ў горад будзе ехаць. У гэткай дзічы, як у нашых Саломерыч, нічога німа дзіўнага, што часамі ліст спозьніцца. Але ў тым доўгім маўчаньні, праўда, я і сам німала вінен, дык цяперака йшчэ раз перапрашаю за яго.

Застаюся йшчэ ў Саламерыч. Колькі разоў парываўся, каб куды ўцячы і ўсё-ткі сяджу гэта, як у балота ўгразшы. Ну бо і куды ж цяпер уцячэш? — хіба толькі на вайну, але

гэта было б для мяне надта ўжо нелёгічна. Былі момэнты, калі я сэр'ёзна падумляў, каб гэта запісацца ў санітары на перадавые пазіцыі (бо толькі туды цяпер і прыймаюць волонтэроў). Але хутка аткінуў гэты плян, бо — ахвяра вялікая, праўда, і можа б нават сам меў з яе і задавольнене нейкае, але на гэтым і ўся карысьць яе канчаецца. Думаў пасьля куды на службу па сваёй спецыяльнасьці пастуліць — неяк ні ўдаецца. Значыцца — нічога больш і ні заставалася, як сядзець ціха на сваім мейсцы і «філёсофічне» агледаць шалёные хвалі жыцьцёвые, што разьбіваюцца чуць ні ля самых ног нашых. Засеў я за навуку — экзаміны, значыць, здаваць будзем, хоць німаведама дзе іх здаваць. Інстытут наш уцёк у Харкоў і нічога аб ім ні чутно. Калі хутка ні аб'явіцца, прыдзецца йшчэ куды пераводзіцца. Але гэта ўсё ні адымае пакуль што маёй навуковай энэргіі: вучуся. Бог ведае, як далей будзе.

Але наагул знаходжуся ў фазе песэмістычнай. «Воля к жыцьцю» ўбывае, зьменшаецца вера — стрыжэнь жыцьця. Гэта пэўне ж нінадоўга, так мне здаецца прынамсі, але як яно скончыцца, гэтага ні ведаю, бо такіе настроі бываюць са мной досыць рэдка. Можа вазьму ды пальну якую штуку, аб якой пасьля шкадаваць прыдзецца. А можа і так сойдзе.

Мне вельмі прыемна было б прыехаць цяперака — як прапануеце — да Вас у Гродзеншчыну, і за Вашае такое ахвотнае, сардэчнае запрашэньне шчыра дзякую. Добра б з Вамі пабачыцца было, можа б знайшлася якая праца для гуляючых сілаў, удалося б чым карысным запоўніць гэты час, што так сходзіць, марнуецца. Толькі ж гэта ўсё — лятуценьне адно, і з яго нічога ня будзе. Брак энэргіі. Мне ў Вільню вельмі патрэбна было б з'ездзіць, я ведаю, што гэта і мне асабіста шмат бы дало чаго, але тым часам ні магу выбрацца і сяджу. А цяпер ішчэ — крыху за навуку бяруся, можа хоць адзін які экзамін скіну — усё меньш застанецца. Ды ўрэшці, праўду кажучы, ня вельмі я сабе добра ўяўляю, з якой метаю меўся б я туды да Вас ехаць і якая Вам з мяне карысьць ці пацеха. — Калі б я быў вельмі патрэбны, дык, пэўне ж, прыехаў бы, а так, то мусіць — не. Хіба што мне ў галаву што ўскочыць незвычайнае — дык тады... але чаго тады ат чалавека спадзевацца ні можна.

Вельмі дзякую Вам, што ні забываіціся, пішыце. Рабіце гэтак і далей, ды ні лянуйціся — даўжэйшые лісты пішыце, справіце гэтым вялікую мне прыемнасьць. Буду атпісываць таксама даўжэй і можа, спадзяюся, крыху цікавей, чым сягоньні, хай толькі трохі паясьнее на сьвеці для нас. От, йшчэ — перапрашаю, што дужа невыразна пішу. Адзін сябра казаў неяк, што мае лісты расчытываць, дык канечне трэба запрашаць неографа, і то нідалёка ат праўды, чую гэта.

Бывайце здаровы і спакойны. Як падумаю: у страшнай нібаспечнасьці жывіцё. Шмат бы лепей зрабілі, каб куды хоць трохі ад'ехалі ат гэтых фортаў, а то ж каля вас самая бітва будзе. Трудна мне, праўда, здалёку радзіць, але хоць падумайце самі сэр'ёзна аб гэтым. Ну і пішыце ж мне хуценька, як там у Вас і што, аб Вас то цяпер трэба ніпакоіцца. Да пабачэньня, толькі ці скора? Аркадзь Смоліч са спагадненьнем сваім.

*12—X—1914. Саломерыч*

**Мая даражэнькая сястрычка!**

«Сколькі можа адзін усяго праменьчык сонейка зрабіць з душою людзкаю!» — пісаў некалісь гэтак Достоеўскі, а цяперака я споўна прымаю і паўтараю гэтые словы. А гэтым праменьчыкам для мяне цяперака быў Ваш ліст — дзякуй Вам за яго шчырае. Усякі цуд ёсьць — толькі імпульс волі — людзкай ці надлюдзкай — і больш нічога. І ўваскрасеньне ёсьць першай аб'яваю ізноў знайдзеных сілаў. Пацешу Вас — можыце рабіць цуды — можа нівялікіе, далёка нячутные, але цуды. Гэта значыць, што да тых належыце, каторые часьцей атдаюць іншым сваю волю-энэргію, а не да тых, якіе часьцей карыстаюць с чужой. За гэты ліст я ўжо Вас вельмі расхваліў аднаму ягамосьцю, які праўда Вас мала саўсім знае (і то ад людзей), а Вы яго ішчэ менш. Але я напісаў яму, што ёсьціка ў краю нашым чалавек, ад якога ў труднейшые мінуты можна пазычыць веры і ахвотнасьці — і мне здаецца, ён калі-небудзь па іх да Вас зверніцца.

Да мяне Ваш ліст вярнуў энэргію. Стала сорамна за маладушнасьць і бязчыннасьць. Выхад адзін — да чыну жывога. Дзе? — Пэўне ж у Мінску. І перад гэтым несколькі разоў прабаваў я, каб хоць крыху ўмацавацца ў Мінску і ўсё надарэмне — ня мог знайсьці тамака працы сабе і, значыцца, ня мог пражыць і мусіў вертацца да бацькоў. Гэтыя няўдачы вельмі мяне засмучалі і атбіралі ахвоту рабіць новые высілкі. Ну але Ваш ліст і йшчэ нікаторые з ім адночасные і аднохарактэрные давялі мяне да таго, што я рашыў — зрабіць апошні і як мага большы высілак, каб утрымацца ў Мінску. Цэльны тыдзень сядзеў тамака ў досыць нягодных варунках і таксама безрэзультатна. Дый трудна якога рэ-

зультату спадзевацца, праўду кажучы, бо магу я разлічаць цяперака толькі на працу прыватную, а дзе ж яе возьміш, калі ўсё сьціснулася, скароцілася, насколькі было можна. Ізноў вярнуўся дамоў і бяруся за навуку інстытуцкую. Але ёсьць розніца ў паваротах — гэтым і папярэдніх. Тады — прыціснуты неўдачай, пазбаўлены ахвоты і ініцыятывы. Цяперака — толькі крыху ніздаволены — і то складам абставінаў. Цяперака чую, што нешта буду рабіць.

Пытаіціся, ці люблю навуку сваю. Ня ўсю, але люблю. Люблю ў тэй частцэ, дзе яна сумысьле і спецыяльна служыць чалавеку самому, а ні яго толькі цікавасьці. Люблю пачуваць у руках сваіх новае знарадзьдзе, сымболь панаваньня над жыцьцем. Пры нікаторых паваротах кола Фартуны магу нават быць добрым агрономам. — Цяперака — у гэтым часе — мае думкі можа нават і занадта пакіраваны ў гэты бок: але ні супраціўляюся, бо, як Вы добра казалі, энэргія нашая (асабліве — мая), як тая хваля морская. — Дзеля гэтай прычыны ні хочу і лісту даўгога сяньні пісаць, бо ніцікавы быў бы.

Чытаю па крысе казкі Раманава[14] (з Магілеўшчыны). Трэба знаць усю сваю Бацькоўшчыну, а не адзін куток які. Апроч таго, нейкай таемніцаю прыцягае мяне край той, нязведаны і нівыкарыстаны. Нікаторыя кажуць, што тамака захаваны вялікіе магчымасьці і прарочаць справе нашай у ём яскравую будучыну. А і ў казках шмат цікавага можна аткапаць. Хоць крыху ясьней робіцца загадка сфінкса-народа.

Настрой да мяне патроху варачаіцца. Веру ў карыснасьць будучых чынаў і буду гатавацца да іх, масьціць сьцежкі. І спадзяюся, што стрэнімся некалісь з Вамі пры адным варштаце. Гэта будзе ў яснай будучыне. Сумнай за цяпершчынай хай ні сьціхая цяжкая, чорная праца! Я і ў ёй знайду асалоду, асабліве калі чуць буду часамі Ваш падбадзёруючы голас. Пішыце, ні забывайціся, і шмат. Вітаю Вас. Аркадзь Смоліч з усёй сваёй пашаною.

P.S. Прабачайце за нечытэльнасьць — гэткі ўжо характэр мой мусіць. Але калі трудна чытаць — напішыце.

У Вільні навіноў нічутно, ці мне ні пішуць. «Раніцу» чыталі? Ці падабаецца? Ёсьць там адзін грэх: цяперака такому Гмыраку[15] хоць на вочы ні паказуйся. У Мінску Уласаў ізноў атчыніў рэдакцыю. «Саха»[16] напэўна выходзіць будзе, а «Лучынка» — німаведама. Вайна шмат напсавала.

Рышкевіч, здаецца, служыць аграномам у Лідзкім павеці. Але ўжо больш месяца ні пішэ. Адрас пішыце ўвесь гражданкаю, бо ў воласьці ні разбіраюць лаціны — і лісты пазьняцца.

*г. Харьковъ, Почтовый переулокъ*
*д. 7, кв. 1*

*16 лістапада 1914*

**Вельміпаважаная Таварышка!**

Пішу да Вас здалёку, с чужыны, аж с самага Харкава. Затым крыху і спазьніўся атпісаць — усё час такі быў — то зьбіраўся ехаць, то пераезджаў, а то пакуль у Харкаві разглядзіўся. Ну тут, ведаіце, шмат спакайней, чым у Мінску нават; каб газетчыкі ні гукалі аб усякіх ведамасьцях з вайны (іх крыкам увесь горад повен), дык бы можа і забыўся, што недзе сьвет гіне ў полымі ды крыві. А такі спакой у нашые часы шмат каштуе. От проста магу сказаць, што тые тры месяцы, якіе прыйшлося так ці іначэй з прычыны вайны праседзіць у хаці, што гэты час так змарнаваўся, як бы яго і ні было. Нават горэй. Сляды яго ў душы надоўга йшчэ застануцца, бо пад гром гарматаў шмат, шмат чаго пабурылася і німаведама ці створыцца нанова.

Хацелася мне пачуць шчырага чалавека і пры тым шчырага ідэолога вайны. Як раз гэтак трапілася. Чытаў тут адзін сэрб, консул нейкі ці што, лекцыю аб вайне і яе скутках. Аўтар, трэба прызнаць, праўдзівы і шчыры патріот сваёй Бацькоўшчыны і ўсяе Славяншчыны. Ён казаў, ні толькі казаў, а нават заклікаў, каб даць кожнаму народу разьвівацца, як ён хоча. Польшча (этнографічная) павінна быць досыць нізалежнай, под протэкторатам Расеі, ня мець свайго войска — але гэта толькі датуль, пакуль яна не здэмократызуецца (пакуль ні атойдзе ўлада ат шляхты). Украінцам, кажэ, трэба даць, прынамсі, гэтулькі, як яны мелі ў Аўстрыі, бо гэтага, кажэ, патрабуюць інтарэсы Славяншчыны. Успомніў і пра Беларусь — кажучы, што і ёй патрэбна даць волю разьвівацца, як яна хоча. Успомніў пры тым і аб адным факце, пра каторы Вы, можа, і ні ведаіце. Было ў Маскве нейкае «Славянскае» сабраньне і от адзін паляк — Курнатоўскі — чытаючы лекцыю аб граніцах будучай Польшчы, гэтак запрапанаваў — каб «беларусоў» («они, знаете, некультурный народъ», як гэты серб мой пераказваў яго словы), дык каб беларусоў падзяліць на дзьве часткі — каталікаў атдаць палякам, а праваслаўных запісаць у рускіе. Аднак саб-

раньне стрэла гэты проэкт саўсім ніпрыхільна і Мілюкоў[17], каторы опоноваў лектару, вельмі добра яго раскрытыкаваў, так што той і ні адазваўся. У гэтым я бачу вельмі добры для нас знак. Можна, значыць, спадзевацца, што і пасьля вайны неяк жыць можна будзе. — А то, ведаеце, што тут з украінцамі парабілі, дык страх. Усе часопісі, якіе толькі былі ў Расеі ды Галічыне, пазачыняны, усякіе грамадкі, таварыствы — таксама, так што можна было б думаць, што ўрад рашыў саўсім заціснуць справу ўкраінскую. Страх робіцца, як глянеш на гэтае самавольства. Гаварыў ешчэ мой сэрб, што пасьля вайны будзе славянская фэдэрацыія, з вечам — накшталт цяперашнёе Германскае Імпэр'і з яе рэйхстагам. Хто ж яго ведае, мо б гэта і добра. Але якая цана? Вунь ужо, пішуць, два міліёны людзей папсавана. А ці можна за самы найлепшы палітычны ідэал забіць ніпавіннага чалавека, хоць аднаго толькі? Я б ні згодзіўся, ніколі.

У Полацку атчынена кнігарня і бяруцца тамака за працу з вялікай ахвотаю. Аж міла чуць, даль-бог. Э, ешчэ нам ні так кепска жывецца, калі ня меньшаем, а расьцём, ешчэ тым часам ня цісьне нас доля — болей чым ціснула ўперад. Ды і працаваць з большага можна. Пішыце, як там у Вас што. Я прыехаў быў у Харкаў экзаміны здаваць, а цяпер збіраюся ехаць на работу (такую, як улетку меўся рабіць). Трэба будзе аб'езьдзіць увесь Поўдзень Расеі.

*Пішыце, ні забывайціся. Бывайце здаровы.*
*Шчыра спрыяючы, Аркась Смоліч.*

*1— 1— 1915. Харкоў.*

А на зямлі німа спакою... Ня спыніліся і на хвіліну забойчые рукі, і на хвіліну розум вышні ні асьветліў думак іхніх, нінасытна жадаючых крыві і сьмерці. — Пэўне ж — ня доўга чакаць ужо таго часу, калі шмат хто пасьпее крытычна глянуць на шмат якіе з'явы жыцьця і суд на сябе вырачэ строгі за тое, што дапамагаў, ці хоць спагадаў страшнаму, каінаўскаму чыну. А можа і за тое, што пасыўна да яго адносіўся. Толькі па гэтым — малая ўцеха. Кожны месяц — гэта міліён загаснуўшых жыцьцяў і можа йшчэ больш — душаў, атручаных забойствам. Якіе б ні былі важные, сусьветна карысные рэзультаты вайны, каб нават у іх хаваліся нашые найдаражэйшые лятуценьні, мы ўсё ж павінны адно загадаць новаму году — каб як можа барджэй даў ён замірэньне і спакой сьвету, якіе б рэзультаты ня йшлі за імі ўсьлед — усё роўна. Гэтага павінны мы пажадаць ад яго — і больш нічога.

Усё-ткі віншую Вас з Новым годам. Які б ён паганы ні быў, а ўжо мусіць горшым ад гэтага, што мінуў, ня будзе. Бо ўсё ўжо пабурана, што можна было бурыць, і павінна пачацца будаваньне. І хоць трудна ў нашые часы верыць у што-небудзь, альбо ў каго-небудзь, аднак жыцьцё, сама прырода патрабуе веры і канечне ў нешта лепшае. У тое сонца, што засіяе над руінамі, будзючы да жыцьця паснуўшые сілы, у здаровы інстынкт захаваньня, які не раз ужо выводзіў грамадзянства з дарогаў гібелі. Хай жа ні зьвядуць!

Толькі што прыехаў у Харкаў. А то быў цягаўся па Палтаўшчыні, зьбіраў жа ўсё тую статыстыку, хай ёй усячына. Вам цікава, што гэта за работа? — Паганая, наагул кажучы, штука. Каб гэта йшчэ было на Бацькоўшчыне, сярод свайго народу — ну то німашто казаць — цікава. Хоць, можа, і цяжка, і ні паплатна — але ведаіш, што шмат чаго дасьць табе самая работа. — Езьдзім мы ўдвох — з таварышам: мэта нашая — гэтак апісаць сялянскую гаспадарку, каб пасьля, на аснове такога апісаньня, можна было б улажыць глаўную кнігу падвойнае бухгалтэрыі. Значыць, трэба мэнчыць гаспадара аж пакуль ён акуратне ні раскажэ — дзе ён узяў, ці атдаў якую капейку, альбо скольк і гадзінаў страціў тады і тады на які там догляд скаціны, ці на падмазку хаты. А той жа ішчэ будзе старацца, каб што якое там затаіць, ці падменьшыць — на ўсякі выпадак — ануш з гэтага які падатак выйдзе. Ну, але доўга пісаць пра ўсе дагоднасьці статыстычнай працы. — Падарожа наша вельмі падобна да Чычыкаўскай (з «Мёртвых душ») — і каб мы ў характары мелі больш гэтага чычыкаўскага апломбу — можа б яно і ніштo было. Абідна, што с селянамі прыходзіцца трымацца тактыкі волостнога пісара, а нічога ні зробіш. Інначэй загінеш — «як швед пад Палтавай».

Толькі тое добра, што гэткім парадкам шмат можна практыкі набрацца — і гаспадарскай і жыцьцёвай. Асабліва апошней. За які месяц — на 10 год пастарэіш.

Цяперака ўзяўся ўзноў за экзаміны. Аднога здаў, а ешчэ — два. Тады — гэта будзе пасьля 15—16 студня — далей у падарожу.

Саўсім німа ў Харкаве беларусоў сьвядомых ды добрых — хто з'ехаў, хто ні прыязджаў. Так і давялося мне ўчора аднаму Новы год спатыкаць. — Неяк нідобра, што нічога ў сваёй справі ні варушысься. Чым гэта тлумачыць ні ведаю — ці часу бракавала (яно

такі і бракавало), ці энэргія аслабла, ці грунту такога тут німа, алі нічагутка я тут у Харкаве для справы белорускай ні зрабіў. Толькі пытаньне — ці мог бы зрабіць. Ну ніхай, можа прыедзе Рышкевіч, тады хіба што і пачанем.

*І бывайце здаровінькі. Пішэце шмат — пра сябе і пра тое, што ў краі робіцца.*
*Мяне вельмі гэта ўцешыць. Аркадзі Смоліч.*
*Весела гуляць святам!*
*Як маецца гродзенская газета і што Вы наагул парабляіце?..*

*8 сакавіка 1915. Харкоў.*
*«На прадвесьні» — гэта добрая*
*характэрыстыка для ўсяго нашага часу.*

### Даражэнькая Цётачка![18]

Вы ў апошнім лісьце падянялі дужа важная, як на наш час, пытаньне аб папулярных кніжках.

Ня першы раз прыходзіцца мне чуць скаргі, што гэткае літэратуры ў нас страшэнна бракуе і што на яе вялікае запатрэбаваньне, якое нельга насыціць. Але далей скаргаў справа ня йдзець вось ужо сёмы год ці што. Даўней у Пецярбурзе (у 912 годзе) нікаторые асобные людзі браліся за працу і ні здолелі давесьці да канца. Прабавалі разьвіць такі аддзел у «Лучынце» — і з гэтага мала неяк карысьці выйшла. От Вы пішыце, што трэба выдаваць аддзельнымі кніжачкамі, і я з Вамі саўсім згаджаюся, што гэтак найлепей. Але толькі ніхай бы хто гэткіе кніжачкі пісаў, а то ж ні піша. — Мая думка такая — раз ёсьць вялікая патрэба — пастараімся яе задаволіць. І от як. Пісаць популярные кніжачкі — шмат хто можа — на гэтае вялікага таленту і натхненьня ня трэба. Можна нават прыгатоваць іх фабрычным спосабам — гэтак і найлягчэй, толькі трэба, каб хто за гэта ўзяўся — арганізаваць самую фабрыку. От думаецца мне, як Вам, Цётачка, цяпер часу мусіць годзі, ахвота ў Вас такая быць павінна, дык і вазьмецеся Вы за арганізаваньне такое фабрыкі. Я б зрабіў гэтак: змешчаю ў NN[19] абвестку, што от гурток людзей, зацікаўленых разьвіцьцём нашай папул[ярнай] літэратуры, просіць усіх, хто можа, дапамагчы сваёю працаю і капіталамі і, першым дзелам, — каб прыслалі свае адрасы і зданьня. Спадзяюся, што гэткіх людзей знойдзецца крыху — ну хоць з дзесятак. Тады трэба выясьніць, якіе ласьне кніжкі патрэбны — і аб гэтым найлепей раскажуць нашые кнігарні... Яны павінны зрабіць спісак тэматаў з добрым тлумачэньням, якога характару павінна прыдбаць кожнаму утвору; у гэтым трэба, каб ім памагла і нейкая спецыяльная комісія (рэдакцыйная), а таксама і тые людзі, каторые згодзяцца дапамагаць працаю. Спісак тэматаў разашлецца ўсім, хто захоча працаваць, і кожын абярэ сабе тую тэмату, якую найбольш упадабая, а калі захоча — дык і сам прыдумая тэмат і напіша. Такім парадкам мець будзім матэрыял, а тады можна будзе і аб грошы пасторацца. Я думаю, што Вы за гэтую справу возьміціся і шмат чаго паможыце. І калі пастараіціся — удасца як ні трэба лепей. Для Вас ешчэ і тое добра, што крыху запоўніце справаю гэтай тую пустыню, што ўвакол Вас робіць вайна.

Наагул, трэба Вам мусіць шмат да чаго гатавацца. Бо калі ўсяму сьвету — і нашай Бацькоўшчыні пасьля вайны трэба спадзявацца нечага новага, дык Вашай старонцэ асабліва. Памятайце, што Вы каля самых межаў нашых і можа прыдзецца Вам працаваць і жыць у саўсім іншых варунках, чым рэшці беларусоў. Пэрспэктывы могуць быць вельмі шырокія.

Аб газеці на Усходзе ня трэба кідаць думкі, бо німа прычыны. Тое што БВТ[20] засохла, ні паспеўшы закрасаваць, як раз гэтае даводзіць. Мы ведаім, якіе рэсурсы былі ў БВТ і бачым, што яно зрабіла. І мусім сказаць — зроблена вельмі мала. Чаму? — А от чаму. Кіравалі ім людзі, каторые вельмі пэўные сябе. Было іх вельмі мала. Гэта ласьне ні «таварыство» было, а «фірма». А выйшла гэтак дзякуючы гэтай віленскай атмосфэры. Атмосфэру трэба зьмяніць. Новая праца — новые людзі, новая мейсца. Бо знашуюцца рэчы, знашуюцца і людзі і пакрысе прыходзіцца іх заменяць. Як нітку вуглёвую ў электрычнай лямпе — доўга яна сьвеціць — 1000 гадзінаў ці дзьве, а пасьля перагарыць.

Аб «Беларусе»[21] нічога ні магу сказаць, бо даўна яго ні бачыў. Думаю аднак, што пабожным ды нявінным сэрцам чытаньне яго робіць нейкую прыемнасьць. І тое, што ён робіцца біскупім часопісам, мае нейкую добрую старану — можа тамака тады здальнейшые людзі пісаць будуць, ды і наагул гэтая офіцыяльнасьць нейкае будзе рабіць уражэньне. От толькі тое дрэнна, можа быць, калі яны проці беларушчыны ж вайну падоймуць па-беларуску. А гэтага ад іх можна чакаць. От беда нашая, што такога ня знойдзіцца чалавека, каб ён беларусам сьвядомым быў, з аднога боку — і каб яны яму верылі.

Мяне вельмі пацешае, што Вас і ў такіе цяжкіе мінуты ня кідае бадзёрасьць і спакой духа. Сучаснасьць вялікаю будзе школаю для Вас, калі ні паддасьцёся, і карыснасьць яе адчуваць будзіце ўва ўсём сваім будучым жыцьці і чыннасьці. А гэта так можа быць патрэбна для Вас і для справы. Бо цэраз дым палаючых вёсак, па акіяну сьлёзаў жаночых — плывець вялікі судзьдзя веку — Гісторыя. Багата ні прысудзіць яна нам, бо і ня робім жа мы высілкаў ніякіх, ні маім адвакатаў і сілы ўласнай. Але можа нейкіе пакрышні і на нашую долю перападуць. Наагул, шмат чаго можа быць.

Мая цяганіна падходзіць да конца. Цяперака атпачынаю ў Харкаве, каб са сьвежымі сіламі скончыць, што астаецца. Да Вялікадня скончу, мусіць, можа і дамоў тады паеду на нескольki дзён, бо ўжо даўнавата ня быў і можа гэтак выйсьці, што ні скора ізноў паеду. — У Харкаве крыху пачынае працаваць Рышкевіч і другі хлапец, каторага ён знайшоў. Можа што і зробяць. Буду і я ім памагаць, бо люблю справу організацыйную. — З беларусоў мала мне хто піша, і я нічога ня ведаю, як у іх стаяць справы.

Буду чакаць Вашага лісту ў Харкаве. Ні забаўцеся. Гэтую справу з папулярн[ай] літэратурай канечне трэба пачаць. Напішыце, як Вы глядзіцё на мой праэкт? — Бывайце здаровы. Зычу Вам спакою і працы. І каб ні кідала Вас яснасьць духа.

*Аркадзь Смоліч.*

*27 красавіка*
*915 года*

**Дарагенькая сястрычка!**

Нічога ня робючы, дык неяк і ні агледзісься як час сойдзе; от і Вам атпісаць спазьніўся, а каб хто спытаў, чым быў заняты? Ведаіце што, ў Харкаве справа нашая наладжуецца крыху, і каб ня гэткі для ўсіх вучняў гарачы, як цяперака, час, дык нешта маглі б склеіць саўсім добрае. Аднак, і без таго, здаецца, выедзім адгэтуль з досыць цьвёрдаю надзеяю, што далей само пойдзе. Пазнаходзіліся людзі паважные, шчырые, сымпатычные, проста шкада іх кідаць. А можа я іх і перахвалюю пад першым уражэньнем. Прачытаў я ім рэферацік з гісторыі нашае літэратуры. Гатаваўся да яго, можна сказаць, нічога і што належыць да нашай старой (XIII—XVIII вякі) літэратуры, дык усё чысьценька пасьпісваў то з Власта[22], то з Васілеўскага[23], а яны як прычапіліся — кажы ім не агулам аб эпоце, але аб выдатнейшых пісьменьніках старасьвецкай Беларусі. Мусіў быў спасаваць. Але гэтую справу так пакінуць нельга, бо як такі так, прыпісуем сваёй культуры чуць ня тысячагадовую даўнасьць, а аб яе стварыцелях, аб асобах гэтае аграмаднае эпопэі, добра, калі чулі імёны іхніе, а то дык і нічога не знаем.

Што гэта пішыце, ніяк ні уцямлю: «хацелася б ні страціць Вашай Веры ў маю магчымасьць працаваць»... Ды няўжо ж яе ў Вас, гэтай веры, німа? Глаўнае, веры ў «магчымасьць», калі Вы ўжо даўна і ні перастаючы, працуеце. Ня трэба на сябе гэтую дарэмшчыну ўзводзіць, а то і праўда можа аслабнуць вера ў сябе. Ніколі ня трэба было б забывацца, што «колькі верыце — гэтулькі можыце», дык, значыцца, веру павінна берагчы, як найбольшую вартасьць.

Скончылася маё бадзяньне па сьвеці, сяджу ў Харкаве, нібыто вучуся. Але з навукаю слаба ў гэтым 915 годзі. Ні скажу, каб і гуляў. Дый Харкаў улетку такая дрэнь, што горшай ні трэба. Сярод траўня выеду адгэтуль, але куды — і сам ні ведаю. Наагул саўсім ня строю ніякіх плянаў на лета, бо, можа, прыдзецца ў войска ісьці. Дзеля таго і службы сабе не шукаю — нядобра неяк людзей зводзіць. Барджэй за ўсё паеду адгэтуль проста ў Вільню, каб крыху гумар паправіць. Значыцца , калі што ні перашкодзе, буду гэнам ад 17 да 20 ці 22 траўня. А тады, калі йзноў жа ніштo не перашкодзе, паеду дамоў. Носіцца ў мяне ў галаве ешчэ думка адна, ды наўрат ці ўвойдзе яна ў жыцьцё. Я Вам пісаў, мусіць, што лічу вельмі патрэбнай працу на ўсходзе — у Магілеўшчыне. Дык можа што і туды паеду. Што тамака рабіць буду і як, ешчэ добра ні прэдстаўляю, ведаю, што рабіць трэба.

Пэўне, чыталі Вы аб таварыстве нашым дапамогі ахвярам вайны. Я думаю, што ў Вас тамака будзе самая штаб-кватэра і наагул Вы ў гэтай справе важную ролю на сябе возьміце. А справа — яна важная з шмат якіх бакоў. От хоць сабе, калі паставіць яе побач з весткаю аб магчымасьці дазваленьня беларускай мовы ў школе. Калі б гэнам удаліся такія школы — памагчы гэтаму можа чыннасьць таварыства, дык было б гэта парукаю, што і далей на ўсход яны пойдуць і тамака стрэнуць сымпатыі.

Вітае Вас Рышкевіч. Працуе ён цяперака над тэматам, што побач стаіць з Вашым Зельнікам — выбірае матэр'ялы ў слоўнік ботанічны. (Яго дамовы адрас — Вільня, Радунская 18—6).

Ваш ліст ішоў 6 дзён, а я выеду ні раней 15. Калі ўправіціся, напішыце ў Харкаў, а не, то дамоў — у Саломерычы. А куды б ні напісалі, зробіце тым мне вялікую прыемнасьць. Бывайце здаровенькі.

*А. Смоліч.*

Зайздрую Вашай вясьне і фіёлкам і радасьці Вашай з іх, а найбольш паветру палёў — гэткае яно мілае пасьля Харкоўскага пылу. Што цяпер парабляіце і як сябе чуіце? Не чуваць ешчэ ў Вас пошэсьцяў? Каб жа хоць гэтая бяда наш край мінула.

На Вялікадня сядзеў у Харкаві. А Вы часамі ў Вільню ні зьбіраіцеся? Адрас пішу па расейску — можа барджэй дойдзе.

*13 чэрвеня 915*

**Дарагенькая сястрыца!**

Ляжыць перад мною ўжо два Вашых лісты і грызець мяне сумленьне, што дагэтуль ні атпісаў Вам. На гэта, праўда, зложыліся такіе ўжо абставіны — саўсім ні спрыяючые. Толькі прыехаў я дахаты, як захварэла мая маці, і от дагэтуль німа папраўкі і Бог яго ведае, што будзе. А ў нас у хаце нікога такога німа, каб хворую дагледзіць — ніводнай бабы, ані дзяўчыны, апроч служкі — дык той хоць бы з гаспадаркаю ўправіцца, а мне ўжо прыходзіцца ўвесь час каля хворай сядзець і больш нічым ні займацца, бо што другое, праўду кажучы, ня вельмі і ў галаву ідзе. Але, атрымаўшы пачтоўку Вашую, наважыўся ўзяцца за пяро. Бо як той казаў — час наш — век наш, і хто яго ведае, што будзе заўтра. Цяперака то, мусіць, толькі ехаць туды — у Вашую старану нельга, а пачакаўшы — можа і лістоў ні дастаўляцьмуць.

Сьвяткаваць Купальле ў Вільні, мусіць, ня будуць, бо наўрат ці дазволілі б гэткі «ніпарадак», а калі б і сьвяткавалі (яны меліся сьвяткаваць самі — толькі цесным гуртком), дык мне ніяк ні выпадзе прыехаць — на ўезд у Вільню цяпер патрэбна нейкае спецыяльнае пазваленьне Губернатара. Хіба ў Мінску нешта нейкая састроіцца. Тутака людзі працуюць нават, сказаў бы я, ні кепска, бо маюць удачу. Праўда, можа гэта залежыць і ат грунту, каторы тут — вельмі паддатны.

У Вільні жыцьцё ідзець ні так цікава і інтэнсыўна, як я ўпярод спадзеваўся — ня ехаўшы туды, але — як на наш час, дык можа і годзі. Да таго ешчэ мала каго і бачыць давялося спраміж тых, якіх хацелася бачыць. Затым з Вільні я на гэты раз ні вельмі здаволены. Хацеў быў асесьці ў Мінску і пачаць працу, ды от такая асабістая беда вырвала маю ўвагу с кола грамадзянскіх справоў. Жыцьцё змушае і мяне да пакоры перад усёмогучым Фатумам. Сколькі пляноў будуеш заўсёды, такіх, здаецца, рэальных, магчымых. А Фатум апрадзеліць іначэй — і ат плянаў — адны трэскі. Затым, мусіць, і цяперака саўсім мне ня рупіць, што са мною будзе далей і куды ў часы найбліжэйшые памкнуся. За гэткую псіхалёгію німожна хваліць, але ў нашым часе яна шмат для каго характэрна. Прачытаў у газэтах навіну — ня ведаю — добрую ці благую. Астрамовіча[24] перавялі ў Бабруйск за вікарага. А як Вам гэта здаецца? — Ці пачыналі Вы якую працу з аткрыцьцём аддзелу Тавар[ыства] помачы ахвярам вайны?[25] На мяне ўзлажылі абавязак аткрыць такі аддзел у Мінску, але от усё часу ні стае і выходзе яно саўсім няпекна.

Каб ні разсыпацца саўсім па сьвеці белым, ды ні пагубляць адны адных, дык канечне патрэбна, каб мацней і шырэй зьвязала нас хоць почта. Бо чую я, што скора пустыня вялікая будзе ў нас, большая як уперад была, калі гэта ні так важна было. Дык спачувай-мося! —

*Пішыце часьцей дамоў мне — да бацькоў, і ніхай Вас там Бог сцяражэць!*
*Аркадзь.*

*17 ліпня 1915*
*Ігумень*

Як доўга ні пабачыся, кажуць, ні дабярэш якіе словы гаварыць, як доўга ні папішаш — ніякага парадку ў лісьце. Трэба расказаць хоць свае навіны Вам, а с чаго пачаць?

Маці мая паздаравела і кажэ, што гэто я яе выхадзіў (бачыце які медык), а бацька, дык напраўду кажэ, каб на медыцыну ехаў вучыцца, як аграномію скончу. Але я ніпаслухмяны, ой які ніпаслухмяны. Што ешчэ? — Аткрыў я атдзел у Мінску, назьбіраў нейкіх мяхоў, ці яны што будуць рабіць, ці можа прасьпяць сабе спакойнінька аж... ня ведаю да чаго. На добры парадак трэба было б мне ў Мінску заставацца і працаваць, але зрабіў я ад-

ну такую штуку, што ня ведаю: калі ўдасца, дык можа яно і добра будзе, ну як ні ўдасца, дык цэлы скандал. Пайшоў я аграномам служыць у земства, а, як ведаіце, навукі яшчэ ні скончыў і шмат-шмат чаго ні ведаю. Праўда, што ў іх больш падхадзячага кандыдата ні было і гэта трохі ачышчае мне совісьць. Далі мне Бярэзінскі вучастак Ігуменьскага павету — г[эта] ё[сьць] уся ўсходняя палавіна гэтага павету — даўжынёю вёрст на 150, а шырынёю — можа на 70—80 якіх. І от ужо больш тыдня, як нашуся я па гэтых абшарах, па лесавым дарогам і сярод палёў, прыбраных грэчкай і жоўцінькім жытам (а васілёў гэтых, васілёў — саўсім аб'ядуць людцоў), хаваючыся ўвесь час у густых воблаках пылу. Ня ведаю, як далей будзе, але цяпер гэтыя падарожы даюць мне самыя прыятныя перажываньня. Няйначэй затым, што як заедзеш у гэты Ігумін (таксама горад — газеты купіць нельга!), дык такая нуда, што ні дай ты Божа —— ведама, нікога ні знаю, блізка што словам німа да каго атазвацца. Дый наагул, ведаю наперад, што труднавата мне тут прыдзецца. Прывык жыць з людзьмі роўнымі сабе — і глаўнае, падобнымі да сябе, а тут дзе такіх знойдзеш? Пакуль чалавек ні выбіўся ў «людзі», а застаецца простым чалавекам, дык ён далей кавалка хлеба ні бачыць, а як выйшоў у людзі — дык перастаў быць чалавекам. У першым ёсьць (і шмат) хараство об'ектыўнае — як няжывой рэчы, у другога — ніякага німа, а людзей с суб'ектыўным хараством німа, ні відно на паверхні.

Усё ўвакол прасякнута этнічным беларускім характэрам. У самым Ігумені 3/4 жыдоў гаворыць толькі па-беларуску, а яны добры на гэта тэрмометр. Асталася і жаноцкая вопратка — вельмі хараша выглядае, асабліва як прыбяруцца жаць. Толькі песьняў саўсім ні чутно па зразумелай прычыне. Пройшлые гады саўсім іначэй было — гэта селяне падкрэсьлююць, цяпер, кажуць, жалоба, пець нельга.

Газэты сюды слаба даходзяць, і я саўсім страціў з відавоку палітыку. А там у Вас, мусіць аб ёй ні на мінуту забыцца нельга. Пэўне гэта вельмі нядобра дзействуя на нервы. От, ведаіце што, калі знойдзіце кавалак часу і ахвоты, прыезжжайце сюды — ў Ігуменшчыну, зробіце вельмі цікавую экскурсію (я Вам у гэтым шмат магу памагчы цяперака) ў Усходнюю (хаця гэта цэнтрум) Беларусь, адсьвежыце душу, нервы зробяцца як вяроўкі — і мне зробіце вялікую прыемнасьць Вас бачыць. Толькі ўперад паведаміце.

Дзякуй за ліст і шчырае спачуваньне. Гэтак заўсёды трэба адно аднаго падтрымоўваць.

*Вітаю Вас. А. Смоліч.*
*Адрас — Березино, Игумен. у[езд]. Агроному А. С[моличу].*

А калі пільна што — дык ешчэ і гэтак ня шкодзіць — Игуменъ, гостиница Рубинштейна, для березинского агронома А. С[молича]. Пішыце, не забывайціся.

*13—XI—915*

Дні два назад прыйшоў урэшці да мяне ліст Ваш, адрасаваны на Ігумень. Мне вельмі шчасна, але крыху і совісна ведаць, што мой настрой — выражэньне падсьвядомых рухаў душы, некага абыходзіць, прымушае думаць аб сабе і пісаць. І то тады, калі я сам аб ім ні думаю, ні ўважаю на яго, як бы мяне ён саўсім ні абыходзіў. Мне нават трудно было ўспомніць, чым я мог быць тады засмучаны ці знепокояны, і толькі, дзякуючы нікаторым запісам, удалося, мне аднавіць у думцы тагдышнія перажываньня. Успомніў, як мы хадзілі на тую гару, успомніў высяленцаў (яны з такой надзеяй і нечым ешчэ лепшым на Вас тады пазіралі, што аж сьмех нейкі), успомніў, як ехалі на концe і развіталіся. І вывеў гэткі вывад — што Вы мяне саўсім ні знаіце і маіце аба мне вельмі мыльные прэдстаўленьні. Я, пэўне ж, ні бяруся пісаць сваёй псыхолёгіі (гэта было б нудна), але ні спадзяюся, каб мне хоць чый сьмех, ды ешчэ такі бязкрыўдны, мог папсаваць настрой. Калі з мяне добрые людзі сьмяюцца — і я ім памагу, а як благіе — дык гэта вызаве ў мяне альбо абурэньне, альбо неўвагу. Сьмех ёсьць сьмех, — паказацель нормальнага бегу жыцьця ў організме. Што належыць да тога настрою, нібыто вельмі чорнага, дык на гэта мне самому трудна сабе атказаць. Адно толькі напэўна я ведаю, што настрой такі ні тады прыйшоў, ні ў той дзень. Гэта звычайны мой настрой апошніх часаў, нагэтулькі нормальны, што я да яго прызвычаіўся і ні ўважаю. Ён саўсім ні такі сумны, як здаецца, а проста шэры. Чым яго растлумачыць — ні ведаю. Вялікіх прыкрасьцей я ні меў, гэтаксама ні было і вялікай радасьці, а дробных прыкрасьцей — ведама, хватая. Поле жыцьця майго ні чорнае, не, але цемнава-шэрае; а мой настрой крыху сьвятлейшы ад яго.

Я вельмі люблю прыроду і асабліва заходні чэрвень. Даўные гады ён заўсёды заспакойваў самые гострые болькі душы, бо ў ім гэтулькі надзеі, веры — у гэтым чэрвені заходнім. А вось ужо больш году, як ён мяне (калі яго бачу, цяпер ні стараюся глядзець на яго) толькі нэрвуе, толькі мучыць. Ён зрабіўся такім грозным, такім зловещим (пробачай-

це расейшчыну). У ім відны водсьветы Нёмна, крывёй плывучага і палаючых вёсак. Можа быць, што гэтые водсьветы і ляглі на душу чорнай плямай. А можа мне так толькі здаецца? Ці я ведаю.

Жыло нас некалісь разам — трое людзей. Мы былі толькі таварышамі між сабою, але называлі адзін аднаго братамі; і нам здавалася, што гэто праўда. Пасьля сьцежкі нашые разыйшліся, пачалі мы рожным жыцьцём жыць. Упярод пісалі адзін да аднаго — я ім акуратна — яны — так сабе — цероз два разы на трэйцяе. Урэшці саўсім змоўклі і цяпер ні ведаю нават, дзе яны і што з імі. Гэта было даўно, але мне і дагэтуль сумна.

Было і яшчэ... Але можа годзі гэтак займацца і людзей займаць сваёй асобаю. Знудзіў я Вас, панна Людвіка: але, я ведаю, — Вы міласэрная самарыцянка. Толькі ні кажыце мне, што я хворы, а то і ўзапраўду захварэю. Мае раны зарасьлі, якіе былі, я ні хочу ведаць пра іх. Я здаровы і буду здаровым аж да самай сьмертухны.

От ешчэ ўспомніў. — Між іншым — у часе маіх пабытоў у Мінску мне было вельмі ніпрыемна, што я ні магу (ні нагэтулькі хочу, каб мог) працаваць гэтак, як Вы ўсе працуіце, — у такім часе, калі праца мая была б карысна, і ёсць тое, чаго даўно шукаў: пэўная праца — з боку сваіх рэзультатоў, — шырокае поле для ініцыатывы.

Але ўсё гэта глупства. Калі надойдзе Уваскрасеньне, дык пакінуць усе спевы хаўтурные: і я пакіну. Вельмі цешыць мяне Вашая і наагул Мінская праца і энэргія. Дай Бог ёй удачу.

Калі б у чым мая праца прыпатрэбілася, дык проста давайце. Толькі ня ведаю, ці патраплю з гэтым календарам самым. Між іншым, можна было б злучыць разам — гэтую Мінскую аднаднёўку (сягодні і я ў яе матэр'ял паслаў) с календаром; але гэта ў тым толькі разе, калі б аднаднёўка спазьнілася выйсьці. Наконта грошэй нічога ні магу парадзіць, бо іх вельмі багата трэба.

Гэтаму лісту давялося быць лістом «аба мне». Ешчэ адно ўспомніў і ні магу ні расказаць Вам. С тыдзень, можа, назад адна стацьця з расейскаго журнала падняла мой настрой на рэдкую вышыню. Цэлы дзень аб ёй толькі і думаў і гаварыў кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму. У ёй апаведалася, якіе мучэньня зьнёс народ наш у 40-х гадох XIX веку, баронючы старой веры. Гэтулькі тады аб'явілося цьвёрдасьці і героізму (ў народзе, без ніякага правадыра), што мая даўнейшая вера ў народ удвоілася, калі не больш. Народ у ореоле мучэльніка — хіба гэто ні найвышэйшая надзея. І толькі адно вельмі сумна, што німа каму разсказаць сьвету аб гэтым вялічу духа селянскага і беларускага. Але пэўны я, што калі і забудуцца аб гэтай найбольшай з'яве гісторыі нашай — дык толькі да часу.

Журнал аб якім я пісаў — «Голос мінуўшаго»[26].

*Бывайце здаровы, пішыце Аркадзь Смоліч.*

*7—XII—915*

Я Ваш ліст, дарагенькая сястронка, атрымаў ужо подаўна, але ні мог прымеркавацца ніяк атпісаць, бо занялі мяне экзаміны і іншые справы. Ведаіце, цяпер пра мяне саўсім ні можна сказаць, што маю хоць трохі сумны ці прыгнечаны настрой. Нашуся, лётаю за самым глупствам, аж маіх маладзейшых таварышоў дзіва бярэць. «Як на яго ўзьсела што», сказала б мая маці, каб бачыла, але яна пакінула мяне тады ішчэ, як я быў «пад хмарай». Троху мы тут раскапалі беларусоў, ністо хлапцы, але шмат працы йшчэ будзе з імі. Часамі збіраімся, на гэтым нашая чыннасьць і стае. Ешчэ, ведаеце, кепска, што я толкам ні ведаю, ці варачацца мне пасьля Каляд на пасаду сваю, ці ў Харкаве застацца. А ад гэтага залежыў бы ўвесь плян мой. Але гэта само залежыць шмат ад якіх прычынаў — нават — Horribile dicta[27] — ат сусьветных. Падумаеш?!

Гэтымі днямі, мусіць, выеду ў Петроград на тыдзень які, ці мо і больш. Крыху справункаў у мяне ё, крыху — нуду «разьвеяць», што ў нашые часы ніколі ня шкодзіць. Гэта праўда і ні маё гэткае зданьне — а ўсяго грамадзянства большых гарадоў. Ведаіце, гэты год так гуляюць, як старые людзі ні ўспомнюць, каб калі гэтак гулялі. Тлумачыцца проста — прычынамі экономічнымі, але міма волі ўспамінаеш пра «Першы Рым» у часах яго агоніі. Напрашуецца аналогія с «Трэйцім Рымам».

Вы пішыце — «справа» — ядыная вартасьць жыцьця. Гэта ніпраўда, а калі б праўдай было, дык дужа сумнай. Бо справа — толькі дарога, спосаб, мэты ж хаваюцца далей, дзе абстрактныя вышыны думкі асьветляюцца і ацепляюцца агнём дыханьня вечнага сэрца — якога называюць Богам. Хай яна згарыць, с такою справай, каторая ад чаго б ні было — вымагала павесіцца. Сьмела можыце ад такой адыйсьці, бо яна мана няшчырых людзей. Бог жывых, а ні нябошчыкаў, нават болей, чым жывых — Бог аджыўшых, створаючы з нічога і ўваскрасаючы з гнільля — от гэта наш Бог. Яму жыцьцё патрэбна і

творчасьць, і сонейка, і зеляніна, і радасные бліскі ў вачох нашых. «Але...», — кажыце Вы, — і я саўсім Вас разумею. Мне страшна шкода чалавека, які гэтае «але» кажэ, бо ён можа быць праўдзіве — нішчасным, і ні праз што другое, але праз сьлепату вочаў сваіх духоўных. Ён ні бачыць хараства Божага сьвету — і глаўнаго ўпякненьня яго душы сваёй суцэльнай, здаровай — і сьвядомай сябе. Бо каб бачыў, залячыліся б яго раны, нівядомы чараўнік прынёс бы яму зельля здароўя, пэрспэктыву вечнасьці. І быў бы здаровым і шчасным. Можа і нявінен ён у сьлепаце сваёй, можа..., але тады ўздаравеньне да яго найбліжэй.

Шкода, што з аднаднеўкай замарудзілі. Ужо гэтак даўно ні чыталі мы сьвежага, новага слова беларускага. Нам прыкра, а тым, што парасьсеваны па глухіх вёсках ды засьценках ешчэ, мусіць, горэй. Калі ўрэшці думаіце выпускаць яе? Чытаў я нідаўна «Бог з намі»[28], ведаіце, гэта ні Пачопка[29] перакладаў, бо работа вельмі пекная і пры тым паказуючая досыць высокі позём навуковы. Наагул кніжачка гэтая мне вельмі падабаецца, цікава, ці добра яна расходзіцца.

Пішыце аб плянах і надзеях — і сваіх асабістых, і мінскіх беларусоў. Там жа цяпер — значная грамадка. І наагул — аб усім. Вітаю. А. Смоліч.

# КАМЕНТАРЫІ

[1] «Лучынка», літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны часопіс краязнаўчага кірунку для беларускай моладзі. Выдаваўся ў 1914 г. у Мінску на беларускай мове. Рэдактар-выдавец А. Уласаў, літаратурны рэдактар А. Пашкевіч (Цётка). Выйшла 6 кніжак.

[2] «Вольныя думкі», часопіс рыхтаваўся, але не выйшаў.

[3] В. Рышкевіч, студэнт Нова-Александрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах.

[4] «Загляне сонца і ў наша аконца», першая легальная беларуская выдавецкая суполка. Існавала ў Пецярбургу ў 1906—1914 гг.

[5] Бабровіч Мечыслаў (літ.псеўданім Гмырак Лявон; 1891—1915), беларускі крытык, публіцыст і празаік. Супрацоўнічаў у газетах «Наша Ніва», часопісе «Лучынка», альманаху «Маладая Беларусь». Аўтар нарыса па гісторыі нацыянальна-культурнага руху «Беларускае нацыянальнае адраджэнне», артыкулаў па гісторыі беларускай культуры. Загінуў на фронце.

[6] «Баладына». Трагедыя Ю. Славацкага, польскага паэта і драматурга, напісаная ў 1834 г., прысвечаная гісторыі старажытнай Польшчы. Ставілася на сцэне Польскага тэатра ў Варшаве.

[7] К. Сініцкі, звестак не выяўлена.

[8] «Раніца», часопіс беларускай студэнцкай моладзі, выдадзены адзіны нумар у Пецярбургу ў чэрвені 1914 г. Меў дэмакратычны кірунак. Аркадзь Смоліч пад крыптанімам Л.Б. надрукаваў у ім артыкулы «Незалежнасьць Беларусі» і «Дзьве дарогі».

[9] Сталыгвы, сям'я нацыянальна свядомых беларусаў. Жылі ў Ажараве пад Варшавай.

[10] А. Балкоўскі, студэнт Нова-Александрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Пулавах.

[11] Артыкулы А. Смоліча «Даўнейшая натуральная гаспадарка і цяперашняе царства рубля», «Як цана робіцца і што яна знача» надрукаваны ў часопісе «Лучынка» ( 1914 г.) пад псеўданімам Арцём Жывіца.

[12] Уласаў Аляксандр Мікітавіч (1874—1941), беларускі выдавец і грамадскі дзеяч. Адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады. Рэдактар-выдавец «Нашай Нівы» ў 1906—1914 гг., рэдактар часопісаў «Саха» і «Лучынка», адзін з арганізатараў Віленскага выдавецкага таварыства, актыўны ўдзельнік Мінскага аддзела беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

[13] Зямкевіч Рамуальд Аляксандравіч (псеўд. Раман Суніца, Юры Алелькавіч, Саўка Барывой, Шэршань; 1881—1943 ці 1944), беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, гісторык беларускай літаратуры, краязнаўца, перакладчык.

[14] Раманаў Еўдакім Раманавіч (1855—1922), беларускі этнограф, фалькларыст і археолаг. Асноўная фальклорна-этнаграфічная праца «Беларускі зборнік» (вып. 1—9, 1886—1912) — своеасаблівая энцыклапедыя побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу.

[15] Гмырак Лявон, Барыс Заяц, Лявон Хмуры — літаратурныя псеўданімы Бабровіча Мечыслава.

[16] «Саха», сельскагаспадарчы часопіс дэмакратычнага кірунку. Выдаваўся на беларускай мове з красавіка 1912 г. па студзень 1915 г., у 1920, з I927 г. па 1931 г. у Вільні і Мінску. Рэдактары А. Уласаў, У. Павалковіч, М. Ільяшэвіч.

[17] Мілюкоў Павел Мікалаевіч (1859—1943), расійскі гісторык і палітычны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі, з 1907 г. старшыня яе ЦК і рэдактар газеты «Речь».

[18] Па меркаванні А.Каўкі, гэты ліст адрасаваны Цётцы (гл. «Скарыніч». Вып.2. Мн., 1993. с. 157). Аднак дакумент захоўваецца сярод іншых лістоў да Зоські Верас.

[19] «Наша Ніва».

[20] Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні. Існавала ў 1913—1915 і 1919—1930 гг. Выдавала і распаўсюджвала творы беларускай літаратуры. Заснавана Б. Даніловічам, І. Луцкевічам, К. Шпакоўскім і інш. на базе выдавецтва «Наша Ніва».

[21] «Беларус», штотыднёвая грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і рэлігійна-асветніцкая каталіцкая газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку. Выдавалася з 13.01.1913 г. да 30.07.1915 г. у Вільні на беларускай мове, друкавалася лацінкай. Рэдактары-выдаўцы: А.Бычкоўскі, Б.Пачопка.

[22] Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч (1883—1938), беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф, пісьменнік, літаратуразнавец. У 1909—1914 гг. — рэдакцыйны сакратар «Нашай Нівы». Рэдагаваў часопісы «Саха» (1912), «Беларускі сцяг» (1922), газету «Гоман» (1916—1917).

[23] Васілеўскі Леан (1870—1936), польскі публіцыст, гісторык, палітычны дзеяч. Аўтар прац «Літва і яе народы», «Літва і Беларусь» і інш.

[24] Зязюля Андрэй (сапр. Астрамовіч Аляксандр Сцяпанавіч; 1878—1921), беларускі паэт. Скончыў каталіцкую духоўную семінарыю ў Пецярбургу. Падтрымліваў беларускую нацыянальную ідэю. Вёў касцельную службу па-беларуску. Аўтар зборніка вершаў «З роднага загону», паэмы «Аленчына вяселле».

[25] Мінскі аддзел беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, дабрачынная арганізацыя для дапамогі бежанцам 1-й сусветнай вайны, адзін з цэнтраў беларускага нацыянальнага руху. Існаваў у Мінску з ліпеня 1915—1917 гг. Сярод кіраўнікоў аддзела В. Чавусаў, Ядвігін Ш., У. Галубок, А. Астрамовіч, В. А. Лявіцкая,

З. Верас, У. Фальскі. Актыўны ўдзел у дзейнасці таварыства прымалі М. Багдановіч, З. Бядуля, А. Смоліч, А. Уласаў.

[26] «Голос минувшего», гістарычны і літаратурны часопіс ліберальна-народніцкага кірунку. Выдаваўся ў 1913—1923 гг. у Маскве на рускай мове.

[27] Страшна сказаць (лацінск.).

[28] «Бог з намі: Беларускі малітэўнік» (1915) — укладальнік і аўтар перакладу Б. А. Пачопка.

[29] Пачопка Баляслаў Антонавіч (1884—1940), беларускі культурна-асветніцкі і рэлігійны дзеяч. З 1913 г. — загадчык аддзела рэлігіі, у 1914—1915 гг. — рэдактар-выдавец газеты «Беларус».

***Уступнае слова, публікацыя і каментарыі Т. Кекелевай.***



## *ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ*

*Пятро ПРЫХОДЗЬКА*

### ТВОЙ КРЫТЫК

Ён — вызначальнік твайго лёсу,
Дарадца і настаўнік твой:
Сягоння ўзвысіць да нябёсаў,
А заўтра дасць рашучы бой.

### ВЕЧНЫ ПРАЦАЎНІК

Ён у паэзіі, бы ў рынку,
Не пакідаючы слядоў,
Шчыруе, хват, без адпачынку
З юнацтва да сівых гадоў.

*Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

### ПРЫМАДОННА

Не трэба думаць пра яе,
Што прымадонна выйшла з моды, —
Ў гады шаноўныя свае
Мастацтву шмат прыносіць шкоды.

### ДАПАМОГА ПАЭТУ

Калісьці дзед Іван да Эльбы
Дайшоў дарогамі вайны,
Яму за гэта немец Хельмут
Прыслаў сарочку і штаны.

### ЭСТРАДНАЯ ЗОРКА

Не дапамог бы лёс
Той зорцы засвяціцца,
Калі б не даў ёй бос
Магчымасць «раскруціцца».

*Міхаіл МІРАНОВІЧ*

### АДНАТВОРЦЫ

Мы ж — аднадумцы, аднатворцы,
мы на адной сышліся горцы —
і ад Купалля да Каляд
наш аглядаем далягляд.

***Сяргей Панізнік***

Вітаю вас,
Якуб і Янка!
Камусь мо
І неспадзяванка,
Што я тут з краю,
Каля вас?
Адна ж гара на ўсіх —
Парнас!

### НЕ БЕЛЫ СВЕТ

Даўно засела думка ў галаве:
А белы свет зусім не так жыве.

***Мікола Мятліцкі***

Даўно засела думка
Ў галаве:
А белы свет
Зусім не так жыве.
Яшчэ ж хачу зрабіць
Я вывад смелы,
Што не такі ўжо
Гэты свет і белы!..

### РАСПРАНУТАЯ МУЗА

...душу
распранаю,
нібыта дзяўчыну,
І вершы, уражаны
ёю, пішу.

***Сяргей Рабчук***

Не ведаю,
Меўшы якую прычыну,
Ды Муза рашыла
Ка мне завітаць.
Яе распрануў я,
Нібыта жанчыну.
...Ну, дзе пасля гэтага
Вершы пісаць?!

***ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ:***

***на II паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

***Ведамасны льготны індэкс — 00727; падпісная цана на 6 месяцаў 2003 г. — 16 800 руб.***



Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-80-12;
намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў літаратуры, грамадскага жыцця і культуры — 284-49-91.

Стыльрэдактар М. І. Гуссва. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Стараверава.

---

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 10.04.2003 г. Фармат 70x108 1/16. Папера газетная.
Друк. арк. 19,60. Ул.-выд арк. 19,0. Тыраж 1594 экз. Зак. 697.

---

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

